# МАЛАДОСЦЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1953 годзе.

У нумары



10

КАСТРЫЧНІК

1965

Выдавецтва «ЗВЯЗДА»
МІНСК

**Пры гэтым нумары — бясплатны дадатак «А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

**Вокладка Ю. НІКІФАРАВА.**

**НА ДРУГОЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: Многа моладзі працуе на буйнейшым хімічным прадпрыемстве рэспублікі — Гродзенскім азотнатукавым заводзе. Камсамольцы тут запявалы добрых спраў у кожным цэху, лабараторыі, аддзеле. Такая і лабарантка Каміла Русакова.**

Фота **В. Ждановіча.**









**Генадзь БУРАЎКІН**

# Дваццаты век



Суровы і цвярозы век дваццаты,
Люблю цябе да скону
і кляну.
Вятрамі міжпланетнымі працяты,
Ты знаеш усяму сваю цану.

Паэты пра любоў натхнёна
трынькаюць.
Малююць генералы галубоў.
А ты
глядзіш з халоднаю хітрынкаю
І лічыш склады вадародных бомб.

Усё як ёсць табе відаць адразу —
І кроў,
і здрада,
і падлог,
і гнеў.
Ад войнаў, ад палітыкі і джазу
Ты ачмурэў і рана ачарсцвеў.

І ўсё ж ты хочаш да вякоў данесці,
Ад ненажэрнай смерці ўберагчы

Паэтаў выпакутваныя песні,
Касмічных трас цяжкія абручы.

Баішся, каб ад атамных бяссонніц
Навек наш свет зялёны не зачах...

Таму і цягнем мы цябе да сонца
На потных і скрываўленых плячах.

## Асвейская балада


па начах усё рыпяць асверы.
І зоркі ўздрыгваюць,
падаюць вобзем.
І пад шчакою ў соннай Асвеі
Цяжка ўздыхае возера.

Я ведаю:
возера даўнім трызніць —
На тваністым дне
закаркалі
І зноў пачалі крывавую трызну
Вораны,
чорныя,
нібы карнікі.

І неба бляклае
над Асвеяй —
Як вылінялы абрус на памінках.
І сіняе возера зноў сівее
Ад успамінаў.

Карнікі.
Карнікі.
Карнікі.
Чорныя, нібы вораны.
Карнікі.
Карнікі.
Рукі ў сажы пажараў.
Карнікі.
Страшнейшыя з ворагаў.
На мундзіры — чэрап і косці.
Пад мундзірам — ні сэрца, ні жалю.

Попелам
на зямлю асыпаліся
дрэвы і хаты.



Попелам
на зямлі заставаліся
людзі,
слёзы,
праклёны.
І шчупаку старому,
злоснаму і трыбухатаму,
Возера раптам здалося салёным.

І непрытомны вецер
аб хвалі біўся ў адчаі,
Задыханы, цяжкі,
распалены ад пажару.
І вада закіпела.
І рыбы роспачна закрычалі —
І зноў анямелі
ад жаху...

...А па начах тужліва і доўга рыпяць
асверы.
І зоркі ўздрыгваюць,
падаюць вобзем.
І пад шчакою ў соннай Асвеі
Цяжка ўздыхае возера...

## Рэкі Беларусі


, рэкі, рэкі Беларусі
Сярод лугоў, сярод лясоў!
Калі я гімн саткаць збяруся
З блакітных вашых паясоў?

Не дзеля славы мімалётнай
(Ах, што там крытыкаў басы!),
А дзеля вашай паўнаводнай
І нестарэючай красы...

Як мне салодка з вас пілося!
Як сняцца,
што ні гавары,
І вашы завадзі, і плёсы,
І каламутныя віры,

І ластаўкі на вашых кручах,
І цень ад вербаў і бяроз...

Ля берагоў —
аер пахучы,
Чарот і талака стракоз...

Здаецца,
што перад другімі
Вы выставіце напаказ:
Ані парогаў,
ані гімнаў,
Ані плацін няма ў вас.

А я з маленства сэрцам рвуся
Ткаць песні з вашых паясоў...
О, рэкі, рэкі Беларусі
Сярод лугоў, сярод лясоў!..

# Успамін пра начлег


Лазім па арэшніку,
бадзяемся па лесе,
Дзвіну на бераг цягнем у мокрых
невадах...
А ў вачах —
смугою —
сіняе Палессе,
Працавітай Прыпяці бурая вада.

Асака высокая — зялёнымі штыкамі,
Забытымі шоломамі — пахучыя стагі...
І над зямлёю стомленай цішыня такая!
І месяц,
як антонаўка,
жоўты і тугі.

І жніўвеньскія зоры,
пахучыя, як дыні,
Сінія, нібыта верасы...
А ў чарнабровай нашай гаспадыні
Пахлі кмінам рукі,
мятай — валасы.

Нам яна выносіла кварту сырадою,
Аржаны акраец ламала напалам.
І частавала потым самагонкаю рудою



І сноў
зусім бязгрэшных
на ноч жадала нам.

І вось мы цэлы месяц
бадзяемся па лесе.
Дзвіну на бераг цягнем у мокрых
невадах,
А ў вачах —
смугою —
сіняе Палессе,
А на губах —
тугою —
далёкай мяты пах.

# Жаваранак над праспектам


Успырхнуў жаваранак над праспектам,
Затрымцеў,
утрапёны і горды,
Над асфальтным прапыленым пеклам
Стаў паласкаць дажджынкаю горла.

Шэрымі крылцамі лопае-лопае,
Дзюбай паўдзённае сонца казыча —
І ляцяць
халодныя срэбныя кроплі
На вусны дзяўчатам,
міліцыянерам на лычкі.

І ловяць іх клёны ў зялёныя
прыгаршчы.
І коцяць перад сабою тралейбусы,
Асцярожненька,
тармазамі не скрыгаючы,
На хмурынку закінуўшы сталёвыя
лейцы.

Я стаю,
усміхаюся,
абалдзелы,
расчулены...

А побач
нехта хмура пакрэктвае.
Божа,
няўжо ён не чуе
Жаваранка над праспектам?




ябрам ківаю галавою,
Развітваюся з бальшаком,
Сцяжынкай вузкай палявою
Спяшу дадому пешаком.

Іду між смолак і званочкаў,
Дзе б'юць крыламі матылі —
І не магу
душу і вочы
Красой забытай наталіць.

І хочацца раскінуць рукі
І моўчкі кінуцца ў траву,
Забыўшы болі ўсе і мукі,
Паклаўшы ціш пад галаву.

А потым
выбегчы знянацку
Да хаты з засені бяроз
І на двары аклікнуць бацьку
І маці,
светлую ад слёз,

І ўбачыць зноў,
як каля хаты
Гайдае цёплы летні цень,
Як бацька, ціхі і вусаты,
Крыху ссутулены ячмень...




наю,
некалі шлях мой кончыцца,
Абарвецца, нібы струна,
І навек мне закрые вочы
Сваім векам цяжкім труна...

Вы, сябры, не гаруйце голасна,
Не расквечвайце некралог —



Па-мужчынску схіліце голавы,
Мне чабор пакладзіце да ног.

Не хавайце мяне у памяці,
Пахавайце мяне ў зямлі,
Каб асеннія рыжыя замеці
Мой халодны грудок замялі,

Каб вясной салаўі гарластыя
Разбудзілі б мяне хоць раз,
Каб жыты нада мною шасталі
І рамонкі цвілі
для вас...




ы так далёка,
так далёка.
Ты без мяне ўжо так даўно...
А месяц,
як твой светлы локан,
Ка мне ўсё просіцца ў вакно.

Плыве ён над бяссонным тлумам —
І мне відно ў каторы раз,
Як і павейкі
ціхім сумам
Замгліў табе разлукі час.

Ды я ў вачах тваіх ільдзінкі
Адным паглядам растаплю...
Я ўсю,
да дробненькай радзімкі,
Цябе і помню
і люблю.




адзіннік
ножанкамі стрэлак
Стрыжэ, стрыжэ нябачны час
І моўчкі падганяе нас,
З мінутай кожнай пастарэлых.

Не затрымаць і не спыніць
Яго размеранага стуку.
Нібы лічыльнікамі,
цюкае
Ён раўнадушна дзень пры дні.

І як спяшаюцца гады!
Як хутка вянуць навальніцы!..
Паспець бы толькі, не спыніцца,
Не збіцца з маладой хады,

Каб за спіною узмакрэлай
Цяжэў бясонных спраў запас...

Гадзіннік
ножанкамі стрэлак
Стрыжэ, стрыжэ нябачны час...

⁂


Сон мой сіні, салодкі верад —
У зацішку палян лясных
Зацвітае бахматы верас
Над цяжкімі слядамі ласіх.

Зацвітае...
І зноўку верыш:
Пад шырокімі лапамі хвой
Сцеражэ крэпканогую неруш
Баравік запаветны твой.

І бяжыць верасовай сцяжынкай,
Топча хмельны асенні мёд
Тая,
чыстая, як сняжынка,
Незабыўная, як крыгаход...

...Безнадзейнай, наіўнай верай
На далёкай юначай вярсце
Сіні верас, бахматы верас
І сягоння яшчэ цвіце...

⁂


Каля бярозак беланогіх
Рабіны стройныя стаяць...
І стала торнаю дарогай
Сцяжынка вузкая твая.

І нашы клёны разрасліся.
І лёгкакрылыя гады
Пазамялі халодным лісцем
Мае хлапечыя сляды.

За сінаватаю імжою,
Ля нашай згубленай вярсты
Каханне новае, чужое
Збірае жоўтыя лісты...

А нам з табой упарта сніцца
Сцяжынка вузкая твая,
Бярозак юных завушніцы,
Рабін зялёная сям'я...



**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ**

●

**Мастак**
**Ісак ДАВІДОВІЧ**

●





# Студэнты апошняга курса

**Аповесць ■**

## I

Быў вечар другога мая. У горадзе на вуліцах поўна людзей — свята яшчэ не скончылася.

Русіновіч ішоў па вуліцы ў густым людскім натоўпе. Паўгадзіны назад ён уцёк з інтэрната на Нямізе, дзе студэнты-аднакурснікі наладжвалі сціплую вечарынку з прычыны свята. Сам сабе ён смяяўся з таго, як там яго будуць шукаць і лаяць, а пасля завадатар усяе кампаніі Ярошка скажа: «Ну яго к чорту са Старым! Нам будзе больш. Пачынайма!» Чамусьці ўсе называлі яго Старым: ці то за разважлівасць, ці то за павольнасць рухаў і думак увогуле. Ён не крыўдзіўся, бо сапраўды — што тут было такога? Мянушкі былі спрадвеку, а ў свой час яны нават станавіліся прозвішчамі, і часта яшчэ цяпер вылучаюць у чалавеку нейкую рысу, якая кідаецца ў вочы.

Русіновіч ішоў і ўслухоўваўся ў неразборлівы шоргат крокаў і шум вопраткі, у абрывістую, няясную гутарку.

Свяцілі гірлянды лямпачак, блішчалі сотні акон, яркія фарбы стракацелі ў вачах. А неба — цёмнае-цёмнае, без адзінае зоркі, непрыветнае і нізкае.

На скрыжаваннях вуліц грымяць аркестры. Нават не грымяць, а хутчэй хрыпяць, бо заглушаюцца гулам галасоў і шоргатам ног. Танцуюць пераважна маладыя, пераважна дзяўчаты; мільгае многа вайсковых кіцеляў і фуражак, многа рабочай моладзі, студэнтаў. Як камары, таўкуцца-кружацца пары цёплым вечарам на асфальце. У адных на тварах сур'ёзнасць, другія абыякавыя, сумныя ці нават скептычныя, трэція вясёлыя і бесклапотныя, з белазубымі ўсмешкамі, з іскрамі ў вачах.

Ужо разы два ці больш Русіновіч заўважаў, што сярод гэтай плыні мільгаў хто-небудзь знаёмы — то з іх курса, то з факультэта ці з інтэрната, але ўсё не той, каго б ён хацеў спаткаць.

А тут ужо ў яго не было ніякага выбару: ён пераходзіў на другі бок вуліцы і нос у нос сутыкнуўся са сваімі хлопцамі — з Мальцам, па мянушцы Пяхота, і Рамашкам. Малец быў з аднаго курса, з філфака, а Рамашка з фізмата, калісьці жылі ў адным пакоі. Побач ішлі дзве невысокага росту дзяўчыны, неяк дзіўна падобныя адна на адну: русавалосыя, з косамі, няйначай нядаўна са школы, адна нават у форменнай карычневай сукенцы са шчыльным, да шыі, каўнерыкам. Дзяўчаты ішлі ў сярэдзіне, хлопцы — па баках.

Малец быў рослы хударлявы хлопец з простымі, але прыемнымі рысамі твару. Як былы франтавік, ён яшчэ не разлучаўся са сваёю суконнаю гімнасцёркай, хоць яна і выдавала яго фізічны недахоп: левае плячо ў яго ляжала ніжэй за правае — у вайну разрыўною куляй яму раздрабіла левую лапатку.

Малец стаў адразу знаёміць Русіновіча з дзяўчатамі. Абедзве яны падалі яму руку і, акрамя імён, сказалі, як завучанае: «Вельмі рады». Русіновіч назваў толькі сваё прозвішча, а пра радасць пакуль што прамаўчаў. У яго была толькі адна цікаўнасць, на нешта выключнае ён не спадзяваўся. Яго здзіўляла толькі Мальцава апетытыўнасць: той ужо паспеў з вечарынкі падчапіць гэтых дзяўчатак і вось, відаць, захацеў іх сплавіць яму, Русіновічу — няйначай не спадабаліся. Не падыходзіў да гэтай кампаніі і ціхі, сціплы фізматык Рамашка.

Ды што заставалася рабіць? Ён, нібы нічога і не здарылася, пайшоў побач з Мальцам, сяды-тады зазіраючы праз плячо на дзяўчыну, што была крыху вышэй ростам і якую цяпер вёў пад руку Малец.

Яна, калі добра прыгледзецца, была нават нішто сабе дзяўчынка, з прыўзнятым маленькім носам і рухомымі тонкімі вуснамі, на якіх час ад часу ўзнікала прыветлівая і нясмелая ўсмешка — здавалася, дзяўчыну нешта стрымлівала, нешта было ў яе душы такое, што не дазваляла ёй смяяцца шчыра, ад усяго сэрца.

Імёны дзяўчат адразу выскачылі ў Русіновіча з галавы, ён хацеў зачапіць ужо нават сваю суседку якім словам, ды не ведаў, як звярнуцца, таму патроху ўслухоўваўся ў гутарку Мальца з дзяўчатамі, каб улавіць імя гэтай, што ішла бліжэй да яго. Яна пачынала яму падабацца.

Нічога крыклівага ў яе знешнасці не было — ні ў твары, ні ў паставе, і пры першым быстрым поглядзе на яе, асабліва вось у такім натоўпе, як сёння, на такую дзяўчыну не заглядзеўся б. Але паназіраўшы больш, прыслухаўшыся да яе голасу, да таго, што яна гаварыла, да яе пачынала хінуцца ўвага. Усё ў ёй пасавала адно да другога — твар, голас, вопратка. Прастата і сціпласць — вось што пераважала ў дзяўчыне. Але гэта было першае, яшчэ неглыбокае ўражанне. Толькі праз якое паўгадзіны ці болей Русіновіч адчуў і зразумеў, што яе прастата ляжыць на паверхні яе характару, як



ахоўная абалонка, а далей, глыбей у ёй ёсць нешта больш цікавае, таямнічае, нязведанае, што прыцягвае і прымушае пільней прыглядзецца да яе.

Гаварылі аб тым, хто больш патрэбны на зямлі — філолагі, матэматыкі ці біёлагі, бо высветлілася, што дзяўчаты былі біёлагамі, вучыліся на другім курсе. Малец і Русіновіч былі філолагі, адзін Рамашка матэматык.

Дзяўчаты ў адзін голас сцвярджалі, што свет без філолагаў абыдзецца, без матэматыкаў таксама не загіне, а без біёлагаў адразу прападзе. Самая важная навука — прыродазнаўства, бо яна даследуе як жывую, так і нежывую матэрыю, дае філасофскае абгрунтаванне жыцця на Зямлі, адкрывае законы прыроды, каб мяняць іх у сваю карысць. Дзяўчаты наперабой спявалі гімн біялогіі, заўзята даказвалі, што гэта навука навук, без якой нельга жыць на Зямлі.

Тут ужо і маўклівы матэматык Рамашка не вытрымаў і таксама вельмі пераканальна, з матэматычнай паслядоўнасцю і лагічнасцю пачаў даводзіць, што зямля якраз трымаецца на матэматыцы і больш ні на чым, бо ўсе пабудовы, усе машыны, усе рабочыя прылады не ўбачылі б свету без матэматыкі. Чалавецтва толькі тады стала самім сабою, калі першабытныя людзі палічылі свае пальцы на руках.

Малец і Русіновіч, каб не застацца ў даўгу, даказалі, што філалогія — маці ўсіх навук, што чалавек тады стаў філолагам, калі ўпершыню сказаў «а», так што іх навука — самая старажытная. Без яе нельга развіваць ні матэматыкі, ні прыродазнаўства, бо першаэлементам усякай навукі з'яўляецца мова. Без мовы ўвогуле нельга жыць. Не дайце вось гэтым людзям хоць гадзіну гаварыць — і вы ўбачыце, што атрымаецца.

Але тут яны зрабілі агаворку, якая адразу змякчыла тон дыспуту.

Гаварыў Малец, аднастайна жэстыкулюючы праваю рукою, нібы рассякаючы паветра перад сабою.

— Паважаныя дыспутанты! Не гледзячы на тое, што мы са Старым неабвержна даказалі, што наша навука з'яўляецца альма матэр усіх навук, у тым ліку і вашых (гэтае месца ён знарок падкрэсліў голасам і зрабіў паўзу, каб да ўсіх дайшло), мы разам з тым сцвярджаем, што вашы навукі маюць поўнае права існаваць на гэтай грэшнай зямлі, бо людзей многа, і ўсе яны не могуць у сілу абставін ці па сваіх задатках займацца адною філалогіяй. Таму тыя, каму гэта, як кажуць медыкі, супрацьпаказана, ідуць у матэматыку, біялогію ці яшчэ якую навуку, і мы ўжо не ведаем, якую карысць яны там прыносяць, але што яны не ў філалогіі, ад гэтага карысць самая вялікая.

Малец яшчэ не паспеў змоўкнуць, як дружны рогат пракаціўся па шарэнзе. Звонка рагаталі дзяўчаты-біёлагі. А Малец надзьмуўся, як індык, і быў хвіліну сур'ёзны — але доўга не вытрымаў і сам зарагатаў мацней за ўсіх.

На іх ніхто вельмі не глядзеў — навокал стаяў гул людскіх галасоў, шоргат ног заглушаў і скрадваў самыя гарачыя выкрыкі ці нават выбухі смеху — сёння ўсім было весела, і таму можа ўсе гэтыя людзі здзівіліся б больш, каб кампанія маладых людзей, не так ужо і добра апранутых, але ўсё ж прыкметна, што студэнтаў, ішла па вуліцы з кіслымі мінамі і пазяхала ад суму.

Але смех яшчэ не паспеў сціхнуць, як раптам Галя — гэтая, што ішла ля Мальца і на якую заглядваў Русіновіч,— як раптам

яна зрабіла крок наперад, павярнулася тварам да хлопцаў і, падняўшы руку са сціснутым кулаком, грозна сказала:

— Стойце!

Смех абарваўся. Усе сталі. Людзі, што ішлі за імі, нейкі момант здзіўлена глядзелі на іх і моўчкі абходзілі.

— Не станавіся супраць цячэння,— са смехам сказала яе сяброўка і, падбегшы, абняла дзяўчыну.— Нас тут растопчуць.

— Хай топчуць! — рашуча і нават сярдзіта выгукнула Галя.— Хай топчуць! Я не сыду з месца, пакуль гэты студыёзус не папросіць у нас прабачэння за абразу.

Усе спачатку думалі, што гэта жарт.

Малец не ведаў, што рабіць: супакойваць яе, адбрыквацца жартам ці ўсур'ёз прасіць прабачэння? Думаць не было калі.

— Хай гэта зробіць за мяне мой малодшы брат Русіновіч,— праспяваў на манер малітвы Малец і зрабіў жэст у бок збянтэжанага Русіновіча.

— Гэта несумленна,— умяшаўся Рамашка.— Не звальвай з хворай галавы на здаровую. Адказвай за сябе сам.

— За сябе я гатоў,— прастагнаў Малец, трымаючы руку на сэрцы,— але за свой язык — божа барані! Калі б я за яго адказваў, мяне даўно не было б на свеце.

— Дык вырві грэшны свой язык! Хай ён цябе не спакушае,— параіў Рамашка вершам.

— Тады ён не будзе Мальцам,— умяшаўся Русіновіч і звярнуўся да Галі: — Няўжо вы хочаце, каб наш Малец перастаў быць самім сабою? Ён умеў гаварыць нават з немцамі, а вось з дзяўчатамі — не навучыўся. Даруйце яму, і да вас людзі будуць мець спагаду.

— Ваша шчасце, Малец, што за вас заступіўся чалавек з чулым сэрцам. Гэты раз я вам дарую, але болей — ніколі, хоць вы і ветэран.

Яна першая падышла да хлопцаў, смела ўзяла Русіновіча пад руку, і яны зноў пакрочылі ў адзін рад, бесклапотна і весела размаўляючы.

## II

Сесія — самая адказная і, як ні дзіўна, самая вясёлая пара ў студэнтаў. Хоць экзаменаў і залікаў многа, але гэта не страшна — чалавек да ўсяго прывыкае. Асноўнае, што не трэба сядзець на лекцыях, а скарыстоўваць свой час так, як табе хочацца.

Шосты пакой на Нямізе, або, як яго называлі студэнты, «Палата № 6», страціў свой звычайны выгляд. Уставалі, як хто хацеў. Раней за ўсіх прачынаўся Малец. У яго часта балела плячо, прастрэленае недзе ва Усходняй Прусіі, ён пакутаваў ад бяссонніцы, доўга не мог заснуць вечарам, а раніцай таксама сон не вельмі меў над ім абладу. Але ўставаць рана ён не любіў, а звычайна валяўся ў пасцелі з кніжкаю ў руках.

Першы ўставаў Рак, невысокі сухі хлапчына з тоўстаю, як гарбуз, галавою і буйным гладкім тварам, які завяршаўся вялікім і прыгожым ілбом. Ён любіў спакой і парадак, не цярпеў мітусні і спешкі, якая звычайна бытуе сярод студэнтаў. Ён даваў, як смяяліся хлопцы, паўтара абарота ў гадзіну: старанна і доўга галіўся, «выкарчоўваў пні», спырскваў адэкалонам свой вялікі і бліскучы твар, ішоў з чайнікам па кіпяток і садзіўся піць чай.



За ім уставаў Ярошка, таксама невысокі, але каржакаваты і моцны, з шэрым бяскроўным тварам, з тонкімі вуснамі. Ён пачынаў свой дзень з фіззарадкі. Пахрустваючы суставамі, рабіў спачатку лёгкую размінку, пасля браў гантэлі і доўга размахваў імі, то прысядаючы, то нават кладучыся на падлогу. У яго таксама быў свой тэмп, яму аднаму характэрны, але трохі хутчэйшы, чым у Рака. Аднак ён таксама ніколі не спяшаў; а калі хадзілі на лекцыі, то ўкладваўся ў свой «графік» секунда ў секунду. Яго за гэта называлі Пектаралісам.

Часцей за ўсё разам, а часам адзін за другім, уставалі Русіновіч і Антановіч. Яны лічыліся добрымі сябрамі, хоць збоку не вельмі хто паверыў бы ў іх дружбу — надта яны розніліся адзін ад другога. Антановіч быў паэт, меў сангвінічны, рэзкі характар, быў хуткі ў рухах, гаваркі, выдатна вучыўся, з першага курса яго выбралі старастам. Русіновіч, наадварот, быў ціхманы, непрыкметны хлопец, не вызначаўся вельмі сваімі здольнасцямі, але быў чулы да чужога гора, спагадлівы, умеў цаніць дружбу.

Іх сяброўства пачалося на другім курсе, калі яны жылі на Віцебскай вуліцы. Ложкі іх стаялі побач, праз тумбачку, і раніцай абодва яны таўкліся на праходзе, перашкаджаючы адзін другому. Аднойчы Антановіч быў не ў гуморы, а, як на бяду, Русіновіч моцна наступіў яму на нагу сваім цяжкім сялянскім ботам. Антановіч хутчэй рэфлекторна, чым са злосці, штурхнуў Русіновіча ў грудзі, і той паляцеў на свой ложак. Той паволі падняўся і яшчэ без вялікага гневу, але ўжо даволі рэзка, адвёў руку і стукнуў Антановіча пад бараду. Антановіч ляснуў зубамі і паляцеў на свой ложак. Праз якую секунду яны ўжо стаялі адзін супраць аднаго, гатовыя кінуцца ў бойку, але хлопцы іх расцягнулі.

Памірыліся яны хутка і пасля гэтага адразу пасябравалі. Цяпер яны разам хадзілі і нават елі з «аднаго катла».

Рак пасля снедання клаўся на свой ложак і так чытаў, пакуль яго не зморваў сон. Звычайна хлопцы, прыходзячы з бібліятэкі, заставалі яго ў такой позе: апрануты, нават у сваіх доўгіх, як лыжы, туфлях, ён ляжаў, як нябожчык, на ложку, скрыжаваўшы на грудзях рукі і прыкрыўшы кнігай ці канспектам свой буйны твар. Але, як ні дзіўна, экзамены ён здаваў амаль толькі на выдатна — памяць у яго была, як казалі студэнты, конская. Тое, што ён раз прачытаў, засядала ў яго мазгах, як знятае на фотаплёнку. А кнігі ён чытаў, як машына,— за адзін дзень мог адолець некалькі тоўстых раманаў. Праўда, ён прызнаваўся, што чытаў па дыяганалі, сочачы, толькі за сюжэтнай лініяй. Рак губляўся толькі тады, калі трэба было самому нешта прааналізаваць, даць не гатовую, а сваю ўласную ацэнку факту ці з'явішчу. Ён любіў хавацца за цытаты, якіх ведаў безліч.

Малец з Ярошкам ад цямна да цямна сядзелі ў бібліятэцы — у Ленінскай ці ў сваёй, універсітэцкай. Малец браў да страты прытомнасці, да атупення — так баяўся за стыпендыю, хоць і атрымліваў яшчэ пенсію. Ён памагаў матцы і малодшай сястры. Ярошка таксама стараўся на поўную сілу, ён быў цягавіты і дужы, як бык, ніякіх нагрузак не баяўся, ды і лёгка яму ўсё давалася. Ён таксама быў выдатнік.

Антановіч быў маладзейшы за ўсіх, рослы здаровы юнак, якому не давялося зведаць цяжкага лёсу свайго сябра, што прыйшоў у навуку не толькі таму, што меў нейкія здольнасці, а больш таму, што быў цягавіты: вынослівы фізічна — у школу яму даводзілася

хадзіць больш як за дзесяць кіламетраў. Антановіч быў адзіным сынам у бацькоў, а бацька яго лічыўся неблагім спецыялістам-медыкам у раённым цэнтры. Антановіч здаваў усё на пяцёркі, прытым лёгка, без намаганняў,— здавалася, што ён не вучыць, а ведае ўжо даўно і толькі цяпер паўтарае, падводзіць вынікі.

Русіновіч, наадварот, вызначаўся маруднасцю і павольнасцю думкі, меў трохі як бы замаруджаную рэакцыю, але ўсё тое, што ён гаварыў ці даказваў, было яго ўласным, выказаным па-свойму, хоць часам карава. І ацэнку таму ці іншаму факту ён стараўся даваць сваю, за што адным ён падабаўся, другія, хто любіў гладкія адказы і завучаныя фармуліроўкі, не любілі яго і зніжалі ацэнку. Як ён ні намагаўся, а да патрэбнага ўзроўню дасягаў з цяжкасцю, ніяк не мог адолець гэтай сваёй прывычкі «шукаць», вымучваць кожнае слова і скардзіўся на слабую памяць. Асабліва цяжка яму даваліся цытаты і фармуліроўкі, хоць сэнс іх ён мог перадаць дакладна.

І вось гэтыя два такія розныя хлопцы часцяком рыхтаваліся разам, асабліва ў летнюю сесію.

Антановіч часта хадзіў рыхтавацца на возера, нават з самага рання. Ён любіў купацца ў халоднай вадзе — чалавек вырас на Шчары. Русіновіч, каб супакоіць сумленне, ішоў у бібліятэку, але калі сонца пачынала брацца пад поўдзень, здаваў кнігі, скручваў канспекты і шыбаваў таксама на возера. Там вучыць было цяжка — перашкаджалі купальшчыкі, якіх у вялікім горадзе летам заўсёды хапае.

Ва ўмоўленым месцы ён знаходзіў Антановіча — той, ні на што не зважаючы, чытаў ці складаў вершы і загараў. Ён меў зайздросны характар — мог займацца ўсюды. Цяпер яны хадзілі на змену купацца, перакідваліся словамі, пыталі часам пра што-небудзь адзін у аднаго або зачытвалі ўголас цікавыя мясціны з кніг. Антановіч сяды-тады чытаў яму свае вершы, а іншы раз нават лісты ад свае каханай са Слоніма, якая яшчэ вучылася ў школе. Абедалі ў латку, бралі піражкі з мясам, заядалі марожаным, а наверх быў хлебны квас, цёплы, як чай, але прыемны. У гадзін восем вечара стомленыя, але свежыя пасля купання вярталіся ў інтэрнат.

Вечарам к дзевяці збіраліся ўсе. Рыхтавалі вячэру, абменьваліся навінамі за дзень, часам заводзілі спрэчку, якая не канчалася да глыбокай ночы.

## III

— Стары, цябе там ля заалагічнага музея чакае адна асоба,— гукнуў Малец Русіновічу праз натоўп, які іх раздзяляў.

Апошні час Малец быў нібы сувязны паміж Русіновічам і яго «асобай» — той самай Галяй Абушэнка, з якой, па яго міласці, пазнаёміўся Русіновіч на другога мая. Яны часта бачыліся на пасяджэннях студэнцкага камітэта.

Русіновіч стаяў у чарзе па стыпендыю — экзамены былі ўжо за плячыма, ён хацеў адхапіць грошы за летнія месяцы і купіць сабе які недарагі гарнітур, бо кіцель пачаў разлазіцца ўжо на локцях.

— Хай трохі пачакае,— зяхаючы, як рыба на беразе, адказаў Русіновіч.— Гэтулькі мяне тут душылі, а цяпер я кіну? Няма дурных...

І праўда, даўка была страшэнная. Ля акенца з кароткім, але



шматзначным надпісам «КАСА» было такое збоішча людзей, што нават тыя, хто атрымаў грошы, не маглі выбрацца на волю. Дзяўчаты пішчалі і плакалі. Хлопцы лаяліся і рагаталі. Часам даходзіла да рукапашнай, калі хто-небудзь спрабаваў прабіцца без чаргі.

Урэшце запаветнае акенца.

— Які курс? — пытаў касір Быстрык, інтэлігентны лысаваты чалавек гадоў трыццаці пяці. Ён працаваў з навыкам дасканалага аўтамата — студэнты толькі паспявалі распісвацца ў ведамасці.

— Чацвёрты філфак.— Русіновіч працягнуў разгорнуты студэнцкі білет.

Беглы позірк, птушка ў ведамасці супраць яго прозвішча, хуткія спрытныя пальцы адлічваюць грошы. Усё! Наступны...

Заціснуўшы грошы ў кулак, Русіновіч налёг плячыма на жывую сцяну, пачаў працаваць локцямі. Яго круціла, як трэску ў віры, але ўсё ж ён прабіваўся туды, дзе было прасторна, дзе цьмяна свяцілі плафоны на доўгім калідоры.

Заалагічны музей быў на другім паверсе, але Русіновіч адразу туды не пайшоў. Ён накіраваўся ў скверык перад біякорпусам, прыгожы, акуратны скверык, засаджаны многімі нетутэйшымі пародамі дрэў — ад амерыканскага клёну да коркавага дубу, з фантанам пасярэдзіне. Фантан таксама быў адмысловы: група школьнікаў на п'едэстале трымала на выцягнутых угору руках вялізны шар — можа зямны, а з канца восі, што пранізвала шар знізу ўверх, тонкімі струменямі біла вада. Ветру амаль не было, дробныя кроплі вады з роўным шумам падалі ўніз, паветра было свежае і вільготнае.

Русіновіч пастаяў ля фантана, каб хоць трохі астынуць і супакоіцца. Стала холадна. Русіновіч апрануў кіцель і пайшоў урэшце туды, дзе чакала яго «адна асоба».

Галя Абушэнка сядзела на падаконніку і чытала кнігу.

— Добры вечар,— сказаў Русіновіч.

— Хай будзе добры...— адказала яна абыякава.

— Не псуй вачэй. Тут жа цёмна. А акуляры дзяўчатам не пасуюць.

Галя ўзняла галаву.

— Ты шкадуеш маіх вачэй? — суха спытала яна.— З якой гэта ласкі?

Ледзяны гэты тон ужо быў добра знаёмы Русіновічу. За тыя некалькі сустрэч, якія адбыліся паміж імі, хлопец хоць трохі, але ўжо ведаў, што дабра не чакай.

— Ты сярдуеш, што я адразу не прыйшоў? Я стаяў у чарзе, вылез адтуль ледзь жывы.

— Бедны! Як ты і выжыў!

— Цяпер не бедны. У мяне больш як шэсцьсот рублёў грошай. Давай сходзім у кіно, ці куды?

Галя апусціла вочы, памаўчала.

— Не, мне няма часу. Мы збіраемся на практыку на Нарач. Трэба падрыхтавацца.

— Дык ты хацела мяне гэтым абрадаваць?

— Не, проста так.

— Зайздрошчу я вам, біёлагам. Усё лета будзеце на Нарачы купацца, вудзіць рыбку.

— Бач, зайздросціш? А чаго ішоў на свой нудны філфак?

— Ну, ён не такі ўжо і нудны, але каб да ўсяго былі яшчэ вось такія практыкі, як у вас, лепш нічога і не прыдумаеш.



Галя саскочыла з падаконніка, закрыла кнігу.

Яны павольна ішлі міма чучал звяроў і птушак, што стаялі пад шклом ля заалагічнага музея, спыніліся перад зробленай па-майстэрску сцэнай палявання савы на зайца. Драпежніца-сава раскінула свае крылы, учапілася кіпцюрамі зайцу ў бок. Бедны заяц з грымасай дзікага болю, прыпаўшы на пярэднія лапкі, вытарашчыў вочы і так застыў, скамянелы. Іскрысты снег навокал быў запырскан крывёю.

— Як жывыя,— сказаў Русіновіч.

Галя толькі цяжка ўздыхнула.

— На першым курсе мы перавозілі гэты музей з Віцебскай вуліцы. Нашы хлопцы нават сфатаграфаваліся з вашым мядзведзем.

— І ты?

— Не, я не люблю фатаграфавацца.

— Дзівак!..

Яны спусціліся на ніжні паверх, прайшлі вестыбюль і накіраваліся ў скверык. Звярнулі налева і паволі пайшлі па дарожцы, прыглядаючыся, ці няма дзе пустой лаўкі. Ім адразу пашанцавала: у густым кусце амерыканскага клёну каля самага медыцынскага корпуса была свабодная лаўка. Туды яе зацягнулі няйначай аматары інтымнасці.

Русіновіч пад руку павёў Галю да лаўкі, галінкай клёну счысціў з сядзення абрыўкі паперы і пачак з-пад папярос. Ён быў рад, што памыліўся. Сёння якраз Галя ў добрым гуморы. Хоць. Нельга надта... забягаць наперад.

Ён шукаў слоў, каб пачаць размову — пачаць з чаго-небудзь нейтральнага, такога, што не закране ў ёй кепскіх струн. Можа вось гэтая кніга? Герберт Уэлс, «Затерянный мир».

— Цікавая кніга? — спытаў, хоць ведаў яе добра — сам чытаў.

— Пачытай, будзеш ведаць.

Адказ быў мала суцяшальны, што за ім таілася — лёгка было зразумець.

— А калі я ўжо чытаў?

Яна нічога не адказала.

— Чаму ты такая, Галка? Мо ты хворая? — Ён узяў яе руку. Яна не вырывала.— Ты не хворая? — пытаў ён, прытуліўшыся да яе і абхапіўшы за плечы. Яна маўчала. Твар яе быў зусім блізка, Русіновіч ледзь не датыкаўся да яе шчакі, бачыў раскрытыя вусны, прыжмураныя вочы і нейкі незнаёмы выраз на твары.

— Я цябе не буду бачыць цэлыя тры месяцы. Буду сумаваць па табе. А ты?

— І я...— выдыхае яна коратка.

— Аб чым ты думаеш? — пытае ён і не дае ёй прамовіць і слова: цалуе ў вусны.

Яна, як стомленая, апускаецца яму на рукі. Ён туліць яе да сябе, адчувае, як кроў стукае яму ў галаву.

І яму робіцца страшна, страшна таму, што ён можа зняважыць яе, пакрыўдзіць да смерці, пасля гэтага яму больш не бачыць яе ніколі...

Па дарожцы да кустоў нехта ідзе — чуваць крокі, ціхі дзявочы смех, прыглушаны мужчынскі бас. Кіруюць проста сюды.

Галя ўсхопліваецца, папраўляе валасы, Русіновіч таксама выпростваецца, дастае з кішэні расчоску, прыгладжвае свой растрапаны чуб. Яны сядзяць і, як на зло, маўчаць, толькі пазіраюць на тых, што набліжаюцца.

Тут паўзмрок, святло ліхтароў і месяца губляецца ў густым лісці клёна, але бас без памылкі пазнае іх.

— А, вы ўжо тут?

Гэта Галін аднакурснік, рослы бамбіза, пад руку з той самай маляўкай, што была разам з Галяй на другога мая. Дзяўчына зарагатала.

— Тут месца не браніруецца,— буркнуў Русіновіч. Ён адчуваў, што твар яго палае агнём і на ім напісана разгубленасць. Добра адно — у змроку гэтага не відаць.

— Шкада,— адказаў бамбіза,—інакш я выставіў бы вас у адзін момант.

І яны пайшлі, весела пасмейваючыся, нібы ведалі нешта патаемнае, не зусім такое, што можна ведаць усім людзям.

— Яшчэ паглядзелі б, хто каго...— наўздагон сказаў ім Русіновіч, але яны, напэўна, не пачулі.

Гэтыя людзі вярнулі яго на зямлю. Ён у душы быў удзячны ім за тое, што яны перашкодзілі яму пераступіць той парог, за якім пачынаецца нешта новае ў лёсе аднаго ці, часцей за ўсё, дваіх людзей.

... Было ўжо за дванаццаць, калі Русіновіч прыйшоў у свой інтэрнат. Антановіч і Рак спалі, а Ярошка і Малец недзе загуляліся — іх ложкі пуставалі.

Русіновіч зрабіў абажур з газеты, уключыў святло, дастаў з тумбачкі тоўсты карычневы сшытак і пачаў пісаць.

## IV

*„4.06.1952.*

Я нават вельмі добра пераканаўся, што ты цікавая і незвычайная дзяўчына, якой я дагэтуль яшчэ не сустракаў на сваёй дарозе, тым больш не сутыкаўся блізка. Здаецца, што дагэтуль я яшчэ нікога так моцна не кахаў, як цябе. Ведаеш, чаму? Ты ўмееш зачараваць, проста асляпіць, так падагрэць пачуццё, што чалавек не ведае, дзе ён — на небе ці на зямлі.

Ты прымушаеш думаць аб сабе ўвесь час, не даеш хвіліны спакою, не дазваляеш забыць аб сабе — і ўсё таму, што я не ведаю толкам, кахаеш ты мяне ці толькі падражніваешся.

Не, такога чалавека я яшчэ не сустракаў на сваёй дарозе. Можа проста таму, што я хадзіў па вясковых дарогах, небрукаваных, калдобістых, дзе людзі працейшыя, дзе адносіны між людзьмі таксама нескладаныя, дзе кожны чалавек відзён, як на далоні?»

*„21.06.1952 .*

Учора з Баранавіч дабіраўся дадому на машыне. Ехаў адзін, адправіў Антановіча на аўтобусную станцыю (яму на Слонім), а сам пайшоў на Нясвіжскую вуліцу, каб знайсці спадарожную машыну, бо на прыгарадны трэба было б чакаць да самага вечара.

У тры гадзіны я ўжо быў дома — на чатыры раней, чым прыгарадным цягніком.

Дома застаў усіх: бацьку, маці, малодшага брата. Не хапала толькі Зосі, сястры. Сястру, якая працавала ў краме, судзілі за растрату, далі пяць год за няпоўныя тры тысячы рублёў. Калі яна выйдзе? Два ўжо адбыла. Маці ўвесь час чакае. Расказвае мне: сніла сон, што Зося білася з усімі дамашнімі. Чакай, што скора прыб'ецца. І другі, яшчэ больш прарочы: што я з Колем, малодшым братам, садзілі вішні на прыгуменні каля плоту. Іх тры, дзве нібы прыняліся, зялёныя, а трэцюю я толькі што засыпаю, яна з доўгімі галінкамі.



Маці гаворыць: тры гады ёй прыйдзецца гараваць. Пабачым. Перад гэтым я напісаў заяву ў Вярхоўны суд БССР, але адказ расчараваў мяне. Таму пісьмо ў Маскву ўжо пасылаў без той веры, якая ў мяне была раней. Але верыць трэба, інакш нельга. Горш за ўсё, што сястра хворая, увесь час трымаецца нізкая, «гнілая» тэмпература. Валагодскія лясы, цяжкая праца, арыштанцкі паёк зробяць сваё. Як яе выратаваць? Што рабіць?»

*„30.08.1952.*

Мне часта даводзіцца быць у дарозе аднаму, адзіноту трудна пераносіць заўсёды, але сёння чамусьці мне асабліва цяжка.

Раніцай Коля — цяпер яму шаснаццаць гадоў — праводзіў мяне на станцыю. Гэта кіламетраў пяць. Ён нёс мой чамаданчык, гэты раз даволі цяжкі: пазычанае сала, усмажаны гусак, яблыкі, кавалак дамашняга хлеба, які я вельмі люблю.

Я адбіраў у яго чамаданчык, а ён не даваў, хоць ужо добра змарыўся. Нас праводзіў наш верны вартавы Мурза, пярэсты здаровы сабака, які мяне памятае яшчэ са школы. Ён не ішоў за намі, а гойсаў пры дарозе, па кустах, па ржышчы, усё нешта вынюхваў, ганяўся за птушкамі, пасля падбягаў да мяне, цёрся аб ногі, пазіраў на мяне разумнымі вялікімі вачыма, нібы хацеў нешта сказаць, і зноў, высалапіўшы язык, пускаўся наперад.

Мінуўшы Яцкаўшчыну,— палавіну дарогі,— я ўгаварыў брата вярнуцца. Ён быў сумны, на развітанне сказаў, што мне зайздросціць. Я супакоіў яго, як мог, пажадаў поспехаў у вучобе — ён перайшоў у дзевяты клас — і сказаў, што яго лёс, можа, намнога лепшы, чым мой, бо вайны ён амаль што не памятае, бегаў тады яшчэ без штаноў.

Узышоўшы на насып, я забраў чамаданчык ад брата і пайшоў адзін. Праз якіх метраў пяцьсот азірнуўся — за мною па шпалах трухаў сабака. Дзіўна, што ён не апярэджваў мяне: відаць, не хацеў трапляць на вочы, бо ведаў, што я буду крычаць на яго. Заўважыўшы, што я азірнуўся, ён вінавата апусціў галаву, падцяў хвост і неяк сарамяжліва-асцярожна падбег да мяне, пачаў лашчыцца ля ног, нібы прасіў дараваць гэтае самавольства. У мяне зашчымела сэрца, горкі камяк падступіў да горла. Я не закрычаў на яго, а адчыніў чамаданчык і аддаў яму свой сняданак, які маці падрыхтавала мне на дарогу. Ён з'еў, здавалася, толькі для таго, каб не пакрыўдзіць мяне, і стаў, нясмелы, пазіраў мне ў вочы і чакаў, што я яму скажу.

Я паляпаў сабе па калене, ён тут жа зразумеў мяне, ускочыў мне лапамі на грудзі, лізнуў цёплым языком маю шчаку, нібы цалуючы на развітанне, завіляў пушыстым чорным хвастом, а лапамі, як рукамі, стараўся абхапіць мяне за шыю, вытанцоўваючы на задніх нагах.

У блішчастых, глыбокіх вачах яго было гэтулькі нявыказанага, але такога зразумелага мне пачуцця, што ў мяне на вачах з'явіліся слёзы. Сабака лашчыўся да мяне, ціха скавытаў, нібы прасіў мяне вярнуцца, не пакідаць яго аднаго, нібы папярэджваў, што мяне чакае доўгая і цяжкая дарога, і невядома, калі я вярнуся назад.

Я патрапаў яго за вушы, ён яшчэ раз лізнуў мяне ў твар, заскакаў навокал, прыпадаючы аж на жывот, радуючыся, як малое, што я зразумеў яго і вярнуся.

— Ідзі дадому, Мурза! Ідзі! — І я паказаў яму на дарогу.— Марш!

Ён спахмурнеў адразу, зноў стаў вінаваты і прыніжаны, прыгнуў галаву і нехаця адышоўся на некалькі крокаў ад мяне, але азірнуўся і стаў, нібы чакаў, што я адумаюся і паклічу яго зноў.

— Ідзі! — крыкнуў я мацней, хоць мне балела сэрца крычаць на яго.— Я вярнуся, ідзі!

Ён няўпэўнена, раз-пораз азіраючыся, пайшоў назад, напэўна, несучы ў сэрцы крыўду на чалавека, які не зразумеў яго і не схацеў прыняць яго вернай дружбы.

Доўга ўсё гэта сядзела ў маёй галаве...

Цяпер я зноў у Стоўбцах на вакзале — сяджу адзін, чакаю, пакуль прыгарадны пойдзе на Мінск. Нехта вельмі разумна пісаў расклад руху прыгарадных цягнікоў. У Стоўбцах трэба праседзець больш пяці гадзін, едзеш ты з Баранавіч у Мінск ці з Мінска ў Баранавічы — усё роўна.

Трохі паабедаў — вараная гусяціна, хлеб. Ад куфля піва злёгку круціць у галаве.

Думкі розныя, і перш за ўсё аб доме. Ехаў і баяўся, што бацькі скажуць кідаць вучобу, бо няма чым памагаць. Ажно не — неяк яшчэ мацуюцца. Бацька то крывіцца, бо яму цяжэй, а маці гатова апошняе аддаць, залезці ў даўгі, каб толькі яе дзеці не галадалі. Я часта з ёю за гэта сварыўся, але ў душы думаў, што і я на яе месцы зрабіў бы тое самае, а калі ў мяне будуць дзеці, то і я так буду да іх адносіцца, як мая маці да нас. Яна не шкадавала нам нічога, але і патрабаваць умела таксама. Беларучак сярод нас няма, любая работа нам не страшна. За ўсё гэта я павінен толькі дзякаваць сваім бацькам, і маці — перш за ўсё, бо каб не яна, я даўно не вучыўся б, нават не скончыў бы дзесяцігодкі...

Цяпер пасылкі трэба слаць у два канцы — мне і сястры. І яны шлюць — адрываюць ад свайго рота і шлюць...

Думаю аб Галі. Думкі то сумныя, то вясёлыя. Цікава, як яна сустрэне: будзе абыякавай ці стане папракаць мяне, што паехаў дадому і не сказаў ні слова? Хутчэй, што першае бліжэй да праўды. Самалюбства ёй не дазволіць прызнацца, што яна сумавала па мне. Скажа, што ёй усё роўна. Яно можа і праўда. Па тым, колькі лістоў яна мне напісала за канікулы, іншага не падумаеш.

Што за капрызны, дзіцячы характар! І ніяк не заўважыш, дзе ігра, а дзе шчырасць. А мо яна і не ведае, не падазрае, што робіцца са мной? Але ж я гаварыў ёй аб гэтым не раз. Можа яна не верыць? Ці яна чакае ад мяне чаго іншага? Сто пытанняў...

Паслязаўтра — першы дзень заняткаў. Апошні курс! Гэта якніяк — падзея... Ці прыехалі ўжо хлопцы? Малец у студкоме — павінен ужо быць там, цяпер якраз здаюць новы інтэрнат. Апошні курс... Многа невядомага чакае нас наперадзе. Якое яно? Добрае? Благое? У які бок зменіцца жыццё? І як зменіцца? Тысяча пытанняў...»



*„31.08.1952. 24.00.*

Можаш павіншаваць мяне, Галка: я ў новым пакоі, у новым інтэрнаце. Ты не ўяўляеш сабе, якая гэта для нас радасць! Пяты курс, новы інтэрнат, усё ідзе як след. Чаго больш хацець? У мяне аж кружыцца галава — ад радасці і ад таго, што сёння адзначалі сустрэчу — гэтулькі часу не бачыліся! Я амаль што не п'ю, але сёння не мог адмовіцца: за сустрэчу, за новыя поспехі, за ўсё добрае, што чакае нас наперадзе.

Усе хлопцы застаюцца тыя ж, што і на Нямізе, толькі аднаго хочуць забраць і ўсяліць нейкага чужога, але мы пратэстуем і спадзяемся, што пераможам стыхію. Галоўная надзея ў нас на Мальца, які сам займаецца кватэрнымі пытаннямі.

Наогул у нас усе хлопцы ў пакоі сабраліся неблагія. Дай бог пабольш такіх! Не ведаю толькі, ці адносіцца гэта і да мяне: аб сабе цяжка судзіць.

Але ці не занадта я разышоўся? Я ж думаю пра цябе. Дзе ты будзеш жыць? Я, дурань, не паглядзеў спісаў, там павінна быць. А ўвогуле ў мяне нейкае нядобрае прадчуванне, што ты ўжо зусім сюды не прыедзеш! Аб гэтым гаворыць, а дакладней, крычыць той факт, што ты напісала мне толькі адзін ліст. Я рад буду, калі гэтага не здарыцца, але ў галаву лезуць розныя неадчэпныя думкі, не даюць спакою. Чаму ты маўчыш? Няўжо што здарылася?

Ці ты проста хочаш павадзіць мяне за нос, пажартаваць, як жартуе кот з мышшу, ці пасмяяцца з маіх пачуццяў? Ці ты хочаш, каб я ўзарваўся, як бомба, ад злосці, якая паступова напаўняе мяне?

Да слёз хочацца бачыць цябе. Хочацца пачуць твой голас, пасядзець побач з табой, непрыкметна абняць цябе і цалаваць твае вусны — цёплыя, свежыя, салёныя ад ветру і азёрнай нарачанскай вады. Як добра быць удваіх і на момант забыць аб усім, што цябе акружае, бачыць і адчуваць толькі цябе адну, толькі цябе».

*„3.09.1952.*

Учора днём і вечарам я быў сам не свой. Мне сумна, цяжка. Чаму? Ты ж ужо са мною, я цябе бачыў, гаварыў. Але чамусьці мне не стала лягчэй. У мяне нараджаецца жаданне сказаць табе: або — або. Мяне здзіўляе, што ты такая халодная са мною. Не кахаеш? Дык чаго таіцца?

Я цяпер заўважыў тое, чаго раней не заўважаў: ты не хочаш быць са мною на людзях, табе тады непрыемна, ты адчуваеш сябе скавана. Што за прычына, хацеў бы я ведаць? Можа таму, што апрануты не так добра, як другія, што прыехаў у тым жа кіцелі, што на нагах брызентавыя туфлі? Ты ніколі не спытала ў мяне, на якія сродкі я жыву, ці памагаюць мне бацькі. Відаць, для цябе гэта такія нікчэмныя пытанні, як для рыбы дождж ці для асілка здароўе. Але я за гэта не вінавачу цябе. Вінават я сам, што не прабудзіў у цябе прагі бачыць жыццё знізу.

Але ўсё гэта не тое, не!

Па-мойму, тут звычайная жаночая хітрасць: хай будзе, які ёсць! Знойдзецца лепшы — абмяняю. І нават з чыстым сумленнем скажу: я не давала слова таму, што быў да цябе, нават не сказала «кахаю».

Але яшчэ пабачым...»

**„21.09.1952.**

Я не пайшоў на спатканне. І вінаваты ў гэтым не зусім я адзін. Ты, можа, будзеш даказваць, што вінават толькі я. Тады я магу пахазаць табе сведак. Прычына была важная, нават можа больш важная, чым табе здаецца. Але самыя лепшыя сведкі гэта, па-мойму, мазалі на маіх руках.

Гадзін у дванаццаць у наш пакой нехта пастукаў. Ярошка, які некуды збіраўся, бо ў нядзелю кожны скарыстоўвае свой час, як яму хочацца, крыкнуў у дзверы, што — лепш галавою. На наша здзіўленне, парог пераступіў ужо даволі ў гадах чалавек, худы і стомлены, апрануты ў паліняпую салдацкую форму без пагонаў, у кірзавых ботах, з такой жа кірзавай сержанцкай сумкай у руках. Без усялякіх «уверцюр» ён спытаў прастуджаным голасам, ці хочам мы зарабіць сёння па паўсотні рублёў. Пакуль мы здзіўлена глядзелі на яго, ён растлумачыў, што ён прыехаў са станцыі Козырава, хоча завербаваць хлопцаў на выгрузку збожжа са складаў у вагоны. Работа лёгкая, падавай толькі лапатай зерне на стужку транспарцёра.

Праз колькі хвілін, пераапрануўшыся, мы выйшлі з інтэрната. На вуліцы чакала грузавая машына. Сабралася ўсіх чалавек пад дваццаць. Паехалі...

Узяліся мы дружна, стужка транспарцёра аж прагіналася, несучы ў вагон бясконцую плынь жытніх зярнят. На дне склада яны ўжо рабіліся гарачыя, і пералапачваць збожжа трэба было абавязкова, інакш згарыць.

Праз нейкі час пачыналі балець плечы, лёгкая драўляная лапата рабілася ўсё цяжэйшай і цяжэйшай, а ў прыёмнік транспарцёра ішоў ужо не такі густы струмень. Хлопцы часцей сталі адпачываць, выбягалі на двор падыхаць чыстым паветрам і прачысціць насы ад пылу. Праз некалькі гадзін мы не далічыліся двух чалавек, але не надта маркоціліся — сілы хопіць.

У гадзін пяць дня прыйшоў наш вярбоўшчык праверыць, як ідзе работа. Паглядзеў у вагон, пасля зайшоў на склад.

Тут мы ўспомнілі, што сёння засталіся без абеду, многія грошай з сабой не ўзялі. Як быць? Ён сказаў, што можа выдаць аванс па чырвонцу, тут недалёка ёсць буфет, дзе можна перакусіць. Мы з радасцю згадзіліся і праз некалькі хвілін ужо дружна, забыўшы пра стомленасць, накіраваліся ў буфет. На жаль, у ім нічога добрага не было — толькі грыбная салянка, сыркі, чорны хлеб і ліманад. Прагаладаліся мы-такі здорава, і ўсё гэта падалося нам лепш за ўсялякія прысмакі.

Пасля яды і адпачынку работа пайшла дружней, але толькі сшарэла — і мы з жалем заўважылі, што наша брыгада зменшылася яшчэ на двух чалавек, у тым ліку прапаў і Рак. Засталося пяць, а нават першы вагон не быў яшчэ загружаны. Амаль тое ж самае было і ў другой групе. З такой жа лёгкасцю, як і згаджаліся, кідалі хлопцы гэтую работу, не шкадуючы ні страчанага часу, ні тых грошай, якія ім абяцалі.

Перш чым пачынаць другі вагон, доўга спрачаліся. Два незнаёмыя хлопцы даказвалі, што трэба кідаць усім. Ядро на чале з Рамашкам, Антановічам і мною пераканалі іх, што трэба трымаць слова. Хлопцы нібы згадзіліся, але праз гадзіну іх і след прастыў. Засталіся мы, апошнія магікане. А работы яшчэ было многа, на тры чалавекі хопіць да паўночы. Але мы, нават не змаўляючыся, не думалі кідаць. Не з-за тых грошай, а проста з-за прынцыпу: няўжо мы такія слабцы?

Мне запомніцца той вечар на ўсё жыццё. Гэта была выключная па сваёй упартасці барацьба мускулаў і нерваў з часам і стомленасцю. Мы працавалі, як апантаныя. Нашы рукі, як механічныя граблі, не перастаючы, кідалі і кідалі на бясконцую стужку транспарцёра цяжкія, як свінцовыя, зярняты. Я пазіраў на Рамашку, на Антановіча, бачыў іх смяртэльную стомленасць, адчуваў і сам, што слабею з кожнай хвілінай, але мы не здаваліся. У той вечар я зразумеў, што значыць сказаць сабе: трэба! Тады сіла бярэцца невядома адкуль. Здаецца, яе ўжо няма, але ты ведаеш, што табе яшчэ не можна расслабляцца, бо ўперадзе яшчэ многа работы — і ты трываеш.

У Антановіча з носа пайшла кроў — ад пылу, ад вялікай фізічнай перагрузкі. Мы з Рамашкам хацелі, каб ён паляжаў трохі, супакоіўся, але хлопец адмовіўся. Мы адправілі яго ў вагон. Я ніколі не думаў, што чалавек, які не прывык да цяжкай працы, можа вынесці такую нагрузку. Гэта адразу падняло яго ў маіх вачах. Я заўсёды любіў людзей моцных целам і духам, шчырых, пастаянных у сваіх поглядах і перакананнях. Антановіч, без усякага сумнення, быў з такой катэгорыі. Не менш здзівіў мяне і тонкі сухарлявы Рамашка, у якім так нечакана прачнуўся цягавіты і заўзяты працаўнік-селянін».

**„25.09.1952.**

Ой, які я кепскі псіхолаг — проста смех! Учора мы пагаварылі па-чалавечы, нарэшце зразумелі адно аднаго. З учарашняга дня яна ведае пра мяне ўсё: чаму часта сумую, чаму невясёлы. А яна расказала мне, што не нервавала, што прымушала быць са мною насцярожанай і падазронай.

Выходзіць, ёсць людзі, якім не да спадобы наша дружба, і яны, каб маглі, скасавалі б яе навечна. Такім чалавекам аказаўся Краскін, трохі паэт, а ўвогуле аматар плётак і брудных жартаў, брат тае самае дзяўчыны, што гуляла з Галяй Абушэнка па праспекце на другога мая.

Вось якія бываюць людзі! А я не прыдаў тады ніякага значэння той размове, проста выкінуў з галавы!

Гэта было ў самым пачатку верасня. Краскін зайшоў да нас у пакой спытаць, калі будзе літаратурны гурток. Сяды-тады ён прыходзіў да нас на філфак, хоць сам быў географ, і прыносіў свае вершы. Пасля канікул ніхто яшчэ нічога не ведаў, Антановіч, староста гуртка, не паспеў яшчэ дамовіцца з кіраўніком.

З першага знаёмства Краскін не спадабаўся мне сваім бойкім, проста бабскім языком, жаданнем залезці без дазволу ў чужую душу і нечалавечай здольнасцю адмаўляцца ад сваіх слоў, калі яго прыпіралі да сценкі і патрабавалі адказу. Мяне ён лічыў амаль што сваім сябрам, мы часта сустракаліся ў хімкорпусе: ён прыходзіў да свае сястры, я да Галі, бо дзяўчаты жылі ў адным пакоі.

Ён падаваў мне сваю бязвольную руку з доўгімі пальцамі і, задраўшы ўгору нос, зверху пытаў у мяне адно і тое ж: «Ну, як поспехі?» — укладваючы ў гэтую фразу аднаму яму вядомы сэнс, а я, па

наіўнасці сваёй, адказваў як пад настрой: калі — «няважныя,», калі — «можаш пазайздросціць», а калі проста адмахваўся.

У той вечар у пакоі ён таксама, як у старога прыяцеля, спытаў: «Ну, як поспехі?» — і паказаў свае не надта прыгожыя зубы.

«Цябе гэта вельмі цікавіць?» — спытаў я ў адказ. Ён хітра абышоў пытанне, стаў выкручвацца і ўрэшце, перайшоўшы на панібрацкі тон, сказаў, што з ёю, гэта значыць Галяй Абушэнка, трэба дзейнічаць смялей, яна не любіць сантыментаў, уздыханняў і г. д. «Гэта я добра ведаю»,— самаўпэўнена закончыў ён.

Я, як сядзеў на ложку, ускочыў на ногі і схапіў яго загрудкі. Спачатку хацеў даць у морду, але пашкадаваў: ён быў тонкі, кволы — што яго біць? Гэта тое самае, што біць ляжачага. Я трохі сцехануў яго і сказаў, што абыдуся і без ягоных парад, а калі яшчэ раз заікнецца дзе-небудзь пра Галю, то я дастану з яго душу.



Ён зарагатаў, затараторыў, як п'яная кума, сто разоў папрасіў прабачэння і стаў развітвацца, узяўшы з мяне слова, што гэтая гутарка застанецца паміж намі.

Цяпер выявілася, што ён не вытрымаў і расказаў аб гэтым здарэнні спачатку толькі сваёй сястры — а тая Галі, надаўшы ўсяму патрэбную для сябе афарбоўку. Заўсёды так: хто першы, той лепшы. Ён выставіў сябе абаронцам яе гонару, а мяне — пашляком і цынікам. І апраўдвацца трэба было мне! Вось калі я пашкадаваў, што не набіў яму морды.

Потым, калі я падрабязна расказаў Галі, як было ўсё, што я гаварыў,— дарэчы, пры сведках,— Галя не знаходзіла слоў, каб выказаць сваё абурэнне. «Цяпер і нагі яго не будзе ў нашым пакоі»,— сярдзіта сказала яна.

Аказваецца, Краскін у іх часты госць, і Галя лічыць, што ходзіць ён не для таго, каб праведаць сястру, а мець прычэпку бачыць яе, Галю.

Цяпер мне стала ясна, навошта ён чарніў мяне ў яе вачах, а мне нагаворваў на яе. Гэта стары, як свет, спосаб пасварыць людзей, зрабіць іх нават ворагамі. Варта было каму-небудзь з нас паверыць у гэта сур'ёзна — і Краскін дамогся б свайго. Ну, цяпер усё пойдзе добра!»

## V

Неўзабаве Новы год! Які ён будзе, што абяцае? Што сапраўды новага прынясе з сабою?

Студэнты з 77-га пакоя чакалі ад Новага года перш-наперш дыплому — таго запаветнага дакумента, аб якім яны гэтулькі думалі, які спачатку свяціўся ў далечыні ледзь прыкметнаю зорачкай.

Расчыняліся дзверы ў шырокі свет. І страшна, і шкада разлучацца з тым парадкам, з тым ладам жыцця, да якога ты так прывык за пяць год. Ты адказваў толькі за сябе, за свае ўчынкі, кола тваіх абавязкаў было вузкае: вучыся, старайся, здавай экзамены, словам, жыві па праграме... Свет твой быў малы, у ім былі ты, твае клопаты, нямногія сябры. Ты ўсё гэта ведаў, мог разабрацца ў нескладаным лабірынце сваіх паўсядзённых спраў.

А цяпер цябе кіне ў бурлівую паводку, памчыць, закружыць, панясе невядома куды, з якой хуткасцю, куды выкіруе...

Перад Новым годам далі стыпендыю, а такая падзея адразу ўзняла настрой. Гуртам ішлі дадому, ля ларка выпілі па маленькаму куфлю піва. Ярошка падбіваў зайсці ў магазін і ўзяць хоць паўлітра. Але хлопцы не падтрымалі яго — заўтра провады старога, сустрэча Новага — трэба пачакаць.

Ярошка зазлаваў спачатку, аднак хутка згадзіўся. Коўзаючыся па свежым, але ўжо ўтрамбаваным да бляску снезе, яны рушылі ў інтэрнат, несучы хто што: бохан хлеба, кавалак кілбасы, селядзец, бутэльку кефіру. У дні стыпендыі папаўняліся спустошаныя за месяц запасы ў тумбачках.

— Колькі чалавеку трэба для шчасця? — гаварыў Малец, ідучы першы і азіраючыся на хлопцаў, бо час ад часу Ярошка ці Антановіч хацелі выбіць у яго з-пад пахі пакет з батонам і кілбасою.— Вось далі нам стыпендыю і — адразу свет перамяніўся... Гляджу на ўсё, і здаецца — лакам пакрыта. А да гэтага ўсё было такое шэрае, непрыгляднае. І людзі на людзей не падобныя — усе нібы чужыя, кожны глядзіць свайго, эгаісты эгаістамі. А цяпер кожнага абняць хочацца, усе сталі як сваякі ці сябры.

Ужо ў пакоі, распрануўшыся і перакусіўшы трохі, хлопцы вярнуліся да перарванай гутаркі.

Малец хацеў уцягнуць у гутарку і Рака, але асцярожны Рак, баючыся якога-небудзь нечаканага павароту, адмоўчваўся, толькі пасопваў носам і чырванеў.

— Чаго ты маўчыш увесь час? — не адставаў ад яго Малец.— Скажы сваё прафесарскае слова: што такое грошы?

— Гэта не важна,— адказаў Рак з натугай.— Грошы ёсць грошы. І больш ён нічога не дадаў, а ўзяў чайнік і выйшаў з пакоя.

— Куды ты? — закрычаў Ярошка.— Пастой! Ты «ізрэк» абсалютную праўду. Хто можа абвергнуць гэты сілагізм: грошы ёсць грошы? Ніхто жывы! — перайшоў на свой жартоўны тон Ярошка.— А няма грошай — значыць, няма грошай. Вечная, як свет, ісціна. Але давайце пагадаем, хто з нас будзе мець больш грошай. Я так думаю, што Прафесар. Шкада, што ён выйшаў, пацвердзіў бы. Па-першае, ён вельмі ашчадны чалавек. Здаецца, гэтыя туфлі з доўгімі задранымі насамі ён носіць з першага курса, і яны яшчэ як з камісійнага магазіна. Есць ён мала, не курыць, на дзяўчат не траціць. Па-другое, маўчанне добра аплачваецца. Гавары толькі тое, што ад цябе патрабуюць, не лезь у спрэчкі, не забягай уперад начальства.

Увайшоў Рак, паставіў чайнік на стол. Ярошка паглядзеў на яго, як на здань, што з'явілася тады, калі яе не чакалі.

— Дзякуй, Прафесар. Не буду паўтараць. Аб табе я сказаў. Другім ідзе Паэт. Ён будзе мець цёплыя ганарары, калі набудзе добры камертон-тон-тон. Трэцяе месца належаць будзе мне, калі шкляны бог не прарве дзіркі ў маім скарбовым мяшку. І апошні будзе Стары. Ён усё будзе рассылаць: сёстрам, братам, нябогам, унукам, усім няшчасным, калі толькі яны яшчэ застануцца на свеце ў той час.

— Па-мойму, наконт Старога ты памыляешся,— умяшаўся Анта-

новіч.— Не забывайся, што ў яго будзе багатая, як старыя кажуць, жонка. Да таго ж, яна трохі навучыць яго быць беражлівым.

— Эх, пяхота! Ты бачыш толькі вонкавы бок справы. Спытай у мяне, я ўсё скажу,— стукнуў сабе ў грудзі Малец.— Мо сам Стары гэтулькі не ведае пра сваю Абушэнку, як я.

— А што ты пра яе ведаеш? Раскажы! — зацікавіўся Антановіч.— А то Стары ўвесь час маўчыць.

— Расказваць? — спытаў ён у Русіновіча. Той кіўнуў галавою, сарамліва ўсміхнуўся.— Яна адна дачушка ў бацькоў... Як адна: ёсць два браты, абодва лётчыкі. Зразумела, старэйшыя за яе. Бацькі настаўнікі, нядаўна бацька кінуў жонку, звязаўся з другою. Галя, наколькі я ведаю, дужа перажывае гэты разрыў. Як ні лічы, жылі людзі разам трыццаць год, а на старасць — на табе! — не сышліся характарамі. Як вам гэта падабаецца?

— А што тут надзвычайнага? Рана ці позна чалавек хоча зведаць поўнае шчасце,— рэзюміраваў Ярошка, нібы для яго ўсё на свеце было ясна і ніякіх загадак не існавала.

— Як ты разважаеш? — ажно закрычаў Антановіч.— Я ў гэта не веру! Пражыць з чалавекам гэтулькі год без кахання, толькі па абавязку, ці як,— не паверу!

— Навошта спрачацца? Што мы ў гэтым разбіраемся? Каб судзіць бацькоў, трэба самім дарасці да іх узросту, тады будуць зразумелыя іх учынкі.

Гэта загаварыў Русіновіч, які дасюль маўчаў. Ён чуў усю Галіну гісторыю, нават з большымі падрабязнасцямі, і не ведаў сам, як аднесціся да ўсяго, каго вінаваціць.

Ярошка падышоў да Русіновіча і стаў у ваяўнічую позу.

— Ты пярэчыш евангеллю, дарагі мой Стары, дзе сказана, дай божа памяць, што «истинно то свидетельство, которым он (гэта значыць сведка) свидетельствует о мне». Так што, калі мы састарэем, то ўжо патрабаваць адказу за грахі нашых продкаў будзе позна.

— А ты пярэчыш сам сабе, Пектараліс. Пры чым тут евангелле? То ты апраўдваў яго: шукаць шчасця ніколі не позна, то ты ўжо збіраешся судзіць яго. Растлумач! — Русіновіч паказаў шырокім жэстам на ўсіх прысутных.— Ці ты толькі абы спрачацца?

— Я не люблю пустабрэхаў. Вось маё крэда. Але і маўчуноў тыпу Прафесара таксама не цярплю. Яны — як змоўшчыкі якія, іх трэба асцерагацца... Але я не аб гэтым. Ніякіх супярэчнасцей я не бачу. Я не сказаў, што шукаць шчасця — грэх. Проста супраць тваёй, на мой погляд, шкоднай тэорыі, што мы не можам ці не маем права крытыкаваць учынкаў сваіх бацькоў. Вось!

У дзверы пакоя пастукалі.

— Галавою! — гучна крыкнуў Ярошка.

Зайшоў Рамашка, павітаўся, сеў ля стала. Быў ён святочна апрануты, паголены, свежы.

— Што скажаш? — спытаў Малец.

— Нічога, зайшоў паслухаць, можа вы што разумнае скажаце.

— Якраз трапіў у час. Тут проста раскідаюцца розумам.

— Раскідаюцца? Не паверу. Хуан Уэртэ, іспанскі філосаф, даказвае, што самы спелы розум у мужчыны пачынаецца з трыццаці трох год. А вы нешта рана пачалі раскідацца розумам. Каб не каяліся, часам.

Ён усміхнуўся, паглядзеў на Русіновіча, падміргнуў яму і падсеў да яго на ложак, бо Русіновіч ляжаў ужо на коўдры і чытаў патрапаную і пажоўклую, без пачатку і канца кніжку.



— Што за падпольная літаратура? — спытаў Рамашка.

— А ты ўгадаў. Быў такі пісьменнік і крытык Максім Гарэцкі. Чуў?

— Не, не чуў. Ды ці мала іх было? Але дзе цяпер яны?

— Што ты там крамолу гаворыш? — спытаўся Ярошка.— Гавары, каб усе чулі.

— Усім няможна. Я кажу, што наламалі тады дроў многа...

— Калі? Адкуль ты ведаеш?

— Не я ведаю, людзі казалі. Ды і я сёе-тое памятаю. Перагібаў хапала... Напрыклад, дзядзька быў паляўнічы, меў стрэльбу. Дык значыць, у час вайны ён можа страляць у нашых байцоў ці мае канкрэтнае заданне забіць старшыню сельсавета або сакратара райкома. Былі ў чалавека галубы, значыць, ён шпіён, адсылае звесткі недзе ў Польшчу ці куды.

— Няўжо гэта праўда?

Хлопцы акружылі Рамашку.

— Праўда... Пакуль што яшчэ няпраўда.

— Як гэта зразумець?

Рамашка панурыўся, апусціў галаву, памаўчаў:

— Мой бацька прайшоў праз усё гэта... Ён быў настаўнікам фізікі, любіў радыётэхніку. Майстраваў сам прыёмнік. За гэта яго і ўзялі... Першы раз пусцілі, а другі — як у ваду кануў. Ніхто не ведае, дзе ён і што з ім...

Усталявалася цяжкае маўчанне.

— А як жа ты пралез праз іголчына вушка з такім вузлом на хвасце? — парушыў цішу Ярошка.

— Якое вушка? — ускінуў густыя бровы Рамашка.

— Ну, мандатную камісію...

— Прынялі... Не адзін я такі. Ды, у дадатак, у мяне быў срэбраны медаль...

— Эх ты, а ніколі раней нават не заікнуўся,— пакрыўдзіўся Антановіч.— Збоку здаецца — шчаслівей за цябе няма чалавека.

— А што скардзіцца ці плакаць? Гэта сёння нешта мяне за язык пацягнула. Стары, відаць, мае нейкі сакрэтны ключ... Я якраз да Старога і прыйшоў, ды загаварыўся тут з вамі. Хадзем, нешта скажу! — і ён пацягнуў Русіновіча за руку.

— Кажы тут! Хіба гэта больш сакрэт за той, што ты нам гаварыў усім? — узбуджана сказаў Русіновіч. У звычайных умовах намёк Рамашкі на нешта сакрэтнае ўсхваляваў бы Русіновіча, а цяпер ён быў зусім абыякавы. Усе яго нават вялікія справы пабляклі раптам у яго вачах перад той трагедыяй, што расказаў іх блізкі таварыш, аб якім яны, здавалася, ведалі ўсё да кроплі.

— Добра...— Рамашка перайшоў да стала, сеў.— Мне Коля Ярошка сказаў, ён пачуў недзе на курсе, што той паэт Краскін, якога ўсе ведаюць за яго доўгі язык, пускае пра цябе, Стары, розныя плёткі, нагаворвае ўсякую бязглуздзіцу. За што гэта? Чаго вы не падзялілі?

Русіновіча нібы аблілі кіпятком. Ён усхапіўся з ложка.

— Не падзялілі і не падзелім! Такога не дзеляць! — ускіпеў ён раптам.— О, сабака! Я яму заткну рот! Я думаў, што гэта проста пошлы жарцік, ажно не...

— Што, гэта мо з-за той дзяўчынкі?

Русіновіч нібы не чуў пытання.

— З-за яе свет гарыць! — адказаў за Русіновіча Малец.— І каб было з-за чаго. Бывае ж так! Дзяўчат поўна, і прыгожых, і ўсякіх,

а тут раптам свет клінам сышоўся на Галцы Абушэнка. І ніводзін не хоча саступіць!

— Табе жарты,— паспачуваў Рамашка,— а хлопцу лішні клопат... Гэта вялікае трапло, я яго трохі ведаю. Не трэба баяцца таго, што ён кажа, аднак дазваляць, каб ён абліваў каго б там ні было памыямі — не трэба. Але і ты асцерагайся, не хадзі адзін па вечарах. Ці мала што можа здарыцца...

— Будзем вадзіць яго на спатканне, а як жа! — падкалоў Ярошка.— І чакаць, пакуль ён нацалуецца.

Хлопцы зарагаталі. Адзін Русіновіч быў сур'ёзны.

— Я ўжо даўно нікуды не хадзіў,— апраўдваўся ён. Гэта была праўда. Апошні час адносіны з Галяй у яго сапсаваліся. Можа таму і быў прычынай Краскін са сваімі нагаворамі? А мо яна яму сімпатызуе ці, урэшце, кахае? Хто можа ведаць? Яна ж нічога не кажа.— Але цяпер буду хадзіць, вось пабачыце. На зло,— ускіпеў зноў Русіновіч.

— Не гарачыся. Тут найлепш быць спакойным і не траціць над сабой кантролю,— супакоіў яго Рамашка.

Ён яшчэ трохі пабыў, хлопцы пашумелі, паспрачаліся, кладучыся спаць. Урэшце ён пайшоў, выключыўшы ім на развітанне святло.

Усталявалася цішыня, але ненадоўга, бо Малец чамусьці ўспомніў перарваную ўжо другі раз размову.

— Слухай, прарок, а чаму ты мне не пагадаў наконт грошай? — спытаў ён Ярошку з цемры.

Ярошка заварушыўся, заскрыпеў спружынамі.

— Магу, Пяхота, нават бясплатна. Вось як у цябе будзе: будзеш збіраць-збіраць, капіць-капіць, а потым прасадзіш усё за адзін раз у марным месцы.

— А каб табе язык адсох, бацю, за такое прароцтва!..— вылаяўся Малец і заціх.

Хлопцы зарагаталі. Не чуваць было толькі Ракавага голасу. Напэўна, Рак ужо бачыў не першы сон.

## VI

Да Новага года заставалася ўсяго дзве гадзіны. Хлопцы паспелі «правесці да Пухавіч» стары год, каб не крыўдаваў. Яны сабраліся ў сваім пакоі, было тут яшчэ некалькі студэнтаў са свайго курса — Дзмітэрка, Касцюковіч, Рамашка. Выпілі нямнога, проста, каб трохі было весялей, ды і павячэралі заадно. Бо дзе пасля пад'ясі, калі не зрабіў гэтага дома? А студэнту добра пад'есці — аснова асноў, тады ён робіцца самым заядлым аптымістам.

Святочны вечар быў у хімкорпусе, у вялізнай спартыўнай зале. Пасярэдзіне стаяла высокая, амаль што да столі, ёлка. Народу было многа, і сваіх, і чужых, мільгалі афіцэрскія пагоны і гальштукі. Дзяўчат увогуле нельга было пазнаць — так змянілі іх святочныя ўборы.

Нашы хлопцы таксама апранулі ўсё, што было лепшае, папрасавалі гарнітуры, начысцілі чаравікі.

Русіновіч сёння скінуў свой кіцель і фарсіў у Ярошкавым падношаным касцюме, гальштук і белую рубашку ўзяў у Рамашкі. Хлопца было не пазнаць: ні больш ні менш — гарадскі франт. Бледнасць твару, чорныя доўгія валасы, глыбокія, з прыхаванай тугою вочы, чорныя, як намаляваныя, вусікі пад вялікім, крыху навіслым над поўнымі губамі носам,— усё пасавала яму.



Ярошка, Антановіч, Малец, Рак, Рамашка і ўсе астатнія — былі таксама хлопцы, як на падбор: прыгожыя, вясёлыя, дасціпныя, хоць сярод астатняй публікі крыху вылучаліся прастатой сваёй вопраткі і меншым шыкам.

Сталі шукаць сваіх дзяўчат, але іх не было, а калі і былі, то ўжо з некім другім. І ў гэтым нельга было вінаваціць дзяўчат, а хутчэй за ўсё хлопцаў, бо яны, як закон, ніколі не выбіралі сабе дзяўчат на сваім курсе. Гэта нават цяжка было вытлумачыць. Можа таму, што адны другіх яны ведалі навылёт, а чалавека якраз цягне нешта нязведанае, тое, чаго ён не бачыў, тое, чаго ён не спазнаў. Праўда, часам не агледзішся, як з-пад носа ў цябе забралі такога чалавека, якога ты пасля доўга будзеш шукаць і невядома ці знойдзеш, а чаму ты дагэтуль не працягнуў яму рукі — і сам не ведаеш. Ды ацэніш па-сапраўднаму толькі тады, як страціш...

Зала была высозная, вялізная, хоць ваўкоў ганяй. Ля сцен сціпла туліліся спартыўныя прылады. Сёння было не да іх.

У кутку на лаўках размясціўся студэнцкі духавы аркестр, які цяпер адпачываў. Моладзь стаяла пераважна парамі або кучкамі па некалькі чалавек, усе былі вясёлыя, узбуджаныя, без прычыны смяяліся і азіраліся навокал, нібы яшчэ кагосьці чакалі.

Хлопцы, зірнуўшы сюды-туды, пачалі шукаць каго хоць з другіх факультэтаў, а самы знаёмы ім быў пяты геафак, дзе быў студэнтам Коля Ярошка, зямляк і далёкі сваяк Міхася Ярошкі. Пяты геафак быў бедны на хлопцаў — усяго чалавек пяць, і тыя пераважная большасць інваліды вайны, сямейныя людзі. Затое дзяўчаты там былі, як на падбор, і ўсе нібы сёстры — русавалосыя, сінявокія, па-сялянску здаровыя. Каб не Коля Ярошка, ніколі хлопцы з 77-га пакоя не асмеліліся б падысці да такіх красунь, але за чатыры гады гэта рабілася непрыкметна, паступова, пасля нават не раз ім даводзілася сядзець за адным сталом у якое-небудзь вялікае свята.

Дзяўчаты з пятага геафака і яшчэ некалькі незнаёмых стаялі ля самай ёлкі. Яны былі такія святочныя, свежыя і маладыя, што ёлка, зялёная лясная прыгажуня, магла б пазайздросціць іх маладосці і здароўю.

Хлопцы абкружылі дзяўчат, утварыўшы вакол іх другое кола.

— З Новым годам, дзяўчаткі! — павіншаваў іх Антановіч.— Прыміце ў сваю кампанію...— І дадаў нешта смешнае, бо ўсе адразу зарагаталі.

Русіновіч не прыслухоўваўся да іх гутаркі, ён увесь час неўпрыкмет азіраўся, шарыў вачыма па зале, цьмяна спадзеючыся знайсці яе.

Хоць Галя і сказала, што Новы год будзе сустракаць у брата, Русіновіч ёй не верыў. Чамусьці ён чакаў, што яна прыйдзе і сюды.

Грымнуў аркестр, пары пусціліся ў танец, хлопцы і дзяўчаты, што стаялі побач, як расталі, Русіновіч застаўся адзін. Ён паволі прабіраўся да выхаду, каб не замінаць танцорам.

Выйшаў на пляцоўку, пасля схадзіў у другі канец калідора, дзе размяшчаўся буфет. Там таксама было цесна, ля дзяўчыны, што прадавала напіткі, стаяла доўгая чарга. Гарэлкі не было, толькі віно і піва. «Што ж гэта за сустрэча?» — падумаў сам сабе Русіновіч. Аднак ён памыліўся, бо тут жа, глянуўшы на сталы, заўважыў, што паэт Краскін з нейкімі хлопцамі паміж півам трымаюць бутэльку з «маскоўскай». Краскін коса глянуў на Русіновіча, зрабіў выгляд, што не пазнаў ці наогул не заўважыў, і тут жа, напусціўшы на твар вясёлую маску, нешта залапатаў на вуха свайму суседу, здароваму

смугламу хлопцу з кароткай бычынай шыяй. Той правёў яго вачыма і заківаў круглай, як футбольны мяч, галавою.

Да канца старога года заставалася менш гадзіны, Русіновіч накіраваўся зноў у залу, каб знайсці хлопцаў. Яны таксама дамовіліся сустрэцца ў буфеце.

Зала гула, варушылася, як растрывожаны мурашнік, шорганне ног і гукі аркестра зліваліся ў невыразную шэрую мелодыю, праз якую ледзь прабіваліся, як першая трава праз зляжалае лісце, асобныя галасы і смех. Моладзь весялілася, смяялася, жартавала, яна была бесклапотная, як вецер, перапоўненая да краёў шчасцем адчування вось гэтай вясёлай хвіліны — і больш нічога не хацела прызнаваць. Гледзячы збоку на ўсіх, ніхто не падумаў бы, што тут, у гэтай масе, ёсць хто-небудзь няшчасны. А можа і праўда, тут толькі шчаслівыя? А ён сам? Ды ці мала такіх, як ён, нават больш за яго няшчасных і пакрыўджаных жыццём? Але людзі ў сваёй масе заўсёды аптымісты, як бы жыццё ні гняло і ні круціла іх, яны вераць у лепшае і смяюцца.

А чаму не смяяцца ў такі вечар? Грэх не смяяцца і быць такім посным, як ён, Русіновіч...

— Што задумаўся, Стары?

Русіновіч азірнуўся Ён адразу па голасе пазнаў Колю Ярошку.

— Чаму не танцуеш? — кажа той і працягвае руку. Усміхаецца, бліскаючы пярэднімі залатымі зубамі.

— Ты ж ведаеш, які я танцор...— сумна адказвае Русіновіч.

— Вучыцца ніколі не позна, гаворыць старая ісціна. Ты некалі зразумееш, як многа страціў, што не навучыўся танцаваць. Гэта сур'ёзна! — Ён усміхнуўся, а вочы ўсё роўна заставаліся сумныя.

— Ці гэтулькі мы трацім? Каб тое бяды, што не танцуем,— і гора не было б...

Танцы танцамі,— яны ведалі, што гавораць не тое, што іх цікавіць, можа, больш важная справа.

Коля Ярошка быў на дзіва чулы і добры хлопец, ён не пакрыўдзіў за сваё жыццё нават мухі, з ім прыемна і весела гаварыць, у яго заўсёды ёсць для чалавека цёплае слова спагады, а вось самога яго нельга ўцешыць. У яго туберкулёз. Ён адкрыўся нядаўна, і ў актыўнай форме. Хлопец сохне на вачах. У яго ёсць дзяўчына, якую ён шчыра кахае, і яна яго — і невядома, які лёс чакае іх наперадзе.

— Слухай, Коля, давай вып'ем лепш шампанскага за добрае здароўе ў Новым годзе,— прапанаваў Русіновіч.

Коля Ярошка нібы ачнуўся ад задумлівасці і, махнуўшы рукою, сказаў:

— Давай! Чым чорт не араў, тым сеяць не стаў.

Яны пайшлі ў буфет, сталі ў хвост. Чарга пасоўвалася хутка, ніхто не таргаваўся, выбар быў небагаты.

— Ты стой, а я пайду паклічу Раю,— сказаў Ярошка і неяк стушаваўся.— Бяры грошы!

— Што ты? — заўпарціўся Русіновіч.— У мяне ёсць.

— Перастань, я ведаю, які ты багаты.

— Добра... Скажы там хлопцам, хай ідуць, а то спозняцца,— наўздагон Ярошку кажа Русіновіч.

Але хлопцы ўжо самі тут. Міхась Ярошка становіцца ўперадзе, дастае з кішэні загадзя сабраныя грошы і пытае, што браць. Побач спрачаюцца Малец, Антановіч, Рамашка. Рак пакрыўджана маўчыць. І тут ён надзьмуты. Няўжо не мог пакінуць дома сваю маску — хоць адзін раз у год?



— Займайце там стол,— камандуе Ярошка.— І крэслы.

Хлопцы адвальваюцца ад чаргі, грукаюць крэсламі, недзе ў кутку адваёўваюць сабе стол.

Урэшце даходзіць чарга, Ярошка шэпча дзяўчыне некалькі слоў, яна дастае з-пад прылаўка закручаную ў паперу бутэльку, пасля дае некалькі бутэлек піва, віна, важыць кілбасу. Русіновіч бярэ дзве бутэлькі шампанскага.

Яны ўжо расселіся за сталом. Ярошка, як аптэкар, наліў усім спачатку белай і нецярпліва паглядвае то на гадзіннік, то на дзверы. Застаецца дзесяць хвілін. З рэпрадуктара загучала навагодняе віншаванне.

Урэшце паказаўся Коля Ярошка з Раяй — бялявай, тонкай, як сцяблінка, дзяўчынай. Яна сарамліва павіталася з хлопцамі і села на адно крэсла з Колем.

Тут толькі Русіновіч успомніў, што яны не запрасілі дзяўчат з геафака.

— А дзе дзяўчаты? — спытаў ён у Міхася Ярошкі.

— Не пайшлі. Бог з імі. Мы прасілі. У мяне спух язык — не памагло.

— Цішэй! — зашыкалі на іх.

Усе маўчалі і слухалі. Стаяла нязвыклая для такой масы людзей цішыня, толькі ўрачыста і чынна гучаў з рэпрадуктара старэчы голас. Нарэшце ён скончыў словамі:

— З Новым годам, сябры! З новым шчасцем!

Усе стаялі, чокаліся, віншавалі адзін аднаго і ўсіх разам, жадалі добрае долі і шчасця ў Новым годзе.

Звонка і неяк па-новаму ўрачыста білі крамлёўскія куранты. Стралялі ў столь коркі ад шампанскага. Шумелі хлопцы, пішчалі і смяяліся дзяўчаты. Сталы сталі астраўкамі, сталі проста дзяржавамі, аддзяліўшыся ад усяго свету, не цікавіліся, што робіцца ў суседа. Усе былі заняты толькі сабой.

Другі тост быў за стары год. Які ён ні быў, а ўсё-такі нешта зроблена, усё-такі гэта крок да таго, што будзе заўтра, яшчэ адна ступень у будучае, якое — не можа быць, каб не было лепшым за мінулае.

Самы смелы фантазёр не мог бы прадбачыць, што новы год будзе гістарычны...

— Хай абновяцца нашы думкі, пачуцці!

— Кім мы тады будзем? Дзецьмі? Я не хачу!

— Наадварот, можа мы цяпер больш дзеці, чым калі...

— Хто мне скажа, што такое старое, а што — новае?

— Як для дзяцей: старое — усё кепскае, новае — добрае.

— Тады старое хутчэй павінна памерці.

— Гэта робіцца не па загаду зверху.

— «В нашей жизни умереть не трудно...»

— Кіньце патугі на філасофію. Класікі сказалі на ўсе выпадкі жыцця.

— На класіках развіццё думкі не спынілася!

— Скажы гэта мацней — і ты пераканаешся, што ты памыліўся на ўсе сто працэнтаў.

— Толькі без намёкаў на акустыку!..

Русіновічу здавалася, што плафоны ў калідоры яму падміргваюць, што падлога трохі падаецца пад нагамі, як дно лодкі на вадзе, што ў вушах у яго нібы па камяку ваты — гукі пранікалі да яго свядомасці, як праз нябачны фільтр, трацілі рэзкасць, рабіліся мяккія і глухаватыя. «Толькі без намёкаў на акустыку!..» Хто гэта

сказаў? Не важна! Ён не зусім верыў, што гаварылі пра акустыку. Можа таму, што быў наіўны яшчэ, што не папаўся ні разу. Ён пражыў дваццаць чатыры гады, і лічыў, што гэта многа, быў старанны ў працы і вучобе, нікому не грубіў, ніколі не быў рэзкі са старэйшымі, не сказаў кепскага слова пра таго, каму так многа аддавалася ўвагі ў апошнія гады. Не сказаў... А хто ведаў, што ён думае? Ведаюць толькі гэтыя хлопцы, што пражылі побач з ім чатыры гады. Гэта шчасце, што ведаюць толькі яны. Каб былі акустычныя прыборы, здольныя падслухваць думкі, ён даўно... Як даўно? Гады тры таму назад...

Што такое? Няўжо гэта здалося? Галя гэта ці не? Яна... Але з кім! Лётчык. Ух, які франт! Ён павёў яе пад ручку з калідора ў спортзалу. Зайграў аркестр, з пляцоўкі пары падаліся ў сярэдзіну.

Русіновіч павярнуў назад, пастаяў ля акна, але нічога не чуў і не бачыў. Ён быў заняты толькі адною думкай: сур'ёзна гэта ці яе новы выбрык? Урэшце, што яму да таго? Ён жа хацеў скончыць усю гэтую гісторыю. Дык чаго ён цяпер ускіпеў? Ад таго, што круціць у галаве? Ці рэўнасць? Ці пакрыўджанае самалюбства: «Чаму не я першы?»

Гэтыя пачуцці раздзіралі яму грудзі, галава трашчала ад невераемных здагадак і запытанняў.

Ён зайшоў у туалет, адкруціў кран над мыцельнікам і падставіў галаву пад халодны пякучы струмень.

Адразу стала лягчэй. Русіновіч дастаў расчоску, перад люстэркам зачасаў мокрыя і чорныя, бліскучыя, як ад брыльянціну, валасы, хвіліну ўглядаўся ў нібы чужы, з гарачымі вачыма твар, на якім рэзка выдзяляліся чорныя вусікі.

Але вось нечакана побач з яго адбіткам вырас другі — чорны вожык, круглая, як футбольны мяч, галава, шырокія плечы грузчыка. На твары — крывая, ненатуральная ўсмешка.

— Русіны... Станцыя ля Баранавіч.

Русіновіч рэзка павярнуўся.

— Адкуль вам вядома? — спытаў ён суха.

— Мне ўсё вядома,—самаўпэўненым грудным голасам сказаў вожык.— Мне нават вядома, што ты, Русіновіч, зараз будзеш ляжаць тут пластом...

— А-а-а, наёмнік,— здагадаўся Русіновіч, успомніўшы тую кампанію.— Гэта мы пабачым...

Ён напяўся, як сталёвая спружына, гатовы ў кожную хвіліну адбіць удар. Злосць, якая бушавала ў ім, як толькі ён убачыў Галю з лётчыкам, перакінулася цяпер на гэтага вось найміта, які за чарку гарэлкі ці мо за вялікія грошы стане зараз выбіваць яму зубы і ламаць рэбры. Не, так гэта яму не абыдзецца. Ён баяўся, каб хто-небудзь не зайшоў сюды і не перашкодзіў ім сквітаць рахунак. «Не трэба толькі падпускаць яго блізка, у яго, відаць, мёртвая хватка...» — падумаў толькі Русіновіч.

Але замест таго, каб перайсці адразу да галоўнага, хлопец загаварыў:

— Ты што гэта крыўдзіш майго сябра Краскіна?

— Я крыўджу? — здзівіўся Русіновіч.— Не ведаю такога выпадку. Аднак што — ты яму сват ці брат, што прымаеш яго скаргі? І ці добра ён плаціць?

— Не табе ведаць.— Ён падышоў бліжэй і глядзеў проста ў вочы Русіновічу сваім нахабным позіркам.

Русіновіча так і падмывала стукнуць яму, каб збіць гэтую пыху,



але такі ўжо ў яго быў характар — не лезці першаму. А ў галаве круціліся нейчыя словы: «Выйграе той, хто ўдарыць першы».

— Чаму? Мне цікава,— праз зубы сказаў Русіновіч.— Чым я яго крыўджу?

— Ты карыстаешся тым, што ён слабы і не можа адказаць ударам на ўдар. Ты адбіваеш у яго дзяўчыну і перад ёю абліваеш яго памыямі. Хіба так робяць сумленныя людзі?

— Цікава, што ў тваім лексіконе яшчэ ўцалела слова «сумленне». Якраз, каб яно, сумленне, было ў твайго сябра Краскіна, то ён не наймаў бы цябе на брудную справу.

— Бруднымі справамі ніколі не займаўся. Толькі крыўда, якую ты нанёс Краскіну, прымусіла мяне пайсці на гэты крок і правучыць цябе.

— Чалавек, якому зразумела слова «сумленне», не будзе звязвацца з такім тыпам, як Краскін. Яго раскусіць лёгка, што зялёны арэх. Няўжо ты не разабраўся, хто такі твой сябар?

— Не табе гэта ведаць,— зноў агрызнуўся вожык,— разбіраюся я ці не. Адно я ведаю — ты яго пакрыўдзіў. Ты браў яго за горла, страшыў і грозіў вытрасці душу, калі ён не адмовіцца ад тае дзяўчыны.

— Браў, толькі грозіў вытрасці душу за тое, што ён пры мне абліваў яе памыямі. Калі ты пабornік справядлівасці, то што ты зрабіў бы на маім месцы?

— А якая яму выгада абліваць яе памыямі? — Хлопец нібы нешта хацеў сцяміць, дакапацца да праўды, выслухаць «другі бок».

— Святая наіўнасць! Так знішчаюць канкурэнтаў! Спачатку маральна. А калі гэта не ўдаецца, знаходзяць больш дзейсныя сродкі — чужыя кулакі, як вось цяпер.

— Не можа быць! — усклікнуў «вожык».— Хадзем на калідор, пагаворым.

— Хадзем,— згадзіўся Русіновіч.

Яны сталі ў канцы калідора, адзін пры адным, плячо ў плячо, як добра знаёмыя ці сябры.

— Раскажыце мне ўсю гэтую гісторыю, толькі шчыра,— папрасіў вожык, упершыню пераходзячы на «вы».

— Я вам раскажу яе шчыра,— знарок падкрэсліўшы «вам», сказаў Русіновіч.— Яна надоўгая...

Яны гаварылі з паўгадзіны.

— А Краскіну я яшчэ наб'ю морду,— паабяцаў на развітанне хлопец.— Даруйце...— і ён пайшоў.

Русіновіч ужо не думаў пра дзіўны выпадак, і каб не цвёрды поціск, які яшчэ адчувала яго рука, наогул лічыў бы, што гэта быў нейкі недарэчны сон.

Ён толькі зайшоў у залу, як музыка скончыла іграць, пары з шумам выходзілі на калідор асвяжыцца і адпачыць.

У душы Русіновіча не было ранейшай узнёсласці, у яго вачах усё страціла той арэол, які быў дзесяць хвілін назад. Усё набывала рэальныя фарбы, і ён пачынаў шкадаваць аб гэтым. Няўжо толькі таму, што выветрыўся хмель з галавы? Можа... Ён ужо хацеў накіравацца ў буфет, але раптам нехта пацягнуў яго за руку. Ён падумаў, што гэта хто са сваіх хлопцаў, бо ўвесь вечар ён іх нікога не бачыў даўжэй, чым па некалькі секунд. Але, азірнуўшыся, ён пазнаў Галю. Яна пазмоўніцку падміргнула яму і шапнула на вуха:

— Запрасі мяне на наступны танец. Мы будзем ля дзвярэй.

Што за дзіўны вечар? Рой думак праляцеў у яго галаве, пакуль ён стаяў ля дзвярэй і ўжо з нецярпеннем чакаў, калі зноў паявіцца Галя са сваім лётчыкам. Ён безуважліва аглядаў усіх, спыняючы свой позірк на дзяўчатах, якія хоць нечым былі падобныя да Галі. Як яна ўмела ўсё перавярнуць у яго душы! Ён гатоў быў даравацъ усе яе выбрыкі за гэтыя цёплыя, па-змоўніцку сказаныя словы, якія зноў усялілі ў яго надзею на лепшае. Але... Колькі было такіх момантаў! Колькі разоў ён верыў, што ўсё будзе добра. А выходзіла наадварот. І вінавата была яна... Яна? А можа і ён? Відаць, што і ён. Але яна больш.

Але вось і яны. Лётчык вядзе яе пад ручку, нешта шэпча на вуха, ён расчырванелы, на лоб падаюць светла-русыя хвалістыя валасы. Але яна чамусьці адварочваецца ад яго, яна пахмурная. Лётчык, відаць, хоча развесяліць яе, але гэта яму не ўдаецца, ён адчувае сябе нібы вінаватым перад ёю...

Які ж знаёмы да драбніц малюнак! Чорт вазьмі!

Русіновічу стала шкада гэтага хлопца, бо ён надта ўжо добра і не адзін раз адчуваў тое становішча, у якім апынуўся цяпер яго сапернік. Яна і гэтага водзіць за нос! Ну добра ж!

Яны спыніліся недалёка ад дзвярэй, Русіновіч сачыў, ці не пойдуць яны ў другое месца. Увесь час туды-сюды снавалі людзі, засланяючы сабой тых, хто цікавіў Русіновіча больш за ўсё. Недзе падзеліся ўсе свае хлопцы. Няўжо стаяць з дзяўчатамі па цёмных кутках на калідоры? Ці мо зноў заселі ў буфеце? Прайшло амаль дзве гадзіны Новага года. Можна пачынаць зноў...

Урэшце зайграў аркестр, моладзь хлынула з калідора ў залу, да дзяўчат падыходзілі хлопцы, кланяліся і ішлі ў танец. Русіновіч захваляваўся: а што калі хто падыдзе першы і запросіць Галю? І што калі яна пойдзе танцаваць? Але раз яна абяцала, то нешта прыдумае, у яе гэта выходзіць надта проста.

Выцершы хустачкай узмакрэлы лоб, Русіновіч ступіў некалькі крокаў, няўмела пакланіўся і непаслухмяным ад хвалявання языком папрасіў у лётчыка дазволу запрасіць на танец яго даму. Лётчык з нейкай затоенай злосцю ці адчаем сказаў «пожалуйста», выразна, па літарах вымавіўшы гэтае слова, сціснуў вусны і пабялеў. Ці мо Русіновічу толькі так здалося?

А Галя хітравата ўсміхнулася, узяла Русіновіча пад руку і сама павяла яго праз натоўп у цэнтр залы, да ёлкі, дзе ўжо кружыліся пары.

Гралі хуткі і рытмічны факстрот «Рыа-Рыта», ногі самі панеслі Русіновіча па кругу, ён далікатна абдымаў Галіну талію, злёгку тулячы дзяўчыну да сябе. Яна нібы не адчувала гэтага, і Русіновіч адразу падумаў, што сёння чамусьці ён патрэбен ёй. Хацелася, каб не было канца гэтаму лёгкаму, хуткаму танцу, хай бы свет быў запоўнен толькі ім адным; здавалася, што навокал цябе і побач з табою такія цудоўныя, мілыя людзі, што сэрцы іх перапоўнены тым жа пачуццём любасці да бліжняга, што няма больш ні здрады, ні злосці, ні пакут, ні крыку душы заціснутага жыццём чалавека. Сапраўды, як многа траціць той, хто не навучыўся танцаваць!

Галя маўчала, толькі добрая, ціхая ўсмешка не сыходзіла з яе твару, а калі Русіновіч зазіраў дзяўчыне ў вочы, усмешка рабілася смялейшай, яна ажыўляла яе твар, рабіла мілейшай і прыгажэйшай,— такой, якою Русіновічу даўно не даводзілася бачыць.

— Ты пад гальштукам,— шапнула яна ціха.



Русіновіч толькі ўсміхнуўся ў адказ.

— Ён табе да твару. Асабліва да тваіх вусоў...

— Не веру.— Ён мацней прытуліў яе да сябе.— Чаго ты прыйшла на нашу ёлку?

— Мне захацелася ўбачыць цябе.

— Не веру,— зноў усміхнуўся Русіновіч.

— Павер.

Аркестр перайшоў на шалёны тэмп, усе танцоры, як заведзеныя, таксама заспяшаліся,— гэта азначала, што танец канчаецца. Сапраўды, музыка абарвалася, наступіла нязвыклая цішыня — нібы перастаў працаваць матор магутнай машыны. Русіновіч і Галя спыніліся ля дзвярэй, абое міжвольна глянулі на тое месца, дзе нядаўна стаяў лётчык. Яго не было.

— Ён што — паляцеў? — з намёкам спытаў Русіновіч.

— Хай ляціць. Ён мне надакучыў... Хадзем да нас...

Русіновіч здзіўлена глянуў на яе — нібы ўбачыў у ёй нешта новае. Дзяўчына жыла ў гэтым жа корпусе, толькі ў другім крыле, трэба было спускацца ўніз, бо ўваход быў з другога канца.

— Чаго так падазрона глядзіш?

Яны падышлі да дзвярэй у цёмную палову левага крыла, яна дастала ключ з сумачкі і падала яму. Толькі цяпер ён зразумеў, што да іх можна пранікнуць праз гэтыя дзверы, якія звычайна бываюць увесь час замкнёныя, бо адгароджваюць вучэбнае крыло ад жылога.

Ён ціха павярнуў ключ у замку два разы, з нейкім незнаёмым дагэтуль страхам прапусціў яе наперад, пасля зайшоў сам і замкнуў дзверы. Тут, за перагародкай, было ціха, нават змрочна, галасы з пляцоўкі ледзь пранікалі. Асцярожна ступаючы, каб не падымаць шуму, яны пайшлі ў канец калідора, дзе быў Галін пакой.

— Ты пастой хвіліну, а я пагляджу, ці хто ёсць...

Яна адамкнула дзверы, увайшла ў сярэдзіну. У верхнюю шыбу над дзвярыма ўдарыла святло.

Русіновіч з хваляваннем чакаў. Урэшце Галя прачыніла дзверы і шапнула па-змоўніцку:

— Заходзь.

Русіновіч нясмела пераступіў парог, асцярожна зачыніў за сабой дзверы. У вочы кінулася нязвыклая белізна ў пакоі — ад падушак да капаў і дарожак усё было белым, як у бальніцы. Гэта не тое, што ў мужчынскім інтэрнаце.

Толькі з аднаго ложка была садрана капа і на ім сядзела Галя. Яна паспела нават перамяніць сукенку.

— Патушы святло.

Русіновіч паслухмяна пстрыкнуў выключальнікам.

— Замкні дзверы.

Русіновіч замкнуў.

Але яму здалося, што ён не замыкае, а адмыкае той складаны на выгляд замок, над якім ён біўся больш паўгода і не мог падабраць ключа...

## VII

У другім паўгоддзі пяцікурснікі ўжо не хадзілі на лекцыі. Заняткаў больш не было. Увесь вольны час яны аддавалі дыпломным работам. Хто аблюбаваў сабе тэму даўно, а хто выбіраў і

перабіраў, каб была лягчэйшая, каб было пабольш матэрыялаў, з якіх можна «садраць», каб менш думаць самому.

У пакоі № 77 адзін Рак меў тэму па мовазнаўству — тэму, якую ён мусоліў кожны год у курсавых работах: «Родны склон». Малец і Ярошка не давалі яму жыцця з гэтым склонам, нават парадыравалі пачатак «Новай зямлі»: «Мой родны склон, як ты мне мілы...» Рак чырванеў, нібы яго кідалі ў кіпяток, мармытаў нешта сабе пад нос, а пасля зацінаўся, па два-тры дні ні з кім не гаварыў, усё выпісваў картачкі з кніг, класіфікаваў іх, штудзіраваў Вастокава, Пацебню, Мешчанінава, Ломцева, Вінаградава і іншых аўтарытэтаў, рабіў выпіскі.

Русіновіч узяў цікавую, але цяжкую, як пасля пераканаўся, тэму: «Андрэй Лабановіч — прадстаўнік новай беларускай інтэлігенцыі», цяжкую тым, што пытанне гэтае не было распрацавана. Усё трэба было рабіць самому, нават шукаць нейкую сваю метадалогію, самому складаць план. Праўда, у кожнага дыпломніка быў свой кіраўнік, але ж кіраўнік за цябе не напіша.

У Русіновіча быў ужо свой «стыль» працы. Ён, перш чым узяцца за якую-небудзь тэму, чытаў пабочны матэрыял, шукаў таго, што больш-менш блізка падыходзіла да яго тэмы, усё гэта «пераварваў», не робячы ніякіх выпісак і цытат, каб не трапіць у палон чужое схемы, пасля стараўся нават забыць усё. І толькі тады ўжо браўся за работу.

Так і цяпер. Ён не вылазіў з бібліятэкі, перачытаў многа па нацыянальным пытанні: аб адносінах вялікіх нацый да малых народаў, аб ролі нацыянальнай інтэлігенцыі ў жыцці народа і г. д. Аказваецца, тут ёсць горы матэрыялу і такога цікавага, што не адарвацца.

Але ўрэшце падрыхтоўчы перыяд скончыўся, Русіновіч збіраўся засесці пісаць, як раптам атрымаў з дому пісьмо, што захварэў бацька і яго паклалі ў бальніцу. Трэба было ехаць дадому. Ён захапіў з сабою «На ростанях» і тоўсты сшытак: у выпадку чаго — збіраўся пісаць там дыпломную.

У Баранавічах ён сеў у вагон прыгараднага цягніка.

Дома першы пачуў яго Мурза. Ён спачатку забрахаў, як на чужога, пасля пачаў скавытаць ад радасці і кідацца на ланцугу.

Русіновіч падышоў да яго, сабака стаў на заднія лапы, нібы вітаючыся з гаспадаром, лізнуў яму цёплым языком у шчаку. Хлопец выняў з шыняля кавалак хлеба, спецыяльна прыпасенага для гэтай сустрэчы, і адпіхнуў Мурзу. Яму не цярпелася ў хату.

Дзверы ў сенях былі адамкнёныя. Гэта азначала, што дома яшчэ не збіраюцца спаць.

У цемнаце ён адразу знайшоў клямку.

Па гэтым у хаце пазналі, што ідзе свой чалавек. Брат і маці стаялі ля парога, чакаючы, хто пакажацца ў дзвярах.

— А, сыночак! —і маці кінулася сыну на шыю.— А я ж думала, што гэта наша Зося. Чуем, сабака забрахаў, пасля сціх, заскавытаў, а тут у сенях чалавек не збіваецца, як у сваіх... Ажно ж ты... Ну, слава богу, што прыехаў.

Русіновіч павітаўся з братам, стаў на палок ля печы і пацалаваў бабку — яна ўжо старая і хворая, зімою нават не злазіць з печы.

Маці пачала завіхацца каля печы, нарэзала на скавараду тонкага сала, падпаліла трэскі ў ямцы і паставіла скавараду над агнём.

— От куры не нясуцца...— бедавала яна.— Ды і карова яшчэ



не ацялілася. Дык мы і гаруем трохі. Бяром малако ў суседзяў, але рэдка, мне яго не трэба, хіба во яму ці як бацька быў дома.

— А што з бацькам? — Гэтае пытанне ўвесь час круцілася ў Русіновіча на языку, але ён стрымліваў сябе, каб не паказацца несур'ёзным.

Бацька яго быў інвалід другой групы, меў, да ўсяго, некалькі хвароб, вылечыць якія ў такім узросце не было чаго і думаць.

— З лёгкімі не ў парадку. Пацямненне.— Маці нешта замоўчвала, таіла ад яго.

— Палачкі Коха знайшлі,— растлумачыў па ўсіх правілах медыцыны брат.

— Гэта кепска,— толькі і мог сказаць Русіновіч.

Пачалі вячэраць. Маці прынесла з каморкі бутэльку самагонкі.

— Усё хаваю, думаю Зосю сустрэць...

Русіновіч адразу захмялеў, навакольны свет раптам змяніўся. Беднасць і чарната вясковай хаты не так ужо кідалася яму ў вочы, столь не здавалася такой закуранай і нізкай. Ён зноў адчуў сябе сынам гэтае хаты, сваім чалавекам, усё тое, чым ён жыў у горадзе, засталося там. Асцярожна, каб не пакрыўдзіць маці і не разбіць яе веры, ён сказаў задуменна:

— Вы ўсё чакаеце... А калі ж яна, па-вашаму, вернецца?

Маці зірнула на сына з недаверам, нібы пераконвалася, ці няма ў гэтым пытанні насмешкі, але Русіновіч быў сур'ёзны, і яна так жа сур'ёзна адказала, нібы была вяршыцелем лёсу свае дачкі:

— Як па яе пісьмах, то як быццам вясною, а я ўсё думаю, што з дня на дзень павінна прыехаць. Яна ж хворая. Няўжо яе не адпусцяць? Ты ж пісаў нейкія паперы ў Маскву, і яна сама пісала. Няўжо там не людзі сядзяць, што хворага чалавека трымаць будуць у лесе?

«Якая ты наіўная, маці...» Але каб не разбіваць надзеі, ён сказаў другое, памяркоўнае:

— Што ж, будзем чакаць. Памятаеце, тры вішні, што я садзіў? Ваш сон...

— Памятаю, сынок. Ён у мяне з галавы не выходзіць.— Маці выцерла слёзы далонню цвёрдай спрацаванай рукі, адвярнулася ад сына, пасля зірнула на яго і спытала нясмела:

— А як жа, сынок, будзе з жаніцьбаю? Тады летам ты казаў, што ў цябе добрая дзеўчына знайшлася, з гарадское сям'і... Ці канчае яна разам ці не?

Русіновіч апусціў вочы, задумаўся. Яму, што прывучаў сябе да самастойнасці, быў непрыемны матчын клопат за яго далейшы лёс. Было непрыемна і тое, што маці хоча, каб ён шукаў сабе нейкую «адукаваную гарадскую дзеўчыну», толькі, крый бог, не простую, нават не такую, як сам, а абавязкова гарадскую, «багатую».

— Яна канчае на два гады пазней. Але не гэта важна. Здаецца, у нас нічога не выйдзе,— сумна сказаў сын.

Для маці гэтага было мала, яна павінна ведаць усё.

— Што ты кажаш? — жахнулася яна.— А хто ж каго не хоча? — Ёй крыўдна было, што яе сына нехта там не хоча мець сваім чалавекам.

Русіновіч усміхнуўся.

— Не хоча... Цяжка сказаць, хто каго не хоча.— Тут ён павінен быў гаварыць праўду, таму трэба было неяк за адзін раз, вось цяпер, раптоўна, даць правільную аб'ектыўную ацэнку іх адносінам, не валіць віны толькі на адну Галю, бо гэта было б несумленна. Але

гаварыць кепскае аб сабе ён мог сабе ці каму хочаш другому, толькі не маці — яна не паверыла б, што яе сын нечым камусьці мог не спадабацца.

— Ёй сумна са мною, яна вырасла ў другой сям'і, чым я, прывыкла да другога жыцця. Але ўся бяда яшчэ не ў гэтым. У нас розныя характары — самае галоўнае. Яна рухавая, жывая такая, любіць вясёлае жыццё, модныя сукенкі, любіць, каб яе хвалілі, захапляліся ёю. А я зусім другі чалавек. Я заўсёды ў цяні, не люблю вылазіць наперад. Ну і адзеты не так добра, як другія... Ён адчуваў, што гаворыць зусім не тое, што трэба, бярэ павярхоўнае, але не мог адолець свае сарамлівасці і сказаць усяго.

Маці слухала і недаверліва круціла галавою.

— Ты ўсё пра нейкія характары гаворыш. Некалі мы іх не ведалі, і мо лепш было. Абое вы вучоныя, ужо неяк паладзілі б, каб хацелі. Ты ж мо не такі, як твой бацька, умееш і пагаварыць, і ведаеш, як сябе па-гарадскому паводзіць, гэтулькі правучыўшыся. А што цяпер яшчэ адзеты не так, як другія, то гэта не бяда. Во скончыш вучобу, будзеш больш мець, то справіш сабе ўсё, што трэба. Глядзі, сынок, як добрая дзеўчына, то не цурайся яе, не абыходзь. Ці мо ты хочаш ашукаць яе, насмяяцца? Божа цябе бarані ад такога граху. Глядзі!

Маці з пяшчотнай і клапатлівай раптам зрабілася суровай і жорсткай.

— Не, мама, я яе не крыўджу, не ашукваю, ды яна і не такая, што дасць сябе пакрыўдзіць. Проста мы трохі чужыя людзі: ёй не ўсё зразумела ва мне, а мне ў ёй.

Ляглі спаць позна. У Русіновіча ад гарэлкі і ад усіх гэтых размоў пачала балець галава, душа была не на месцы. Ён доўга не мог заснуць.

... Пасля пайшлі дні за днямі. Брат хадзіў у школу, маці тупала ля гаспадаркі, натупаўшыся, лезла на чарэн пагрэцца і падрамаць якую гадзіну, а Русіновіч, забраўшыся ў чыстую палову хаты, пісаў сваю дыпломную.

Было холадна, і ён апранаў бацькаў паўшубак, цёплы і лёгкі, і хадзіў па хаце з кута ў кут, шукаў якую-небудзь фразу ці думку, пасля, запісаўшы яе стоячы, толькі прыгнуўшыся над сталом, хадзіў зноў. Галава ў яго была ясная, думка лілася вольна, ён паспяваў толькі запісваць. Калі стамляўся, работа ішла тужэй. Тады ён выходзіў на двор, браў вялізную драўляную лапату, якой некалі саджалі хлеб у печ, і расчышчаў снег ля хлява і ля студні, бо замяло здорава, як і кожны год. А то браўся рэзаць сечку. Сячкарня была яшчэ дзедава, старая, але спраўная. З малых год на махавым вялізным коле ён чытаў пукатыя лацінскія літары: «Poland. Bracia Szapiro». Калісьці ён разумеў толькі адно слова: браця — браты.

Маці крычала, навошта ён надрываецца і рэжа адзін, але ён не надрываўся: аднаму рэзаць лягчэй, таму што, выкруціўшы карытца саломы, адпачываеш, пакуль напакуеш другое.

Яшчэ ён любіў калоць дровы. Дакладнасць удару ў яго была надзвычайная. Круглякі лопаліся, як порхаўкі.

Не было дроў — папраўляў загарадзь у хляве, паіў карову, раўнаваў гной. Спачатку, як толькі прыехаў, работы, здаецца, не было відаць, а пасля яна нібы лезла на вочы: то тое, то гэта, і ўсё патрэбна зрабіць, хоць у хаце і было двух мужчын. Але што з іх узяць: адзін малы, другі стары, хворы. А свежаму воку лепш відаць. Матцы было лягчэй, брату таксама, ды і часу для работы Русіновічу хапала, бо хадзіць нікуды не хацелася. Міма свае волі ён аддаляўся ад таго асяроддзя, з якога выйшаў сам, былыя сябры, занятыя сваімі справамі, рэдка ўспаміналі аб ім, як і ён аб іх. У кожнага цяпер былі свае клопаты. Часамі, задумаўшыся, ён шкадаваў, што тое, чым жыў нядаўна, увачавідкі робіцца мінулым, старыя сцежкі зарастаюць. А хутка, ой як хутка, увесь уладкаваны за пяць гадоў парадак рассыплецца зноў — чакай гэтулькі новага і нязведанага...

Бацька выпісаўся з бальніцы праз два тыдні. У калгасе Русіновіч узяў фурманку і паехаў па яго ў Клецак.

Бацька пастарэў, згорбіўся, пасівелі яго валасы. У піжаме і тапачках на босую нагу ён выйшаў з палаты, за руку павітаўся з сынам. І калі той памкнуўся пацалаваць бацьку, стары адвярнуўся, падставіў шчаку. На вачах у яго бліснулі слёзы. У сына таксама заныла сэрца.

Дадому бацька вярнуўся ўсяго на некалькі дзён, а пасля павінен быў ехаць у шпіталь інвалідаў вайны ажно ў Брэст. Так загадалі яму дактары — трэба падмацаваць арганізм.

Па дарозе разгаварыліся. Бацька не мог нарадавацца, што сын хутка скончыць вучобу і можа ўжо сам стане памагаць бацькам, а на благі канец хоць не будзе цягнуць з гаспадаркі. Але як ён радаваўся за сына, так засмучала яго дачка, якая недзе пакутуе на Валагодчыне. Бацька расказваў, што не раз сварыўся з маткаю за яе бясконцыя спадзяванні і надзеі на тое, што Зосю адпусцяць раней часу. Хіба толькі, крый божа, паміраць... Лаяў ён урэшце Зосю за яе работу, за тое, што не слухала яго, давярала людзям, якім нельга давяраць на капейку, а не то што пускаць іх за прылавак; што вадзіла кампанію з ненадзейнымі людзьмі, пазычала ім чужыя грошы; што грызлася ўвесь час са старшынёю сельпо і ў вочы называла яго злодзеем; што прыняла магазін з усім старым барахлом, якое трэба было спісаць і якое пасля рэвізіі палічылі непрыгодным і аднеслі на яе кошт. Усё гэта было справядліва, таму яшчэ цяжэй было слухаць.

І ўсё гэта каменем ляжала ўжо трэці год на бацькавай душы. Вось чаму яму так цяжка...

Праз тры дні Русіновіч павёз бацьку на станцыю ў Жарабковічы, каб адправіць яго ў Брэст.

Усю дарогу бацька маўчаў, толькі калі пад'язджалі да раз'езду, загаварыў глухім голасам:

— Глядзі, сыне... Можа мы больш не ўбачымся... Не перабівай толькі! Мы, мужчыны, павінна смела глядзець праўдзе ў вочы... Я мала вас шкадаваў, мала песціў, многа крычаў і біў. Не глядзеў і матку... У бальніцы часу вольнага многа, ляжыш, думаеш. Часам слёзы глытаеш, як паглядзіш на ўсё збоку. Цяжка, без прасвету прайшло маё жыццё. З малых год сірата, пасля мачыха; падрос — пасвіў кароў у чужых людзей, потым пайшоў парабкаваць. А аддзяліўся ад бацькі — два гектары зямлі, адзін пясок і камень. Ажаніўся, жылі ў падсуседзях, пакуль хатку зляпілі. Тут вы паявіліся, клопату пабольшала, зноў біўся, як рыба аб лёд. А там вайна ўсё перавярнула, мне здароўе адняла... Цяпер вы падраслі, думаў, усіх выведу ў людзі, ажно бачыш, як вывеў. Турма, прападзі яна пропадам... Адзін ты мая надзея. Глядзі, сынку, не спатыкніся, з людзьмі вельмі не напрыкрайся. Цяпер час цяжкі, людзей многа зайздросных, могуць утапіць у лыжцы вады. Ужо як нам цяжка ні даводзілася, а ёсць людзі, што кажуць, бач, Русіновічы — лёгкага хлеба

шукаюць, у калгас не хочуць хадзіць... Дачка падалася ў прадаўцы, хлопцы ў навуку ўдарыліся. А чаму другому не ісці ў навуку? Усё ёсць, толькі вучыся. А не хочуць! А ты што меў? Хадзіў галодны-халодны за дзесяць вёрст, а вучыўся. Без гадзінніка, па пеўнях уставаў, а ішоў, бо хацеў вырвацца з балота, дасягнуць нечага. Цяпер некаторыя будуць яшчэ больш гаварыць, яшчэ горш будзе ім калоць вочы, што ты выбіўся ў людзі... Ну, памятай заўсёды, хто твае бацькі, не забывай, што ты мужык-беларус, хоць і навуку маеш. Памагай тым, хто слабейшы, хто можа прапасці, калі яму не падасі ў час рукі. Яшчэ што... Не выракайся сваіх, маці глядзі, мо ажэнішся, то будзе тваіх дзетак даглядаць. Зосю не кідай... Хлопцу хоць трохі памажы выбіцца ў людзі... А я ўжо скора...

Гэта было падобна на апошні наказ. Сэрца малодшага Русіновіча разрывалася на кавалкі.

— Тата, што вы гаворыце! — закрычаў ён.— Я не хачу слухаць! Вы яшчэ паправіцеся... Дарэмна вы ўбілі сабе ў галаву! Так няможна! Што вы! Я не хачу быць шчаслівы адзін, хачу раздзяліць сваё шчасце разам з вамі. Бо вы самі дзялілі апошні кавалак хлеба на роўныя часткі. І цяпер яшчэ дзеліце...

— Ну, добра... Супакойся,— зміраўся бацька.— Больш не буду.

Яны развіталіся цёпла і шчыра, як ніколі. Абодва ледзьве стрымаліся, каб не заплакаць.

— Пісьмы пішы, сынок! — крыкнуў ужо з падножкі бацька.

— І вы пішыце!

— Добра... Шчасліва табе скончыць!

Бацька памахаў рукою, пасля выцер вочы.

Русіновіч прабыў дома яшчэ тыдзень. Ён не вылазіў з хаты, усё хадзіў з кута ў кут. Работа пасоўвалася даволі хутка, хоць было яшчэ многа недакладных ці не правераных мясцін, над якімі трэба падумаць.

Каб яшчэ тыдзень, дык і скончыў бы Русіновіч сваю дыпломную работу, але атрымаў ліст з Мінска. Пісаў Ярошка. Русіновіч чытаў і смяяўся — Ярошка, нібы вось тут, стаяў перад ім і выскаляўся.

«Здароў, Стары!

Даўно мы ўжо цябе не бачылі ў шэрагах нашай брацііі. У мяне запала ў галаву такая, на першы погляд, недарэчная думка, а на самай справе, відаць, справядлівая, што ты ўжо забыў, хто ты і што ты. Калі так, то я грэшны як староста 77-га пакоя (месца твайго пастаяннага пражывання) і як чва старасты пятага курса беларускага аддзялення філалагічнага факультэта БДУ (законны староста Антановіч, як і ты, адседжваецца дома, у Слоніме, і я яму таксама павінен пісаць!) асмелюся асцярожна намякнуць, што ты ў сучасны момант усяго толькі бедны студэнт. Ты можа, як за выратавальную сцяну, схопішся за сваю дыпломную,— маўляў, дзень і ноч працую, не перашкаджайце. Ведаем мы цябе! Недзе там можа ўжо ўнадзіўся да якой-небудзь Марусі, а тут гэтая самая Галя Мальцу не дае жыць — дзе падзелі Старога?

З гэтага ўсяго выцякае той просты, а праўдзівей, глыбакадумны вывад, што табе пара нас узрадаваць сваёй





прысутнасцю на запыленым і адзінокім тваім ложку, што прытуліўся ў кутку 77-га пакоя, пацешыць нас сваімі гвардзейскімі вусамі (прашу не чапляцца да стылю — стыль самабытны, арыгінальны і, безумоўна, вышэй усякай крытыкі).

Але гэта яшчэ не ўсё. Самае галоўнае тое, што на тым тыдні павінна быць размеркаванне на работу, а гэта, як табе вядома, адзін з адказнейшых момантаў у жыцці нашага брата студэнта. Дарэчы, ён, як і нараджэнне ці смерць, бывае ўсяго толькі адзін раз!

Адсюль яшчэ адзін вывад: пажыў ты добра на ўлонні прыроды, папарыў старыя косці на бацькавай печы (даслоўны выраз Мальца). Дык пачуй жа мой далёкі голас:

Досыць спаць, стары хрэн,
Ужо вясна на двары...

З-за недахопу паэтычнага таленту працягваю прозай: злазь з печы, гайда ў Мінск!

Шчаслівай дарогі!

Твой Ярошка.

P. S. Не забудзься прыхапіць паўкварты сялянскага напітку аки возмещение убытков (мзда), нанесеных мне вышэй прыведзеным пасланнем (у сэнсе эканамічным — папера, канверт, марка, чарніла; у сэнсе часу — 15 хвілін; у сэнсе духоўным — энергія мазгоў маіх). Што няясна — высветлім, зазірнуўшы ў бутэльку, якую ты прывязеш».

## VIII

У прыёмнай рэктара, у калідоры ля дзвярэй — шум, гул, тупат ног, шэпты, выкрыкі.

— Як выклікаюць? Па алфавіту?

Чаго толькі не перадумае студэнт у такія хвіліны! Застацца ў Мінску? Ой, цяжка! Куды паехаць? Дзе лепш? Дзе цяжэй? Ці мо зрабіць так, як той студэнт з анекдота. У яго спыталі: «Куды хочаце паехаць?» А ён з пыхай адказвае: «Куды камісія пашле!» «Добра,— кажуць яны,— едзьце ў Палескую вобласць». «Не, туды не хачу»,— адказвае смелы заяц.

Як паказаў ход падзей, у Мінску пакідалі мала. Тут і так хапала настаўнікаў, а ў вёсцы з дыпломамі былі лічаныя людзі.

— Антановіч! — аб'явіла рэктарава сакратарка, падфарбаваная, але даволі бляклая маладая асоба.

Антановіч, усхваляваны, вясёлы, набраўшы поўныя грудзі паветра, нібы збіраўся скочыць у ваду, нырнуў у прачыненыя дзверы. На момант стала ціха, усе прыслухоўваліся да галасоў за дзвярыма, але дарэмна — праз дэрмацін не далятала ніводнага гуку. Пасля зноў загуло, як у вуллі: зашумелі, заспрачаліся.

Колькі прайшло часу — невядома, але, здаецца, зусім мала, як дзверы адчыніліся і паказаўся ўвесь мокры, расчырванелы Антановіч і неяк вінавата, з няпэўнай усмешкай на твары, сказаў:

— У аспірантуру.

Шум узняўся страшэнны.

— Віншуем!

— О-о-о, глядзі ты!



— Малайчына, Ігар, ты гэтага заслужыў!

— Даеш навуку!

Антановіч стаяў пад градам рэплік і толькі азіраўся, нібы хацеў знайсці зацішнае месца, каб не быць у цэнтры ўвагі. У яго, мусіць, было такое пачуццё, нібы ён прысвоіў сабе тое, што па праву належала некаму другому.

Тым часам пайшоў наступны. Машына пачынала круціцца на ўсе застаўкі. Цяпер хваляваліся менш, але ў кожнага было запаветнае жаданне, і кожны хацеў ведаць, ці спраўдзіцца яно.

Мальца накіравалі ў Гродзенскую вобласць.

Але сенсацыяй стала тое, што і Рак трапіў у аспірантуру — па мове. Яму не кідалі такіх рэплік, як Антановічу, а кожны гаварыў, відаць, сам сабе: «Ну, цяпер навука рушыць сямімільнымі крокамі, толькі невядома, у які бок».

Дзяўчаты выходзілі з прыёмнай то радасныя, кідаліся цалавацца і пішчалі ад радасці, то часам са слязамі на вачах, а то і з рыданнямі.

«Чаго плакаць? — здзіўляўся Русіновіч.— Без работы ж нікога не пакідаюць».

Яго выклікалі недзе ў сярэдзіне, калі палова курса была ўжо размеркавана.

Ён увайшоў наіграна смела, абвёў вачыма камісію, але ад хвалявання нікога не бачыў: плавалі перад вачыма сілуэты людзей — і толькі.

Яму прапанавалі сесці, для гэтага было крэсла перад доўгім сталом камісіі.

Справу вёў прарэктар па вучэбнай частцы Сарока. Перад ім ляжала асабістая справа Русіновіча, ён, відаць, паспеў ужо пазнаёміцца з ёю, пачаў задаваць пытанні па біяграфіі. Але якая ў Русіновіча біяграфія?

— Калі ўступілі ў камсамол?

— У сорак чацвёртым годзе.

— Дзе былі ў час акупацыі?

— Дома, пры бацьках.

— Колькі вам было год?

— Пачалася вайна — дванаццаць, скончылася — шаснаццаць.

— А бацька дзе быў?

— У час акупацыі? Дома...

— А дзе цяпер?

— Цяпер у шпіталі інвалідаў вайны ў Брэсце.

— Што ён, вайсковы?

— Не, усяго толькі інвалід вайны другой групы.

— Зразумела. Я загледзеўся на ваш кіцель. Што гэта — павага да вайсковай формы?

Русіновіч густа пачырванеў.

— Гэта проста... беднасць.

Тут голас падаў нехта з камісіі — Русіновіч расплыўчатым позіркам ледзь улоўліваў яго няясныя абрысы.

— А з блізкіх, са сваякоў — ніхто не супрацоўнічаў з акупантамі?

Гэта ўжо пачынала злаваць Русіновіча, але ён не падаў віду.

— Ніхто,— суха адказаў ён.— Наадварот, на фронце і ў партызанах загінула пяць маіх дзядзькоў — толькі па матчынай лініі.

— Зразумела,— буркнуў той, што пытаўся.

— Яшчэ якія пытанні? — звярнуўся да ўсіх прарэктар.

Пытанняў больш не было.

Русіновічу здалося, што прайшла цэлая гадзіна, пакуль яго тут распытваюць невядома аб чым, а пра галоўнае — ні слова.

Але вось, здаецца, доўгая уверцюра скончылася. Прарэктар яшчэ раз перагартаў асабістую справу, прабег вачыма нейкую паперу, што ляжала справа ад яго, пашаптаўся са сваім суседам, мажным брытагаловым мужчынам з чорнымі калматымі бровамі і вялізным круглым носам, пасля неяк нязвыкла ветліва для свае асобы звярнуўся да Русіновіча:

— Вы даруйце, Рыгор Мікалаевіч, але я хачу папрасіць вас выйсці на адну хвілінку... Толькі на адну хвілінку.

Русіновіч неяк механічна ўскочыў на ногі. Яму стала раптам горача.

— Калі ласка, я выйду,— і ён няўпэўненым крокам накіраваўся да дзвярэй. За яго плячыма панавала маўчанне.

У прыёмнай яго сустрэлі крыкам.

— Што цябе так марынавалі?

— Куды піхнулі? На якую планету?

— Ці давалі выбіраць?

— Чаго ты такі — нібы пакрыўджаны?

Яму не давалі раскрыць рота.

— Цішэй, дайце чалавеку сказаць слова!

Русіновіч не ведаў нават, што сказаць.

— Мяне выгналі,— зляцела ў яго з языка.

— Што ты вярзеш? Ты выйшаў падумаць?

— Не, я выйшаў, а яны думаюць.

— Не гавары загадкамі, Стары! — закрычаў Ярошка.

— Цішэй, дайце ім падумаць,— супакоіў усіх Русіновіч.— У іх важная нарада, яны не ведаюць, куды мяне піхнуць.

— Праўда? А што яны распытвалі?

— Пераважна па біяграфіі.

— Пра акупацыю? Ці вучыўся пры немцах?

Русіновіч не паспеў адказаць. Яго паклікалі ў камісію. Ён жартоўна памахаў рукою.

Дзверы адчыніліся, і ён пачуў абрывак нейчай рэплікі:

— ... не ананімная, а ёсць подпіс.

Да яго нібы нешта пачало даходзіць, але не было часу думаць, бо яго зноў запрасілі сесці і гэтак жа сама ветліва, як і першы раз, звяртаючыся па імені і імені па бацьку, прарэктар сказаў, што яму, Русіновічу, ёсць магчымасць выбіраць: Баранавіцкую ці Маладзечанскую, паколькі ён сам з былой Заходняй.

Для Русіновіча не мела ніякага значэння, усходняя ці заходняя, Баранавіцкая ці Маладзечанская, але ўсё-такі ён быў патрыётам свае вобласці і таму без ваганняў назваў Баранавіцкую, нават той раён, у якім ён нарадзіўся.

— Распішыцеся.— І прарэктар паклаў перад ім тоўсты канцылярскі журнал.

Русіновіч распісаўся, як заўсёды, невыразна, нервова, устаў са свайго крэсла, азірнуўся. Яму здалося, што ўсе адводзяць ад яго вочы.

— Можна ісці? — спытаў ён у прарэктара.

— Калі ласка, вы свабодны,— адказаў той, гледзячы ў стол.

Чаго яшчэ трэба Русіновічу? Мара яго збылася — ён паедзе ў вёску, нават у свой родны раён. Трэба радавацца — і толькі! А вось нешта было такое, што атручвала яго добры настрой. Ну трэба ж



так! У бочку мёду абавязкова некаму трэба ўкінуць яшчэ лыжку дзёгцю!

Пасля нервовага напружання, пасля такога хвалявання, ён стаў на нейкі момант зусім абыякавы да ўсяго, нават да свайго ўласнага лёсу. Таму спакойна, нават занадта спакойна для свае флегматычнасці, адказваў на новы град запытанняў:

— Не, не ў Мінску... У Баранавіцкую вобласць... У свой раён, у якім нарадзіўся... Не каюся. Чаго? Гэта самае лепшае, што можна прыдумаць... Давалі выбіраць — гэта ці тое. Чаму так хутка? Я не спрачаўся. Паставіў подпіс — і ўсё гатова. Зайздросьце. Прыязджайце ў госці...

Жарт не атрымаўся, Русіновіч быў кіслы. У душы стала пуста, стомленасць адолела ўсё цела, хацелася ўпасці вось на гэтую падлогу і заснуць.

— Што з табою? — Малец страсянуў яго за плячо. — Ты бледны, як смерць.

— Няма чым дыхаць. Хадзем адгэтуль.

Яны выйшлі на калідор, прайшліся.

— Дай закурыць,— папрасіў Русіновіч.— Нейкая тупасць, сам сабе станаўлюся чужы.

— Нічога, пройдзе... Я таксама страшэнна стомлены. Ну, ці рады ты?

— Цяжка сказаць. Усё перамяшалася. Хацелася б, каб ехаць усім разам, тады нічога не страшна.

— Чаго захацеў! Не, брат, цяпер нашы дарожкі разыдуцца, як у моры караблі. Як пісаў наш Антановіч:

> То была адна дарога,
> А цяпер іх многа, многа...

Шкада расставацца, гэта праўда. Студэнцкая дружба самая моцная, але і яна канчаецца.

— Хопіць, Пашка, што ты запеў пра ростань? Яшчэ наперадзе многа часу. Галоўнае — вытрымаць дзяржаўныя экзамены.

— І гэта праўда. Хадзем, можа там ужо Ярошка праскочыў. Цікава, куды ён трапіць. Па-мойму, у аспірантуру. Усе годы ішоў на выдатна. Галава варыць... Як ты?

— І я так думаю. Калі Рак пайшоў у навуку, то Ярошку сам бог судзіў.

— Але, але, Рак у навуку ідзе... Браточкі! Гэта ж хадзячая цытата, у яго ні адной думкі няма свае!

Ярошку яны спаткалі на калідоры.

— Ну, бывайце, я з вамі не знаёмы,— пажартаваў ён.— Еду ў Палессе, па коласаўскіх мясцінах. Лабановіч-секундо. Ясна вам? Ці не пра мяне пісаў Антановіч:

> Глуш, балота, бездарожжа —
> Ён уздымецца адважна,
> І свае ўсе сілы ўложыць
> Ён у гэта падарожжа.

— Кінь ты гэтую бравper,— асек яго Малец.— Хоць раз пабудзь сам сабою.

— А што? — насцярожыўся Ярошка.

— Дзе Антановіч, Рак? Трэба сабрацца ўсім, адзначыць гэтую вялікую хвіліну.

— О, малайчына, Малец,— адразу павесялеў Ярошка.— Ты хоць апошні час робішся чалавекам. Залатыя твае словы, браце, і ў пару сказаныя. Пойдзем іх шукаць. Жывых ці мёртвых — усё роўна.

## IX

Пяты курс сабраўся на кансультацыю. Нешта-нейкае — пазніўся выкладчык, і дзяўчаты пачалі спяваць. Праз хвілін колькі да іх далучыліся і хлопцы, іх галасы, басавітыя і нястройныя, пачалі вылучацца на фоне чыстых і меладычных галасоў дзяўчат. Адзін Русіновіч не спяваў. Яму чагосьці стала нявесела. Заўсёды музыка ці спевы абуджалі ў яго душы няясны сум, настройвалі на адзіноту,— хацелася ўцячы ад людзей, забрацца ў глухое месца і доўга плакаць, пакуль зноў не стане спакойна на душы.

Яму заўсёды больш падабаліся песні сумныя, журботныя, з роздумам і тугой, з жальбой на чалавечы лёс, як вось гэтая венгерская песня «Жураўлі». Колькі тут глыбокага пачуцця, якая чыстая душа сумуе, што яе абмінула простае чалавечае шчасце, што не звіла яна сабе гняздо, што засталася адзінокай! Сумны крык журавоў аддаецца ў яе душы, будзіць тугу. Але дзіва — яна не адчайваецца, не кідаецца ў роспач, не вінаваціць нікога ў сваёй адзіноце, яна толькі расказвае аб сваіх нязбытных марах — расказвае проста, сурова і шчыра.

І тое, што робіцца ў душы кожнага, адбіваецца на яго твары. Лірычна-сумнымі сталі твары дзяўчат, сурова-ўрачыстымі сталі вечныя жартаўнікі хлопцы.

Ой, як хочацца ўцячы адгэтуль, каб пабыць аднаму, падумаць! Каму, для каго спяваецца гэтая песня? Няўжо ніводная з тых, што яе спяваюць, не паўторыць лёсу той нешчаслівай адзінокай дзяўчыны, што расказвае пра сваю тугу?..

Нечакана дзверы адчыніліся, зайшоў выкладчык беларускай літаратуры Юскавец. Песня абарвалася, патухла. Ён зрабіў такі рух, нібы хацеў сказаць: «Прадаўжайце, я пачакаю» і гатоў быў зноў выскачыць за дзверы.

Сказаўшы «прабачце», ён сціпла сеў за стол і пачаў даставаць з вялізнага жоўтага партфеля тоўстыя сшыткі — дыпломныя работы, або тое, што павінна было стаць дыпломнымі.

Выкладчык літаратуры Юскавец карыстаўся павагай ва ўсіх студэнтаў, толькі не ў аднолькавай меры. Ён не даваў ніякіх паблажак тым, хто не хацеў займацца яго прадметам. З імі ён быў бязлітасны. Затое з тымі, хто любіў літаратуру і хацеў яе ведаць, хоць у яго і не зусім гладка выходзіла, быў зусім другім чалавекам. Ён гатоў быў дараваць нават грубую памылку, але ніколі не дараваў лені, бяздзейнасці. Не раз ён гаварыў студэнтам: «Вы тут не на курорце, не ў адпачынку, не на вечарынцы. За пяць год вы павінны ўзяць столькі, каб хапіла калі не на ўсё жыццё, то на многа. Майце на ўвазе, што больш ніколі ў вашым жыцці не надарыцца такога выпадку — ёсць энергія, маладое здароўе, ёсць умовы вучыцца, ёсць многа часу,— умейце ўсё гэта выкарыстаць хоць напалову, і вы будзеце добрымі спецыялістамі».

Прыблізна з гэтага ён пачаў і цяпер. Ён гаварыў павольна, а калі часам злаваў, што здаралася рэдка, то зусім пачынаў заікацца,— паўзы рабіў доўгія і праніклівa зазіраў у вочы свайго субяседніка.

— Вось вы добра спявалі. Я нават ля дзвярэй пастаяў, не хацеў спачатку перарываць, але падумаў, што песню можна адкласці, а вось гэтую справу,— ён апусціў далонь на стос сшыткаў,— не адкладзеш. Я спадзяваўся, што ўсё будзе лепш, ажно вы мяне трохі расчаравалі. Выходзіць, тое, што мы тут вам гаворым, праз адно вуха ўлятае, праз другое — вылятае. Іншага і не скажаш, пачытаўшы...— ён назваў некалькі прозвішчаў.— Я вас увесь час вучыў: думайце самастойна, думайце самі, не хавайцеся за цытаты: Казьма Пруткоў ці нехта ў яго духу сказаў: «Цытата — тая ж ізюмінка ў хлебе, але нельга ж пячы хлеб з аднаго ізюму». А ў вас на кожнай старонцы ўсё гэтыя падпоркі, мыліцы, шчыты. І ні адной свае думкі, ні аднаго свайго вываду. Што гэта? Думаеце, вас за сваю думку я буду судзіць, калі яна нават і няправільная? Не бойцеся гэтай інерцыі, будзьце смялейшыя ў думках. Можа хто і хацеў бы, каб думка драмала, каб думалі толькі адзінкі, а астатнія чакалі, як манны нябеснай, іх адкравенія і нічога не рабілі, каб не нарабіць памылак. Не, такіх людзей нам не трэба.

Далей. Слабы ў вас стыль, каструбаватыя, неачэсаныя сказы. Адразу відаць — мала пішаце, мала таксама чытаеце, а калі і чытаеце, то не ўслухоўваецеся, не ўчытваецеся ў фразу. Яна для вас не гучыць, як музыка. Інакш вы не прапусцілі б такіх няўклюдных выразаў. У тэксце гэта ўсё адзначана, паглядзіце ўважліва...

Тут ён перайшоў да канкрэтнага разбору, браў чый-небудзь сшытак і зачытваў на слых. Студэнты смяяліся, але не ад душы — адчувалі сваю віну.

З літаратараў у Юскаўца былі Малец і Русіновіч. Іх работы ён разбіраў у канцы. Мальца ён вельмі хваліў: усё ў яго ёсць — самастойнасць думкі, паслядоўнасць, глыбокая аснова. Не хапае толькі сціпласці, занадтае разжоўванне таго, што і так разжавана, паглыбленне таго, што і так глыбока.

Русіновічу разам з пахвалою добра ўляцела ў косці.

Юскавец пачаў дыпламатычна

— З Русіновіча некалі вырасце неблагі крытык, але пакуль што да гэтага далёка. Надта ён ужо вялікі саматужнік. Усё сваё. Іншы раз ён вынаходзіць веласіпед, які ўжо даўно-даўно вынайдзены. Гэта другая крайнасць. Не трэба баяцца выкарыстаць тое, што табе дасталося ў спадчыну. Напрыклад, не будзеш жа ты выкідаць на сметнік добрыя бярвенні з бацькавай хаты толькі таму, што яны з бацькавай, а ты будуеш сваю.

Праўда, у яго складаная тэма. Яна нераспрацаваная, усё трэба браць на пуп, як кажуць, самому. Мне здаецца, спрэчны асноўны тэзіс Русіновіча: «Мова — самая галоўная рыса нацыянальнай культуры». Ён нават узяў эпіграфам словы Ушынскага. Вось паслухайце, думка вельмі цікавая. «Отнимите у народа всё — и он всё может воротить, но отнимите язык — и он уже никогда больше не создаст его вновь. Новую родину даже может создать народ, но языка — никогда. Вымер язык в устах народа — вымер и народ». Сказана правільна і моцна. Але аб якім перыядзе гісторыі гаварыў педагог Ушынскі? Ён меў на ўвазе той час, калі мову меншасцей наогул не лічылі за мову, калі многія народы не мелі свайго друкаванага слова, а то нават і алфавіта. Для таго часу гэтае выказванне правільнае, яно мае сілу.

Тут Русіновіч не вытрымаў.

— Прабачце, а я хіба гавару не пра той перыяд, калі беларуская мова была ў загоне? Лабановіч толькі па духу беларускі інтэлігент, а на справе ён царскі чыноўнік. Вось як я разумею Лабановіча ў тых умовах.

Выкладчык змоўк, задумаўся.

— У нейкай меры гэтая думка правільная. Але не зусім. Лабановіч быў сапраўдным інтэлігентам. Гэта такія людзі, як Лабановіч, пасля рэвалюцыі семнаццатага года закладвалі асновы беларускай дзяржаўнасці, стварылі вось гэты ўніверсітэт, у якім вы вучыцеся, пісалі вось гэтыя кнігі, якія цяпер чытаеце, стварылі літаратурную мову, якая

тады, да рэвалюцыі, лічылася рускім дыялектам і была ў загоне. Без Лабановічаў не было б нас і вас. Ці не так? А калі падыходзіць фармальна, то можна палічыць Лабановіча царскім чыноўнікам, абрусіцелем. Вось чаму я і кажу, што асноўная думка спрэчная. Народ можа таксама фармальна мець сваю мову, а не мець усяго таго, што характэрна для суверэннай дзяржавы ўвогуле. Мова толькі на паперы, толькі шыльда. Зразумела? Лабановіч змагаўся не за такую мову. Няхай ён быў і царскім чыноўнікам, але каб у той час было больш такіх чыноўнікаў, як Лабановіч, мы з вамі былі б духоўна багацейшыя, больш свядомыя і культурныя. Вы не крыўдуйце, Русіновіч, за рэзкасць, я хвалю вашу самастойнасць, вашы пошукі, але не хачу, каб вы ішлі па няправільнай дарозе...

Яшчэ доўга спрачаліся, але Русіновіч зразумеў, што ён сапраўды пайшоў трохі не ў той бок, куды трэба, аднак у яго не было сілы сказаць аб гэтым тут жа. Ён толькі не так упэўнена даказваў свае погляды. Яму трэба было астынуць, і тады ўсё стала б на сваё месца. У яго толькі не ўкладвалася ў галаве: а цяпер такія пытанні зняты з парадку дня? Няўжо яны ўжо вырашаны на ўсе сто працэнтаў?

Дадому Русіновіч ішоў адзін, бо Малец недзе загаварыўся з дзяўчатамі.

Быў ціхі вечар з невялікім марозікам, але ў паветры адчувалася нешта вясновае. Пешаходы ішлі памалу, нібы кожны хацеў нацешыцца гэтаю вячэрняю цішынёй, свежым марозным паветрам, да якога прымешваліся пахі далёкай — а можа зусім блізкай? — вясны з яе бурнай імклівай паводкай, што ачышчае зямлю і адмыкае замкі да жыцця, дорыць людзям новыя клопаты і новыя надзеі, скідае з душы шэры пласт апатыі і зімняга застою.

У пакоі ён застаў толькі аднаго Рака. Ён нешта рыўся ў чамадане, складваў нейкія пакункі.

— Чаго, Старча, такі невясёлы? — адразу спытаў яго Рак, ледзь толькі Русіновіч пераступіў парог пакоя.

— Адкуль ты ўзяў, што я невясёлы?

— Па вусах відаць,— пажартаваў Рак.

— Ты стаў назіральны,— пахваліў яго Русіновіч.

Ён ужо даўно заўважыў, што Рак з ім паводзіць сябе натуральна, не залазіць у панцыр непрыступнасці, як пры Ярошку, Мальцу або нават Антановічу. Бывалі выпадкі сапраўднай шчырасці паміж імі, калі Рак апавядаў аб сваім жыцці, аб бацьках, аб сваёй вёсцы. Гледзячы на гэтага інтэлігента з выгляду — кволае цела і буйная галава з вялікім ілбом — ніколі не падумаў бы, што яшчэ хлапчуком ён партызаніў, разам з бацькам ездзіў у разведку, што не раз яго жыццё вісела на валаску. І ўжо ніколі не паверыш, што на гэтай вось фатаграфіі, дзе стаіць трохгадовы карапуз на крывых ножках, апрануты ў простую сялянскую вопратку, мурласты і смешны, зняты сам Рак.

Як мяняецца чалавек! Не так даўно было тое размеркаванне. Рак трапіў у аспірантуру — і гэта адразу адбілася на яго характары. Рак пасмялеў, стаў больш самастойны і незалежны, а замест ранейшай сарамяжнасці пачала паказвацца нават бесцырымоннасць.

— Я і быў такі. Гэта вы заўсёды кпілі з мяне, не лічылі за чалавека.— Крыўда чувäць была ў яго голасе.

— Прафесар, што ты гаворыш? Хто цябе крыўдзіў?

— Калі ты не памятаеш, то я не забыўся.

— Перастань, ты часам не разумееш жартаў.

— Добрыя жарты! Катку жарты — мышцы смерць. Ты на маім месцы быў бы не лепшы.



— А хіба я карыстаўся прывілеямі?

— Не кажы, цябе яны баяліся. У цябе моцныя кулакі.

— Ну, браце, ты адкрыў для мяне Амерыку. Яны мяне — баяліся? Трэба, каб чалавека паважалі, а не баяліся.

— Гэта амаль што ўсё роўна. Каго баяцца, таго і паважаюць.

— Ну, Прафесар, я цябе не пазнаю. Блытаць два такія паняцці — гэта тое самае, што не бачыць розніцы паміж казлом і валом ці бярозаю і лазою.

Спрэчку перапынілі хлопцы. Прыйшоў спачатку Малец, потым Ярошка з Антановічам.

Сталі вячэраць. Адзін Рак не садзіўся за стол.

— Ідзі еш, Прафесар,— запрасіў яго Антановіч.

— Не хачу, я еў. Мне трэба зараз на станцыю.

— Прафесар едзе ашчасліваць сваіх бацькоў,— сур'ёзна сказаў Ярошка.

— Прынамсі, адпачну ад тваіх вумных афарызмаў.

— Дай яму, Прафесар, дай! — падбадзёрваў яго Малец.

— І табе магу даць, не толькі яму,— абрэзаў яго Рак.

— Далібог, такі Прафесар мне больш падабаецца, чым той, посны, кіслы і які хочаш.

— Несалёны, зялёны, нясмачны, няўдачны,— стаў рыфмаваць Малец.— Толькі чаго ён пяць год прыкідваўся такім ягняткам? Такім ужо манахам?

— Не хачу біць язык аб зубы. З вамі спрачацца — што ваду ў ступе таўчы,— даволі сярдзіта буркнуў Рак, капаючыся ў тумбачцы.

— Няпраўда, Прафесар, спрэчкі карысныя. Яны адточваюць язык, трэніруюць мазгі, вучаць вобразна думаць, экспромтам гаварыць вялікія ісціны. Але ўсё гэта табе недаступна, як еўнуху каханне.

Рак, нібы яму стукнулі ў спіну, выпрастаўся. Ён быў белы, як сцяна, губы яго крывіліся і ўздрыгвалі. У руках ён сціскаў гранёную шклянку.

— Ну, балбатун! — ён замахнуўся шклянкай, але не папусціў яе.— Ты мне за ўсё заплаціш! Больш я не буду цярпець... Хопіць, што вы здекаваліся з мяне пяць год.— Ён пырскаў слінаю, твар яго стаў увесь чырвоны. Ён круціўся, нечага шукаў, кінуў у тумбачку шклянку, схапіў ручнік і выбег з пакоя.

Ярошка сядзеў і толькі лыпаў вачыма. Для яго гэта было громам з яснага неба.

— Прачынаецца патухлы вулкан,— глыбакадумна сказаў ён урэшце.— Вось гэта дзіва!

— Нічога тут дзіўнага. Чалавек адчуў сілу. Вось і ўсё,— зрабіў вывад Малец.— Ты цяпер настаўнік, а ён аспірант. У каго большая перспектыва? У яго. А ты хочаш з ім за панібрата...

— Можа і не ў гэтым справа,— умяшаўся Русіновіч.— Ён і праўда крыўдуе на нас за ўсе гэтыя шпількі. Ён надта сур'ёзны чалавек, з ім трэба больш далікатна.

— Пяхота! Ён проста чалавек без гумару. А гэта прыкмета абмежаванасці,— даказваў Малец.

Скрыпнулі дзверы, увайшоў Рак. Ні на каго не гледзячы, ён кінуў на свой ложак ручнік і стаў апранаць шынель — чорны чыгуначны бацькаў шынель, надзеў шапку з апушчанымі вушамі, узяў у рукі чамадан і, не сказаўшы ні слова, выйшаў з пакоя. З вушакоў пасыпаўся тынк ад удару дзвярэй.

Усе з палёгкай уздыхнулі.

— Прафесар яшчэ пакажа сябе,—першы парушыў цішыню Малец.

— Чаму ты кепска думаеш пра чалавека? — Антановіч заўсёды абараняў Рака перад хлопцамі за вочы, а ў вочы і сам любіў падпусціць шпільку, ды не толькі Раку, а любому з прысутных.

— Ты паэт, табе ўласціва бачыць у людзях толькі добрае. Але, на вялікі жаль, не толькі добрым багаты людзі, асабліва такія, як Рак.

— Ты думаеш, Рак благі чалавек? — знарок наіўна спытаў Антановіч.

— Як тая казала: не старайся паказаць, што ты дурнейшы, чым ты ёсць. Спадзяюся, ты не Рак, і не пакрыўдзішся на мяне за гэта,— папярэдзіў Антановіча Ярошка.— Я не кажу, што я добра разбіраюся ў людзях, аднак я не хацеў бы сядзець у адным акопе з Прафесарам.

— А ці ведаеш ты, што Прафесар, вобразна гаворачы, сядзеў у акопе ў той час, як мы, за выключэннем Мальца, сядзелі на печы і грэлі плечы,— удакладніў Русіновіч.— Вельмі цяжка сказаць, як паводзіў бы кожны з нас у час небяспекі.

— Той факт, што ён быў у партызанах, яшчэ ні аб чым не гаворыць.— Ярошка прайшоўся па пакоі, заклаўшы рукі ў кішэні штаноў.— Проста збег акалічнасцей. У жыцці і не такое бывае. Я гавару пра натуру чалавека, пра тое, што ў ім закладзена.

— А хто на гэта глядзіць? Мо адзін ты? — спытаў Русіновіч.— Бо ў час размеркавання яго не паслалі на Палессе, як цябе, а пакінулі ў аспірантуры. Анкета — большая сіла, чым твая натура.

— Ты, Стары, відаць, пакрыўдзіўся на камісію, што цябе не ўзялі ў вучоныя, а таксама паслалі на радзіму?

— Я? Нічуць. Я для навукі не падыходжу. Каб мне прафесараву галаву, ды яшчэ твае нервы, тады згодзен. Я здзіўляюся толькі, чаму цябе і Мальца не ўзялі. У вас жа таксама анкеты ў парадку.

— Я вам растлумачу, як староста курса,— сказаў Антановіч.— Калі вы забыліся, то другія не забываюцца. Памятаеце, на трэцім курсе было? Вы, Малец і Ярошка, і «шукальнік праўды» Кулік падавалі заяву рэктару ўніверсітэта?

Гэта была даволі шумная і непрыемная гісторыя, якая не абышлася без ахвяры. Малец, Ярошка і Кулік падалі на імя рэктара заяву, у якой скардзіліся на нізкую якасць выкладання і называлі некалькі прозвішчаў выкладчыкаў. Хлопцы правялі былі некаторую работу на курсе, хоць падпісацца пад заявай больш ніхто не захацеў. Русіновіч не падпісаўся таму, што быў увогуле супраць гэтай авантуры і даказваў, што названыя выкладчыкі не панясуць ніякіх страт, апроч маральных, але адпомсцяць ім пасля на экзаменах. Як і аказалася, тады гэта расцанілі як спробу дыскрэдытаваць кафедру літаратуры, а ініцыятары ледзь не паплаціліся выключэннем. Кулік, які якраз пераходзіў на завочнае «па сямейных абставінах», прыняў на сябе ўсю віну: гэтым самым выратаваў таварышаў.

— Дык вось, копія гэтай заявы ляжыць у вашых асабістых справах. Папера моцная, яна можа праляжаць яшчэ доўга і нямала папсуе вам нерваў. Але і гэтага, відаць, мала. Нешта ёсць яшчэ.

— Можа тое, што ў мяне? — спытаў Русіновіч.— Можа тая самая рука?

Ніхто не адказваў. Хлопцы задумаліся. Ярошка гладзіў свае валасы, збіраў на патыліцу ў касу, моршчыў лоб, нешта ўспамінаў. Пасля характэрным жэстам, коратка ўзмахнуўшы рукою, пляснуў сабе далонню па лбе.

— Эўрыка! — ускрыкнуў ён.— Знайшоў! Успомніў! Успомніў!



— Пакажы ўсім, калі знайшоў,— супакоіў яго Малец.— І не кудахтай, як тая курыца-квактуха, склікаючы куранят.

— Успомніў, што аднойчы выпадкам быў у кампаніі, менавіта з гэтым самым бяздарным паэтам Краскіным. Мы трохі выпілі і развязалі языкі. Ён добрая ліса, як цяпер я бачу...

— А тады ты за вачыма свету не бачыў,— уставіў Малец.

— Тады не бачыў. Я заднім розумам багаты, як і ты. Пасля другой ці трэцяй чаркі ён непрыкметна падсеў да мяне, завёў здалёк,— пра вершы, пра наш гурток, што ён піша паэму і хацеў бы мець кансультацыю ў такога дасканалага крытыка, як я, Ярошка. І пайшло... Я спытаў, якая тэма. Кажа, калгасная... Ну, тут я разнёс яе ў пух і прах, за адну тэму. Што ты пра калгас цяпер напішаш, кажу? Як лепшы вучыць добрага? Бесканфліктнасць набіла аскому. Здарылася ж так, што ў калгасе ніхто не хацеў станавіцца на месца брыгадзіра, і ўрэшце на гэтую пасаду запрасілі чалавека з суседняй вёскі. А мо табе даць сюжэт для камедыі? Калі ласка, кажу. У нас старшыня застаў у жыце чараду гусей, палавіў іх з брыгадзірам і адвёз на нарыхтоўчы пункт. Пасля даведаўся вечарам, што гэта яго гусі. Жонка ледзь з хаты не прагнала.

— Ці не з тваім бацькам гэта была гісторыя? — зноў падкалоў Малец.

— Каб з маім, не расказаў бы. Але не лезь... Самі па сабе факты — глупства, бываюць яшчэ і не такія, але я тады даў ім такую афарбоўку, так размаляваў, што самому было страшна слухаць. Ён аж заходзіўся ад смеху. Тады выпілі яшчэ на брудэршафт, абяцаў, што ўсе свае новыя творы,— інакш і не кажа, як творы,— ён будзе прыносіць на кансультацыю ў наш пакой, дзе ўсе такія здольныя літаратары.

— Ну, пяхота, цябе толькі пахвалі, ты гатоў са скуры вылузацца,— дабіваў яго Малец.— Але ты, відаць, і нас не абмінуў, пахваліўся сябрамі. Ці ты нас толькі чарніў? Калі так, то ты малайчына.

— Добра ўжо не памятаю... Здаецца, было ўсяго. Выпілі многа. Ён мяне вёў, пасля я яго нёс. Ледзь дабралок да інтэрната. Не думаю, што ён памятае ўсё, што я яму малоў.

— Гэта яшчэ горш,— сказаў Антановіч.— Ён можа нават сказаць тое, чаго ты і не гаварыў. І ты нічога не дакажаш.

— Дзіўна толькі, як гэта ўсё сышло табе з рук? — зазначыў Русіновіч.

— А табе хацелася б, каб з мяне спусцілі скуру? Але што аб гэтым гаварыць? — ажывіўся Ярошка.— Што было — таго не вернеш, не паправіш. Я нават не шкадую, што мяне не пакінулі ў аспірантуры. Шкада толькі бацькі. Ого, сынок старшыні калгаса, гэтулькі бацькавых грошай перавёў, і вучыўся няблага, а тут — на табе, Палессе! Пракляне!

— Ты яшчэ зялёны, таму ты і не разумееш бацькавага сэрца. Каб ты панасіў бярвенняў на плячах, як я, ды прапоўз на пузе ўсю Прусію, ды табе яшчэ пад канец здароўе аднялі, тады ты не тое заспяваў бы! Эх, пяхота! Нічога ты не разумееш.

— А што, знайшоў чым страшыць! Гэта сапраўднае жыццё. А ты хацеў бы, каб табе адразу былі булкі з маслам,— падтрымаў Ярошку Русіновіч.

— І ты туды ж? Эх, пяхота! Якія вы яшчэ дзеці!.. А чаму я павінен ехаць у вёску адукоўваць там дзяцей сваіх бацькоў? Каб жа ехалі ўсе, тады іншая рэч... А то застаецца такі Рак, які для навукі прынясе толькі шкоду, застанецца паэт Антановіч, якому не шкодзіць пады-

хаць хоць гадкоў пяць вясковым паветрам, адвыкнуць ад гэтага асфальту і бруку, пахадзіць па траве.

Антановіча пакрыўдзілі Мальцавы словы. Ён адразу ўскочыў:

— Дык што, я заняў тваё месца? Можа мне адмовіцца ў тваю карысць?

Малец паглядзеў на яго, як на блазна.

— Адмаўляйся, хто табе не дае? Я думаю, Раку такая думка ў галаву не прыходзіла. Не кіпяціся! Я не выпадкова так сказаў, каб цябе зачапіць за жывое. Ці не прыходзіла часам табе ў галаву думка, што ў цябе ўсё ў жыцці ідзе вельмі гладка? А я табе скажу шчыра, што для паэта,— а ты перш за ўсё паэт,— такая біяграфія шкодная... Можа нават больш шкодная, чым цяжкая, крывая, з пад'ёмамі і падзеннямі, з няўдачамі, як у мяне ці ў Куліка або нават у Старога. У цябе будзе прытупляцца ўвага да таго, без чаго паэт перастае быць паэтам. Хіба толькі ты шчаслівае выключэнне.

— Хіба я вінават, што так складвалася маё жыццё? — Выгляд у Антановіча быў і праўда нейкі вінаваты.

Малец узяў з тумбачкі Русіновічаў кішэнны гадзіннік, прыклаў да вуха.

— Хутка гадзіна. Дай яго мне, Стары. Адчуваю, што сёння мяне будзе мучыць бяссонніца.

Малец часта браў Русіновічаў гадзіннік, клаў ля сябе на тумбачку, лажаў і слухаў ціканне. Гэта памагала яму засынаць. Або ўключаў рэпрадуктар, але громкасць змяншаў амаль да шэпту. Ён паклаў на тумбачку гадзіннік, стаў распранацца. Пасля падышоў да календара, адарваў лісток і сказаў сам сабе:

— Чацвёртага сакавіка... Ну, што ты прынясеш нам, наступны дзень?

...Русіновічу сніўся сон: ён едзе з бацькам па размытай, калдобістай дарозе. Воз скрыпіць і перавальваецца з боку на бок, каштаны конік ледзь выцягвае — зарэзвае па самыя калодкі. Куды і чаго яны едуць — невядома, толькі ў Русіновіча падсвядомае адчуванне, што гэтая праклятая дарога яму надакучыла, хочацца выбрацца на роўнае месца і ехаць хутчэй, бо шлях перад імі ляжыць незнаёмы і доўгі. Уперадзе паказаўся мост — нечым падобен на той, што быў калісьці цераз Шчару недалёка ад Ляхавіч. Калі яны праязджалі праз яго, малы Русіновіч заўсёды заплюшчваў вочы і туліўся да бацькі, бо цераз крывыя, пабітыя жалезнымі шыпамі і капытамі круглякі далёка ўнізе свіцілася халодная і страшная вада.

Толькі гэты мост быў яшчэ страшнейшы. Насціл зеўрыў дзіркамі, пасярэдзіне былі нейкія парэнчы, між якімі цяжка было выкіраваць, каб не зачапіцца воссю і не паляцець уніз разам з драбінамі. Конь кідаўся ўлева-ўправа, віляючы між правалаў, бацька кінуў сыну лейцы і сам учапіўся ў аглабіну. Русіновіч, як некалі ў маленстве, заплюшчыў вочы, аддаўшыся на волю лёсу і каню, які нейкім цудам нёс іх па гэтым дзіравым насціле і не правальваўся, не чапляўся за недарэчныя парэнчы, што сталі нават пасярод моста і рабілі нечаканыя зігзагі і павароты.

І вось Русіновіч, халадзеючы ад роспачы, адчуў, што каля яго няма бацькі. Ён пачуў як бы слабы плеск вады ўнізе — і ні крыку, ні гуку. Ён расплюшчыў вочы, азірнуўся, хацеў закрычаць, але не мог — горла яму нешта сціснула. А конь ужо выносіў воз на роўную дарогу, якая пачыналася адразу за мостам.





«Хлопцы, хлопцы, прачніцеся!» — пачуўся яму ні з сяго ні з таго нейчы голас. Русіновіч азірнуўся вакол сябе, каб убачыць, адкуль ідзе гэты голас, і нечакана адчуў сябе на ложку — прачнуўся.

Ён са страхам расплюшчыў вочы і ўбачыў перад сабою Мальца, які ў адной бялізне стаяў над яго ложкам.

— Чаго ты крычыш?

— Хлопцы, што я вам скажу...— таямнічым, узбуджаным шэптам сказаў Малец. Усе ўжо не спалі і чакалі, што ён скажа.— Чуеце радыё?

— Ідзі да д'ябла! — сонна лаяўся з ім Ярошка.— Навошта будзіў?

— Хлопцы, Сталін памёр!

— Як памёр?..

— Браточкі, што ж цяпер будзе?

— Тут ёсць над чым паламаць галаву...

— Ой, слёз будзе!

Так пачаўся для хлопцаў той памятны чацвер 5 сакавіка.

Пятніца... Субота... Нядзеля...

Жалобная музыка... Жалобны настрой... Хлопцы яшчэ нічога не ведалі, толькі адчувалі, што перамены будуць вялікія.

Адспявалі гудкі, адгрымеў салют, шматтысячны натоўп людзей, прайшоўшы калонай каля ўсыпанага кветкамі падножжа манумента, паволі расцякаўся па горадзе.

Русіновіч, каб сагрэць ногі, хуткім крокам накіраваўся ў свой інтэрнат. Уперадзе ў натоўпе прамільгнуў нібы нехта знаёмы. Не, гэта яму здалося, што Галя. У яе няма такой футры. Даўно яны не бачыліся, амаль з Новага года. Неяк спаткаліся адзін раз. Ён спяшаў, яна таксама, сказалі ўсяго некалькі слоў.

На тралейбусным прыпынку была даўка. Русіновіч, абмінаючы натоўп, ледзь не збіў з ног дзяўчыну ў футры і белай шапачцы. Дзяўчына азірнулася на яго, нешта хацела сказаць. Русіновіч са здзіўленнем убачыў перад сабою Галю. Яе сапраўды цяжка было пазнаць.

Русіновіч папрасіў прабачэння і спытаў:

— Куды ты ідзеш?

— Хацелі сесці на тралейбус. Я змерзла.

— У такой футры? Хадзем пешкі.

— Ну, пойдзем. Хай едуць адны.— Яна ўзяла яго пад руку.

Яму адразу ўспомніўся май, той цёплы вечар, амаль такі ж натоўп людзей ішоў тады па вуліцы, і тады ён спаткаў Галю...

— А памятаеш май?

— Памятаю,— сумна адказала яна.— Ніколі не забуду... Чаму не заходзіш?

Што было сказаць на гэта? Можа выпаліць ёй усё тое, што даўно ўжо ляжыць у яго на сэрцы і просіцца на язык? Але не, цяпер не такі момант, каб гаварыць аб нейкіх асабістых справах.

— Усё збіраўся,— схлусіў ён і адчуў, што яна яго зразумела.— Ды вось, бачыш, такая важная падзея.— Ён рашыў не выказваць сваіх адносін да таго, што здарылася.

Галя задумалася, выпусціла яго руку, нейкі час яны ішлі моўчкі.

— Так, падзея важная,— сказала яна ўрэшце.— Даўно не было такой падзеі ў маім жыцці.

— Чаму ў тваім? Хіба яна мае дачыненне да твайго жыцця?

— А хіба да твайго не мае? — Яна павярнула галаву ў яго бок, сочачы за выразам твару.

— Відаць, мае. Да ўсіх мае. Тое самае, што памёр бацька...

— Вось іменна, бацька... Які б ён ні быў.



— Што, твой бацька памёр?

— Не, гэта горш, чым памёр. Расчаравацца ў чалавеку — страшней за яго смерць.

— Ты праўду кажаш... Але калі і тое і другое разам — што тады?

— Я не разумею. Што ты маеш на ўвазе?

Русіновіч прамаўчаў.

— А ты плакала? — спытаў ён ні з таго, ні з сяго.

— Плакала,— адказала яна проста.

Яму стала шкада яе. Усе крыўды на дзяўчыну таксама нібы раставалі. Але не!.. Не трэба азірацца назад...

Яны дайшлі да інтэрната, у якім яна жыла, пастаялі хвіліну ля пад'езду.

— Дык куды цябе накіравалі? Я чула, што на перыферыю?

— Ты не памылілася. Паеду настаўнічаць.

— Ты рады?

— А як жа? Пяць год чакаў гэтага моманту...

— Можа напішаш? — з усмешкай сказала яна.

— Мо ты не захочаш адказваць? Памятаеш, як у тое лета?

Яны засмяяліся.

— Тады было адно, цяпер другое... Ну, бывай! — Яна стала сур'ёзнай, рашуча падала яму руку ў пальчатцы.— Як ведаеш, так і рабі.

Яны развіталіся цёпла і шчыра.

Вось так і ідзе жыццё — па кругу ці па спіралі, амаль што паўтараецца, але не зусім, дамешваецца нешта новае, чаго не было раней. Закончыўся адзін круг у іх адносінах, можа пачнецца другі, але таго, што было раней, ужо не будзе. Будзе нешта новае, вось толькі невядома, як і наколькі яно стане падобна на тое, што мінула.

Было нечага шкада — ці то страчанага часу, ці нерваў. Але разам з гэтым жыла ў свядомасці думка, што ён за гэты час крыху перамяніўся, што можа нават паразумнеў і стаў лепей разбірацца ў людзях.

І аднак усё гэта нічога не значыць перад тым, што адбылося нядаўна. Яго ўласны боль адчувае толькі ён сам. А гэта боль краіны, боль народа...

З такімі думкамі ён увайшоў у свой інтэрнат, механічна, па звычцы, глянуў на дошку з ключамі. Ключ ад іх пакоя вісеў. Няўжо яшчэ ніхто не вярнуўся? Ён зняў ключ і зазірнуў у скрынку для лістоў. Нічога яму не было, і ён паволі накіраваўся наверх.

Раптам голас дзяжурнай спыніў яго:

— Вы не з 77-га пакоя?

— Ага. А што?

— Тут нядаўна прынеслі пошту, ёсць тэлеграма. Я ўзяла пад распіску. Русіновічу.

У грудзях у Русіновіча пахаладзела.

Тэлеграмы ён атрымліваў рэдка, і звычайна яны былі веснікамі нечага нядобрага. Гэты раз ён не чакаў, што здарыцца нешта другое... А можа едзе дадому сястра...

— Адкуль? — спытаў ён глуха.

— Не ведаю.

Ён узяў склееньі бланк, на хаду разарваў яго і бягом пабег па лесвіцы. Ён хацеў, каб ніхто не бачыў яго твару ў тую хвіліну, калі ён прачытае тэлеграму. Аб тым, што там, ён цьмяна здагадваўся, толькі была маленькая кропля надзеі, што гэта яшчэ не тое, чаго ўжо ніколі нельга змяніць ці паправіць.

Толькі на трэцім паверсе ён спыніўся і перавёў дух. Сэрца моцна калацілася ў грудзях.

*«З Брэста»,*— прачытаў ён надпіс чарнілам пад словам *«Тэлеграма»*.

Каму... Яго прозвішча...

*«Неадкладна прыязджайце Ваш бацька раптоўна памёр»*.

У вачах у яго пацямнела. Вось яно, тое страшнае, чаго ён так баяўся. «Што ж цяпер будзе? Што будзе?» — крычала ўся яго істота.

Атупелымі, не сваімі нагамі ён стаў падымацца па лесвіцы.

Для яго, як і сёння для ўсіх, жыццё крута брала ў новы бок.



У БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ ЧЫТАЙЦЕ:

Аповесць Алеся САВІЦКАГА

«САМЫ ВЫСОКІ ПАВЕРХ»

Вершы Юрася СВІРКІ, Рыгора СЕМАШКЕВІЧА, Міхася ФЕДАРУКА





Васіль ГУСЦІНОВІЧ

# Буквар



Я кніжкі бярог, як калісьці сухар,
Як сад, так пяшчотна і дбайна...
Трымаю ў руках даваенны буквар —
Звычайная кніжка, а лёс незвычайны...
У дождж мы стаялі на школьным двары
І слухалі немца, узняўшы галовы.
«Заўтра прынесці ўсім буквары,
Партрэты закрэсліць і выкрасліць словы:
«Савецкі Саюз», «піянер», «камуніст» —
Нам родныя словы, як бацька і маці.
Ніхто з нас не вырваў хаця б адзін ліст...
Я кніжку схаваў пад падлогаю ў хаце.
Шукалі нас кулі на сотнях дарог,
Не ручкі, гранаты мы клалі на парты.
Быў крэпасцю нашай бацькоўскі парог.

Мы — дзеці герояў, якіх будзем варты!
Ад кніжкі намнога святлейшы пакой,
Напомніць яна аб суровым паходзе.
Таму я з душэўнаю ласкай такой
Буквар даваенны хаваю ў камодзе.

## Успаміны


ось і сцежкі, ад сонца збялелыя.
Родны кут! Аж на сэрцы цяплей...
Каштаны разбіваюць паспелыя
Хлапчукі каля прызбы на клей
І шпурляюць у неба высокае.
Насцярожана сочыць іх зрок,
Як ляцяць угару рудабокія,
Потым плёхаюцца ў ручаёк...
Успаміны мае вы нясмелыя,
Абляціце любімы той сад,
Каштаны адшукайце паспелыя
І віхрастых вясёлых рабят.

## Сіла жыцця


абіна за мостам, запылены млын.
Ля паляў імшыстых узняўся палын.
Патокі буравяць узмылены вір.
Шамрыць пад усплёскамі пеннымі жвір.
Каменныя жорны грукочуць, грымяць,
І шоргаюць пасы, як вецер, шумяць,



На хвалях пад вербамі скача прамень.
А ў гэтым кутку толькі сноўдае цень.
Вясною з няшчыльнай падлогі млына
Папала зярнятка ў палон палына.
Хоць доля не ў поле яго занясла —
Памалу, памалу сцяблінка ўзрасла.
За лета над грыўкай зялёнай травы
Жытнёвы павіс каласок зернявы...
Прахожы спыніўся, пагладзіў рукой...
Мо сам ён змагаўся з нядоляй такой.

## Ватэрпас


ывае ў сэрцы міг такі,
Што адчуваю іншы раз
Пяшчоту бацькавай рукі,
Узяўшы ў рукі ватэрпас.

Жывая кропля серабра
Дрыжыць, мо так і я дрыжаў,
Сын партызана-сталяра,
Калі пад кулямі ляжаў.

Між варты краўся на майдан.
Цягнуў сталярскі інструмент —
Цяжкі бацькоўскі чамадан,
Нібы ў ім волава й цэмент.

Часамі ў момант баявы
За ім ляжаў, як за скалой.
Пасля баёў ўставаў жывы —
Міргала вока пад шкалой...

Я ватэрпасам з той пары
Стаў зноўку роўнасць адзначаць...
Бяруць майстры, хоць ён стары,
Не хочуць іншых пазычаць.



Ірына КРЭНЬ

Мастак
Юры АРХІПАЎ



# Антон Чобат

**Апавяданне**

I

На двары было яшчэ добра цемнавата. Ад вёскі цераз балота валіў белы туман. Гай за хатай маўчаў. На ўсходзе ледзь-ледзь ружавела неба, прадказваючы пагоду.

«Трэба рыхтавацца да жніва,— гарачліва падумаў Антон Чобат, прыпыняючыся каля студні.— Ліпень месяц толькі пачынаецца, але гэта нічога не значыць. Жыта рана пайшло ў зерне. На ўзгорках жоўтыя плешыны павылазілі».

Вельмі шкадаваў Антон аўсы. Яны стаялі дзыбатыя, унурыстыя. Галоўкі прывялыя. Цёплае надвор'е рана выгнала іх угору. Карэнням не стала чым наліваць каласы.

Антон паглядзеў на хату, што не адзывалася ніводным гукам, і злосна паклікаў:

— Алёна!

Алёна вынырнула з цёмных сянец і паспешліва падышла, пазвоньваючы пустым вядзерцам.

— Што табе?



— Зараз жа давай снедаць. Зараз жа! Лявон пойдзе касіць на Валокі, а я на Паддуб'е.

Алёна ўсміхнулася. Муж, вядома, забыўся, што ўсе толькі што паўставалі і снядання быць не можа. Спакойна адказала:

— Добра. Я падаю каровы, запалю ў печы, і снеданне будзе гатова.

Чобат падскочыў, як падстрэлены перуном.

— Як?! — закрычаў ён з абурэннем.— Ты яшчэ не даіла кароў? А Маруся? Што робіць Маруся?!

Матцы хочацца, каб дачка яшчэ паспала, і яна гаворыць:

— Маруся ўстае, але я лепш падаю за яе каровы.

Антон ціха ўздыхнуў:

— Эх, прапала справа! Я праспаў, і ўсе праспалі... Заві Лёню — мы пойдзем без снядання.

Чобат дастаў касу з-пад павеці і, крыху злосны, не чакаючы сына, пайшоў касіць. Канюшына доўгім шнурам цягнулася пры гасцінцы. Не гледзячы на ранняю пару, над ёю ўжо гулі пчолы. Антон закасаў калошыны штанін, каб не моклі па расе, шырока расставіў дзыбатыя ногі і ўзмахнуў касой.

Да яго адразу, як стаў касіць, пryляцеў лёгкі ветрык. Ён узняўся з гаю, дзе драмаў усю ноч. Ветрык прыгладзіў сівую чупрыну старога, патрос за вусы, каб збавілі крышку гонару. Сонца, узышоўшы, пагнала ў канюшыну вясёлых зайчыкаў. Антонава сэрца ўлагодзілася. Зараз ад касы адарваць яго нельга. Ён ідзе шпарка, іграючы коскаю, зграбны і лёгкі, з радасцю і натхненнем у сэрцы. Трава пругкая і калючая. Пот льецца з Антона ў два ручаі. Але ён не адчувае стомы.

II

На гасцінцы затуркатаў газік. У адкрытай кабіне сядзелі старшыня сельсавета, сакратар і два мужчыны, якіх Антон не пазнаў — відаць, раённае начальства. Газік ішоў з мястэчка. Чобату было відаць, як машына, праехаўшы «ў вуліцы»,— так кузяўцы называлі скрыжаванне дарог каля сваёй вёскі,— павярнула на вузкую, у дзве каляінкі, дарожку. «Да нас паехалі,— адзначыў у думках Чобат і сам сябе запытаў: — А што б то магло значыць?»

Убачыўшы начальства, Антон моцна задумаўся.

Трэба сказаць, што сустрэча з людзьмі, грамадскае становішча якіх вызначалася словам «начальства», ад веку трывожыла Антона Чобата. Начальства, па яго перакананню, стаяла над ім на недасягальнай вышыні. З ранняга дзяцінства бачыў Антон, як панкі з падпанкамі крыўдзілі і прыгняталі сялян. Калі ты бедны чалавек, то ўраднік і пан пшэдоўнік будуць ганяцца за табой, скажам, як індык за чырвонай спадніцай. Але трэба жыць і з небяспечнай прысутнасцю гэтых панкоў лічыцца. Гэта прымусіла Антона ў маладосці шукаць надзейных спосабаў, каб стаць самастойным, незалежным чалавекам.

І вось многа гадоў назад у лесе, прыхоўваючыся ад чужога вока, пачало расці гняздо-крэпасць. Кожны камень і кожнае дрэва тут клаліся з разлікам свайго існавання не менш чым на сто гадоў. Спачатку стала хата, моцная і прасторная, потым хлеў, гумно і ўрэшце «паграбок» — дзядзькава гордасць. У паграбок вяло двое акутых жалезам дзвярэй. Перад хатай вырас садок. У агародчыку пад вокнамі стаяла два вуллі пчол. Антон быў шчыра перакананы, што ўзвёў магутны гмах аж пад самае неба і зараз яму не страшны нават сам пан сэквестратар. Пакуль уладкоўваўся Антон у жыцці, мінула дваццаць гадоў...

На пустыннай дарозе з'явіўся коннік. Ён вынырнуў з-пад горкі і ехаў услед за газікам. Конь ішоў трухам, мерна, у такт хады падкідаючы на сабе ездака Якуба Стэльмаха, участковага міліцыянера. Стэльмах быў у форме і пры зброі. Параўняўшыся з касцом, ён дружалюбна сказаў:

— Добры дзень, дзядзька Чобат.

— Здароў, Якубе! — адгукнуўся той.

Участковы таксама праехаў «у вуліцы» і павярнуў у вёску. «Цяперашняе начальства,— думаў Антон,— не то, што даўнейшае. Яно прастае, у далікатцве не вымуштраванае, гаворыць, як і ты, адною моваю. А на цябе глядзіць, як на чалавека. Але яно ўсё-такі начальства, і яго трэба асцерагацца: трэба трымаць вуха востра, калі ты бачыш, што яно збіраецца пакіраваць табою».

У гэты дзень гаспадару так і не давялося дакасіць канюшыну. Падняўшы на дарогу вочы, ён убачыў, што проста на яго пыліць абдзёрты веласіпедзік агента па дзяржпастаўках Пісарчыка. «І гэты тут з'явіўся?» — шчыра здзівіўся Антон.

Пісарчык быў чалавечак рыжы, худы і заўсёды запылены. У летні сезон ён гойсаў па вёсках, выконваючы свае абавязкі, сварыўся з бабамі і мужчынамі. Часам, калі Пісарчыку добра дапячэ якая непрыветная гаспадыня, ён абатрэ пыл з рыжага твару і пацешыць сябе і яе такімі словамі:

— Пачакай, скора прыйдуць калгасы. Мне тады бегаць не прыйдзецца. Паскачаш ты. Тады будзе дысцыпліна і высокая свядомасць. Усе за аднаго — адзін за ўсіх!

Што гэта значыла «ўсе за аднаго — адзін за ўсіх», баба не разумела, але яна сціхала. Чобат, калі на яго налятаў Пісарчык, адказваў:

— Каб ты быў такі прыткі за плугам, як тут, то лепш бы было.

Антон не любіў агента за тое, што ён кінуў на жонку ўсю гаспадарку, а сам падаўся на лёгкі хлеб. Але сёння пагаварыць з Пісарчыкам нават цікава. Чобат памахаў яму рукою, і той спыніўся.

— Што ты ляціш, як верабей з канапель? — спытаў у Пісарчыка Антон.

— Да вас спяшаюся,— адказаў агент.— Ну, здароў, браце! — Ён падаў Чобату брудноватую руку і прысеў каля дарогі.

— Чаго то да нас усе едуць сёння? Я бачыў, машына з начальствам паехала, паскакаў Стэльмах і ты тут як тут...

— Справы, браце,— адказаў Пісарчык, адводзячы вочы.— Закурыць маеш?

— Ёсць.

Пісарчык моўчкі скруціў «суслу» з дзядзькавай махоркі і задумёна, нібы забыўшыся, дзе ён сядзіць, стаў пускаць дым. Дзядзькава сэрца павольненька дранцвела.

— Нядоімкі маеш? — спытаў ціха, абы выклікаць на размову.

— Не, не ў гэтым справа. Нядоімкі — глупства. Хоць пра іх таксама гаварыць будзем,— важна зазначыў Пісарчык.— Калгас рабіць збіраемся.

Чобат пахіснуўся, нібы яму пальнулі ў вуха. Уздыхнуў і памацаў галаву. Гэтага трэба было чакаць. Ужо з самай вясны хадзілі чуткі, што тут пачнуць ствараць калгасы. Гаварылі яшчэ, якім будзе калгаснае жыццё. Было ясна, што з калгасамі ў вёску прыйдзе нешта новае, што бязлітасна разбурыць стары ўклад жыцця селяніна. Цаною незлічоных ахвяр і пакут узвёў Чобат будынак свайго шчасця, і вось яго аснова захісталася. Баючыся новых змен, Антон шчыра прызнаўся:



— Не хочацца мне ў халкоз. Сумняваюся вельмі, ці патраплю ў ім жыць...

— Будзеш жыць,— падбадзёрыў Пісарчык, не вельмі, зрэшты, упэўнена,— і патрапіш.

— А сам ты пойдзеш ў халкоз? — пацікавіўся Чобат.

— Баба падала заяву,— дыпламатычна адказаў агент.— Што ёй, скажаш,— процi закона ісці?

— Ды я не пра тое вяду гаворку. Ці канешне нам у той халкоз ісці? — новае слова ніяк не слухалася гаспадара.— Жылі ж мы раней без халкозаў гэтых. Жылі паасобку, незалежна адзін ад другога і кожны сваім розумам.

— А цяпер савецкая ўлада не дазваляе так жыць,— аўтарытэтна растлумачыў Пісарчык.— Цяпер так жыць — не па закону. Перастройвацца трэба, браце!

— А калі, можа, я не хачу перастройвацца? Я прывык жыць пазвычайнаму, па-старому. Мне скажуць: вазьмі сваю хату і перанясі яе на другое месца, там табе лепш будзе. А я не хачу старую хату развальваць, бо, можа, на другім месцы я яе не складу, хоць там і лепш...

— Дзівак ты — уласць такая...

Доўга маўчалі. Курылі, плявалі сабе пад ногі і думалі. Чобат загаварыў першы:

— Уласць наша сёння, з якога боку на яе ні паглядзі, мудрэй за даўнейшую. З тою хоць як-небудзь развяжашся, бывала. Сабярэш якколечы налог, аплаціш і «да пабачэння»: я цябе не ведаю, а ты мяне. Хоць адна споднияя пара на табе і застаецца пасля ўсяго, але ты незалежны чалавек і жывеш год спакойна. А цяперака рабі, як рабіў, але сваёй уласці ўсё роўна не ўгодны. Тузаюць цябе ўсякі дзень: не туды ідзеш, не ў той бок глядзіш, не так гаворыш, не гэтак робіш. Што начальнік, то поп сягонняка.

— То чаго ты хочаш? Каб старыя парадкі вярнуліся, ці што? Табе было добра, як цябе абдзіралі, як ліпку, за панамі і ніхто на ўсім божым свеце не дбаў аб табе? Якая ж табе свабода, калі ў сподніх хадзіў?

— Я не кажу, што мне тады было добра.

— Ну, то чаго ты? Цяперака ўвесь народ вучаць, не аднаго цябе. Пры буржуях жылі людзі. Як жыць пры савецкай уладзе — не кумекаюць.. Вось і вучаць.



— То няхай бы адно вучылі, трасца іх бяры. Але ці канешне ў халкоз пісаць!?

— Гм!.. Калгас для таго і стварылі, каб чалавека новага вырабляць. А як жа іначай цябе пераменіш? Гэта, брат, такая машына. Пападзе ў яе буржуазны элемент, скажам, бядняк ці серадняк, са сваёй кароўкаю, свінкаю, конікам і ўсімі прычандаламі, а выходзіць з пераплёту чалавек савецкі, свабодны ад пережыткаў, роўны з усімі, не лепшы і не горшы за другіх.

— Значыць, у халкоз ісці канешне?

— Ведама!

— Значыць, так: аддай сваю маёмасць у халкоз і будзе табе добра тады жыцца і сам станеш лепшы? — Чобат горка ўсміхаецца і скептычна заключае: — Мана ўсё гэта, што чалавека перарабіць можна. Ураўняць можна, абагуліць можна, але перарабіць — не, няможна! Якім чалавека стварыў бог, такім ён і застанецца. Дзіця і тое табе скажа: мая сукенка, мае чабоцікі, мая цацка.

— Што з табой гаварыць, Антон, цёмны ты чалавек!

— І ты цёмны, Пятро. Аднае школы мы з табою,— адбівае атаку дзядзька.— Толькі што ты чужыя словы разносіш, як звон, а я сваім розумам жыву. Ну, вось скажы мне, калі такі разумны, як выйшла, што людзі завязаліся ў адзін вузел. Цябе б'юць — мне баліць. Ты запісаўся ў халкоз, а мяне нейкая сіла цягне да цябе: рабі, значыцца, і ты так. І гэта сіла ва мне і вакол мяне. Што гэта такое, скажы мне?

— Я чуў, што ёсць такія законы, якія ўпраўляюць жыццём людзей. Іх не можна ўбачыць, як, напрыклад, маланку, але яны існуюць,— адказаў Пісарчык дружалюбна.

— Заварот галавы!

— Не заварот, а праўда. Каб ты газеты больш чытаў і радыё меў, то разабраўся б, што да чаго. Звесція цяпер усе людзі слухаюць.

— Няхай згараць гэтыя звесція, каб я іх слухаў! Ад іх адзін шалом у галаве.

— Адзічэў ты ў лесе,— паспачуваў субяседніку агент.— Пра божы свет нічога не ведаеш, дзе што робіцца, не ведаеш...

— А на што мне многа ведаць? Што за карысць ад таго? Што я — з навін хлеб спяку ці каўбасу засмажу?

— Я чуў, у звесціях перадавалі,— казаў Пісарчык,— што людзі, якія не прызнаюць культуры, не чытаюць кніг і газет і не разбіраюцца, што да чаго ў жыцці,— хвасцісты. Яны плятуцца ў хвасце грамады.

— Ах, каб ты лопнуў! Гэта я — хвасціст? Га? Я, калі ты хочаш знаць, відэльцы і каляндар яшчэ да вайны купіў. А гаспадаркай лепш за ўсіх кірую.

— І хто толькі выдумаў, што ты разумны чалавек, ды яшчэ і «прамудры»,— вёў сваю лінію ўпарты агент.— Цябе цяперака Коля Шыманоўскі ў калошу пасадзіць. Малады, а абагнаў старога, «прамудрага» Чобата.

— Што ён такое зрабіў, што абагнаў?

— Ты хочаш ведаць?

— Хачу.

— Я гаварыў з ім так, як вось з табою. І ён мне падабаецца. Ён усялякую справу разумее. Пачытае кнігі, газеты, паслухае звесція і скажа, падумаўшы, чаго на свеце чакаць трэба. І так добранька растлумачыць...

— То, можа, ён скажа, што са мной праз год будзе? — іранічна пытаецца «прамудры» Чобат.

— Вядома што скажа!



— То можа ён скажа, калі мая Маруся замуж пойдзе, бо нешта засядзелася ў дзеўках?

Пісарчык хітра ўсміхаецца.

— Не варта пытаць пра гэта. Замалады ён для твае Марусі...

## III

Развіталіся даволі холадна. Агент устаў на ногі, шпурнуў ляніва ад сябе акурак, кіўнуў злёгку галавой гаспадару, потым сеў на веласіпедзік і памчаўся. Момант — і яздок даў нырца ў зялёныя прысады вёскі. Нібы нядобры сон, мільгануўся ён і знік у вачах старога гаспадара. Дзядзька адвёў вочы ад дарогі і горка скляў агента: «Ах, каб цябе зямля не насіла!..»

Прапаў добры ранішні настрой. Антон спрабаваў касіць, але каса не слухалася рук: хадзіла вяла, больш па версе канюшынкі — па чырвоных галоўках.

— Няхай згарыць яно, з работай такой!

Пакуль дайшоў дадому — выспела рашэнне: трэба прыхавацца дзе-колечы і пераждаць бяду. Прыйдуць клікаць на сход, а Чобата дома няма — у мястэчку...

Дома Антон паснедаў без гвалту, чаго з ім ніколі не бывала, і паціху падаўся ў двор пашукаць сабе схованку.

Перад гэтым ён сказаў Алёне:

— Па Лёню на сенажаць няхай падыдзе Маруся. А ты заставайся ў хаце. Сённека ў вёсцы халкоз будуць рабіць. То я прыхаваюся дзеколечы, а ты скажы, калі прыйдуць па мяне, што дома няма.

На высокі Алёнін лоб, пад блакітныя невясёлыя вочы набеглі тонкія зморшчыкі — непрыемнае здзіўленне і неадабрэнне ягонаму плану. Наіўна спытала:

— А хіба ад калгаса можна схавацца?

— Дурніца! Рабі тое, што табе кажуць!.. — закрычаў на жонку Антон.

Алёна ўздыхнула. Звычайны выраз пакорлівасці праступіў на твары:

— Добра, зраблю так, як кажаш...

Больш між імі за ўвесь абед не было ніякай гутаркі.

Выйшаўшы за хату, Антон разглядзеўся: куды ж яму падацца?

Гай-схованку забракаваў адразу. Рэдкі лішне бярэзнік, ніводнага гусцейшага кусціка ў ім не знойдзеш. Гэта не кузяўцоўскія Камісіны. Нейкі момант Чобат любаваўся на далёкае балота за вёскай — дрыгвяністыя, усланыя скрозь густым кустаўём Камісіны, што і шылам іх не праткнеш. «Кузяўцам добра,— думае гаспадар,— у іх ёсць балота... А куды ж падзецца мне?..»

Далёка ад свайго гнязда Чобат адысціся не наважваецца. Дзядзькавы вочы бачаць свой садок, два вуллі пчол і драўляныя будынкі. Антон востра цяпер адчувае, які харошы і ўтульны ягоны дворык, як многа ў ім сонца і весялосці і як важна, хвацка выступаюць перад усімі наперадзе мураваны скляпок побач з парканам і новая паветачка ля счарнелага гуменца. У поле зроку старога гаспадара трапляе і нешта большае: абшары зямлі за яго хутарам, другое і трэцяе поле за ўзгоркамі, даўней панскае, а на ім людзі. Нібы макам узышлі скрозь каляровыя кашулі ды хустачкі жанчын. На блакітныя льны, на пакошы і тарпавішча паглядзець люба! Чобат цікуе, што робіцца наўкола, а сам думае: «Апанавалі людзі зямлю, нічога не скажаш. Самі пра-

цуюць і другім ахвоты паддаюць. Прасторна, добра цяпер кузяўцам на зямлі... Воля... Эх, усё было б добра, каб не халкозы гэтыя... — І, як стрэмка, упіліся ў сэрца словы: — Такі дзянёк прападае! Хавацца ж трэба...»

Чобат паплёўся пад павець шукаць сабе месца. Ішоў да вазка, а натыкаўся то на арфу, то на сячкарню, то на цапы, то на пілкі — усё зараз лезла яму пад ногі, пад рукі, гуло і дзынкала звонам. Урэшце-рэшт намацаў вазок рукамі і лёг у яго. Вазок быў цесны і невыгодны: ног не выцягнуць. Пад галавой муляў лямец — старое, збітае ў пласт сядзенне. Чобат доўгі час злосна варушыўся і падбіваў кулакамі цвёрдую падушку, аж пакуль не затхнуўся пылам зусім. Тады супакоіўся і не кратаўся.

Яго распірала роспач і злосць. Добра было б цяпер заснуць, забыцца пра ўсё на свеце, каб не чуць і не бачыць нічога. Толькі хіба заснеш сярод белага дня, калі на сэрцы няма спакою? Заставалася адно: ляжаць і думаць, для чаго і для каго ён жыў на свеце. Пачынаў думкі ад старога, а зводзіў на новае. Не, ён не чакаў перамен. І таму ўсялякую справу рабіў з разлікам і з прыцэлам у будучае, сама меней на дваццаць гадоў наперад. Бывала, зойдзе ў краму да Янкеля і глядзіць, што б яму такое купіць, чаго яшчэ няма ў гаспадарцы і што можа спатрэбіцца пазней. Глядзіць на цяслярскі і сталярны інструмент, на бочкі, свярдзёлкі, сякеры і на ўсё астатняе. Тым часам завязваецца размова з гандляром.

— А, Чобат! Выбіраеш, што купіць?

— Вось думаю. Гэбліка свайго не маю, а чужога не напазычаешся...

— Правільна, Чобат. Добры гаспадар павінен мець усё сваё пад рукамі. Кажаш, гэбліка няма? А добры хамут у цябе ёсць? Паглядзі, учора ў мяне іх было яшчэ адзінаццаць штук, а сёння ўжо чатыры засталося. Пан Шпакоўскі ўзяў, пан Янкоўскі таксама, пані Шмігельска, што з Замошша, аж цэлых пяць. Гаспадар Камар узяў аднаго... Бяры і ты!

Чобатаў хамут яшчэ і нядрэнны, адно што свае работы. А тут на прылаўку ляжыць «фабрычны». Дужа прыгожы хамут. Не хамут, а аздоба каню на шыю. Гаспадар пытае цану, цяжка ўздыхае і круціць галавой: дарага, значыць. А Янкель знімае цану па грошыку і ўсё намаўляе, каб купіў: і што хамут выдатны, і што запас бяды не чыніць, і што калі купіць гэты хамут стары Чобат, то не патрэбна будзе купляць тое яго сыну. Выслухаўшы апошні аргумент, дзядзька Антон урэшце-рэшт махнуў рукой.

— Ну, калі для сына, то вазьму!

Такім парадкам Антон купіў шмат чаго «пра запас»: і другія «пасажныя» кросны для Марусі, і запасныя часткі для арфы і сячкарні, і культыватар для сына. А як добра было думаць тады, калі сын рос, а культыватар з трыма плугамі стаяў у гумне, што вось прыйдзе калісь такі шчаслівы час, што сын яго вырасце і выйдзе ў поле са сваім культыватарам і «на пару коней»! Цяпер дарослы Лявон адно смяецца з бацькі, кажа: «Культыватарам араць усё роўна не буду, нават калі другі конь у нас будзе. Купляй, бацька, трактар!»

З часам паветачка Чобата набыла зусім прыстойны выгляд. Яна стала нібы маленькай крамай. Толькі вот запытаць бы ў каго разумнага: якая цана ўсяму гэтаму дабру цяпер? Ці патрэбна такая паветачка чалавеку, калі паглядзець на яе з пункту гледжання новага жыцця? І наогул, без чаго нельга абысціся мужыку, калі ён з гаспадара пераменьваецца ў калгасніка?



— А вот мы зараз паглядзім,— адказаў сам сабе Чобат і бадзёра саскочыў з вазка.

Яму не цярпелася высветліць справу неадкладна і на месцы. Прыняўшы на сябе ролю калгасніка, Антон браў кожную рэч асобна і ставіў да яе пытанне рубам:

— Калі ў чалавека няма каня, ці патрэбен яму хамут? — і сам сабе адказваў: — Не, не патрэбен.

Рэчы, якім не знаходзілася прымянення ў новым жыцці, гаспадар «абагульняў» і складаў у адну кучу, а тое, што заставалася на старой службе, складаў у другую. Такім чынам «у калгас» адышлі арфа, плугі — стары і новы, культыватар, дзве бараны, некалькі пар грабляў, вілаў, кос, сярпоў і многае іншае. «Сабе» дзядзька пакінуў цяслярскі і сталярны інструмент і рэчы, патрэбныя ў абыходку: малаток, абцужкі, пілку, адну касу і іншае. Вырашаючы лёс вазка, гаспадар доўга стаяў над ім і думаў: абагульняць яго ці не? Успомніў, што такі вазок, як яго, на ўсю вёску адзін. З гэтым вазком яго звязвалі салодкія ўспаміны пра гаспадарчае шчасце, якое перажыў, аб'язджаючы свой вазок у першы дзень. Любіла вазок і Алёна. А што, калі Алёна, стаўшы калгасніцай, зажадае пракаціцца ў сваім вазку ў мястэчка. Пойдзе тады Чобат у вёску «да начальства» і будзе яму казаць: так і так, зажадалася маёй бабе ў тым нашым даўнейшым вазку праехаць у мястэчка, дазвольце ўзяць. А «начальства», які-небудзь галадранец, што за палякамі нават таго воза не меў, надзьме губы і адкажа: «Не магу, дзед, не магу. Сам качу ў сельсавет зараз. Бяры сані — развальні».

— А недачаканне тваё ездзіць у маім вазку,— гукнуў на ўсю павець дзядзька Антон і заўзята пацягнуў вазок пад малую кучу,— сам садзіся ў сані. Я ж і так столькі ўсяго аддаю вам.

Пасядзеўшы яшчэ колькі часу ў павеці і добра падумаўшы, Антон выцягнуў «з калгаса» стары плуг і драўляную барану. Апраўдаўся перад сабою так: «А што, калі праз два-тры гады халкозы распусцяць, то што тады? За што рукі зачаплю? З чым у поле выйду?»

## IV

Антон Чобат у калгас не пайшоў. Антон і Алёна жылі цяпер жыццём ціхім і адасобленым ад усіх. Іхнія дзеці, Лявон і Марыля, адышлі з дому. Сын — на настаўніцкую службу ў далёкі раён, а дачка — замуж у горад, знайшоўшы там сабе мужа-чыгуначніка. І цяпер дзеткі забылі дарогу ў родную хату. Не пайшлі на хутар і людзі. Цяпер можна было жыць, як раней: расквітацца з дзяржавай і не знаць не ведаць ні людзей, ні грамадскіх абавязкаў. Не трэба было хадзіць у вёску на лекцыі для сялян, а таксама адказваць перад сходам за свае ўчынкі: што пасеяў па плану, а чаго не пасеяў, чаго і колькі аддаў у дзяржаву, а што застаўся вінен, і чаму не адрабіў тое або іншае — не вывез, скажам, лесу або камення на чыгунку. Але па звычцы Антон усё яшчэ думаў пра кузяўцоў. Цікава было ведаць, як жывуць яны зараз і што добрага ў іх чуваць. Аднак ісці ў вёску і распытвацца пра калгаснае жыццё не выпадала. Гэта выглядала б так, што Чобат суне нос у чужыя справы.

Цяпер, сустракаючыся з Чобатам, кузявец сябе паводзіў горда і стрымана. Ён акідаў хутараніна-адшчапенца абыякавым позіркам — ні я табе нічога не вінен, ні ты мне — і, даўшы кароткае «добры дзень», праходзіў міма. Ні прыкурыць, ні пагаварыць з гаспадаром у калгасніка часу цяпер не хапала. Аднаго разу дзядзька не вытрымаў і сам зачапіў на тарпавішчы старую Агату:

— Пачакай, баба, куды бяжыш? Раскажы, як табе цяперака жывецца...

Агата падняла галоў і непрыязна глянула на Антона:

— А хто ты такі, каб я адчытвалася перад табой, як мы жывямо?— запытала яна.

Чобат збянтэжана паціснуў плячыма:

— Ну, хто я такі? Ну, сусед твой.

— Ты цяперака не наш сусед, і я табе не скажу нічагуткі. Ідзі, пацалуйся з кулаком Ігнатовічам,— задзірыста адказала Агата і пайшла ад аслупянелага гаспадара прэч, замятаючы зямлю чорнаю, як памяло, спадніцаю.

Пасля кожнай такой сустрэчы з суседзямі на душы ў Антона станавілася пагана.

Хацелася запытацца ў напышлівых кузяўцоў: «Чаму вы глядзіце на мяне, як на свайго ворага? Што я вам зрабіў такое? Адабраў у вас ваш хлеб? Прадаў каго? Якая вам справа да таго, што я не пайшоў у халкоз? Чаму я, скажам, павінен на ражон з вамі лезці? І калі гэта лічылася за грэх шукаць свае выгоды ў жыцці?»

Бяда прыйшла на хутар у пачатку жніўня. Макар Шыманоўскі, вясковы партыец, старшыня калгаса Алесь Бляха і глухі Шаўка завіталі на прыгуменне да Антона і пачалі абмяраць лужок перад хатай. Глухі Шаўка ішоў услед за сажнем і на роўнай адлегласці адзін ад другога ўбіваў у зямлю копчыкі. Чобат выйшаў з хаты.

— Што гэта значыць, хлопцы?

Мужчыны прыпыніліся і пераглянуліся паміж сабой. Адказаў за ўсіх старшыня:

— Гэта значыць, што ты тут хутка не будзеш гаспадаром.

— Па якому праву я не буду?

Наперад выступіў Макар, засланіўшы высокай постаццю абодвух мужчын. Растлумачыў:

— Па пастанове калгаснага сходу твая зямля ізымаецца з новага года ў калгас. Табе выдзелен кавалачак з валокаў Ігнатовіча за лініяй, так гектары са тры.

Чобат закрычаў у роспачы:

— Выганяеце мяне адсюль? Выкідаеце ад сябе?

— Ты сам сябе выгнаў, Антон,— ціха адказаў Макар.

Доўга стаялі і маўчалі. На Чобата шкада было глядзець.

— Што, дзядзька, нос павесіў? Ды плюнь ты на ўсё... — падбадзёрыў суседа Алесь Бляха.— Няўжо зямлі пашкадаваў? Ну, на чорта табе гэта поле? Яшчэ дзякуй скажы, што берымо — на аднаасобнікаў цяпер налогі не малыя.

— Не буду я араць валокі, бо яны не мае! Што хочаце рабіце са мной, хлопчыкі, не буду!

— Вот напалохаў, што «не будзеш»,— ужо сярдзіта прамовіў старшыня.— У другіх калгасах у аднаасобнікаў зямлю па парог абрэзалі. Мы яшчэ цябе ўважылі. А ён — не буду! Пойдзем, хлопцы.— І Адась рушыў за гай на поле Чобата.

Макар Шыманоўскі пайшоў не адразу. Ён выняў люльку-грушу, закурыў, пачаставаў табакай і дзядзьку, пастаяў каля яго. Вочы Макара глядзелі ў далечыню строга і пранікліва, і Чобату мімаволі прыйшла ў голаў думка, што Макар там нешта выглядае. На развітанне Макар сказаў:

— Помні, Антон, адно: калгас не разлучае калгасніка са сваёй зямлёю.



## V

Усе дні Антон жаў, касіў, малаціў, а ў святочныя дні і так сярод тыдня ладаваў вазы і вазіў у горад пастаўкі. Атрыманыя ў абмен на збожжа, масла і мяса казённыя квіткі гаспадар беражліва разгладжваў і складаў у адно месца — за люстэрка, што вісела на сцяне, каб паказаць іх потым Пісарчыку. Агент быў вялікі мастак сварыцца з людзьмі, а Антон Чобат звягі не любіў.

— На́ квіток у зубы і маўчы,— казаў усякі раз дзядзька агенту, калі той, натапырыўшы губу для крыку, уваходзіў у хату. Убачыўшы квіток, Пісарчык вешаў на свой замылены тварык прыветную ўсмешку і важна прыступаў да справы. Ён раскрываў паперы, выцягваючы іх па чарзе з усіх васьмі кішэняў і з абедзвюх халяў, знаходзіў патрэбныя месцы і рабіў якіясьці паметкі. Закончыўшы работу, Пісарчык развясельваўся канчаткова, траціў афіцыйны тон і прымаў за сталом свабодную пазіцыю, рыхтуючыся адначасова закусіць і паведаміць гаспадару тыя навіны, якія назбіраў сам, ездзячы па белым свеце. Антон сядаў побач з агентам на зэдлік і чакаў, што той скажа. Сэрца гаспадара грэла няслемая надзея, што сёння ён пачуе штосьці прыемнае і радаснае для сябе. А Пісарчык тым часам не спяшыў адкрываць карты. Ён паволі выпіваў чарку за чаркай, закусваў ды хваліў кулінарныя здольнасці гаспадыні. Усім сваім глыбакадумным выглядам Пісарчык падкрэсліваў, што чалавек ён сталы, разумны, многа чаго ведае, і што ад яго аднаго залежыць, плакаць сёння гаспадарам ці смяяцца. Пісарчык любіў стварыць такую напружаную цішыню ў хаце, каб адно муха ў ёй звінела. Тым часам Антон пачынаў хвалявацца. Ён разумеў усю жорсткасць і неспагадлівасць Пісарчыкавай натуры і ў думках папракаў агента: «Ну, чаго ты маўчыш, воўчае мяса, чаго ты дрэнчыш маю душу?»

Пісарчык тым часам спакойненька абдумваў, што сказаць. Выкладваць усё — гарох і капусту — не варта. Трэба падабраць такое, што б найбольш уразіла. Счакаўшы, аж пакуль сэрца Антона не адранцвее зусім, Пісарчык залазіць за пазуху і выкідае на стол цэлы жмут паперачак і газет.

— На, разбірайся! Гэта табе абавязацельствы: грашовы падатак на зямлю, як на серадняка... мясапастаўкі, на малако... гэта — за сад... яшчэ добраахвотнае абавязацельства на яйкі і збожжа, добравольная пазыка... А гэта вось на — азнаёмся з перадавіцай... Чытай сам, а то потым ізноў скажаш, што Пісарчык выдумляе, што Пісарчык зумыслу хоча зрабіць табе прыкрасць.

На твары Антона праступае смутак. Спадзяванні на добрую вестку не апраўдаліся. Яшчэ адно балючае расчараванне ў жыцці. Дух Антонаў гнецца. Адубелымі пальцамі бярэ газету. Пакорліва пытаецца:

— Дзе чытаць?

— Чытай тут,— Пісарчык важна тыцкае завостраным алоўкам у чырвоную рысачку на газеце і страшыць:— Дае перадавіца такім, як ты, і ў хвост, і ў грыву...

Рукі ў гаспадара ападаюць зусім. Ён насупліваецца, як хмара. Спрабуе чытаць, але не можа. Літаркі, як блохі, скачуць перад вачыма. Антон складвае газету.

— Пачытаю, як буду мець час. Раскажы лепш, што чуваць у раёне?

Агент затузаў галоўкаю.

— А нічагуткі. Ну, згарэла хата ў Вялікім Сяле праз самагоначку: браварок даў прыкурыць...

— А пра халкоз што скажаш?

— Ага, разумею. Ну, план калектывізацыі па раёну выканан на дзевяноста дзевяць і сем дзесятых працэнта. Тры дзесятых яшчэ трымаюцца. У Казлах аднаасобнікамі засталіся Арцюхі, у Кузяўцах — ты, у Данейках — Кішка. Вёсачка Цярэшкі, што ля Баранавіч, супрацьстаіць калгаснаму будаўніцтву ў поўным складзе.

— А як Сагановічыха з Жалезнікаў, ты яе ведаеш?

— А, гэта кавалёва ўдава? Ужо, браце, у калгасе. Камедыя была з ёю! Як пабачыла яна, што машына наша ў двор заехала, кінулася бегчы ў бярэзнік. А надоечы кулак Ігнатовіч, кажуць, у банду пайшоў. Далі яму падатак аж дваццаць тысяч. Махнуў рукой на гаспадарку і знік. Вывез кудысь за адну ноч сям'ю і дабро. А на сцяне напісаў, каб хату не чапалі, бо пад яе падложана міна.

Антон моцна задумаўся.

— Ігнатовіч любіў за чужы кошт пажывіцца, я яго ведаю. I ўсё ж шкада чалавека...

— Чорт яго не возьме, твайго Ігнатовіча... Будзе жыць, пакуль харч будзе. А там пракормяць добрыя людзі, такія, як ты, што жывуць пры лесе.

— Брэшаш, сукін сын, не маю я ніякай справы з Ігнатовічам!

Са сцятымі кулакамі Чобат падскочыў да агента. Пісарчык кінуўся ратавацца: скочыў у дзверы, сеў на веласіпед і памчаўся на гасцінец. Антон патрос наўздагон агенту кулакамі:

— А, халера, які ты швыдкі! Ну, каб не ўцёк, то даў бы я табе!

Некалькі дзён пасля сваркі з агентам да дзядзькі няможна падступіцца. Ён злосны і нездаволены жыццём.

Нарэшце, падыходзіць час, у які Антон разбірае паперы. Спярша правярае абавязацельствы. Потым бярэцца за газету. Чытае і ў чытанні знаходзіць душэўную асалоду і палёгку. Растрывожаны непаладкамі ў жыцці, выведзены з раўнавагі, ён шукае адказы на балючыя запытанні. Непрыкметна для самога сябе Антон прызвычайваецца ўсё далей ад хутара закідаць свае думкі. Да яго прыходзіць больш правільнае разуменне жыцця.

Чобату становіцца ясна, што з гэтай яго задумы адасобіцца ад людзей нічога не будзе. Свет даўно перамяніўся.

Калі газетныя навіны, як старыя, усталёўваліся ў думках, Антон выходзіў за гай і падоўгу глядзеў у далечыню. Ці не пыліць па дарозе абдзёрты веласіпедзік? Адчуваючы неадольны сум за газетным лістком, Чобат зварачаўся цераз прасторы да далёкага Пісарчыка:

— Дзе ты, воўчае мяса? Чаму не едзеш? Хіба табе невядома, што я даўно прачытаў тую тваю газету і што настаў час пасварыцца ў другі раз?

## VI

Антона Чобата ў калгас прымалі ў раннюю восень. Яшчэ доўга пасля абрэзкі зямлі Чобат барукаўся з новай імклівай плынню рэчаіснасці. Ён звозіў ураджай у гумно, разлічыўся з дзяржавай і ўжо тады, пачухаўшы галаў, падаў заяву. Аднаго дня калгаснікі зрабілі сход. За сталом перад людзьмі селі старшыня калгаса і Коля Шыманоўскі, якога выбралі пісаць пратакол. Коля выцягнуў з шуфлядкі стала папку з паперамі, разгарнуў яе, абмакнуў пяро ў чарніліцу і вывеў буйнымі літарамі загаловак на аркушы: «Сход калгаснікаў калгаса «Маяк», № 12.



Парадак дня: Прыём у калгас гаспадара Антона Чобата».

Напісаўшы ўсё гэта, Коля ўстаў, кашлянуў і тонкім, юнацкім голасам аб'явіў:

— Таварышы калгаснікі, ад Антона Чобата маецца ў нас заява з просьбай прыняць яго ў калгас. Прашу падумаць і выказацца па гэтаму пытанню павесткі дня. Як, таварышы, прымем яго ў сваю сям'ю ці не?

Слова «сям'ю» ўразіла Антона. Ён сядзеў збоку і бачыў сур'ёзныя, строгія твары людзей. Такіх твараў у сваіх людзей ён яшчэ на бачыў. I тое, што сядзелі яны разам, адзін пры адным, з адным клопатам у вачах, нібы падкрэслівала іх цеснае яднанне, іх непарушны саюз. Які залежны ён зараз ізноў ад кожнага чалавека, ад кожнай волі! Але і яны залежныя ад яго. Так, залежныя, бо ён чалавек з рукамі, і ад яго будзе карысць. I яму ёсць што аддаць ім.

Сход рашыў, што трэба паслухаць Антона. Чобат устаў, моцна хвалюючыся, абвёў людзей вачыма і сказаў такія незвычайныя для сябе словы:

— Таварышы! Рашыў і я далучыцца да вас. Я не быў адшчапенцам і не буду. Аддаю я калгасу сваю барану і плуг з запасным нарогам, сячкарню. (Голас дзядзькі Антона задрыжаў.) і арху... таксама воз і хамут... і яшчэ набедрыкі. Аддаю каня і карову Мальву... і гуменца...— Голас дзядзьку перахапіла, і ён змоўк.

Запанавала доўгая цішыня, і ў гэтай цішыні для ўсіх нечакана прагучаў пранізлівы жаночы голас — Агацін:

— Ад сячкарні пачаў! Зжаў, скасіў, прыбраў да рук, а тады «аддаю я вам сячкарню...» Ты аддай тое, што ў гумне ляжыць.

Чобат затрапятаўся, як жаваранак. Супакоіўшы сябе, ён сказаў цвёрда, звяртаючыся да ўсяго сходу:

— Падатак за сваю зямлю я аддаў, а насенне колькі пастановіце — адсыплю з гумна. Я не паспеў дагаварыць.

— Ладна,— сказаў старшыня калгаса і махнуў рукой.— Хто яшчэ што скажа?

— Чобата трэба прыняць,— нечакана выказаўся Макар Шыманоўскі.— Чалавек ён стаяшчы, усе ведаем. Я думаю, што такая будзе агульная думка.

— Што гэта такое «стаяшчы», спытаю я ў цябе, Макар? Што ў яго была арха, а ў мяне не? — узвілася Агата.— То гэта значыць, што ён кулак, а я не. Усе бачылі яго скляпок. Не патрэбен ён нам.

— Цётка Агата, то вы ўжо думаеце, што вы са сваім языком вялікае шчасце ў новым грамадстве, якім ёсць наш калгас? З кім вы толькі ні сварыліся...

Гэта гаварыў малады Шыманоўскі. Ён устаў са свайго месца і гнеўна ўперыў чорныя вочы ў старую.

— Дзядзька Чобат не кулак, а няўстойлівы серадняк. Такіх, як ён, народ перавыхоўвае.

— Ціха ты, цётка Агата,— умяшаўся і старшыня.— Лаянкай чалавека з капытоў можна збіць.

Антон у душы шчыра пахваліў свайго маладога заступніка: «Маладзец! Проста малайчына! Зрэзаў дык зрэзаў гэтую брыду...»

Дзядзька добра ведаў, што ён не кулак. Яшчэ адразу пасля вайны, як прыязджала начальства ўстанаўліваць дзяржпастаўкі на яго гаспадарку, адзін высокі чалавек, апрануты ў вайсковае, аглядзеўшы двор і слаўны паграбок, падазрона спытаў:

— Ты эксплуатаваў чужую працу?





Антон пацікавіўся, што значыць «эксплуатаваў», а калі яму растлумачылі, чотка, па-руску адказаў:

— Никак нет, гражданин начальник!

Чобат калісь быў фельдфебелем у войску, і ў яго атрымалася вельмі прыгожа. Вайсковы нават усміхнуўся:

— То ты серадняк.

Сваё выступленне на калгасным сходзе Антон Чобат закончыў словамі:

— Я, канешне, буду перавыхоўвацца, хоць мне і шкада свайго дабра. Усё сваімі мазалямі нажываў. Але я думаю, што аддаю яго ў добрыя вашы рукі. Прашу я ў вас адно: дайце мне якую-небудзь асобную, незалежную работу. Каб мною ніхто не камандаваў.

Дадому Чобат ішоў — падспеўваў. Пасля заканчэння сходу ён з дзядзькамі крыху выпіў горкай.

## VII

Антона Чобата не ўзяў сон у гэтую ноч. Не мог сабе ўявіць сваё далейшае жыццё.

Яшчэ так нядаўна Антон, бывала, ляжа на свае мулкія мяхі ў свіронку і закіне думкі на два-тры гады ўперад. І так добранька і выразна стануць перад ім свет і людзі. Ён пройдзецца сабе раз-другі па сваёй зямлі, хаце, дворыку. Пабачыць, што за гэты час дало яму поле, хлеў і садок. А потым сплануе, што ад гаспадаркі можна прадаць і якой чакаць выручкі за свой тавар. Сам сабе Антон цяпер прызнаецца, што ён не будзе мець такога клопату ў жыцці, як меў дагэтуль. Не будзе кожную вясну ламаць галаў, што па чым пасеяць, як угнаіць зямлю, а потым сабраць без страт ураджай. Няхай цяпер баліць аб гэтым галава каму другому, а не яму. І ў той жа час яго ахоплівае лёгкі смутак, што ён траціць навечна свае гаспадарскія абавязкі, з якімі зжыўся, і што ў яго не будзе ўжо гэтай дарагой турботы аб зямлі, без чаго ён нават не можа ўявіць сваё далейшае існаванне...



Раніцою Антон устаў і забегаў па панадворку. Яго шчуплая невысокая постаць у зрэбным пінжачку мільгала то ля паветачкі, то ля свіронка. Чобат рыхтаваў для здачы ў калгас сваё дабро. Спярша агаліў паветачку, выставіўшы ўсё на дзённае святло. Прыдзірлівым вокам агледзеў кожную рэч. Потым ідзе ў свіронак. Гладкія мяхі са збожжам вылазяць за сцены. Чобат працуе спакойна, з імпэтам. Твар яго нерухомы, засяроджаны на нейкай думцы. Жонцы здаецца, што гэта яе гаспадар едзе ў млын. Алёна падыходзіць і пытае: «Чаго гэта ты столькі мяхоў турбічыш, ды ўсе разам — і жыта, і пшаніцу, і грэчку? Ці табе дня яшчэ не будзе? Змалоў бы што адно!

— Павязу здаваць у калгас. Гэта наш пай!

Алёна аслупянела:

— А божа ж мой мілы, што ты робіш, Антон?! Пакінь хоць на булкі!

Чобат іранічна зірнуў на жонку:

— Будуць табе булкі! От усыплю яшчэ мяхоў са тры, то ўжо і будзе!

Дрыжачым голасам Алёна запытала:

— Антон, ці хаця шкада табе? Ці хаця цяжка табе?

Чобат на момант запыніў работу. Потым павёў утомленым вокам па падворку. З развагаю адказаў:

— От, можна сказаць, што і не цяжка. Столькі я намэнчыўся перад гэтым, столькі перадумаў думак, столькі насарамаціўся перад людзьмі, што, можна сказаць,— не цяжка.

## VIII

Побач з гасцінцам, непадалёку ад вёскі, рос стары панскі сад. З той пары, як знік пан з маёнтка і за яго брычкай развеяўся пыл, не стала ў дрэў гаспадара. З кожным годам сад занепадаў, дзі-

чэў. Гэтым летам сад стаў калгасным. З пачатку жніўня за ім пачалі крыху наглядаць, але вызначанага чалавека тут не было. Аднаго дня, у канцы жніўня, Антон Чобат выйшаў за свае былыя ўладанні і пайшоў па гасцінцы — у бок саду, каб заняць вакантную пасаду калгаснага вартаўніка. Гэта і была тая незалежная работа, да якой прыставілі Чобата. На паўдарозе Антон спыніўся і паглядзеў на свой хутар. Ён бачыў, як па двары хадзілі куры, вылезла з паграбка яго Алёна з гладышом у руках, кудлаты Барбос выграваўся каля будкі. І так там было зацішна, добра. Прыйшоўшы ў сад, Чобат з цікавасцю разглядзеўся: ён ніколі тут не быў. Раз і другі прайшоўся па садзе, пачаў дзівіцца разбуральнай рабоце часу. Як гінулі і марнаваліся бедныя дрэўцы без догляду!

Усялякае зелле расло ўпояс, на месцы былога палаца і па клумбах буяла крапіва і лопух.

У садзе панавала цішыня. Сюды, на водшыб, не даляталі чалавечыя галасы. Прырода спакойна жыла сваім жыццём: на восеньскім сонейку пырхалі вялікія белыя матылі, таўкліся сярод бэзу камарыкі. У траве цвірчэлі цвіркуны. Густы птушыны свіргат час ад часу ўзнімаўся з дрэў.

Чобат выбраў месца пад ліпамі, адкуль добра відзён быў яго хутар, і пачаў глядзець у той бок. У абед ён выняў з кішэні загорнутыя ў паперу хлеб і сала, а таксама паўлітэрку малака. Пад'еўшы, стаў чакаць вечара. Нудна доўжыліся часіны. Прыцемкамі абышоў ён сад яшчэ раз. Яму здалося, што пакалечаныя дрэўцы, абросшыя мохам, працягваюць да яго ў жальбе галіны.

«Бедныя вы, бедныя,— паківаў галавою Чобат.— Столькі год не было на вас гаспадара».

Ідучы дадому, Антон уздыхаў. Адзічэлы сад стаяў у вачах.

Наступнай раніцою Чобат узяў з сабой інструмент: садовую пілку, тапорык, ножніцы. Хоць яму ніхто не гаварыў, ён рашыў заняцца садам. Прыйшоўшы на месца, скінуў зрэбны пінжачок і рушыў абчышчаць дрэўцы. Абіваў з іх кару, і як вывальваліся адтуль жукі, душыў іх нагамі. Спілоўваў сухія галіны. Час ішоў непрыкметна. Удзень Чобат з апетытам пад'еў і паглядзеў на свой хутар. Там усё было ў парадку. Бярэзнік шумеў і прыветна пашугваў верхавінамі. Антона пацягнула ў сад. Да вечара ён прывёў у парадак першы рад дрэў.

Ішоў дадому ўтомлены, у добрым настроі. Свой інструмент прыхаваў у садзе. Непрыкметна для самога, у Чобата ўжо склаўся план дзеяння на наступны дзень. «Працаваць лазячы па крапіве і дзядоўніку, не вялікі смак,— думаў Антон.— Трэба гэту дрэнь выкасіць». На заўтрашні дзень Алёна са здзіўленнем заўважыла, што яе гаспадар, выходзячы з дому, паклаў сабе на плячо касу і так памаршыраваў па гасцінцы, узбіваючы пыл босымі нагамі. Цётцы Алёне смешна. Яна разрагаталася.

— Вось як спраўна мой работнічак пайшоў!

Дзядзька Чобат, вядома, не чуў гэтага смеху. Ён наогул дрэнна адчуваў смешныя бакі жыцця і ўспрымаў усе падзеі і сваю ролю ў іх сур'ёзна. У яго душы заўсёды ажывала адказнасць перад светам за тую справу, за якую браўся і якая, як яму здавалася, была вельмі важнай. У гэты дзень Чобат агледзеў яшчэ адзін рад дрэў і выкасіў пустазелле, што буяла вакол. Працерабіць ад кустарнікаў дарожкі Чобат вырашыў заўтра.

Аднаго дня, збіраючыся дадому, дзядзька набраў у мяшочак ападу і з гэтым дабром пайшоў у праўленне.

Каля вёскі ён нясмела прыпыніўся. На яго напаў страх перад людзьмі, з якімі дагэтуль не меў нічога агульнага. Ён баяўся, што будуць казаць: «Чаго блукаецца тут гэты Чобат? Чаму ён не на сваім хутары?» Увайшоўшы ў пакой, Антон нягучна паздароўкаўся і падняў руку да казырка. У пакоі, пры сцяне, за сталамі сядзелі старшыня калгаса ў акружэнні брыгадзіраў і малады Коля Шыманоўскі. Коля быў апрануты ў шырокі паношаны крамны пінжак з бацькавага пляча. Перад рахункаводам ляжалі лічыльнікі і папера. Чобат пасунуўся да Колі і сур'ёзна сказаў:

— Тут у мяне, Мікалай, апад з саду. Запрыходуй.— І ён высыпаў проста на лаўку, на якой сядзеў хлопец, свае яблыкі.

Коля паглядзеў на Чобата, усміхнуўся куточкамі вуснаў і громка, як настаўнік, прагаварыў:

— Вельмі добра, дзядзька Чобат, што вы клапоціцеся... мы ўжо чулі...— а што чулі, малады Шыманоўскі не дагаварыў. Павярнуўся старшыня, убачыўшы стоража, запытаў:

— Што такое?

— Ды вось якая справа,— паволі сказаў Чобат, стараючыся трымацца як мага незалежней.— У садзе прападае апад. Многа ападу. Добры апад. Я сабраў яго ў кучу і хачу запытаць, што з ім рабіць? Вось паглядзіце, якія яблыкі.

Усе заварушыліся. Брыгадзіры і старшыня пакаштавалі яблык. Людзі разгаварыліся з Чобатам. Пачаліся роспыты пра яго работу ў садзе. Апад было вырашана прадаць. Антон выказаў сваю думку: на вясну гэтае месца трэба агледзець і прывесці ў парадак, як належыць. Можна нават пасадзіць кветкі. Сад яшчэ добры, урадлівы, і з яго будзе карысць.

З гэтых пор у жыцці старога Чобата нешта змянілася. Чалавек стаў весялейшы. Нібы чароўны праменьчык пранік у свіронак, дзе ён спаў, і сагрэў адранцвелае сэрца. І гэта сэрца ізноў абудзілася для шырокай надзеі, для працы, для будучыні. Ён па-ранейшаму любіў свой хутар і зямлю, на якой ліўся яго пот. Але і новае жыццё станавілася не абыякавым.

## IX

Адной ранічкаю ўвайшоў Антон у сад і ўбачыў у ім сляды зладзейскага нашэсця. Дзве крайнія яблыні былі абрабаваны ўшчэнт, а зямля пад імі засыпана свежым голлем і лісцем. Знайшліся ж людзі, якія адной рукой запісаліся ў калгас, а другой грабуць пад сябе калгаснае дабро. Цяпер Антон вырашыў не пакідаць сад без нагляду зусім. Ён змайстраваў сабе будку з бярозавага вецця і мяккіх садовых траў і застаўся ў ёй нанач. Алёне наказаў, каб прыслала сюды кажух і яду, бо дадому ён не прыйдзе.

Вечарам таго ж дня ў садзе з'явіўся няпрошаны госць, калгасны конюх Адам Кудлач. Адам пасвіў коней за рэчкай, і да гэтага месца было яму рукой падаць. Ці ведаў ён, што дзядзька начуе ў садзе, ці не ведаў, але пабачыўшы Антонаву будку, а потым і самога Антона, конюх не выказаў здзіўлення, адно сказаў:

— Такая будачка прыгадзілася б і мне, а то холадна спаць на куп'і.

— То зрабі сабе,— не вельмі ветліва буркнуў у адказ Чобат і схаваўся ў сваім логаве. Ён Адама не любіў і першы гутаркі з ім не заводзіў. Непрыветнасць вартаўніка не збянтэжыла конюха. Ён расселся

перад будкай і закурыў. Чырвоны агеньчык папяросы асвяціў твар, доўгі і вузкі, і выразныя, насцярожліва-палахлівыя вочы. Сапраўды, асаблівыя вочы былі ў Кудлача. Яны ніколі не глядзелі проста на чалавека, а разбягаліся ў бакі, нібы хаваючы ад староннягa погляду тое, што ляжала на душы. Гэта ўражанне ад Адамавых вачэй знікала, як толькі ён падаваў голас. Выкурыўшы папяросу, Адам палез пад яблыню, нагроб ападу ў кішэні і, ні слова не кажучы, паныла паплёўся назад за браму.

А на наступны вечар Адам вярнуўся ізноў. Цяпер ён кіраваўся проста на будку і прыветліва, як найлепшы прыяцель, усміхаўся да Антона. Чобату стала няёмка ад Адамавай усмешкі. Што было рабіць? Ён пацiснуў руку конюху і запрасіў яго пасядзець ля будкі. А так як Кудлач сёння быў у вёсцы і ў яго маглі быць свежыя навіны, то Антон спытаў:

— Што чуваць добрага ў калгасе?

— А ні халеры! — неахвотна адказаў Адам.

— А звесція ты сёння слухаў?

— Чорт іх слухаў! Не было часу.— Адам азірнуўся на стройную, як лялька, малінаўку, абвешаную пладамі.— Падла, якая завідная яблынька!

— То можа чуў, што мужчыны гавораць? Вайна ж у Карэі ідзе.

— Ну і што? Няхай яны там усе галовамі наложаць!

Гутарка не клеілася. Здавалася, нічога на свеце, апрача гэтага саду, не цікавіла Адама. Ён устаў, набраў з кучы яблык і пачаў іх хрумстаць. Па ўсім было відаць, што рана сад пакідаць ён не збіраецца. Нечакана конюх загаварыў:

— Скажы, дзядзька, табе баба не прыснілася сёння ўначы? — Кудлач на гадоў дваццаць быў маладзейшы за суседа, але гэта не перашкаджала казаць яму «ты».

— Не, не сніў.

— Напрацаваўся за дзень, як конь, то і не сасніў. Баба, можа, баіцца там адна, можа ёй там цяжка, а ён ляжыць у будцы, як япрук, і не ідзе дахаты.

Параўнанне з канём і асабліва з япруком не пасавала да благенькага Чобата і нават яго абражала, але Антон стрымана адказаў:

— Не іду, і не пайду. Бо як я хаджу дадому, то ў садзе нехта абтрасае яблыкі...

— Вот які ты чэсны... То можа ўжо і мне нельга яблычка падняць?

— Еш, хто табе шкадуе,— адказаў Чобат і адвярнуўся ад субяседніка. Яму прыкра было бачыць, што Кудлач, маючы свой сад, такі прагны да чужога.

— Пэўна, чаго табе шкадаваць... — з роздумам паўтарыў дзядзькаву думку Адам.— Яблыкі ж не твае — калгасныя, то на халеру іх шкадаваць?

Кудлач ізноў ідзе пад яблыню, перабірае яблычкі. А Антон лезе ў будку, адмяжоўваецца ад суседа, стараючыся заглушыць у сабе злосць.

Час ішоў, а Адам не сыходзіў з месца. Чобат ужо задрамаў, калі конюх загаварыў з ім у другі раз:

— Гляджу я на цябе, дзядзька, як ты з дня ў дзень пеклішся ў рабоце, цягнеш мяхі з яблыкамі, гародзіш гэтыя платы, і становіцца мне цябе шкада. Што табе за інтэрас так рабіць?

— Я не прывык сядзець удзень склаўшы рукі. Мне весялей, як я раблю.



— А мяне вось ніколі цяжкая праца не весяліла. Я і конюхам стаў, каб не верадзіць рук у полі. Думаю сабе: раз цяпер зямля стала калгаснай, то нашто на яе вельмі глядзець? Ці праўду кажу?

Сон з Антона як рукой зняло. Доўга таймаванае абурэнне і яго злосць на Адама прарываюцца. Дзядзька нервова закурвае, потым гаворыць:

— У кожнага свая праўда. Мая праўда не такая, як твая, гэта я табе скажу ў вочы. Стаў ты конюхам, то і будзь конюхам. Даглядай жывёлу як належыць. Хіба я не бачу, як ты іх пасеш? Па табе, няхай коні прападаюць у балоце. А чаму, скажам, не выгнаць іх на папар, што пры садзе, ці на канюшынішча або пад акопы? Добрая палявая траўка. Дык не, бо тут трэба пільнаваць, а не спаць у шапку. А калі ты ім даеш той авёс? А ім жа кожны дзень у поле ісці! Затое твае куры і свінні валяке і жыватэ панабівалі зернем. Што, мой гняды быў такі, як стаяў у мяне?

Адам весела зарагатаў, нібы пачутае не кранула ў ім сумлення.

— Дзівак ты, стары, хіба можна дагледзець табун коней аднаму? Я адзін, а іх з паўсотні... То няхай яны павыдахнуць, каб я іх чысціў і адкармліваў! Я ж, можа, не ў пана раблю, каб мне гэтак разрывацца!

— А табе толькі ў пана і рабіць, а не ў калгасе. Саступай са свайго месца, калі не любіш ні зямлі, ні быдла. Знойдзецца чалавек.

— А што ты думаеш, можа, і пайду. Што тут, мёд ліецца ці што? На чыгунцы цяпер выгадней працаваць, чым на зямлі. Маладзец твой хлопец, махнуў тут на ўсё рукою і цяпер жыве сабе культурна.

Антону ўся кроў прыліла да твару. У шалёнай злосці закрычаў:

— Ты майго сына не чапай! Ён табе не раўня!

— Я і не кажу, што ён мне раўня,— спакойна зазначае конюх.— Ён чалавек вучоны. Але ж лепш сядзець у настаўніках, чым у калгасных шчатаводах, га? Я адно кажу, што твой хлопец — не дурань, што ён у час змікіціў, куды вецер дзьме, і звеяў з гаспадаркі.

— Мой Лявон не патрабуе, каб ты яго хваліў! — Чобат ускапіўся з месца і рушыў углыб саду з такім імпэтам, нібы яго гнала бура. Напамінак аб сыне, гэтая абразлівая пахвала, перавярнулі ўсё яго нутро. Хацелася кудысь ісці і пагаварыць з чалавекам спагадлівым і разумным. Можа б ён растлумачыў, чаму яго сын так неўзлюбіў гаспадарку і пакінуў назаўсёды сваё роднае гняздо? Колькі жыў, Антон не мог зразумець свайго сына. Той увесь час намагаўся вырвацца з дому, нібы яго ў ім штосьці душыла. Ён не дбаў аб гаспадарцы, не хацеў багацця. Ні той культыватар, ні тыя коні, ні тыя пчолкі не былі яму мілы. Увесь час адно прасіўся, каб яго вучылі. Школ такіх пры палякаx не было, каб для беларусаў, і сын выпісваў нейкія брашуркі з-за граніцы на рускай мове, вучыўся па іх і ніколі, ніколі нічым другім, апрача кніг і навукі, не цікавіўся.

Сябе вінаваціў Антон у адным, што не прышчапіў сыну свайго замілавання да зямлі, да працы земляроба і не навучыў бачыць хараство ў іхнім простым жыцці. Адна толькі надзея падтрымлівала Антона ў яго думках аб сыне: што яго сын — сумленны чалавек, што не шукае ён, як які прайдзісвет, лёгкага хлеба на зямлі і што ён знайшоў сабе ў тым другім, нябачаным адгэтуль жыцці невядомае Антону хараство і шчасце...

У сярэдзіне ночы вяртаўся стары бацька да сваёй пасцелі. Кудлача каля будкі ўжо не было. Але шум крокаў за брамкай і ціхая валтузня заставілі вартаўніка навастрыць вушы. Ён засвяціў ліхтарчык і выйшаў за агароджу. Востры агеньчык вылавіў з цемры прыгнутую да зямлі постаць з цяжкім мехам на спіне.

«Пакража... злодзей...» — мільганула ў думках. Выцягнуўшы кол з новай агароджы, Антон кінуўся даганяць рабаўніка. Той, пачуўшы за сабой тупат, азірнуўся з-за пляча. Асвяціліся круглыя напалоханыя вочы і вузкі твар Кудлача.

— Стой! Скідай мех!..

Чобат нагнаў конюха і сцягнуў з яго цяжкі мех. Адам абярнуўся і закрыў голаў рукамі.

— Не бойся, біць цябе не буду,— сказаў Чобат,— але помні, нягоднік, што я ніколі табе не дарую твайго зладзейства і ашуканства. І каб болей тваёй нагі не было ў садзе!

Кудлач спрабаваў апраўдацца:

— Чаго ты? Хіба я ведаў, што ты пашкадуеш мне гэтых яблык? Я думаў, што табе абы не бачыць, як крадуць, а шкадаваць іх не будзеш?..

— То чаго ж бы я тут сядзеў уначы, каб я не шкадаваў саду? — Чобат сярдзіта ўчапіўся за мех і пацягнуў яго ў вароты.

Высыпаўшы яблыкі з меха, Антон іх памацаў і аж за голаў узяўся: яблыкі былі ўсе крамяныя, цвёрдзенькія, адно — з дрэва.

## IX



Антону Чобату цяпер шэнціць ва ўсім. Па-першае, з яго знялі грашовы падатак, якім абкладалася ў гэтым годзе яго аднаасобніцкая гаспадарка, і ўсе астатнія грахі даравалі. Па-другое, на яго хутар правялі электрычнасць і радыё. Цяпер Антон усякі дзень слухаў «звесція», а Алёна не магла нацешыцца такой выгодай у хаце, як электрычнае святло. Па-трэцяе, Чобата ўсенародна пахвалілі за добрую работу ў садзе і паставілі яго, старога чалавека, у прыклад маладым. І яшчэ яго прызначылі калгасным сейбітам на гэту восень, бо ўсе ведалі, які з дзядзькі адмысловы сявец. Другім сейбітам быў прызначаны Макар Шыманоўскі. Добрыя перамены ў жыцці ўлагодзілі і падбадзёрылі старога. Яны вярнулі яго думкам і паводзінам іх ранейшую самастойнасць і незалежнасць. Цяпер ён рыхтаваўся да сяўбы. Сяўбу Антон заўсёды любіў. Яна завяршала яго цяжкую працу над полем. Сеяў Антон заўсёды на зямлі, вырабленай на пух і добра ўгноенай. Для гэтага дня рыхтаваў лепшыя мяхі і адборнае насенне; карміў аўсом каня. Выязджаючы ў поле, здымаў шапку, хрысціўся, а потым казаў: «Дай, божа, каб з лёгкай рукі пасеялася, узышло і адкрасавала. Абнясі, божа, мае поле ад буры, ад граду, ад агню, ад засухі, ад патравы. Хлеб наш паўсядзённы ўрадзі нам, божа, аман...»

Тое самае зрабіў Антон і цяпер. Загадзя нарыхтаваў мяхі і адабраў насенне ў калгасным свірне, а потым яны схадзілі з Макарам у поле і праверылі якасць апрацоўкі глебы. Як надышоў дзень сяўбы, Антон устаў досвіткам і, прыхапіўшы торбачку з полуднем, падаўся ў вёску. Ідучы, з трывогай паглядаў на неба: ці хаця будзе надвор'е?

Макар Шыманоўскі, як зайшоў да яго Чобат, быў ужо на нагах. Ён ветліва прывітаўся з хутаранцам, запрасіў сесці на лаву. Сам Макар шукаў, каб чаго перакусіць. Але як нічога такога не знайшлося, то ён урэзаў акрайчык счарсцвелага хлеба, паклаў яго ў торбачку, а на адыходным выпіў кубачак сцюдзёнай вадзіцы...

Пачынала развідняцца. З-пад ног запырхалі сонныя птушкі. Неба праяснялася, блакітнае і чыстае. На ўсходзе прарэзвалася ружовая зара. Поле дыхала лянівым спакоем і лагоднай восеньскай прахалодай. Поле чакала сяўцоў. Доўгія гады, як і сад, яно заставалася без гаспадароў. Гібела пад папарамі. Цяпер адышло да Кузяўцоў, каб радзіць хлеб.

— Як думаеш, Антон, што мы возьмем з гэтай зямлі?

— Дай, божа, каб адно добра ўзышло і адкрасавала. Куранят будзем па восені лічыць, Макар.

— А хіба ты ніколі не загадваў наперад?

— Я сваю зямлю ведаў, як пяць пальцаў. А пра гэту скажу, як засею.

Мужчыны вырашылі раздзяліць поле ўдаўжыню на дзве паловы і сеяць кожны адну старану. Яны вымералі поле крокамі, забілі на яго сярэдзіне копчык і сталі чакаць, калі ім падвязуць мяхі. Макар выцягнуў капшук з курэцкімі прыладамі. Закурылі.

— Што б сказаў пан Данілеўскі, каб раптам тут з'явіўся і пабачыў нас з табою? — запытаў Макар.

— Пэўне штось сказаў бы: «Пайшлі вон з маёй зямлі!»

— А што б ты яму адказаў на гэта?

— А нічога. Мне б стала брыдка, і я павярнуўся б і пайшоў.

— Ну і няправільна зрабіў бы! А я застаўся б на месцы і пагаварыў бы з ім як належыць. Я б яму сказаў, што зямля гэта наша, бо зямля па праву павінна належаць тым, хто на ёй працуе. Я б яшчэ яму сказаў, што мае бацька і дзед, якія унь ляжаць на горцы, заўсёды хацелі заўладаць гэтым полем і есці з яго хлеб. А цяпер зямля мая! І я не саступлю з яе дабравольна.

Мужчыны прыгадалі далёкія і нядаўнія падзеі. Макар успомніў, як на гэтым полі біліся ў дваццатым годзе будзёнаўцы з белапалякамі. Ён сам бачыў, як адзін чырвоны коннік выбіў паляка з сядла і закалоў пікай. Тут ён недзе і пахаваны. Чобат прыгадаў манеўры трыццаць пятага года. З-за рэчкі валілі «швабы», а «поляцы» наступалі ад гасцінца.

— Ці бачыў ты, як яны тут біліся? — запытаў Антон у Шыманоўскага.

— А як жа, бачыў. Я сядзеў на сваім гумне, на тым, што згарэла, і ўсё бачыў. Смалілі з гармат, аж дым курэў. На канюшыне — тут была канюшына — сышліся. Біліся багнэтамі. Потым немцы адступілі назад за рэчку...

— А тады, кажуць, Данілеўскі добрыя грошы ўзяў за здратаваную канюшыну.

— Вось дзіва, што ўзяў! Панская ўлада не крыўдзіла пана...

— А як адступалі немцы ў сорак чацвёртым, то я сядзеў са сваімі ў паграбку і нічога не бачыў,— прызнаўся Антон.— Вылез, як ужо было па ўсім. Я адразу ж паглядзеў на гэта поле, адкуль гэтак бухала... Не паверыш, уся дарога была завалена коньмі і машынамі. Людзей я не бачыў. На трэція суткі коні выдуліся, як горы.

— Ох, і надаела нам потым гэтыя коні закопваць,— уставіў словы Макар.

— Я сам закапаў маладзенькага немчыка, што ляжаў у траве пры маёй граніцы, і вы яго мне пакінулі хаваць...

— А партызанаў помніш, як хавалі?..

Пад'ехалі вазы з мяхамі. Антон і Макар памаглі возчыкам парасцягваць мяхі па полі. Можна было сеяць. Набраўшы поўную сявеньку зерня, Чобат зняў шапку і згаварыў сваю малітву.

— Ну, а цяпер я памалюся,— сказаў Макар і павярнуўся тварам у заранае поле. Сказаў урачыста: — Дык няхай тут расце па нашай волі жыта ўпояс. Каб не прыждала больш ніколі гэта зямля нашых ворагаў. Каб на ёй працавалі мы і нашы людзі заўсёды... Аман!

— Аман,— пацвердзіў узрушаны Антон і высеяў першую жменю ў чорную глебу.

У гэты дзень апоўдні ў калгасе адбылася яшчэ адна хвалюючая падзея. Пад сейбітаў выйшла грамадой уся вёска. Ішлі старыя і маладыя, кабеты і мужчыны. Дзеці беглі наперадзе. Разгадка далася проста: сёння ж першая сяўба ў калгасе. Радасць была ўсеагульнай. У вуліцах на ўспененай Гнедцы перапыніў калгаснікаў Алесь Бляха. Ён штось крычаў, размахваючы рукамі, мабыць, спрабаваў завярнуць людзей дадому, але яго сцягнулі за нагу, і цяпер ён ішоў разам з усімі і глядзеў на поле і на сяўцоў. Макар згледзеў людзей першы, бо сеяў ён тварам да вёскі. Узрадавана загукаў:

— Пабач, Антон, усё сяло ідзе благаслаўляць... Не дарэмна мы маліліся!

Антон абярнуўся, прыпыніўся. Не было сумнення, што кузяўцы ішлі пад іх. Прыветныя, радасныя твары былі звернуты ў поле. Вялікае пачуццё любасці да кузяўцоў агарнула сэрца Чобата. Даўней, на першай сяўбе, выходзіла так вітаць яго Алёна. Яна стаяла на мяжы, праслаціўшы рукою вочы, а ён ішоў пад яе і сеяў. І не было ў гэты момант людзей больш блізкіх сабе, чым Антон і Алёна: засявалася ж іхняе поле.

Раптоўная здагадка ашаламіла Антону голаў: «Лявонка, сынок любы, цяпер я ўведаў, чаму ты сышоў з маёй хаты,— прашаптаў Антон,— ты хацеў, каб сеяць на ўсіх, а ў нас няможна было...» Захацелася крыкнуць на ўвесь свет, каб пачуў сын: «Глядзі, Лявон, а я ўжо сею, а я ўжо сею!»

Быстрым, амаль непрыкметным рухам рукі Антон высяваў у поле жменю за жменяй. Ён крыху збіўся з дарогі і ішоў цяпер проста на грамаду. На душы ў яго было хораша.






# ЛЕГЕНДАРНЫ ГАЯ ГАЙ

Мора было спакойнае. На водмелі плёскаліся ў цёплай вадзе дзеці. І раптам:

— Наташа тоне! Піянерважатая!..

Усе на хвіліну змоўклі. Толькі рэха адгукнулася недзе ў гарах паблізу Гурзуфа.

— ...о-не-е!..

Да дзяцей падбеглі двое вайскоўцаў — загарэлыя, плячыстыя.

Адзін з іх, у якога блішчалі на гімнасцёрцы два ордэны Чырвонага Сцяга, умомант распрануўся, кінуўся ў ваду і праз хвіліну ўжо левай рукой падтрымліваў Наташу, спрытна плывучы да берагу.

Пад вечар, калі горн паклікаў піянераў на лінейку, усе даведаліся, што ў суседнім санаторыі адпачывае былы камандзір 24-й Жалезнай стралковай дывізіі Гая Змітравіч Гай, які ў 1918 годзе вызваляў Сімбірск (Ульянаўск) і Самару. Дывізія гэтая і атрымала назву Самара-Ульянаўскай. У канцы таго ж года ён камандаваў 1-й арміяй Усходняга фронту, якая змагалася супраць Калчака, а ў 1919 годзе на Паўднёвым фронце камандаваў 42-й дывізіяй, затым Каўказскай кавалерыйскай дывізіяй, якая калаціла дзянікінцаў.

Піянеры з Беларусі вельмі ўзрадаваліся, пачуўшы, што той чалавек, які выратаваў Наташу, быў камандзірам 3-га коннага корпуса на Заходнім фронце, вызваляў Беларусь ад белапольскіх акупантаў у 1920 годзе.

Было гэта ў 1926 годзе, калі «Артэк» адзначаў сваю першую гадавіну.

1935 год. Прафесар Ваенна-паветранай акадэміі імя Жукоўскага



**Гая Гай.**
Мал. **Л. Катлярова.**



**Г. З. Гай і М. М. Воранаў — цяперашні Галоўны Маршал артылерыі. 1930 г.**

былы камкор Гая Гай быў запрошаны ў Мінск на свята вызвалення Беларусі ад белапольскіх акупантаў і ўручэння рэспубліцы ордэна Леніна. Рэдакцыя газеты «Калгаснік Беларусі» даручыла мне напісаць пра гэтую сустрэчу з Гая Гаем, а калі выпадзе нагода, узяць інтэрв'ю ў вядомага палкаводца.

Поезд-экспрэс меўся прыбыць з Масквы ў 11 гадзін раніцы, а ўжо а дзевятай я сядзеў на вакзале.

Нешта праз гадзіну да перона з Масквы падышоў хуткі поезд.

Я выйшаў з вакзала і раптам вачам сваім не паверыў — сустракаю таго чалавека, якога дзесяткі разоў бачыў на здымках у газетах і часопісах. Няўжо гэта ён?!..

Я заракаўся, што буду скупы і эканомны на словы, што буду падбіраць для пытанняў самае важнае і галоўнае, а тут сыпануў, як гарохам:

— Гэта вы будзеце Гая Змітравіч Гай? Чаму ж гэта вы прыехалі не экспрэсам, а хуткім?

Гай моцна пацiснуў мне руку і зусім проста сказаў:

— Знаёмцеся. Мая жонка Наталля Якаўлеўна.

«Дык гэта ж і ёсць тая самая піянерважатая», — падумаў я.

Утраіх мы пайшлі ва ўрадавы пакой вакзала. Тут нікога не было, і я асмеліўся папрасіць Гая сказаць некалькі слоў для чытачоў нашай газеты.

Гая Змітравіч размашыстым цвёрдым почыркам напісаў на вялікім лісце блакнота:

> «Брацкае баявое прывітанне!
> Праз газету «Калгаснік Беларусі» шлю палкае прывітанне ўсім працоўным, калгаснікам, калгасніцам і маладому пакаленню Савецкай Беларусі.
> Няхай жыве наша родная Савецкая Беларусь!
> Гая Гай».

Пасля гэтага ён пачаў расказваць:

— Пятнаццаць год таму назад, праязджаючы праз гэтыя палі, лясы, дарогі, я бачыў акопы, калючы дрот, руіны, папялішчы...

Сёння зусім іншымі сталі прасторы Савецкай Беларусі. Многа новых дасканалых дарог, бязмежныя калгасныя палі, фабрыкі, заводы. Я прыехаў сюды, каб разам з працоўнымі Савецкай Беларусі парадавацца дасягнутым поспехам...

Я запаўняў старонку за старонкай у блакноце і, калі закончыў гутарку, звярнуўся яшчэ з запытаннем да Наталлі Якаўлеўны. Яна — педагог, навуковы работнік, і яе працы змяшчаліся ўжо ў беларускім друку. І цяпер яна везла новы артыкул для часопіса «Камуністычная асвета» і выказала шмат цікавых меркаванняў пра дасягненні народнай асветы ў рэспубліцы.

Назаўтра я ўзяў некалькі экземпляраў газеты і аднёс Гаю Змітравічу ў гасцініцу «Еўропа». На стале ў яго ляжалі рукапісы і карэктурныя лісты. Ад яго я даведаўся, што ён праглядае карэктуру кнігі «У баях за Савецкую Беларусь».

— Гая Змітравіч, — спытаў я, — ваша ж кніга перакладзена на беларускую мову, і вам, мусіць, цяжка было чытаць карэктурныя адбіткі?



— Таму, што кніга мая, яна лёгка чытаецца, — усміхнуўшыся, сказаў Гай. — Можаце гаварыць са мной на беларускай мове. Беларус Вася, мой выдатны разведчык, камсамолец, заўсёды ў размове са мною пераходзіў на беларускую мову, і я яго добра разумеў. Буду рад, калі пачытаеце маю кнігу. У ёй вы знойдзеце некалькі старонак пра майго дарагога Васю.

Толькі праз трыццаць год давялося мне пазнаёміцца з гэтай кнігай (яна так і засталася ў гранках) у партыйным архіве ЦК КП Беларусі.

Рашэннем Выканкома Мінскага гарадскога Савета 20 чэрвеня 1964 года адна з вуліц Мінска была перайменавана ў вуліцу Гая. Але для маладых гэтае імя амаль невядома.

У маі 1964 года газета «Ульяновская правда» пісала, што дакументы і жывыя сведкі не так далёкіх год пацвярджаюць: імя Гая павінна стаяць у адным радзе з імёнамі выдатных палкаводцаў грамадзянскай вайны, такіх, як Лазо, Шчорс, Катоўскі... Гэтая ж газета ў заметцы «Самая гаючая павязка» змяшчала выступленні ўдзельнікаў вызвалення горада Ульянаўска ад белагвардзейскіх банд — камандзіра першага палка Сімбірскай Жалезнай дывізіі П. Ф. Усцінава і камандзіра кулямётнага ўзвода І. І. Мошына.

— Яшчэ не заціх цяжкі троxдзённы бой, — успамінае П. Ф. Усцінаў, а ў горад уляцеў на аўтамабілі камандзір Сімбірскай Жалезнай дывізіі Гая Змітравіч Гай (Бжышкян) з членам рэвалюцыйнага савета Першай арміі паліткамандзірам Аскарам Юр'евічам Калнінымі. Яны накіраваліся да турмы і вызвалілі палітзняволеных, якія чакалі з гадзіны на гадзіну расстрэлу. Гай ад імя байцоў паслаў тэлеграму правадыру рэвалюцыі: «Дарагі Уладзімір Ільіч! Узяцце Вашага роднага горада — гэта адказ на Вашу адну рану, а за другую — будзе Самара!»

Ленін адказаў: «Узяцце Сімбірска — майго роднага горада — ёсць самая гаючая, самая лепшая павязка на мае раны. Я адчуваю небывалы прыліў бадзёрасці і сіл. Віншую чырвонаармейцаў з перамогай і ад імя ўсіх працоўных дзякую за ўсе іх ахвяры».

Ваенны пісьменнік маёр Гай Аршакавіч Айрапяцян у адным з артыкулаў «Мы славай крылатай багаты» (газета «Красная звезда» № 62 за 1961 год) расказвае, што слаўны камандзір Гай мог умела выходзіць з самых цяжкіх баёў і разбіваць у шмат разоў мацнейшага ворага. Так, летам 1918 года ў раёне Сенгілея, на поўдзень ад Сімбірска, пасля таго, як быў захоплены гэты горад, а таксама гарады Пенза і Самара, Гай на працягу месяца быў адарваны са сваёй часцю ад асноўных сіл і атакаваны з усіх бакоў.

Член РВС 1-й Рэвалюцыйнай арміі В. У. Куйбышаў лічыў, што атрад Гая разбіты. Але ж Гай у глыбокім тыле ворага сабраў вялізныя сілы з рассеяных атрадаў чырвонаармейцаў і партызан і прарваў варожае акружэнне. «Сустрэча мая з Гаем была бурнай і радаснай, — пісаў В. У. Куйбышаў. — Мы абдымаліся, цалаваліся, рагаталі і доўга не маглі апамятацца».

Вызваленне ад белагвардзейцаў Бугуруслана, Бузулука, Арэнбурга, Орска, Верхне-Уральска і іншых мясцін было праведзена пад непасрэдным кіраўніцтвам выдатнага палкаводца Гая, які не раз кідаўся з шабляю ў самыя кіпучыя бітвы і вёў байцоў ад перамогі да перамогі.

У прадмове да кнігі «У баях за Савецкую Беларусь» Гай піша, што рабочая і сялянская моладзь павінна вучыцца на прыкладах мінулага, набываць вопыт барацьбы, бо будучыня належыць моладзі, і толькі ёй.

Сорак пяць гадоў таму назад дрэнна ўзброеная, дрэнна апранутая і часам галодная Чырвоная Армія знішчыла ярмо памешчыкаў і капіталістаў. Саветам не патрэбна была вайна, Саветам патрэбен быў мір. Аднак вайна пачалася... Савецкая Беларусь зноў стала арэнай барацьбы і разбурэння. Заключыўшы з Пятлюрам ваенна-палітычны саюз, Пілсудскі ў красавіку 1920 года перайшоў у наступленне і захапіў Кіеў, Мазыр, Рэчыцу і іншыя гарады. У Беларусі і на Украіне пачаліся генеральныя баі, якія прывялі да разгрому белапольскіх армій.

У пачатку чэрвеня 1920 года, расказвае аўтар, перайшоў у контрнаступленне Паўднёва-заходні фронт. 19-я конная армія на чале з К. Варашылавым і С. Будзённым прарвала пад Казацінам белапольскі фронт і ўдарыла ў тыл 3-й польскай арміі. Пераходзяць у наступленне 12-я і 14-я арміі, яны вызваляюць правабярэжную Украіну.

2-гі Каўказскі конны корпус, якім камандаваў Гая Гай, улетку 1920 года знаходзіўся ў глухім гарадку Цемлюку. Але і сюды даносіліся водгукі падзей на Заходнім фронце. Усе газеты пачалі выходзіць з заклікамі «На Заходні фронт!..» Байцы корпуса радасна адгукнуліся на гэты заклік — «Даеш Заходні фронт!» Камуністы і камсамольцы з Беларусі і Украіны, як адзін, запісаліся ў дзеючую армію.



**Змітро Карапетавіч Бжышкян — бацька Гая. 1920 г.**

Неўзабаве была атрымана тэлеграма ад камандуючага Заходнім фронтам Тухачэўскага:

«Дарагі Гая. Перавод штаба корпуса на Заходні фронт вырашан станоўча. Хутчэй збірайцеся...»

Неўзабаве на захад пайшлі воінскія эшалоны. У Смаленску Гай сустрэў сваіх непасрэдных начальнікаў Мяснікова і Тухачэўскага. З імі, пасля перамогі над белачэхаславакамі і Калчаком, завязаліся таварыскія ўзаемаадносіны. Тут начальнік палітычнага Упраўлення Заходняга фронту тав. Мяснікоў забяспечыў корпус літаратурай на беларускай і польскай мовах і даў добрых палітработнікаў-беларусаў. Неўзабаве быў атрыманы загад:

«Тэрмінова сфарміраваць у раёне Дзісны 3-ці конны корпус і быць гатовым у пачатку ліпеня прарваць польскі фронт».

24 чэрвеня 1920 года корпус Гая быў ужо ў Полацку. У ім налічвалася каля чатырох тысяч шабляў, і складаўся ён з дзвюх невялічкіх кавалерыйскіх дывізій, якія не мелі тылоў. Не было ў корпусе спачатку палітычных часцей, трыбунала. Давялося расфарміраваць прыбыўшы на Заходні фронт штаб Прыуральскай асобай брыгады, стварыць з яго органы кіраўніцтва для дывізіі.

Праціўнік быў добра ўзброены, забяспечаны і арганізаваны, а корпус Гая не меў ні самалётаў, ні танкаў, ні цяжкай артылерыі, ні патрэбнай колькасці кулямётаў і боепрыпасаў.

У адной з кавалерыйскіх дывізій было больш за тысячу чалавек без коней. Давялося паслаць байцоў у вёскі, мабілізоўваць падводы для арміі.

Гай улічваў усе абставіны і таму дбаў не толькі пра баявую гатоўнасць корпуса, але і пра харчовае забеспячэнне. Начальнікам забеспячэння ў яго быў пастаўлены выпрабаваны баец Калінін, а начальнікам харчовай камісіі Крапатніцкі.

Бацька Гая, былы настаўнік Змітро Бжышкян, які меў на той час 56 гадоў, быў побач з сынам на фронце і нямала клапаціўся, каб забяспечыць чырвонаармейскія часці прадуктамі.

Гай у сваёй кнізе падкрэслівае вялікую ролю кампалітсастава корпуса, якія арганізоўваў і вёў у бой слаўных байцоў — пуцілаўскіх і ўральскіх рабочых, кубанцаў, данцоў, каўказцаў, рабочых і сялян Беларусі.



Начальнікам штаба корпуса быў неадлучны баявы таварыш Гая па Усходнім, Паўднёвым і Каўказскім франтах Эдуард Вілумсан. Гэты адважны чырвонагвардзеец, латыш па нацыянальнасці, зрабіў вельмі многа для згуртавання часцей, тылоў і штабаў.

3-га ліпеня 1920 года фарміраванне корпуса закончылася. Ён меў у сваім саставе 4097 шабель, 46 станковых кулямётаў і 20 гармат.

Раёнам дзеяння корпуса намячаліся паўночныя вобласці Усходняй і Заходняй Беларусі, Ломжынская і Плоцкая губерні. Раён абмяжоўваўся з усходу ракой Заходняя Дзвіна, з поўначы — граніцай Латвіі, Літвы і Германіі (Усходняя Прусія), з поўдня — чыгункай Полацк — Ліда — Беласток — Варшава і з захаду — ракой Вісла. Ён меў плошчу 1000 км даўжыні на 90 км шырыні. Тут было шмат лясных і водных перашкод, нямала крэпасных умацаванняў.

Сяляне і парабкі панскіх маёнткаў памагалі Чырвонай Арміі граміць варожыя крэпасці. У рады Чырвонай Арміі шырока ўлівалася рабочая і сялянская моладзь. У тыле ворага пачалі дзейнічаць партызанскія атрады. Вялікай сілай валодалі падпольныя брашуры і адозвы, якія распаўсюджваліся ў акупіраваных мясцовасці.

Вось адна з вогненных лістовак, якая апублікавана ў кнізе Гая:

«Рабочая моладзь горада! Твая задача разбурыць тыл белагвардзейцаў. Ты павінна перашкаджаць руху паяздоў, псаваць масты, дарогі, рваць тэлеграфныя правады, весці агітацыю сярод польскіх легіянераў, распаўсюджваць камуністычную літаратуру.

Сялянская моладзь! Твой шлях у чырвоныя партызанскія атрады, якіх ужо многа на Беларусі. Геройчнымі налётамі мы павінны сеяць паніку ў радах белых. Няхай пад моцнымі ўдарамі Чырвонай Арміі на фронце, рабочых і сялян разам з працоўнай моладдзю ў тыле падзе нянавісны прыгнёт паноў і заззяе новае сонца, сонца для працоўных.

Няхай загрыміць на ўсёй Беларусі: даволі цярпець, даволі паноў, памешчыкаў і фабрыкантаў! Далоў прыгнёт і гвалт! Няхай жыве вызваленне рабочых і сялян Беларусі!

Няхай жыве Савецкая Беларусь!»

Раніца 4 ліпеня. За шэсць кіламетраў ад лініі фронту сканцэнтраваліся палкі 3-га коннага корпуса. Яны сабраліся на ўсходняй ускраіне вёскі Забалоцце. У панскім маёнтку Грыгаровічы знаходзіўся палявы штаб корпуса. Адгэтуль і выехаў на аўтамабілі Гая Гай да сваіх байцоў, каб сказаць ім гарачае слова перад боем.

Камандзіры Матузенка і Томін пастроілі свае часці, каб заслухаць загад камандуючага Заходнім фронтам Тухачэўскага. Гай садзіцца на каня і разам з начальнікам штаба корпуса Вілумсанам пад'язджаюць да выстраеных палкоў.

— Чырвоныя арлы, баявыя паплечнікі, байцы, палітработнікі і камандзіры! — пачуўся мужны і палымяны голас Гая. — Ці магу я ад вашага імя абяцаць Савецкай краіне і таварышу Леніну, што 3-ці конны корпус з гонарам выканае ўскладзеную на яго цяжкую задачу?! Ці магу я тэлеграфаваць Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Беларусі, што байцы корпуса абяцаюць узяць Свянцяны, Вільна, Гродна?..

Магутным голасам азвалася жалезная фаланга чырвонай конніцы:

— Ёсць! Даеш Свянцяны! Даеш Вільна! Даеш Гродна! Ура! Ура! Ура!

Гарматныя залпы скалыхнулі зямлю. Пачалася артылерыйская падрыхтоўка.

Гісторыя грамадзянскай вайны яшчэ не ведала ў той час такіх выпадкаў, каб на адным кіламетры фронту было сканцэнтравана 48 гармат. Такая шчыльнасць артылерыйскага агню пасеяла паніку ў радах праціўніка і ўзняла ў чырвоных коннікаў веру ў магутнасць нашай арміі, упэўненасць у перамогу.

Гай на кані мчыцца алюрам да лініі фронту. Праз сваіх ардынарцаў Хачо (Хачатуран) і Цітаева ён трымае сувязь з камандзірамі.

У памешчыцкім маёнтку Дрэгучы, за тры кіламетры ад ворага, ён па тэлефоне звязваецца з камбрыгам Пядышавым і выслухоўвае яго меркаванні адносна атакі.

Пядышаў дакладвае, што выступае двума палкамі: адным — на ўмацаваны вузел Дрэгучы, другім — лявей. У рэзерве ён пакідае два батальёны. З лесу кулямётныя роты, заняўшы флангавыя пазіцыі, вядуць скрыжаваны агонь па акопах праціўніка.

Пядышаў просіць сканцэнтраваць артылерыйскі агонь па ўмацаваным вузле Дрэгучы, дзе знаходзіцца моцна ўзброены 33-ці Ломжынскі пяхотны полк, а правей — 13-ы пяхотны полк.

Гай ухваляе план бою і мчыцца да лесу, на паўночны захад вёскі Забалоцце. Вось-вось павінны кінуцца ў атаку жалезныя палкі корпуса. Сваёй прысутнасцю ў самым небяспечным месцы Гай гартуе смеласць байцоў, вучыць іх адданасці вялікай справе.

Кідаецца ў атаку 164-я брыгада. Таварышы Пядышаў і Чакалаў павялі 491-ы полк у штыкавы бой і пасля энергічнай атакі ўзялі ўмацаваны вузел Дрэгучы.

У 16 гадзін 30 мінут у неба ўзляцела чырвоная ракета — сігнал для наступлення конніцы.

Узнімаюцца слупы пылу. Хваля коннікаў імчыцца на захад. Зіхацяць на сонцы шаблі. Праціўніку не даюць апамятацца.

Да 22 гадзіны галоўныя сілы корпуса прайшлі з боем 25—28 кіламетраў і апынуліся на лініі ракі Заходняя Дзвіна, каля вёскі Павяцце, а ўжо досвіткам пранікаюць далёка ў тыл, выбіваюць ворага, які груціраваўся ў раёне Германавічы—Шаркаўшчызна.

Белапольскі фронт быў прарваны з першага ўдару. Не памаглі ні старыя нямецкія акопы, ні драцяныя загароджы. Не стрымалі конніцу ні лясы, ні рэкі, ні балоты.

Досвіткам 9 ліпеня часці 10-й кавалерыйскай дывізіі ўзялі Свянцяны. Адгэтуль быў нанесены маланкавы ўдар на Нова-Свянцяны, і ўся свянцянская група праціўніка была разбіта. За гэтую аперацыю Г. Гай быў узнагароджаны другім ордэнам Чырвонага Сцяга.

Чырвоную Армію ўсюды віталі працоўныя, для іх яна была роднай і чаканай.

Гая Гай расказвае пра сустрэчу з сялянамі вёскі Сестрыцы каля возера Дрысвяты.

— Як завецца ваша вёска?
— Сестрыцы завецца.
— Беларуская?
— Беларуская. Мы ўсе беларусы.
— А палякі ёсць?
— Не, няма.
— А чырвоныя былі ў вас?
— Ды не, не былі. Кажуць, далёка.
— Ну, як далёка?
— Ды гэтак вёрст 80—100 будзе. Пад Полацкам, ці што...
— Ды як жа пад Полацкам? Мы ж чырвоныя, прыехалі да вас у госці.

Радасці і трыумфу не было канца.

Легендарны камандзір Гая Гай не толькі валодаў шабляю і талентам палкаводца. Ён меў і талент пісьменніка, напісаў нямала прац пра імперыялістычную і грамадзянскую войны. Яго пяру належаць шматлікія мастацкія нарысы, апавяданні, аповесці. Гая Гай у дваццатыя гады быў нават абраны намеснікам старшыні асацыяцыі армянскіх пралетарскіх пісьменнікаў. Ён цікавіўся развіццём савецкай літаратуры, чытаў творы многіх беларускіх пісьменнікаў у арыгіналах.





Камсамолец Вася.

У дзень 30-годдзя літаратурнай дзейнасці нашага народнага паэта Янкі Купалы 28 мая 1935 года Гая Гай прысылае яму шчырую і цёплую тэлеграму. Перад гэтай урачыстасцю Я. Купала атрымаў ад Гая бандэроль з кнігамі, сярод якіх была аповесць «Камсамолец Вася».

Беларускі камсамолец Вася — гэта не выдуманы герой. У гранках кнігі «У баях за Савецкую Беларусь» ёсць фота гэтага юнака. На вялікую бяду, прозвішча разведчыка Васі забыта. Справа ў тым, што многія архіўныя дакументы 3-га корпуса загінулі. У палявой сумцы Гая знайшлося толькі фота гэтага адважнага байца, ды ўцалелі біяграфічныя звесткі пра яго.

Вось адзін з дыялогаў, змешчаных у кнізе, які характарызуе юнага байца:

«— Я, таварыш камкор, са Стоўбцаў. Працаваў у камсамольскіх арганізацыях Беларусі. Па мабілізацыі ЦК камсамола папаў у ПУЗАХ *...

— Якой ты нацыянальнасці і ці ведаеш польскую мову?

— Я, таварыш камкор, беларус, але добра ведаю польскую мову».

Гая Гай дае Васю адказнае даручэнне — прабрацца ў тыл праціўніка, падрабязна даведацца, што там робіцца, устанавіць колькасць гарнізонаў, назвы палкоў, іх састаў, праведаць пра масты праз раку Вілію і пра становішча ўмацаванняў.

Вася ў хуткім часе прыносіць важныя звесткі, і камкор Гай прадстаўляе яго да ўзнагароды ордэнам Чырвонага Сцяга.

На рацэ Віліі досвіткам 14 ліпеня разгарэўся бой. Генерал Баршчук сканцэнтраваў усе сілы вакол Вільні і заўзята абараняўся.

У адной з сутычак пад Васем быў забіты конь, і Вася ўпаў у варожы акоп. Але і тут ён не разгубіўся: выхапіў рэвальвер і абяззброіў польскіх салдат. Абапіраючыся на вінтоўку, ён суправаджаў разам з іншымі чырвонаармейцамі палонных.

Па дарозе яго сустрэў камкор Гай і даў распараджэнне выдаць герою каня. Вася разам з камкорам урываецца ў Вільню. Следам за імі мчыцца дванаццацігадовы хлапчук Ашот, родны брат Гая. Тут жа быў і іхні бацька Змітро.

На адной з Віленскіх вуліц падае забіты ручной гранатай Васеў конь. Зваліўся забіты і конь камкора. Вася смяртэльна ранены.

Камкор прыціснуў да грудзей акрываўленага юнака і выкрыкнуў:

— Васютка, родны мой, ачніся!..

У гэты ж дзень ляціць у Маскву тэлеграма:

> «Сёння ў 12 гадзін дня перадавыя часці корпуса ўварваліся ў Вільню. Пасля 8-гадзіннага кровапралітнага бою, пад асабістым кіраўніцтвам камкора, горад Вільня ўзят.
> 14 ліпеня 1920 года. № 850.
> Начальнік штаба корпуса Вілумсан.
> Ваенком Паверман».

15 ліпеня ў гарадскім садзе быў пахаваны Вася.

* Палітычнае Упраўленне Заходняга фронту.



Камкор Гай.

На невялічкай дошцы выразнымі літарамі напісана:

«Цішэй, таварышы.
Тут спачывае цела 18-гадовага юнака — беларускага камсамольца Васі, паўшага за свабоду і шчасце ўсіх працоўных».

Праз пяць дзён пасля працяжнага бою, быў вызвалены горад Гродна. Коннікі Гая ўзялі ў палон больш за тысячу чалавек пяхоты, тры танкі, шмат кулямётаў, дзве дальнабойныя і чатыры лёгкія гарматы і адбілі 500 палонных чырвонаармейцаў.

3-ці конны корпус пад камандаваннем Гая за 50 дзён прайшоў з беспярапыннымі баямі 810 кіламетраў, фарсіраваў без спецыяльных інжынерна-тэхнічных сродкаў рэкі Нараў, Нёман і Віслу. За гэты час ён вытрымаў 20 буйных і 35 дробных баёў з ворагам, знішчыў восем тысяч і ўзяў у палон трынаццаць тысяч варожых салдат і афіцэраў, захапіў вялікія трафеі. Апрача Вільні і Гродна, былі ўзяты гарады Ломжа, Плоцк, 35 павятовых гарадоў і мястэчак, восем крэпасцей.

Побач з рускімі, беларусамі, армянамі, украінцамі, татарамі і башкірамі ішлі ў бой і армейцы інтэрнацыянальнага палка 15-й кавалерыйскай дывізіі.

Эскадрон польскіх чырвоных легіянераў не раз смела кідаўся ў крывавыя атакі. Камандзір гэтага эскадрона Дамброўскі загінуў смерцю храбрых на полі бітвы пад Харжэле.

Каб падтрымаць буржуазію і памешчыкаў Польшчы, імперыялісты прапанавалі ім шчодрую дапамогу. Толькі Францыя прыслала белапольскай арміі звыш 300 самалётаў, 2000 гармат, 3000 кулямётаў. У Польшчу прыязджаў для інструктажу войск адзін з галоўных арганізатараў інтэрвенцыі, вядомы ваенны дзеяч, маршал Францыі Фердзінанд Фош.

Чырвоныя ж байцы мелі старую, а некаторыя толькі трафейную зброю. Тылавыя часці не мелі ў запасе ні фуражу, ні прадуктаў харчавання, ні боепрыпасаў.

Вялікую перамогу не ўдалося адразу замацаваць. Пасля некалькіх жорсткіх баёў корпус Гая вымушаны быў перайсці граніцу Германіі, дзе адразу ж быў інтэрніраваны.

Толькі ў кастрычніку 1920 года часці 3-га коннага корпуса вярнуліся на Радзіму і зноў змаглі прадаўжаць бітву супраць ворагаў рэвалюцыі.

3-га ліпеня 1935 года прафесар Ваенна-паветранай акадэміі імя Жукоўскага Гая Змітравіч Гай выступае перад шырокай аўдыторыяй у Мінску. Яго прамова шмат разоў перапыняецца бурнымі воплескамі.

«Мабыць, пасля выступлення Гая перад народам горада Ульянаўска ў 1932 годзе, — пісала нядаўна ў адным лісце да мяне жонка былога камандзіра корпуса Наталля Румянцава-Гай, — такога яго выступлення я не чула...

Гая Гай, — расказвае яна далей, — горача любіў беларускі народ, рад быў сустрэчы з беларусамі, сярод якіх было шмат яго былых байцоў. Менавіта гэта радасць сустрэчы, любоў да байцоў 3-га коннага корпуса і ўпрыгожыла выступленне Гая».

У апошняй прамове палкаводца ў Мінску прагучала вялікая радасць, што сцягі яго корпуса не заплямлены і ўцалелі, што яго корпус аднаўлены.

На працягу пятнаццаці год легендарны палкаводзец Гай быў звязаны з нашай рэспублікай. Ён выбіраўся дэлегатам V з'езду і VI Надзвычайнага з'езду Саветаў, быў членам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР.

Гая Змітравіч Гай памёр у 1937 годзе. Яго светлае імя назаўсёды будзе ў памяці народнай.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**

# ПЕРШЫ НАРОДНЫ МІТЫНГ

Запявалами рэвалюцыйных падзей 1905 года ў Мінску былі чыгуначнікі. Пачынаючы з 12 кастрычніка мітынгі чыгуначнікаў адбываліся штодзённа. Да іх далучаліся прамысловыя рабочыя, навучэнцы. Гэтыя мітынгі шырока выкарыстоўваліся бальшавікамі для вядзення масавай агітацыі. Паліцыя з трывогай даносіла, што бальшавікі «сваімі прамовамі ўнеслі палітычны характар ва ўсе сходкі».

17 кастрычніка ў горадзе на вуліцах узнікалі сходкі, гучалі рэвалюцыйныя заклікі да знішчэння самаўладства. Увечары губернатар Курлоў атрымаў шыфраваную тэлеграму аб царскім маніфесце, але аддаў распараджэнне «звестак аб гэтай тэлеграме нікому не даваць і яе не друкаваць». Аднак раніцою пра гэта разнесліся чуткі па горадзе. На вуліцах узнікалі натоўпы. Людзі накіраваліся да вакзала, дзе павінен быў распачацца мітынг чыгуначнікаў. Тут стоўпілася шмат народу, і зала трэцяга класа, дзе было дазволена правесці мітынг, не магла ўмясціць усіх яго ўдзельнікаў.

Мітынг перанеслі на плошчу. Старшыня мітынга, служачы Лібава-Роменскай чыгункі П. Жаба зачытаў царскі маніфест, які быў сустрэты з адкрытым недаверам і варожасцю. Як сведчыў жандарскі палкоўнік, чытанне маніфеста суправаджалася «непрыстойнымі воклічамі, звернутымі да асобы гасудара імператара».

Чыгуначны тэхнік Гамзагурда, які выступіў на мітынгу з прамовай, прапанаваў: «Для таго, каб упэўніцца ў шчырасці ўрада, ці не падманвае ён і на гэты раз, згодна сэнсу маніфеста, накіравацца да губернатара і прасіць вызваліць усіх палітычных зняволеных». Гэтая прапанова была горача падтрымана і выбрана дэлегацыя з дванаццаці чалавек. Натоўпы людзей праводзілі дэманстрантаў аж да самага дома губернатара.

Здавалася, што павеяла ветрам свабоды. Па распараджэнню губернатара былі вызвалены пятнаццаць палітычных вязняў. Разам з вызваленымі велізарны натоўп рухаўся па вуліцы, спяваючы «Марсельезу». Па дарозе да іх далучылася група рабочых. Успыхнулі полымем чырвоныя сцягі. Гэта было хвалюючае відовішча. Сустрэчныя, убачыўшы шэсце з чырвонымі сцягамі, здымалі шапкі...

А на плошчы ўжо вірыў народны мітынг. Сюды ішлі дэманстранты з чырвонымі сцягамі. Вызваленых сяброў-рэвалюцыянераў неслі на руках. Іх сустрэлі авацыяй, воклічамі: «Ура!», «Няхай жыве свабода!» Незнаёмыя людзі плакалі ад шчасця, абдымаліся. Народ святкаваў сваю першую перамогу над ненавісным самаўладствам.

Старшыню дэлегацыі данеслі на руках да трыбуны. Прамоўцы змяняюць адзін другога. Яны заклікаюць не спыняць барацьбы, выкрываць ілжывасць царскага маніфеста. Усе прамовы заканчваюцца заклікамі: «Далоў самаўладства!», «Няхай жыве рэспубліка!» У адказ нясуцца ўсхваляваныя воклічы «ура!»

Бальшавікі, які абвясціў заклік да знішчэння самаўладства, падхапілі на рукі. А людзі ўсё прыбывалі...

Не краталіся з месца толькі рамізнікі на ўскраіне плошчы. У карэтах сядзелі паны, дамы з дзецьмі. Яны ўтрапёна назіралі за тым, што робіцца на плошчы. Адсюль даносіліся крыкі: «Далоў чырвоныя сцягі!» У адказ крычалі: «Далоў чорную сотню!» «Далоў паліцыю!..»

На плошчы і на вакзале стаялі салдаты Окскага палка, якія сачылі за ўсімі падзеямі са спачуваннем і пільнай увагай. Пачалося братанне з войскам. Людзі падхоплівалі на рукі афіцэраў, з крыкамі «ўра!» адносілі да трыбуны і ставілі пад чырвоны сцяг. Афіцэры падавалі адзін аднаму рукі і цалаваліся.

То там, то тут натоўп з крыкамі «ўра!» падкідваў на руках салдат; рабочыя падыходзілі да вартавых, што стаялі з вінтоўкамі ля ўваходу ў вакзал і агітавалі іх, каб кідалі вінтоўкі...

Убачыўшы гэта, начальнік аддзялення жандарска-паліцэйскага ўпраўлення чыгунак падпалкоўнік Марчанка загадаў салдатам, каб стралялі ў натоўп. Але салдаты адмовіліся выканаць загад.

У гэты час па загаду жандарскага палкоўніка Вільдамана-Клопмана пачалася перакідка войск да вакзала. Прыбылі дзве роты салдат. Адна размясцілася з правага боку плошчы, а другая — на платформе, фронтам да вакзала. У вінтоўках — баявыя патроны...

Старшыня мітынгу П. Жаба, убачыўшы гэта, аб'явіў мітынг закрытым і прапанаваў прайсціся па горадзе дэманстрацыяй. Толькі народ пачаў разыходзіцца, як грымнулі стрэлы. Узняліся крыкі, людзі кінуліся наўцёкі. Многія падалі на зямлю, а стрэлы ўсё грымелі.

Плошча апусцела. На ёй засталіся толькі забітыя і параненыя.



**Ісак Давідовіч. Эскіз да карціны «Курлоўскі расстрэл».**

Азвярэлыя салдаты стралялі ў раненых, якія курчыліся на плошчы, просячы дапамогі, стралялі і па тых, хто імкнуўся ім памагчы. Каля ўпраўлення 4-й паліцэйскай часці гарадавыя зрабілі засаду і расстрэльвалі людзей, якія беглі з плошчы.

Як выявілася пасля, Курлоў аддаў загад паліцыі перабіць усіх дэлегатаў, якія былі ў яго з патрабаваннем амністыі палітычным вязням. Старшыня чыгуначнага забастовачнага камітэта І. І. Метлін выпадкова выратаваўся ад расстрэлу: яго схаваў вартаўнік Пашкоў.

У гэтай крывавай расправе было забіта восемдзесят і паранена трыста чалавек. Дэлегацыі, якая накіравалася пасля расстрэлу да губернатара, было заяўлена, што «стралялі па яго прадпісанню» і што ён загадае страляць кожны раз, калі будуць наладжваць дэманстрацыі.

* * *

Крывавая расправа не зламала волі працоўных да барацьбы. У горадзе адбываецца кансалідацыя рэвалюцыйных сіл. Для кіраўніцтва рэвалюцыйнай барацьбой з царызмам быў створаны кааліцыйны савет. На мітынгу чыгуначнікаў была аднадушна падтрымана рэзалюцыя з патрабаваннем неадкладна выдаліць губернатара Курлова і прыцягнуць да суда ўсіх вінаватых у падзеях 18 кастрычніка, распусціць паліцыю, выдаліць з горада казакаў, гарантаваць свабоду сходаў і іншае.

20 кастрычніка адбылося пахаванне ахвяр курлоўскага расстрэлу. Яно ператварылася ў грандыёзную дэманстрацыю. Мінскія бальшавікі звярнуліся да народа з заклікам, які быў выпушчаны асобнай лістоўкай. «Няхай кроў забітых пры царскай свабодзе,— пісалася ў ёй,— навучыць жывых разумець і змагацца за сапраўдную свабоду, за канчатковае знішчэнне самаўладства... Паўстаньце, бярыцеся за зброю!.. Далоў самаўладства! Няхай жыве рэвалюцыя!»

Усенародны гнеў і абурэнне вымусілі загаварыць і гарадскую думу. У сваім звароце да главы ўрада Вітэ яна патрабавала расследаваць і пакараць вінаватых, сярод якіх быў названы і генерал Курлоў. Старшыня акруговага суда ў тэлеграме міністру юстыцыі таксама настойваў на ўсебаковым расследаванні крывавых падзей. Тэлеграмы главе ўрада былі накіраваны ад агульнага сходу прысяжных паверaных і іх памочнікаў. Ад імя чыгуначнікаў старшыня мітынгу П. Жаба настойваў, каб гэтую справу строга расследавалі, адхілілі губернатара і асудзілі вінаватых.

Рашучы пратэст заявіла губернская пракуратура, асабліва губернскі пракурор Бібікаў, які перад гэтым быў прызначаны ў Мінск. У расследаванне было ўцягнута трыста чалавек. Яно вялося пад кіраўніцтвам шасці таварышаў пракурора.

Сабраны пракурорскім наглядам матэрыял неабвержна даводзіў, што галоўным віноўнікам крывавай бойні быў губернатар Курлоў. Дэпартамент паліцыі, атрымаўшы копію ўсіх абвінавачых матэрыялаў, выклікаў Курлова ў Пецярбург. Губернатар і не адмаўляў сваёй ролі ў крывавай трагедыі, але абвінавачваў ва ўсім натоўп. Між тым, у аснову ўрадавага паведамлення аб расстрэле мітынгу ў Мінску 18 кастрычніка 1905 года былі пакладзены фальсіфікаваныя паказанні Курлова.

Тайны саветнік Марозаў, які быў камандзіраваны для расследавання расстрэлу, стаў на бок губернатара. Акруговы пракурор Бібікаў быў звольнены. З усіх вінаватых у расстрэле толькі гарадавы Якубовіч быў асуджаны на тры гады і аддадзены ў арыштанцкае аддзяленне. Але праз некалькі тыдняў яго «высочайше» памілавалі і адклікалі ў Пецярбург для службы ў войсках царскай аховы.

Прыцягнуты ўрадам да адказнасці «за перавышэнне ўлады», Курлоў пасля месячнага адпачынку вярнуўся ў Мінск, у сваю рэзідэнцыю.

Вяртанне губернатара і ўступленне яго на пасаду ўсхвалявала ўвесь горад, асабліва чыгуначных служачых. Яны пачалі рыхтаваць забастоўку.

**Уладзімір ЦІТОК.**

# СЛОВЫ НА ДАРОГУ

Сёлетні выпуск Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (я маю на ўвазе мастацкае аддзяленне), бадай, самы вялікі. Больш трыццаці жывапісцаў, скульптараў, графікаў, тэатральных дэкаратараў паспяхова абаранілі дыпломныя работы, атрымалі пуцёўкі ў жыццё. Стала добрай традыцыяй адзначаць работы дыпломнікаў інстытута ў часопісе «Маладосць», друкаваць рэпрадукцыі з іх карцін, малюнкаў, скульптур і, такім чынам, як бы выстаўляць на ўсеагульны прагляд першыя творы мастакоў.

Вядома, не ўсе выпускнікі аднолькава таленавітыя, не ўсе аднолькава валодаюць сваім майстэрствам. Але кожны з іх у абраным для дыпломнай работы творы паказаў свае адносіны да акаляючага свету, кожны падзяліўся хваляваннем сваіх герояў, даў магчымасць у той ці іншай ступені меркаваць аб узроўні свайго майстэрства, аб тых патэнцыяльных магчымасцях, якія закладзены ў яго таленце.

Можна смела сказаць, што выпускнікі за гады вучобы ўзбагаціліся ведамі. Інстытут памог іх таленавітым рукам набыць уменне пісаць і маляваць, вачам адкрыў шырокія гарызонты мастацкага светаўспрымання самых разнастайных з'яў, памог сфармаваць правільны светапогляд.

У мінулым нумары часопіса ўжо былі змешчаны рэпрадукцыі дыпломных работ выпускнікоў. Чытач, напэўна, звярнуў увагу на серыю плакатаў Юрыя Нікіфарава. Гэта адзін з таленавітых і цікавых мастакоў. Упершыню за дваццаць год існавання інстытута вучоны савет датэрмінова дапусціў Юрыя Нікіфарава да абароны дыплома.

Дастаткова аднаго, нават беглага позірку на серыю яго плакатаў — тэатральных афіш, каб сказаць, што Юрый Нікіфараў дасціпны майстар, які валодае добрым густам, умее знайсці трапныя дэталі для раскрыцця ідэйна-мастацкай задумы твора.

У штодзённым жыцці мы не аднойчы сустракаемся з тэатральнымі афішамі, якія нічога не гавораць аб самім драматычным творы. Ёсць і такія афішы, якія сказаюць сутнасць твора, выцягваючы на паверхню другараднае, неабавязковае, але затое інтрыгуючае. Юры Нікіфараў выбраў іншы шлях. Яго афішы-плакаты перадаюць асноўны ідэйны змест твора, глыбока раскрываюць задуму п'есы.

Звярніце ўвагу хоць бы на такую знаходку ў афішы да п'есы Бертольда Брэхта «Швейк у другой сусветнай вайне». Адной рукой бравы салдат салютуе, а другой падпальвае фашысцкі ваенны штандар, зроблены з крыклівых гебельсаўскіх газет.

Можна ўявіць, колькі спакус стаяла перад маладым мастаком, калі ён чытаў гэты твор. Кожная з «прыгод» Швейка, як кажуць, клалася на паперу. Але тады афіша ілюстравала б не ўвесь твор, а толькі нейкі эпізод з яго. А Юрыю Нікіфараву трэба было раскрыць задуму ўсяго твора, яго асноўную ідэю. І ён знайшоў вырашэнне гэтай складанай задачы.

Разгледзім яшчэ адну афішу — да спектакля «Цэзар і Клеапатра» па п'есе Бернарда Шоу. Тут аўтарская задума раскрыта надзвычай лаканічна і проста. Адна палова твару імператара застылая, мармуровая — гэта для гісторыі, другая — жывая, з гамай чалавечых пачуццяў і страсцей — гэта для сучаснікаў. Але іменна такога Цэзара і паказаў вялікі драматург — яго цікавіў не традыцыйна-гістарычны імператар, а жывы чалавек, зведзены з мармуровага п'едэстала гісторыі.

Такія ж цікавыя знаходкі ёсць і ў астатніх плакатах. У кожным з іх б'е жывая думка, у кожным адчуваецца творчы падыход мастака да сваёй работы.

Вялікую смеласць трэба было мець, каб для дыпломнай работы выбраць матэрыял, які не вывучаўся ў інстытуце. Анатоль Зайцаў аказаўся такім смельчаком. Ён выбраў для дыплома тэхніку тарцовай гравюры. У Беларусі гэта першы вопыт такой работы.

Кніга «Беларускія прымаўкі», уключаючы ўсё афармленне, ад каляровай мажорнай вокладкі да філіграннай канцоўкі, ад літары да арнаментальнай застаўкі,— вырашана як адзіны цэльны твор. Шрыфт тут арганічна ўваходзіць у мастацкую тканіну, малюнкі ўзбагачаюць і своеасабліва трактуюць народныя прымаўкі. У кнізе ўсё знітавана, усё падпарадкавана агульнай задуме. Работы Анатоля Зайцава графічныя і адначасова манументальныя ў лепшым сэнсе гэтага слова.



Андрэй Палуян. З ілюстрацый да кнігі Алеся Бажко «Позняе ворыва».

Выпускнік інстытута Андрэй Палуян ілюстраваў аповесць Алеся Бажко «Позняе ворыва». Магчыма залішне ўважлівае, нават скрупулёзнае следаванне за аўтарам дало магчымасць мастаку раскрыць рад істотных бакоў своеасаблівых характарыстык герояў. Але тут, напэўна, мастака падсцерагала і небяспека — ілюстрацыі без тэкста наўрад ці будуць успрымацца як самастойны мастацкі твор.

Каб ілюстраваць кнігу, патрэбна яшчэ вострая мова малюнка, трапнасць знойдзеных дэталей, якія памаглі б чытачу раскрыць задуму аўтара, яго непаўторнасць і арыгінальнасць.

Трэба адзначыць таксама цікавыя работы графікаў-станкавістаў Георгія Скамарохава, Уладзіміра Кузьменкі і Віктара Шрамякова.



Віктар Шрамякоў. З серыі эстампаў «На марскіх рубяжах».

Кожны з іх па-свойму вырашае ўзятую тэму, але ёсць у іх і штосьці агульнае: пільная ўвага да сённяшняга дня. Добра і тое, што мастакі вырашаюць тэму сённяшняга дня вобразна, ярка, пераканаўча.

Па адзінадушнай думцы найбольш цікавымі былі эскізы дэкарацый Марыі Кургановіч, якая выбрала для дыплома драму Ібсена «Пер Гюнт», Аляксандра Салаўёва (эскізы да оперы Пракоф'ева «Вайна і мір»), Ігара Крэйдзіка (эскізы да оперы «Яснае світанне»). Выдатную ацэнку атрымалі таксама эскізы Лілі Свабоды да оперы «Аіда» і аперэты «Дамы і гусары».

Своеасаблівым творчым падыходам да твораў беларускіх кампазітараў вызначаюцца эскізы Анатоля Агафоненкі да оперы Пукста «Машэка», а таксама работы Германа Важнова да оперы Лукаса «Кастусь Каліноўскі».

Сярод выпускнікоў інстытута пачэснае месца займае група скульптараў. Восем выпускнікоў абаранілі свае работы і, несумненна, у недалёкім будучым праявяць свае здольнасці. Хочацца гаворку пра скульптараў распачаць з рабочай мадэлі статуі «Скарына». Шматгадоваму пошуку тэмы для дыпломнай работы ў выпускніка Уладзіміра Хмызнікава папярэднічала курсавая работа на тую ж тэму. На шостым курсе Уладзімір Хмызнікаў зноў бярэцца за работу над скульптурай «Скарына».

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ



**Ігар ГРЫГАРОВІЧ** нарадзіўся ў г. Мінску ў 1936 годзе ў сям'і ўрача. Жыццё склалася так, што Ігарава сям'я апынулася ў Малдавіі. Скончыўшы сярэднюю школу, юнак паступае на хімічны факультэт Кішынёўскага ўніверсітэта. У студэнцкія гады яго захапляе жывапіс. У 1957 годзе Ігар становіцца вольным слухачом Кішынёўскага мастацкага вучылішча. Вялікая любоў да малюнкаў і жывапісу была заўважана настаўнікамі, і ў наступным годзе юнака залічваюць у вучылішча. Ігар Грыгаровіч адначасова абараняе дыпломы ва ўніверсітэце і ў мастацкім вучылішчы. Ён вырашае вучыцца далей і паступае ў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Праз пяць гадоў Ігар Грыгаровіч канчае інстытут. Дыпломная работа яго называецца: «У лабараторыі». Тэма гэтая нарадзілася, мабыць, яшчэ ў гады ўніверсітэцкай вучобы.



Вывучыўшы не вельмі вялікі іканаграфічны матэрыял, прачытаўшы літаратуру аб Скарыне і творы самога Скарыны, Хмызнікаў вырашыў стварыць манумент заснавальніку беларускай навукі. Гэта, вядома, высакародна, але накладае на мастака вялікую адказнасць. Аддаючы даніну таленавітасці аўтара і яго адданасці вялікай тэме, хочацца звярнуць увагу маладога скульптара на адзін вельмі істотны недахоп работы. Ён заключаецца ў тым, што аўтар не дасягнуў арганічнай сувязі ў трактоўцы ўсёй фігуры вучонага. Фігура Скарыны выканана ў сімвалічным, некалькі ўтрыраваным плане, а галава — у бытавым. Адсутнасць адзінага стылявога ключа — не прыватны недахоп. Тут, мабыць, адыграла сваю ролю некрытычнае ўспрыняцце скульптурнай спадчыны. Фігура Скарыны напамінае некаторыя творы армянскіх і грузінскіх монументалістаў. Дарэчы, выдатныя творы армянскіх і грузінскіх монументалістаў былі зроблены з улікам акаляючага пейзажу, як кажуць, «прывязаны» да канкрэтнай мясцовасці. Вядома, тое, што глядзіцца ў гарах, губляецца на раўніне, і наадварот. І скульптару неабходна гэта ўлічваць.

У гэтым сэнсе заслугоўваюць увагі работы выпускнікоў Аляксандра Веліксонава і Паўла Цомпеля. Абодва яны працавалі над стварэннем мемарыялаў: А. Веліксонаў — для Трысцянца, П. Цомпель — для Масюкоўшчыны, дзе ў часе Айчыннай вайны ў лагерах смерці загінулі тысячы савецкіх людзей.

Працуючы разам з архітэктарам Ю. Казаковым і студэнтам пятага курса політэхнічнага інстытута І. Галушкам, яны знайшлі ўдалае кампазіцыйнае рашэнне, якое звязвае манументы з мясцовасцю. Заслугоўвае ўвагі і тое, што малады калектыў распрацаваў арыгінальны спосаб пакрывання жалезабетону каляровай палімернай плёнкай, якая не паддаецца ўздзеянню надвор'я. Такую садружнасць трэба вітаць і падтрымліваць.

У мяккім, лірычным ключы задумана і вырашана чатырохфігурная кампазіцыя Іны Сакалінскай. Непасрэдна ў цэху на радыятарнам заводзе рабіў Канстанцін Сарока свайго «Ліцэйшчыка». Паўфігура маладога рабочага па пластычнаму вырашэнню можа быць добрай заяўкай на будучае.

Малады скульптар Барыс Лазарэвіч вылепіў партрэт паэтэсы Цёткі. Шануючы дапытлівасць, шчырасць, любоў да выбранай работы, хочацца пажадаць Барысу Лазарэвічу большага пранікнення ў глыбіні пластычных магчымас-

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ



**Георгі СКАМАРОХАЎ** нарадзіўся ў 1935 годзе на Стаўрапольшчыне ў сям'і служачага. На вуліцах роднага горада, на беразе ракі, на палявым стане часта можна было ўбачыць хударлявага высокага хлапчука з эцюднікам і пэндзалем. Ён маляваў такіх жа, як сам, хлапчукоў, сівабародых дзядоў і мілыя сэрцу краявіды. За ўдзел у мастацкіх выстаўках ЦК ВЛКСМ узнагароджвае яго Ганаровай граматай.

У 1951 годзе Георгі паступае ў Саратаўскае мастацкае вучылішча, заканчвае яго з выдатнай адзнакай.

Адслужыўшы свой тэрмін у Савецкай Арміі, Георгі Скамарохаў становіцца студэнтам Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. І хоць ён паступіў на аддзяленне станковай графікі, перавагу аддаваў афармленню кніг. Летась на Усесаюзнай кніжнай выстаўцы за афармленне падручніка для малодшых класаў Георгі Скамарохаў атрымаў грамату. Дыпломную работу ён абараніў серыяй графічных лістоў, у якіх расказвае пра жыццё савецкіх людзей, пра іх самаадданую працу.



**Дзмітры Папоў. Чабан. Фрагмент фантана «Пушкін у Малдавіі».**

цей скульптара, большай творчай смеласці.

Не часта даводзіцца сустракацца з такімі дыпломнымі работамі, якія прадставіў Уладзімір Слінчанка. Шасціфігурная добра скампанаваная кампазіцыя «Заслонаў» яскрава сведчыць і аб працаздольнасці скульптара, і аб яго таленавітасці, і аб уменні закончыць задуманую работу на высокім узроўні. Хочацца толькі папярэдзіць аўтара ад некаторай празмернай «зробленасці» асобных дэталей.

Дзмітры Папоў задумаў фантан «Пушкін у Малдавіі». Асобныя дэталі фантана, безумоўна, сведчаць аб добрым гусце аўтара, але яшчэ не зусім зразумела, як аўтар мяркуе закончыць гэтую работу.

Жывапіс прадстаўлен шэрагам работ, адна з якіх ужо друкавалася ў мінулым нумары: «Плытагоны» Васіля Сумарава. Не ўсе творы роўныя. У многіх маладых мастакоў не хапае вопыту, выразнасці задумы. Чатыры карціны: «Воін-вызваліцель» Яўгена Сямёнава, «Партызанская кузня» Леаніда Дробава, «Праводзяць на фронт» Анатоля Бараноўскага і «Першы дзень вайны» Уладзіміра Лагуна аб'ядноўвае адна тэма. Праз раскрыццё псіхалогіі герояў аўтары імкнуцца расказаць пра падзеі Айчыннай вайны.

Паэзіі працоўных будняў прысвечаны карціны Лілі Гарбулінай «Вясна», Ігара Грыгаровіча «У лабараторыі», Вечаслава Цюрына «Рабочая змена» і іншыя. На жаль, жывапіс прайграваё ў параўнанні з другімі жанрамі. Можа таму, што жывапісцы неяк баязліва шукаюць сродкі выразнасці, новыя тэмы, якія ва ўсёй веліччы раскрывалі б духоўны свет савецкага чалавека.

Ад шчырага сэрца хочацца пажадаць былым ужо выпускнікам новых смелых, цікавых работ, якія б занялі дастойнае месца на будучых выстаўках.

**Віктар САХНЕНКА.**

# АГНЁМ СЭРЦА

**«Дарагі сябар! 28 ліпеня жыхары горада Брэста адзначаюць знамянальную дату — дзень вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У вялікім і радасным святкаванні ёсць частка і вашай працы — у гады вайны Вы, несучы смерць фашызму, вызвалілі наш Брэст...».**

**Такія пісьмы пасылаюцца баявым сябрам. Такое пісьмо атрымала і масквічка Соф'я Сяргееўна Уранава. Прачытаўшы яго, яна сказала сваім знаёмым: «Ну што ж, у дарогу!»**

**Так улетку мінулага года Соф'я Сяргееўна другі раз апынулася ў Брэсце. У горад над Бугам яна прывезла малюнкі, зробленыя больш чым дваццаць гадоў таму назад непасрэдна ў баявых абставінах.**

**Соф'я Сяргееўна — мастак, вучаніца выдатных майстроў жывапісу М. Несцерава і П. Корына. Да гэтага часу ў зборы карцін, што належалі Аляксею Максімавічу Горкаму, захоўваецца партрэт маладой жанчыны ў чорнай сукенцы, якая стаіць каля акна на фоне зімовага пейзажу. Гэта першая самастойная праца Соф'і Сяргееўны.**

**Паводзіны чалавека на вайне даўно хвалявалі мастачку. І калі надышоў грозны 1941-ы год, Соф'я Сяргееўна адчула, што ў Маскве яна не можа заставацца. Яна вырашае абавязкова ехаць на фронт, у дзеючую армію, каб сваімі вачыма бачыць будні вайны. Але здзейсніць гэта жаданне было не так проста. Куды ні звярталася яна, усюды ёй гаварылі адно: «На перадавой — смерць. Там і мужчынам цяжка». І толькі вясною 1943 года яе мара ажыццявілася. Соф'я Уранава стала гвардыі радавым 3-яй батарэі 31-га артылерыйскага палка 12-й гвардзейскай дывізіі. У дзённіку, які яна пачала весці з першага ж дня франтавога жыцця, захаваўся запіс: «25 мая 1943 года. Ажыццявілася. Я каля сваёй сапраўднай мэты».**



**«Вось на гэтай прызбе мы з Зосяй спалі»,—успамінае Соф'я Сяргееўна.**

Фота аўтара.

**Мастачка не расстаецца з алоўкам і паперай. Яна малюе тое, што бачыць вакол: салдат артылерыйскага разліку; медыцынскіх сясцёр, што перавязваюць параненых; цяжкія паходы; прывалы ля кастра; палітрука, які вядзе ў хвіліну зацішша гутарку з салдатамі; разбураныя і спаленыя сёлы і гарады; вызваленых з-пад акупацыі савецкіх людзей, мужных і стойкіх у сваім горы.**

**22 ліпеня 1944 года пад Брэстам Соф'я Уранава запісвае: «Вось і Хабы! Што тут робіцца — не апісаць... Бітком набіта ваеннага люду. Ноччу мы з Зояй прыстроіліся ў садзе ля самага дома па прызбе. Усхапіліся ад страшэннага артылерыйскага агню. Брэст усяго за дзесяць кіламетраў. Велізарнае зарава стаяла над горадам. Брэст гарыць!..»**

**«Брэст гарыць!» — так і назвала мастачка свой малюнак. Такім убачыла гэты мужны горад Соф'я Сяргееўна ўпершыню. «Перада мною,— піша яна ў дзённіку,— велізарнае, бясконцае поле спелага залатога жыта. Як жудасныя смерчы, падымаюцца ўвысь над гарызонтам чатыры слупы умбрыста-чорнага дыму. Яны ўпіраюцца ў нябеснае скляпенне і там, зліваючыся ў адну шапку, утвараюць вялізную цьмяную бела-ружовую хмару».**

**28 ліпеня новы запіс: «Сягоння савецкія войскі, у тым ліку і наша дывізія, увайшлі ў горад Брэст! Якая перамога! Якая велізарнейшая перамога!»**

**Мастачка не пакідае маляваць. Яе пільнае вока не прапускае ніводнай падзеі. Вось батарэя пераходзіць на другую пазіцыю. Чатыры грузавікі цягнуць зачахлёныя гарматы. Раптам сталі, уперадзе затор... «Соф'я Сяргееўна? Дзе мастак? — шукае Уранаву нампаліт палка.— Працуйце, пакуль стаяць будзем...»**

**У школу прывезлі параненых. На падлозе на саломе ляжаць тыя, што выйшлі з бою. Уранава прымасцілася ў куточку, імкнучыся быць непрыкметнай. Соф'я Сяргееўна назвала карціну «Прывезлі раненых» і пазначыла на ёй: «Брэст, ліпень 1944 года».**

**Асабліва звяртае на сябе ўвагу карціна «Герой Савецкага Саюза камбат Акімаў», якая набыта цяпер Траццякоўскай галерэяй. У дзённіку Уранавай ёсць такі запіс: «...Праходзячы па вёсцы, я ўбачыла каля гародаў некалькі запрэжаных вазоў. Гэта прывезлі раненых з-пад Брэста, з перадавой. Я пабегла да іх. Вось на возе на белай падушцы перада мною праміль-**



**Прывезлі раненых. Брэст. Ліпень 1944 года.**

Фота аўтара.

гнуў знаёмы твар. Хто гэта? Дзе я бачыла гэтага чалавека? І раптам я пазнала яго. Гэта ж Герой Савецкага Саюза камбат Васіль Акімаў з 32-га палка!.. Я гляджу і не веру... Ён прыадкрыў вочы, паглядзеў на мяне і ціха сказаў:

— А-а... Гэта вы... Соф'я Сяргееўна...

— Капітан,— нясмела сказала я.— як жа вы гэта?

— Вось так... Няма нагі... Міны!

— Я праводжу вас да медсанбата. Дазволіце? — сказала я, стрымліваючыся, каб не заплакаць.

— Добра,— сказаў ён неяк безуважна і закрыў вочы.

Воз паехаў... Мы дабраліся да медсанбата... Я выняла альбом і зрабіла накід. Цёмная камандзірская фуражка, пакладзеная тут жа зверху на яго раскіданыя русыя валасы, кідала вялікі цень на бледны твар. Рукі былі забінтаваны, і тонкія, доўгія пальцы, чорныя ад гразі і пораху, выглядалі з-пад крывавых бінтоў...»

Свае карціны Соф'я Сяргееўна паказвала на выстаўцы ў Брэсце. Пяцьдзесят работ яе склалі шэсць раздзелаў: «На Арол», «Дняпро», «Беларусь», «Брэст», «Прыбалтыка», «Германія». Гэта — этапы баявога шляху Соф'і Сяргееўны Уранавай.

...Сонечным ліпеньскім днём мы разам з Соф'яй Сяргееўнай наведалі мясцы, дзе дваццаць год таму назад рабіла яна свае замалёўкі. Вёска Хабы. Некалі тут грымелі баі, палыхалі пажары. Цяпер вёску не пазнаць. Яна разраслася, папрыгажэла: каменныя і драўляныя дамы, вакол іх яблыневыя сады, па дарогах імчацца самазвалы, на палях ракочуць трактары, камбайны, збіраюць багаты ўраджай у саўгасе «Брэсцкі».

— Вось на гэтай прызбе мы з Зосяй спалі! — ускліпнула Соф'я Сяргееўна, пабачыўшы на ўскрайку вёскі прыземісты сялянскі дамок з падслепаватымі акенцамі.

З хваляваннем успамінала яна, як адсюль бачыла ўвесь у агні Брэст і рабіла свае замалёўкі. Знайшла яна і школу, куды прывозілі параненых. Даведалася і пра лёс Героя Савецкага Саюза Васіля Акімава. Цяпер ён жыве ў Маскве, адчувае сябе добра.

З Соф'яй Сяргееўнай перапісваюцца брэсцкія юныя краязнаўцы. Піянеры 15-й брэсцкай школы атрымалі неяк ад мастачкі шчырае пісьмо: «Мілыя дзеці, дарагія сябры мае! Калі б вы толькі ведалі, як вы парадавалі мяне сваім нечаканым пісьмом, якое я атрымала ад вас. Дзякуй вам сардэчны, што ўспомнілі мяне і што фатаграфію маю вы захоўваеце ў вашай школе.

Для чалавека, які прайшоў праз пекла вайны, такая ўвага асабліва дарагая і з'яўляецца велізарным суцяшэннем. Дзякуй ад душы! Вы пішаце, што на канікулы едзеце ў Маскву. Як гэта добра! Абавязкова заходзьце да мяне ў майстэрню, дзе я працую. Тут мы пагаворым пра справы і я пакажу вам свае работы, малюнкі. Буду чакаць вашага званка...

Былы гвардыі радавы
Соф'я Сяргееўна Уранава».

Соф'я Сяргееўна гасцінна сустрэла юных краязнаўцаў, якія прыехалі былі гэтай зімой у Маскву. Пасля сустрэчы школьны музей папоўніўся фатаграфіяй С. С. Уранавай і рэпрадукцыямі яе карцін. Яшчэ даражэй сталі для іх і абноўленыя вуліцы роднага горада, і любімая школа, і звонкія галасы дзетвары вакол.

**А. БЛЯХЕР.**

## СЯБРОЎСКІ ШАРЖ



Мастак **Міхась ЛІСОЎСКІ**,

Эпіграма **Міхася ДРОЦІКА**.

**Анатолю Анікейчыку**

Для скульптара самае важнае,
Чым ён здабыткі ўзважвае.
Адкрыю вам творчую тайну я:
Ляпіць я імкнуся шчыра
Формы манументальныя,
Як шматпудовая гіра.

ГЭТЫХ ДЗЁН НЕ ЗМОЎКНЕ СЛАВА

Аляксандра **ЗАХАРЭНКА**

# СКАЗ ПРА БЯССТРАШНЫХ

Хойнікі. Раённы гарадок сярод лясоў і балот Палесся. Як сцвярджаюць старажылы, Хойнікі амаль што не змяніліся за апошнія трыццаць год. Можа толькі пашырыліся, разрасліся і ўсё больш набываюць гарадское аблічча. Як і раней, тут вясною багата цвітуць сады, і ўсё лета з гародаў пахне гуркамі і садавінай. Як і некалі, хойніцкія жыхары ўсё лета і аж да глыбокай восені днююць у лесе—носяць, не стамляючыся, ягады і грыбы. Яшчэ Хойнікі славяцца працавітымі людзьмі і самабытнымі таленавітымі спевакамі, музыкантамі, танцорамі, мастакамі...

На хойніцкіх могілках скульптура — салдат у жалобе вартуе спакой тых, хто ў гады Айчыннай вайны аддаў жыццё за савецкую Радзіму. Колькі іх ляжыць тут, пад п'едэсталам і салдацкім сцягам! У адзін толькі вечар 30 кастрычніка 1942 года шэсцьдзесят патрыётаў загінулі, як героі.

Ужо амаль чвэрць стагоддзя, як іх няма, а іншы раз усё яшчэ здаецца, што на хойніцкіх пясчаных вуліцах бачны іх сляды, што ў песнях чутны іх галасы, у агульных вытворчых поспехах ёсць і іх праца. І колькі часу ні прайшло б, савецкія людзі заўсёды будуць іх памятаць і шанаваць. Вось і нядаўна ў гонар 20-годдзя вялікай нашай Перамогі над фашысцкай Германіяй многія з іх пасмяротна ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Запрашаю цябе, дарагі чытач, прыгадаць іх жыццё, у думках прайсціся па хойніцкіх вуліцах, дзе хадзілі шэсцьдзесят мужных і бясстрашных. Гэта аповесць пра іх. У ёй сапраўдныя імёны і справы тых, хто ў суровую часіну быў у агні змагання з ненавіснымі чужынцамі.

## ТРЫМАЙСЯ, ДРУГ, І ЎСЁ ЗАПАМІНАЙ

Віця закрычаў у сне і прачнуўся. Спалохана азірнуўся, падхапіўся, падцягнуў гіру ходзікаў і зноў лёг.

Успомнілася, як у сне ён чуў знаёмы голас суседа—дзядзькі Домнікава. Павел Пракопавіч называў Віцю, як дарослага, Віктарам і гаварыў: «Асцярожна, Віктар! Глядзі добра... Мы яшчэ вернемся!»



Павел Домнікаў.



Міхаіл Даўгаполаў.



Віктар Ерш.

А потым аднекуль з-за куста яму наперарэз кінуўся той немец, што ўчора шныпарыў у іх на двары, і з перакрыўленым ад злосці тварам замахнуўся на Віцю прыкладам. Віця закрычаў: «А-а-ай!» і прачнуўся.

Было яшчэ рана—хадзікі паказвалі шостую гадзіну. Але сон больш не ішоў. Перад вачамі стаяў Павел Пракопавіч, і Віця перабіраў у памяці ўсё, што пра яго ведаў. Дзядзька Домнікаў быў у Хойніках сакратаром райкома партыі. А прыехаў ён, як расказвалі, з Рудакова, дзе працаваў дырэктарам МТС.

Домнікавы жылі недалёка, і Віця сябраваў з іх хлопцамі. Разам бавілі час на Яршовай горцы. Горку гэту хлопцы так назвалі па Віцеву прозвішчу—Ерш. Віця любіў на ёй бавіць час.

Дзе цяпер Домнікавы хлопцы? Ім удалося паехаць на райкомаўскай машыне. Віця бачыў тады, як цётка Домнікава ўсаджвала іх у кузаве, а Віця стаяў, сумны, цярэбячы каўнерык сарочкі, і аж плакаць хацелася.

Нібы заўважыўшы, што гэтак засумаваў Віця, Павел Пракопавіч падышоў, крануў яго за плячо.

— Такія ось справы, Віктар...— сказаў ён і стомлена прысеў на лавачку ля гародчыка.— Не сумуй. Я не ад'язджаю. Толькі адсюль ад'еду. А ты заставайся тут... Разумееш?

— Разумею,— ціха прамовіў Віця. Потым смялей дадаў:— Будзьце ўпэўнены, дзядзька!..

— Прыслухоўвайся да ўсяго ды наматвай на вус,— усміхнуўся Павел Пракопавіч.— І калі ад мяне прыйдзе хто з прыветам, пра ўсё раскажы. Толькі глядзі, Віктар, духам не падай!..

Павел Пракопавіч хацеў нешта яшчэ сказаць, але тут нізка ў небе загулі самалёты з чорнымі крыжамі, ён толькі махнуў рукою і паспяшаўся да грузавіка.

Але прывету няма ад Домнікава. Віця яшчэ крыху паўздыхаў, потым устаў і расчыніў акно. Вуліца ўжо не спала.

Пасля сняданку Віця знік. Прабраўся ў парк. Зазірнуў у будынак райкома, але там было пуста.

З парку Віця пашыбаваў да школы і на двары яму сустрэўся цёзка—сусед Віктар Ерашок. Няўжо і ён пранюхаў? Добра было б перахаваць тыя гранаты, якія Віця знайшоў у школьным хлеўчуку.

— Зматвайся, Ерш!..— крыкнуў яму Ерашок і перамахнуў цераз плот.

Віця і сам ужо бачыў, што да школы з усіх бакоў ідуць людзі. І даносіцца чужая мова: «Шнэль, шнэль!..»





Франц Купрэйчык.



Марыя Чэкан.

Доўга не думаючы, ён шмыгнуў у хляўчук і прыціх, прыслухоўваючыся. Крыху супакоіўшыся, убачыў, што пашчыраваў-такі тут яго сусед-цёзка.

Ля школы раптам хтосьці загаласіў. Віця, не думаючы, выскачыў з хлеўчука, прабраўся ў натоўп.

Грымнуў стрэл, і чалавек, што стаяў воддаль, ля сцяны, асеў на дол. Віця пазнаў таго, хто асунуўся ад гэтага стрэлу — мясцовага цырульніка.

Віцька задрыжаў увесь, але нехта ціха прагаварыў:

— Спакойна, сынок... Мацуйся...

Яшчэ стрэл, яшчэ... І тыя шасцёра, што стаялі ля сцяны, ужо ляжалі на зямлі. Ля іх тупаў даўгалыгі немец-салдат і моцна лаяўся.

Узрушаны, Віця пабег у парк, кінуўся ў траву і зайшоўся ад слёз...

— Дзе ты бегаеш, дурніца!— накінулася на Віцю маці, калі ён надвячоркам дабраўся дадому.— Ці, можа, не чуў?..

— Усё чуў, мама,— сумна прагаварыў Віця.— Не сварыся...

... Віця вачам сваім не верыў. Ля дзвярэй стаяў Міша Даўгаполаў, а з-за яго пляча выглядаў, здаецца, Франусь Купрэйчык. Віця добра ведаў, што хлопцы адыходзілі са знішчальным батальёнам. Яны старэйшыя за яго гады на тры-чатыры. Франусь пасля заканчэння школы і курсаў ужо быў за настаўніка некалькі месяцаў у Небытаве. Міша перайшоў у дзесяты, яго выбралі камсамольскім сакратаром у школе.

— Такая вось атрымалася гісторыя...— вінаватым голасам сказаў Міша, паказваючы на свайго сябрука.

Хлопцы, прысеўшы, пачалі расказваць, якая калатнеча была на пераправе праз Дняпро. Пяхота, артылерыя, апалчэнцы, бежанцы — усе імкнуліся на той бераг...

— Мы, мажліва, яшчэ і прарваліся б...

— А хіба перадумалі, ці што?— Віцька не дужа прыязна паглядзеў на хлопцаў, бо палічыў, што яны проста збаяліся і вярнуліся дадому.

— Калі хочаш, то так,— рэзка сказаў Міхаіл і, падсеўшы да Віці, загаварыў больш спакойна:— Ну, ты сам памяркуй: зямлю сваю мы не панясём з сабою, дык хіба кінуць яе ворагу на здзекі?

І хлопцы загаварылі пра тое, што тут здарылася за гэтыя дні, пакуль Віця трохі прыхварэў.

— Малашкевіч паступіў у паліцыю!

У Віці аж пацямнела ў вачах.

— Уяві сабе,—гарачыўся Франусь,— начапіў павязку, з вінтоўкай ходзіць і ўсё гаворыць, што мы не самі збеглі са знішчальнага, што нас нехта падбухторыў...

— Падлюга!

— А Пакеду памятаеш?

Так у школе празвалі Віктара Жыляка за тое, што ён, замест «пакуль», гаварыў «пакедава».

— Гэта ж той, што настаўніцы вока падбіў з рагаткі,— Віця прыгадаў хуліганскую выхадку Жыляка, пра якую хлопцы ўжо былі і забыліся.

— Таксама спадаром стаў! — сказаў Франусь, сплюнуўшы.— Цяпер можа страляць не з рагаткі, а з фашысцкай стрэльбы...

Яшчэ Франусь расказаў пра Мітрафана Жаўняка. Гэты тып дызерціраваў з Савецкай Арміі і нібы нават уцёк за мяжу. Цяпер сам хваліцца, што пабачыў свет, быў нават у Берліне. Толькі прыйшлі немцы, і Жаўняк — тут як тут. Яго адразу паставілі начальнікам паліцыі.

— На тым тыдні,—расказваў далей Франусь,—Жаўняк адвёз у Брагін Гічыка са станцыі, Гнядзьказ, што працаваў на спіртзаводзе, Жукоўскага з міліцыі, Манкерава з пошты... І там на балоце ўсіх...

У пакоі настала цішыня. Толькі цікалі старыя ходзікі ды за акном па лісці шапацелі кроплі дажджу.

— За што ж іх?..— нібы ачнуўшыся, загаварыў Віця, павярнуўшыся да Франуся.

— За што? Хіба Жаўняк задумваецца? Ён кулю пусціў бы ў кожнага, хто мае чалавечае сумленне...

Віця маўчаў. Яму было вельмі шкада гэтых людзей, якіх часта сустракаў, з якімі хадзіў па адных вуліцах і якіх вельмі мала ведаў. І іх ужо няма.

Тым часам хлопцы, каб супакоіць Віцю, загаварылі пра другое. Па раёну пайшлі чуткі пра партызан. У Навасёлках яны наладзілі такую прачуханку служкам «новага парадку», што тыя ледзь уратаваліся.

... Сонца ўжо звярнула на поўдзень, калі на ўскрайку лесу, каля навасёлкаўскага млына, паявіліся два савецкія афіцэры. У шынялях, з аўтаматамі. У аднаго быў пісталет пры поясе, бінокль. У другога начэплена граната. У таго, што з біноклем, на галаве павязка з марлі.

— Ну, трымайся, Кірыла, нехта ідзе сюды, да млына...

Гэта сакратар Хойніцкага райкома камсамола Іван Сярак папярэдзіў свайго камандзіра — старшыню Навасёлкаўскага сельсавета Кірылу Сацуру. Той паглядзеў у бінокль, нацягнуў бінты на вочы і прагаварыў:

— Гэта стары Лагвінец. Цябе ён, мабыць, не ведае, а вось мяне...

«Камандзір» хапіўся за лоб і ціха застагнаў.

— Здаровы былі, людзі добрыя!..

— Здароў, дзядуля, калі не жартуеш,— адказаў Сярак, падаўшы руку старому, якога ён і сапраўды не ведаў.

— Яно і праўда не да жартаў,— згадзіўся стары.— Натаміліся? Адкуль і куды кіруецеся хоць?..

— Ды вось, можа пакажаце нам, дзядуля, як прабрацца да сваіх,— Сацура пасмялеў, адчуўшы, што стары яго не пазнаў.— З акружэння, бачыш, выходзім. Ды вось прытаміліся. Ды і перахапіць бы што-небудзь...

— Ды вось хіба яблычкі. Пачастуйцеся!..

Яны пасядзелі яшчэ крыху ля млына, развіталіся з дзедам і вярнуліся ў лагер.

План у партызан быў просты. Сацура з Сераком пад выглядам камандзіраў паявяцца ў Навасёлках. Староста, вядома, паведаміць паліцыі, і тая паедзе шукаць «камандзіраў». А партызаны тым часам зробяць засаду. Вечарам навасёлкаўскі староста сапраўды паехаў у Хойнікі. Адначасова партызаны паслалі разведку ў Хойнікі.

... Марыя Чэкан не здзівілася, калі ў раму на кухні асцярожна пастукалі. Але чаму гэтак позна? І ледзь не крыкнула, убачыўшы праз шкло знаёмую постаць Карпа Сцяпанавіча Шлега, старшыні калгаса з Бары-



саўшчыны. У апошні год Марыя Венедзіктаўна выкладала ў барысаўшчанскай школе нямецкую мову. Там яны пазнаёміліся. Мабыць, па яго рэкамендацыі Марыю і прызначылі сувязной з атрадам.

— Хіба вы ў сваім розуме, у самую пашчу лезеце!— Яна ўсё яшчэ не магла супакоіцца і старалася шчыльней прыкрыць фіранкай акно, бо ад Кузнечнай, дзе жыла Марыя з маці, усяго якіх-небудзь два кварталы да будынка жандармерыі.

— Справа да цябе ёсць, Венедзіктаўна,— ціха сказаў Шлег.— Трэба дазнацца, у якім настроі прачнуцца раніцаю вашы жандары і паліцыянты. Ці не збіраюцца куды, і, менавіта, у які бок?

Марыя ўсё зразумела.

Раніцай яна расказала, што сярод паліцаяў перапалох нейкі. Жаўняк сам бегаў у жандармерыю. Потым скамандаваў збірацца, запрагаць коней. І ўсё пра нейкіх камандзіраў шапталіся.

Карп Сцяпанавіч моцна паціснуў руку Марыі і заспяшаўся. Увечары Міша Даўгаполаў паведаміў Марыі Чэкан, што адзін паліцэйскі не вярнуўся, другога прыцягнулі параненага. І наогул, уся паліцыя апраставалосілася перад жандармерыяй: камандзіраў не даставіла, як абяцала.

# ДВОЕ З АДНОЙ ВУЛІЦЫ

Яўген Іванавіч Казачук нарадзіўся ў Хойніках. Бацька яго памёр рана, і ён стаў за старэйшага ў сям'і. З восьмага класа вымушаны быў памагаць маці і давучвацца самастойна. Перапіска папер у зямельным аддзеле, у райкоме, вычытка карэктуры ў рэдакцыі райгазеты—з гэтага ён пачаў. А потым заняткі музыкай, супрацоўніцтва ў раённай газеце.

У Слуцку працаваў ужо адказным сакратаром раённай газеты. І, як стала потым вядома, там Яўгена Іванавіча адзін час у нечым абвінавачвалі. Ён быў паплаціўся партыйным білетам. Але з цягам часу ўсё стала на свае месца. Вярнуўшыся ў Хойнікі ён працаваў спачатку рэдактарам раённай газеты, а потым — дырэктарам абласнога драматычнага тэатра ў Мазыры. Толькі мала хто ведаў, што яго аднавілі ў партыі, вярнулі страчанае раней давер'е.

Баі ішлі пад Чарнігавам, калі палітрука воінскай часці Яўгена Казачука паклікалі ў штаб дывізіі і паведамілі, што яго адзываюць у Бранск, у распараджэнне ЦК КП Беларусі. А там непрацяглае абучэнне, інструкцыі— і дыверсійная група гатова да адпраўкі ў тыл ворага.

Яму выпалі родныя Хойнікі. Гэта было і лягчэй і цяжэй. Лягчэй, бо ўсё тут было знаёмае, а цяжэй, што яго ўсе добра ведаюць.

Па дарозе Яўген Іванавіч даведаўся, што яго жонка з дзецьмі не дабралася да Астрахані. Ёй давялося вярнуцца да сваякоў на Чарнігаўшчыну. Накіраваўся туды, каб забраць яе з дзецьмі.

— Уяві, што вядзеш мяне з лагера,— гаварыў ён Тоні, калі яны сабраліся ў дарогу.— Мы ідзём у Хойнікі, да маёй маці. З намі Рэм, сын наш. Вазьмі нашу сямейную картку...

І вось Яўген Іванавіч у Хойніках. Як толькі ён паявіўся дома, яго выклікаў Жаўняк.

— Ведаем мы ваша бальшавіцкае адроддзе,— грымеў ён, дапытваючы Яўгена Іванавіча.— Дурняў шукаеш?— і скасавурыўся на браўнінг, што паклаў быў на стале...

І ўсё ж Яўгена Іванавіча давялося выпусціць, бо ён лічыўся чалавекам, які пацярпеў ад савецкай улады. Яму прапанавалі загадваць друкарняй, якая адкрывалася ў раённым гарадку.



Яўген Казачук.

Ужо больш месяца, як Яўген Іванавіч прыняў друкарню. Яму ўдалося ўгаварыць былую наборшчыцу, друкара і яшчэ некалькі чалавек, каб згадзіліся пайсці да яго. Але і сам ён мусіў кожную раніцу адзначацца ў паліцыі. За ім, вядома, сачылі.

Час ішоў, і Яўгену Іванавічу трэба было неяк дабрацца да ўмоўленага доміка, які знаходзіўся за сорак кіламетраў ад гарадка. Давялося пасланьць замест сябе іншага чалавека. З ім дамовіўся сустрэцца «выпадкова» ўвечары, але яго чамусьці не было. Ужо добра сцямнела, калі ён пачуў за спіной зусім другі голас:

— Жэня, здароў!

— Коля? Здароў, чарцяка!— узрадаваўся Казачук, але тут жа заўважыў: — Ідзі крокі за дватры. Два дні ламаю галаву, як з табой стрэцца «ненарокам»...

— Я таксама колькі разоў цікавіўся, што з табою...

— Нічога, як бачыш... Ну, дык будзем лічыць, што мы не бачыліся і сустрэнемся заўтра ў паліцыі, як сябры з адной вуліцы...

Яны разышліся ў розныя бакі, як бы і зусім не сустракаліся.

А назаўтра Яўген Іванавіч гасцяваў у Мікалая Адамавіча Латышкевіча, які жыў на Пралетарскай вуліцы.

— Ну і артыст! Так расчуліў Жаўняка!..— рагатаў Мікалай, прыгадваючы сцэну, якую яны з Казачуком разыгралі раніцай у паліцыі.

— Ды і ты не падкачаў, толькі, па-мойму, перастараўся, калі пачаў прасіцца да мяне на работу,— усмешыста заўважыў Казачук і сур'ёзна дадаў: — Нельга нам разам, Коля. Ды і Жаўняк паабяцаў табе памагчы... Старайся ўладкавацца ў бургамістра...

Яўген Іванавіч расказаў, што там, дзе пачыналі справу Гічык і Гнядзько якіх расстраляў Жаўняк, ёсць надзейныя людзі, і з імі трэба было б звязацца.

— Што ж, трэба, дык трэба,— згадзіўся Латышкевіч і, нібы між іншым, запытаў:— Ну, а ў цябе як справы?

Яўген Іванавіч толькі ўздыхнуў.

— Ужо два разы пасылаю чалавека ва ўмоўленае месца, а абяцанага кур'ера няма. І хто ведае, ці будзе ён...

— Та-ак...— паспачуваў яму Мікалай Адамавіч і таксама задумаўся.

Тым часам у пакой увайшла Варвара Пятроўна, ці проста Вара, жонка Латышкевіча. Яна здагадвалася, што не для пустой траты часу сустрэліся мужчыны, і ўвішна пачала накрываць на стол.

— Яўген Іванавіч, як ваша Тоня сябе пачувае?— спытала Вара, ставячы на стол грыбы, гуркі, яблыкі.

— Паехала па дзяўчынак,— сказаў Казачук.— Мы ж прывезлі з сабой толькі Рэма, а Нэлю і Іну давялося пакуль пакінуць на Украіне. Як вы?

— Самі бачыце, як,— уздыхнула Вара.— Не ведаеш, што чакае заўтра.

Калі Вара выйшла, Яўген Іванавіч, хвалячы салёныя грыбкі, сказаў:

— А ведаеш, каго я тут сустрэў? Ганну Міхайлаўну Гнядзько.

— Як жа, ведаю. Яна тут у нас загадвала педкабінетам,— уставіў Мікалай Адамавіч. Ён яе добра ведаў, бо ў апошні час працаваў інспектарам райана.





Мікалай Латышкевіч.

— Дык вось, гэтая жанчына расказвала, што яна эвакуіравалася з мужам і даехала да Украіны. Давялося вярнуцца. Яе мужа ў ліку іншых нядаўна схапілі і забілі недзе ля Брагіна. Колькі ні дапытваліся ў Жаўняка, але ён гаворыць: «У брагінскую паліцыю здаў». А сам пахаджвае ў яго скураной куртцы. Каму цяпер паскардзішся... Ведаеш, Коля, што я надумаўся?..

— Ну, ну...

— Трэба скампраметаваць Жаўняка ў вачах саміх немцаў.

Латышкевіч аж прасвятлеў. Але тут жа задумаўся:

— Жэня, няўжо ты верыш, што воўк воўку ўчэпіцца ў горла?

— Гэта будзе залежаць і ад нас у пэўнай ступені.

— Такія, як Мітрафан, фашыстам патрэбны. І яны не стануць імі ахвяраваць.

— І ўсё ж трэба паспрабаваць...

Дамовіліся, што трэба будзе ад імя Анны Міхайлаўны і іншых, хто пацярпеў ад Жаўняка напісаць на яго скаргу ў гебітскамісарыят і ў жандармерыю: ён, маўляў, падрывае аўтарытэт і прэстыж нямецкіх улад, самавольна распраўляецца з людзьмі, якія не падабаюцца яму, але адданыя «новаму парадку».

# ПЕРШЫЯ СУСТРЭЧЫ

У хатняй «фоталабараторыі» Мішы Даўгаполава было ўсё, што трэба: фотапавелічальнік, ванначкі з вадой, чырвоны ліхтарык. Вакол скрыні стоўпіліся Марыя Чэкан, Францусь Купрэйчык, яго стрыечная сястра Аня Лаўрусенка, яго былыя аднакласніцы Юля Купрэйчык і Таіса Машэўская.

Пакуль Міша хадзіў у другі пакой і аб нечым гаварыў з маці, дзяўчаты з цікаўнасцю разглядалі плёнку, дзе былі зазняты кадры з апошняга выпускнога вечара. Успаміналі, як пачалася вайна і пераблытала ўсе іх планы.

Увайшоў Міша, і Францусь з чаканнем паглядзеў на сябра:

— Што ж будзем рабіць?

— Шэры ўсё яшчэ маўчыць?— Аня таксама запытальна паглядзела на Мішу. Усе ведалі, што яна мела на ўвазе сакратара райкома камсамола Серака.

Міша адвёў вочы. Яго і самога мучыла гэтае ж пытанне. Больш двух месяцаў таму назад сакратар райкома гутарыў з кожным з іх і абяцаў трымаць сувязь. А Аню нават угаворваў не эвакуіравацца, хоць ёй ніяк не выпадала заставацца, бо яе перад самай вайной выбралі сакратаром Ганцавіцкага райкома камсамола. Але ж трэба. Ёй нават назвалі пароль, па якім яна павінна была чакаць пасланца ад Серака. Пакуль што да яе з гэтым паролем вярнуліся толькі Міша Даўгаполаў і Францусь Купрэйчык.

— А ў цябе, Венедзіктаўна, ніякіх навін?— Міша павярнуўся да Марыі Чэкан.

Марыя пакруціла галавою. Яна яшчэ раней сказала, што ў яе была наладзілася сувязь з Карпам Сцяпанавічам, але ад яго нічога не чуваць. А потым, як старэйшая сярод сяброў, яна рашуча загаварыла:

— Мне здаецца, што нам не выпадае сядзець, склаўшы рукі. На нашых



Ганна Лаўрусенка.

вачах расстрэльваюць, катуюць людзей, а мы толькі плачам ды ўздыхаем, пакуль і да нас дабяруцца!..

— Марыя праўду кажа, таварышы,— сказала, хвалюючыся, Аня Лаўрусенка.— Набліжаецца гадавіна Кастрычніка, і мы сапраўды не павінны проста так чакаць...

Калі Аня хвалявалася, яна здавалася яшчэ прыгажэйшай. І Міша проста не зводзіў з яе вачэй, а потым раптам збянтэжыўся. Можа гэта яе хваляванне перадалося яму. Ён перавёў позірк на сваіх былых членаў камсамольскага бюро — Францыся Купрэйчыка, Юлю Купрэйчык і Тасю Машэўскую. На іх тварах была напісана рашучасць, але яны з чаканнем глядзелі на яго. А ён і раней, бывала, на пасяджэннях не спяшаўся са сваёй думкай. І калі выказаліся ўсе, прынёс загадзя падрыхтаваны сшытак і алоўкі.

— Давайце тады напішам сваю першую лістоўку...

— Ой, і дасціпны ж ты, Міша! — засмяялася Юля.— Не дарма мы яшчэ ў восьмым класе празвалі цябе «міністрам без партфеля»...

— Добра, бярыце алоўкі і пяперу,— сказаў Міша і, калі ўсе былі гатовы, пачаў дыктаваць:— «Дарагія таварышы! Не верце фашысцкім гадам. Яны ўсё брэшуць. Маскву ім не ўзяць!..»

— Маскву ім не ўзяць! — узбуджана паўтарыў Францысь.

— «Памагайце нашай роднай Чырвонай Арміі чым толькі можаце»,— дыктаваў далей Міша.— Напісалі? А як закончым?

— Скажам у заключэнне коратка і ясна: «Смерць нямецкім захопнікам!»

— Малайчына, Анка!

— Старайцеся буйнымі літарамі: «Смерць нямецкім сабакам!»

— Правільна, нават будзе лепш — «сабакам,» — адобрыў Францысь,— таму што яны і ёсць самыя сапраўдныя псы-рыцары.

Потым яны перапісалі ўсё гэта яшчэ раз. Атрымалася дзесяць лістовак.

— Кожны свае лістоўкі расклеіць у розных месцах гарадка,— прапанавала Марыя.

— Абавязкова,— Міша ўжо занёс у пакой сшытак і алоўкі.— Толькі зробім гэта не сёння, а лепш заўтра, няхай людзі прачытаюць перад святам...

Праз пару дзён Мітрафан Жаўняк патрасаў кулакамі ад злосці і на чым свет стаіць лаяў паліцэйскіх за ратазейства. Напярэдадні Кастрычніка ён знарок узмацніў варту. І — глядзі ты!— партызаны ходзяць проста пад носам! Лістоўкі паявіліся і на клубе, і на базары, і на станцыі...

А хлопцы да глыбіні душы радаваліся: усё ж здолелі перад святам узняць у людзей настрой!

Нарэшце Віця застаў Міхаіла дома.

— Ты што ж да нас не заходзіш?— сказаў ён, прывітаўшыся.— Я чакаў, чакаў...

— Забегаўся я, і ты ўжо, Віця, не крыўдуй!..

— Чаго мне крыўдаваць? Гэта ты на сябе крыўдуй,— адказаў Віця.— Ты ведаеш, чаму я цябе чакаў?— Віця акінуў позіркам пакой і, пераканаўшыся, што яны адны, выцягнуў з-пад сарочкі газету:— Во, глядзі!



— «Правда»!— Міша вачам сваім не верыў.— «Правда»!— Ён кінуўся абдымаць Віцю, а потым паглядзеў на дату — 24 кастрычніка 1941 года.— Ды гэта ж зусім свежая газета! Віця, дарагі Ёршык, дзе ты ўзяў яе?..

— Дзе ўзяў, там няма,— паблісквау вачанятамі Віця.— А вам, апрача таго, і прывет...

— Дык гавары ж ты...

— Павел Пракопавіч перадаў.

— Віця, няўжо ты бачыў яго?— Міша аж падскочыў ад радасці.

— Гэта не так важна, бачыў ці не,— зусім сур'ёзна сказаў Віця.— Важна, што ён прыслаў спецыяльна да нас свайго чалавека.

— Дык скажы, дзе ён?

— Гэтага я не магу сказаць... А ведаеш, афішкі ў Хойніках паявіліся? Ад рукі напісаныя. Толькі б дазнацца, хто гэткі малайчына!

— А што, каб дазнаўся?— Міша таямніча падціснуў вусны, усміхнуўся.

— Тады б... Ведаеш, колькі можна напісаць такіх афішак!

— Ведаеш, Віця, давай да Францыся сходзім,— раптам прапанаваў Міша, схаваў газету, і хлопцы пашыбавалі на двор.

Францысь Купрэйчык жыў у Забалоцці. Некалі гэта была вялікая вёска, якая пазней злілася з гарадскім пасёлкам. Ад Даўгаполавых да Францыся можна было прайсці праз балота, але было гразка, і хлопцы скіраваліся ў абход. Але хутка пашкадавалі, бо канец Інтэрнацыянальнай, уся Школьная і добрая палова Забалоцкай былі застаўлены фурманкамі. Гэта нейкі ваенны абоз раскватараваўся на ноч. У канцы Школьнай іх спыніў салдат:

— Рус, ком, ком!..

А калі яны падышлі, даў Мішы сякеру, а Віці — вядро. Іх прымусілі секчы дровы і насіць ваду. Немцы так асмялелі, што паскідалі мундзіры, паадкладалі дзе папала зброю. Працуючы, хлопцы заўважылі, што на суку яблыні, якая стаяла ў гародчыку, вісіць кабура на рамяні.

Міша падміргнуў Віці, паказаў на дзверы:

— Паглядзі, што яны там робяць.

— Там парадак,— шапнуў Віця.— Начальнік разлёгся на канапе, чытае газету, а дзяншчык скубе курыцу.

— Зачыні дзверы,— сказаў Міша.— Бяры сякеру і крышы дошкі, стукай грамчэй, каб яны не звярнулі ўвагі...

А сам мігам скочыў да яблыні, расшпіліў кабуру, выхапіў пісталет, а туды сунуў камень і зашпіліў.

Неўзабаве хлопцы дабраліся да Францыся і вельмі здзівіліся, убачыўшы ў яго доме Казачука — таго самага Казачука, з дапамогай якога цяпер у Хойніках была адкрыта друкарня. Нягледзячы на ўсё добрае, што перад вайною Міша ведаў пра гэтага чалавека, ён цяпер шчыра пашкадаваў, што сустрэўся з ім.

Размова не клеілася. За вокнамі згушчаўся змрок. Хлопцы пераглянуліся і зноў маўчалі.

— Дык што ж насы павесілі, арлы!— зварухнуўся Яўген Іванавіч:— Жыць як думаеце?

— Ды ўжо як-небудзь...

— Як-небудзь?— хітра прыжмурыў вочы Яўген Іванавіч.— А па-мойму, на «як-небудзь» вы і самі не згодзіцеся. Я вас правільна зразумеў, Міхаіл?

«І чаго ён прычапіўся?»,— думаў Міша, сціскаючы ў кішэні пісталет, і нецярпліва пазіраў на Францыся. А той ледзь прыкметна паціснуў плячамі. Убачыўшы, што Міша так рэагуе на яго словы, Яўген Іванавіч зноў загаварыў:

— Вы ж таксама не верыце фашыстам?
— Няўжо і вы ім больш не верыце?— не стрымаўся Міша.
— Я, вядома, не разняверыўся,— вытрымаўшы яго гнеўны позірк, сказаў Яўген Іванавіч.— А вось нядаўна дазнаўся, што ў нас ёсць людзі, якія самі не вераць фашысцкай хлусні і іншых да гэтага заклікаюць.
— Што вы кажаце!— злаваўся Міша.— Якая дзёрзкасць! Вы чуеце, хлопцы?
Франусь баяўся, каб не засмяяцца, гледзячы на Мішу. Яўген Іванавіч таксама ўсміхнуўся.
— Такая дзёрзкасць і адвага нават падабаюцца. Ці дастаткова толькі яны, тыя хлопцы, асцярожныя?
Казачук падняўся і працягнуў Мішу руку, дадаўшы:
— З вамі прыемна паспрачацца. Але мне пара,— і ён падаў руку Францусю і Віцю.
Неўзабаве і хлопцы выйшлі, узрушаныя такім паваротам справы. У сенечках Франусь спытаў у Мішы, ці не здарылася што-небудзь. Міша моўчкі павярнуў пад павецку.
— Да заўтра схавай гэтую штуковіну,— сказаў ён, выцягнуўшы з кішэні пісталет.
Франусь хуценька падняўся па лесвіцы і засунуў пісталет у застрэшак. Потым з зайздрасцю спытаў:
— Дзе гэта вы?
— Дзе знайшлі, там ужо няма,— пажартаваў Міша і папрасіў Франуся, каб той заўтра прыйшоў да яго разам з Аняй Лаўрусенка.
Калі хлопцы пайшлі, Франусь яшчэ доўга стаяў ля сенечак, глядзеў ім услед, аж пакуль іх постаці не расталі ў змроку.


Браніслаў Краўчанка.

Маці знайшла сваіх сыноў у Бабруйску, у лагеры для ваеннапалонных. Людвіг увесь распух, а Бронік худы, як шкілет. Наўрад ці ведалі сыны, колькі намучылася маці, пакуль дабілася іх вызвалення.
Калі яна іх забірала, Бронік асцярожна шапнуў:
— Мама, я не магу Лёньку пакінуць. Мы разам рыхтаваліся ўцячы, але ж Людвіг, бачыш, захварэў...
І маці пайшла зноў. У той вечар Лёнька даведаўся шмат чаго пра Хойнікі, пра людзей, якія жывуць там. Лёнька Трушын ужо ўцякаў з лагера, але няўдала. Злавілі. Давялося назвацца інакш — Лёнька Бялоў. І цяпер уся надзея была на Браніслава і на яго маці. Надзея спраўдзілася.
У Краўчыніхі стала тры сыны. Бронік з Лёнькам яшчэ ў лагеры цвёрда вырашылі прабірацца да партызан, калі ўдасца ўцячы. Што ж рабіць ім цяпер, каб не паставіць пад пагрозу маці?..
Яны ўехалі ў гарадок на санях. На плошчы ўбачылі шыбеніцу і каля яе натоўп людзей. Звярнулі на Новабудаўнічую вуліцу, каб абмінуць такое відовішча.
Міма прайшло двое хлопцаў — Міша Даўгаполаў і Франусь Купрэйчык. Франусь крануў сябра за плячо:
— Ведаеш, нехта знаёмы вунь на санях паехаў. Але не магу прыпомніць...
Міша таксама павярнуўся, але фурманка была ўжо далёка. Хлопцы паспяшаліся на плошчу.



Праціснуўшыся наперад, яны ўбачылі, як старшы следчы Ярмольчык і некалькі паліцэйскіх вялі свайго былога шэфа — начальніка паліцыі Мітрафана Жаўняка. Крыху далей за імі ішлі начальнік жандармерыі, бургамістр і некалькі немцаў. Заўважыўшы, як варухнуліся людзі, калі да іх наблізіўся Жаўняк, немцы засмяяліся.
Наперад выйшаў абласны гебітскамісар Орлічэк, прачытаў нейкую паперыну, дзе гаварылася, каб насельніцтва падтрымлівала «новы парадак», а таксама пра тое, што за падрыў аўтарытэту фюрара і самавольства начальнік хойніцкай раённай паліцыі прыгаворваецца да смяротнага пакарання.
Натоўп зноў зашумеў. Мітрафан кінуўся на калені. Немцы зарагаталі.
— Вы Даўгаполаў і Купрэйчык.
Міша азірнуўся. За імі стаяў Латышкевіч.
— Вяртайцеся па Новабудаўнічай,— загадаў ён.
У Савецкім завулку ім насустрач трапіў Казачук.
— Ёсць важная справа, хлопцы,— сказаў ён, ідучы крокаў за двагры.— Сёння ноччу трэба абвясціць усім пра Жаўняка і папярэдзіць такіх, як ён. Трэба будзе расклеіць пяць-шэсць лістовак. Возьмецеся?
— Пастараемся,— адказалі сябры.
— Дзякуй. Удваіх вам будзе цяжкавата. А Віцька як, хлопец надзейны?
— Яшчэ б,— падхапіў Франусь.— Яму сам Домнікаў прыветы перадае. Але мы абыдземся на гэты раз без Віцькі... Нельга ім рызыкаваць.
— Тады глядзіце,— згадзіўся Казачук.
— Возьмем Федзю Шчукоўскага,— раптам прапанаваў Франусь.
— Гэтага, мусіць, можна,— падтрымаў Даўгаполаў. І расказаў, што Шчукоўскі быў міліцыянер, камсамолец, быў у знішчальным батальёне і наогул надзейны чалавек.
— Тады, хлопцы, будзем дзейнічаць,— заключыў Яўген Іванавіч.— Ты, Франусь, выйдзеш а сёмай гадзіне на Пралетарскую. Ля балота цябе сустрэнуць і перададуць усё...
— Ясна,— сказаў Купрэйчык.
— Толькі, хлопцы, глядзіце, будзьце асцярожныя...— сказаў Яўген Іванавіч.— Адзін лісток абавязкова наклейце на друкарню. Гэта, так сказаць, для страхоўкі.
Хлопцы засмяяліся. Цяпер яны загаварылі пра тое, што настала ранняя зіма. І раптам Франусь спахапіўся:
— Успомніў!
— Што ўспомніў? — разам выгукнулі Даўгаполаў і Казачук.
— Гэта ж Бронік Краўчанка на санях паехаў! Сапраўды, ён. І як гэта я Краўчыніху не пазнаў. На адной жа вуліцы жывём!..
— А ты не памыліўся, Франусь?— запытаў Яўген Іванавіч, зацікавіўшыся, адкуль магла Краўчыніха везці сына.
— Гэта дакладна, Яўген Іванавіч. Я магу нават зайсці да іх, упэўніцца.
— Не, сёння не трэба. А наогул, хлопцы, такімі людзьмі трэба цікавіцца. Можа ім дапамога якая патрэбна...
Развіталіся, Яўген Іванавіч павярнуў на Пралетарскую. Трэба было яшчэ зайсці да Шчукоўскага. Ён больш спрактыкаваны чалавек. Ведае не толькі як лепш падмануць ворага, але і замесці сляды.
Раніцай, калі Яўген Іванавіч ішоў на работу, на слупку ля друкарні была наклеена лістоўка. Яна пачыналася словамі: «Рана вы запісаліся, паны, у здраднікі! Рана хаваеце Савецкую ўладу. Памятайце, Радзіма вам ніколі не даруе гэтай страшэннай здрады...»

# КРУГ СЯБРОЎ ШЫРЫЦЦА

Бронік накінуў на плечы кажушок і выйшаў на двор. Зазірнуў пад паветку, узяў шуфель, пачаў расчышчаць снег. Але прыйшла сястра, адабрала шуфель. Малодшая сястра любіла назіраць, як Бронік некалі корпаўся з правадамі, лямпамі і навушнікамі. Ёй падабалася, што брат захапляўся радыётэхнікай.

— Стэфа, ты памятаеш, я пісаў табе з Мінска перад ад'ездам у Ломжу, каб з'ездзіла ў Калінкавічы і забрала мае рэчы?

— Ну і рэчы!— засмяялася сястра.— Я думала, што там праўда нешта ёсць... Аж адно ламачча!..

Яна выцягнула з-пад саломы кош, дзе ляжалі розныя дэталі і запыленая каробка радыёпрыёмніка.

Броніку не цярпелася хутчэй узяцца за інструмент. Але да яго завіталі госці.

— Прымай цімураўскую каманду!— сказаў Косця Наляговіч, адчыніўшы веснічкі.

З ім былі Міша Даўгаполаў і Францусь Купрэйчык. Бронік, як старэйшы, ведаў іх мала, але спадзяваўся на свайго сябра Косцю, які ўмеў зблізіцца з людзьмі. Косця, як і Бронік, вырваўся з палону, і цяпер яны разам маракуюць над сваім лёсам.

Днямі да Броніка прыйшоў Юлік Цішкевіч. Некалі яны з Бронікам працавалі разам. Бронік — тэхнікам на радыёвузле, а Юлік — мастаком у Доме культуры. Потым Бронік манціраваў у Калінкавічах радыёвузел. Неўзабаве іх абодвух выклікалі ў Мінск і накіравалі на работу ў заходнія вобласці. Браніслаў стаў інжынерам па радыёсувязі ў Ломжы, а Юліян — сакратаром райкома камсамола ў Аўгустове.

Сувязі яны не гублялі да самай вайны.

Сёння да Броніка прыйшлі і Міша з Францусём. І ён узрадаваўся новым сябрам. У яго спее думка пагаварыць з імі наконт таго, каб знайсці дарогу да партызан.

— Браніслаў Антонавіч, мы да вас па справе,— пачаў Міша, як толькі ўвайшлі ў дом.— Фашысты збіраюцца адправіць у Германію ваеннапалонных...

— Нават хворых?— Бронік адразу ўспомніў Лёньку Бялова, які цяпер ляжаў у бальніцы.

— Так. Лёнька ў адчаі. Прасіў перадаць вам...

— Напэўна, давядзецца яго забраць, не чакаючы, пакуль паправіцца,— выказаў думку Косця.

— Трэба было і яго, і другіх, хто з ім, неяк пераправіць да партызан,— асцярожна заўважыў Бронік.

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ



**Анатоль ЗАЙЦАЎ** нарадзіўся ў 1939 годзе на Смаленшчыне. Пасля заканчэння сямігодкі паступіў у Загорскае мастацка-прамысловае вучылішча. Закончыўшы яго, прадаўжае вучобу на аддзяленні кніжнай графікі Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Яго захапляе народны эпас, і ён выязджае ў вёскі, гарады, каб знаёміцца з творчасцю народных умельцаў, збірае матэрыял, арнаменты вышыўкі паясоў, пасцілак, узоры разьбы па дрэву або роспісу керамічных вырабаў.

Гэты багаты матэрыял і лёг у аснову дыпломнай работы — афармлення кніжкі «Беларускія прымаўкі».



— Там трэба здаровыя і ўзброеныя,— разважліва заўважыў Міша.

— Але вы хоць ведаеце, як іх знайсці? — ужо смялей спытаў Бронік.

— А вы самі пашукайце, Браніслаў Антонавіч,— рашуча адказаў Міша.— Можа і знойдзеце.

— Калі фашысты іх раней не знойдуць,— заўважыў Францусь і сказаў, што сёння з раніцы жандары і паліцаі збіраюцца на Майдан «партызан лавіць».

Кастусь Наляговіч.

Юліян Цішкевіч.

— Няўжо іх ніхто не папярэдзіў?

Хлопцы паціснулі плячамі.

Калі яны пайшлі, Бронік, зачыніўшыся ў сваім пакоіку, узяўся за стары радыёпрыёмнік. Прасядзеў амаль да раніцы. Яго разбудзіла сястра:

— Бронік, недзе блізка ідзе бой!..

Бронік ускочыў з ложка і кінуўся на двор. У тым баку, дзе Брагін, чуліся глухія выбухі. І паміж імі — кулямётныя чэргі. Ён прыслухаўся і крыху супакоіўся: не, гэта не на Майдане.

У будынку Рудакоўскай МТС схаваліся два партызаны — былы дырэктар МТС Нічыпар Андросаў, чэкіст Аляксандр Юшчанка і сувязная Юля Філончык. Яны хацелі перачакаць аблаву, якая рыхтавалася на Майдане. Папярэдзілі сувязную, што павінны хутка прыйсці астатнія партызаны. Але ніхто больш не прыйшоў.

Раніцаю выявілася, што будынак з усіх бакоў акружаны. Бой пачаўся на досвітку. Ужо выбіты вокны, пасечаны рамы кулямётнымі і аўтаматнымі чэргамі. Карнікі залеглі і на двары і ў парку цераз дарогу. Паліцаі стараюцца прарвацца па лесвіцы на другі паверх. Але партызаны не здаюцца.

— Глядзі, Нічыпар, яны ўжо робяць звязкі гранат! — крычыць Юшчанка.— Цяпер трымайся!

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ



**Яўген СЯМЁНАЎ** нарадзіўся ў 1933 годзе ў Ленінградзе ў сям'і рабочага. Ваеннае ліхалецце закінула васьмігадовага хлапчука на Пскоўшчыну. Там ён і жыў адзін. Пасля вайны маці знайшла сына і прывезла яго на сваю радзіму, у Беларусь. Яўген закончыў няпоўную сярэднюю школу і ў 1949 годзе паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча.

Пасля кароткага перапынку — службы ў Савецкай Арміі — Яўген зноў вяртаецца ў вучылішча, каб закончыць яго. Потым працуе на кінастудыі «Беларусьфільм».

Неўзабаве Яўген Сямёнаў паступае на вячэрняе аддзяленне Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.

Калі глядзіш на дыпломную работу маладога мастака — карціну «Воін-вызваліцель», міжволі ўспамінаюцца апошнія часы вайны. Не захопнік і рабаўнік, а воін-вызваліцель, чалавек, які нясе людзям свабоду і шчасце,— такімі бачыць мастак сваіх герояў, тых, хто здабылі перамогу над фашызмам.

— А колькі гранат засталося ў нас? — пытае Андросаў, назіраючы за сваімі вокнамі.
— Тры гранаты і дзве стужкі патронаў,— адказвае Юля і дадае: — Апрача тых, што яшчэ ў вас...
— Нічога, будзем эканоміць!
Сцяна задрыжала. Гэта фашысты пачалі тараніць другі паверх. І раптам звязка — пяць гранат — мільганула ў акне. Юля жахліва ўскрыкнула, калі насустрач ім кінуўся Юшчанка. А праз хвіліну ён зноў стаяў ля вушака, чакаючы новага нападу. На скроні ў яго паказалася чырвоная пляма. Юля перавязала яму хусткай галаву.
І зноў трое чакалі. Тут жа, унізе, карнікі раіліся, як выбіць смельчакоў з іх крэпасці. У парку, насупраць вокан, карнікі ставілі мінамёт.
— Ты, Саша, адыдзі адсюль, — сказаў Андросаў, паказваючы на парк.— Міну не перахопіш...
Смельчакі трымаліся яшчэ гадзіны дзве. На траіх у іх засталося некалькі патронаў у аўтаматах ды ў пісталеце Юшчанкі.
— Няўжо ўсё? — у адчаі пытае Юля, пазіраючы на Андросава і Юшчанку.— Няўжо вось так і памрэм?..
— Не бядуй, Міхайлаўна,— да Юлі падышоў Андросаў.— Мы яшчэ будзем жыць.
А мінамёт тым часам змоўк. Карнікі зноў кінуліся да лесвіцы. Ля дзвярэй цяпер былі Андросаў з аўтаматам і Юшчанка з пісталетам. Не маючы сілы, каб прымусіць смельчакоў здацца, фашысты праніклі на гарышча, і страха запалала агнём...
Бой спыніўся. Юля рванулася да акна глынуць хоць раз свежага паветра ды, скошаная куляй, так і павісла на падаконніку. А ў палаючым пакоі грымнулі два стрэлы, і ўсё заціхла.
...Вестку з Рудакова пра гэты няроўны бой прынёс Віця Ёрш, які хадзіў на сувязь да Паўла Пракопавіча Домнікава.
Як легенда, перадавалася з вуснаў у вусны чутка пра стойкасць трох смельчакоў, якія мужна вытрымалі амаль што дзесяцігадзінны бой з вялікім атрадам карнікаў і загінулі, як сапраўдныя героі.
Броніку і Косцю, якія наведаліся ў бальніцу да Лёнькі Бялова, па сакрэту расказалі пра гэтую навіну. І дадалі яшчэ, што партызаны парасклейвалі лістоўкі, у якіх паведамілі аб разгроме фашыстаў пад Масквой.
Сябры моўчкі пазіралі адзін на аднаго. Добра, што іх працу лічаць партызанскай...

...Гэтая сустрэча адбылася ў клубе, дзе Казачук арганізаваў тэатр. Бронік быў вельмі здзіўлены, што Яўген Іванавіч прызначыў сустрэчу іменна там, дзе збіраліся ўсялякія падонкі. Аднак павесялеў, калі ўбачыў сярод танцуючых Мішу з Аняй Лаўрусенка.
— Вы, напэўна, жадаеце ўдзельнічаць у мастацкай самадзейнасці? — спытаў у Броніка Міша, паказаўшы на аб'яву, і знарок громка растлумачыў: — Тады прайдзіце за кулісы, там запісваюць.
Ля туалетнага століка сядзеў Казачук, нешта запісваў у сшытку. Павітаўшыся, яны загаварылі адразу пра тое, што абодвух хвалявала.
— Хлопцы нашы смелыя і рашучыя,— пачаў Яўген Іванавіч.— Аднак жа яны вельмі ўжо гарачыя, асабліва Францусь Купрэйчык. За імі трэба глядзець ды глядзець.
— Гэта правільна.
— Вось і ёсць такая думка — даручыць гэта табе, Браніслаў Антонавіч...



— Можна проста — Бронік...
— Тым лепш. Хлопцы і дзяўчаты да цябе цягнуцца. І прыцягваеш ты іх, напэўна, не толькі кучаравай чупрынай,— жартаўліва заўважыў Яўген Іванавіч.— Прыёмнік зрабіў вельмі дарэчы. Ты старэйшы сярод іх і да таго ж камуніст. Разумееш?
— Разумею, таварыш Казачук.
— Дык вось і лічы гэта сваім партыйным даручэннем.
Дзверы адчыніліся, і Яўген Іванавіч, убачыўшы ў люстэрку Латышкевіча, дадаў:
— Даўгаполава не падмяняй. Былыя школьнікі лічаць яго і зараз за свайго камсамольскага важака. Няхай ён ім і застаецца.
— А я думаў, што вы ўжо ролі размяркоўваеце,— гарэзліва прамовіў Латышкевіч, калі Яўген Іванавіч скончыў.
— Ты амаль што не памыліўся, Мікалай. Знаёмся, калі незнаёмы.
Не. Браніслаў не быў знаёмы з Латышкевічам. Латышкевіч толькі чуў пра яго ад Казачука.
— Дзе ж Угрыновіч?
— Ён яшчэ не вярнуўся з Бабчына.
— Тады чакаць больш нікога не будзем. Браніслаў, пакліч, калі ласка, Даўгаполава і Наляговіча.
— А можа ўсё ж варта было б паклікаць і Карпава з Руткоўскім? — сказаў Латышкевіч, як толькі Краўчанка выйшаў.
— Не будзем, Мікалай, спяшацца. Мы ж яшчэ не ведаем як мае быць Карпава.


Міхаіл Нікалаенка.

Зміtрок Карпаў — ленінградзец, капітан войск дзяржаўнай бяспекі, выйшаўшы з акружэння, апынуўся ў Хойніках. Тут Марыя Чэкан і іншыя дзяўчаты памаглі яму атрымаць пашпарт на імя Дзмітроўскага. Ён стаў у бальніцы за вартаўніка і конюха. Да яго часта заходзяць Міхаіл Нікалаенка, які ўсё шукае сцежкі да партызан, а таксама Іван Руткоўскі, камуніст. Але Яўген Іванавіч не спяшаўся ўцягваць іх у сваю групу, бо меркаваў, што і Карпаў, магчыма, прыйшоў у Хойнікі з той жа мэтай, як і ён сам.
— Ну, дзе яны забавіліся? — Яўген Іванавіч нецярпліва зірнуў на гадзіннік і выйшаў з грымёровачнай, але адразу ж вярнуўся з Краўчанкам, Даўгаполавым і Наляговічам.
— Там хто-небудзь застаўся? — спытаў ён мімаходзь, звяртаючыся больш да Броніка.
— Францусь з дзяўчатамі,— адказаў Міхаіл.— Яны сочаць, каб за кулісы ніхто не прыйшоў.
Яўген Іванавіч кіўнуў галавой і запрасіў усіх сесці, сам жа стаў спіной да акна, насупраць дзвярэй.
— Перш за ўсё, таварышы, пра самадзейнасць,— загаварыў ён, калі ўсе паселі.— На гэта мы атрымалі афіцыйны дазвол. Застаецца толькі падумаць, каму з вас пайсці на работу ў клуб...
— Яўген Іванавіч, а можа нам усё ж лепш у партызаны? — нясмела падаў голас Косця Наляговіч і паглядзеў на Броніка, нібы просячы ў яго падтрымкі.
Казачук, зацягнуўшыся папяросай, дастаў з кішэні паперку і сказаў:
— Паслухайце, што на гэты конт піша сакратар райкома Домнікаў.— І пачаў чытаць сцішана: — «Зіма чакаецца вельмі цяжкая. Абставіны



Марыя Сокалава.



Анатоль Галяк.



Ліда Ёрш.

склаліся так, што мы пазбаўлены не толькі харчовых баз, але боепрыпасаў і зброі. А лезці на ражон з голымі рукамі, самі разумееце, неразумна. Таму галоўнай задачай лічу...»

Сябры-падпольшчыкі лавілі кожнае слова, а калі Казачук закончыў, Міша не вытрымаў:

— Значыць, гэта няпраўда, што Павел Пракопавіч...

— На вялікі жаль, Міша, гэта праўда. Гэту запіску ён напісаў яшчэ да сваёй гібелі.

На нейкі момант усе змоўклі. Толькі з фае, нібы з-пад зямлі, даносіліся гукі гармоніка. Латышкевіч узяў з рук Казачука запіску і стаў сам перачытваць.

Усе пагадзіліся на тым, што для ўдзелу ў самадзейнасці трэба падабраць надзейных людзей, і перш за ўсё з тых, каго могуць адправіць у Германію. На пасаду сталага музыканта рашылі запрасіць Жоржа Кулакоўскага, які да вайны працаваў у філармоніі ў Мінску.

— Толькі трэба яму неяк памагчы пераехаць з вёскі ў Хойнікі,— згадзіўся Казачук.

— Ды ён проста не ведае, як адтуль вырвацца,— сказаў Бронік.— Яго ўвесь час цягнуць у паліцыю...

На развітанне Яўген Іванавіч сказаў Браніславу:

— Трымай сувязь са мной праз Мікалая Адамавіча. Яго дом № 41 па Пралетарскай. Але памятай: заходзіць туды толькі пры ўмове, калі акно не будзе завешана фіранкай...

...На чале з Яўгенам Іванавічам падпольшчыкі зімой разгарнулі сваю работу ў клубе, збіраючыся на рэпетыцыі. Яны ўмудрыліся дэманстраваць савецкія фільмы, якія захаваліся ў кінабудцы. Больш таго, гледачы, выйшаўшы з клуба, знаходзілі ў сваіх кішэнях лістоўкі.

Круг сяброў па зброі ўвесь час шырыўся. Сярод іх ужо бачым Анатоля Галяка, які працаваў разам з Марыяй Чэкан ва ўправе, Марылю Галавесаву, якая па рэкамендацыі Косці Наляговіча пачала працаваць касірам у клубе, Юлю Купрэйчык, не тую Юлю з якой сябравалі Міша, Франусь і Аня, а крыху старэйшую за іх, настаўніцу,— сябры называлі яе Юляй Антонаўнай. З імі былі і Марыя Сокалава з Лідай Ёрш, якіх уцягнуў у работу Іван Пятровіч Руткоўскі.

Для большай канспірацыі падпольшчыкі разбіліся на групы-пяцёркі і заняліся зборам зброі і боепрыпасаў, а таксама сродкаў у фонд абароны.



# ЧУЕЦЕ, ЯК ПАХНЕ ВЯСНОЙ!..

Адзвінелі са стрэх капяжы, утаймаваліся звонкія ручаіны. Неба заклубілася лёгкімі воблакамі. Абмытая першымі вясновымі дажджамі, зямля нібы ўсміхалася блакіту нябёс, яна нібы песцілася ў сонечных паводках. Канчаўся красавік, наставала пара квітнення.

— Слухаеш, як пупышкі лопаюцца?

Яўген Іванавіч аж здрыгануўся. Ён стаяў ля акна, перад якім гайдаўся на ветры бэз з набрынялымі пупышкамі. Задумаўся і не заўважыў, як да яго падышоў Латышкевіч.

— Ты, Мікалай! Што такое?

— Нічога асаблівага. Прынёс невялікі заказік і забяру бланкі, калі гатовыя,— адказаў Мікалай, азірнуўшыся.

У наборным цэху, здаецца, нікога не было. Але недалёка, каля друкарскай машыны — жанчына.

— Пройдзем да мяне,— запрасіў Мікалая Яўген Іванавіч і, прычыніўшы дзверы, запытальна паглядзеў на сябра.

— Даволі цікавая пісаніна, Жэня,— Мікалай Адамавіч выцягнуў з бакавой кішэні і падаў Казачуку акуратна складзеныя лісткі.— Ты толькі зірні!..

— «Палітычная справаздача аб становішчы ў Хойніцкім раёне»,— прачытаў Яўген Іванавіч і зноў паглядзеў на Латышкевіча.

— Чытай далей. Гэта піша Малчанаў.

Сцяпан Малчанаў да вайны працаваў у МТС галоўбухам і ўмеў добра маскаваць сваё подленькае нутро. Як толькі фашысты пачалі ў Хойніках усталёўваць «новы парадак», ён стаў начальнікам і галоўным бухгалтарам фінаддзела ў бургамістарстве. І быў адным з ярых пасобнікаў гітлераўцаў.

Яўген Іванавіч ведаў, што з думкай Малчанава заўсёды лічыцца бургамістр Нікель, бачыў, што гэты чалавек — амаль на роўнай назе нават з начальнікам жандармерыі Байерам і новым начальнікам паліцыі Ярмольчыкам. Але не думаў, што ён не менш лісліва віляе хвастом і перад абласным камісарам Орлічэкам.

— Ах, сабака пляшывы!..— узлаваўся Казачук, дачытаўшы да таго месца, дзе Малчанаў паведамляў камісару, што ў Хойніках шмат савецкіх актывістаў, раіў зрабіць чыстку і павялічыць штат паліцэйскіх.— Гэта ж данос, Коля?

— На шчасце, ён не трапіць адрасату...

— Нягоднік! За такое ж павесіць мала!

— Так. Але ён улічыў урок Жаўняка. З людзьмі ветлівы. А пра гэтыя справаздачы, можа, не ведае нават Нікель,— расказваў далей Латышкевіч.— Паводзіць сябе вельмі асцярожна. Нікуды не ходзіць. Так што голымі рукамі яго не схопіш.

— Ну, добра. Настане час, яму гэта залічыцца!..

Яўген Іванавіч паклаў паперкі спачатку ў кішэню, а потым перадумаў, асцярожна надрэзаў шпалеры і схаваў іх туды. Паставіў на месца этажэрку і адразу ж паклікаў друкарку.

— Бланкі для бургамістарства яшчэ не гатовы?

— Яшчэ не паспелі, Яўген Іванавіч.

— Гора мне з гэтымі работнікамі!..— паскардзіўся Яўген Іванавіч Латышкевічу.— Адзін захварэў, другі, напэўна, перапіўся. І вось сядзіш...

— Ну што ж, скажу, што не гатовы,— Латышкевіч падняўся і насунуў кепку.

...Наборшчыца Шура Гушча толькі што набрала лістоўку шрыфтамі, якія былі прыхаваны ў бакоўцы, дзе цяпер ляжала ўсялякае шмоцце. Лістоўка была прысвечана Першамаю.

Яўген Іванавіч памог прыправіць тэкст на машыне і папярэдзіў:

— Як толькі падам сігнал, скідвай набор пад машыну, хапай лістоўкі і бяжы да мяне,— але тут жа перадумаў: — Не, лепш я сам, а ты сачы за вуліцай і крайнім акном...

Усё, здаецца, улічана, усё прадумана. Можна пайсці і на рызыку. Калі дарвешся, дык хочацца зрабіць як мага больш. Але Казачук заўсёды памятае, што яшчэ трэба паспець разабраць і схаваць шрыфты, вынесці лістоўкі. І таму ён загадвае сам сабе:

— На сёння хопіць!

Шура здзіўлялася: у яго па секундах разлічаны ўсе гэтыя сорак пяць хвілін. Адкуль у чалавека такі спакой? Пакуль яна аднесла набор, ён ужо схаваў лістоўкі. Неяк яна папрасіла даць ёй некалькі штук, ён наадрэз адмовіў: «У нас з табою, Шурачка, іх няма і не павінна быць!»

Не ведае Шура, што пакуль Ганна Міхайлаўна будзе любезнічаць з жонкай бургамістра Нікеля, Яўген Іванавіч пашле сваю жонку Антаніну Пятроўну ці Рэма да Латышкевіча з астатнімі лістоўкамі, а сам, як нічога і не было, пойдзе ў клуб.

— Нешта ты, Шурачка, глядзіш на мяне падазрона...— выціраючы рукі, пажартаваў Казачук.

— Гляджу і думаю: сталёвыя нервы ў вас, Яўген Іванавіч!

— Вось не ведаў. Увесь час лічыў, што яны такія ж, як і твае, напрыклад...

— Што вы! Я калацілася, як у ліхаманцы, пакуль друкавалі!..

— Не, не кажы! І ты малайчына. Падай мне, калі ласка, вунь тую кніжку...

— «Каварства і любоў»,— прачытала яна на вокладцы.— Няўжо і гэтую ставіць будзеце?

— Будзем і гэтую...

— І ахвота вам весяліць тую публіку,— неяк сумна паківала галавой Шура. Яна нават не падазравала, што і ў кніжцы, між старонкамі, схаваны лістоўкі.

— Яшчэ якая ахвота! — уздыхнуў ён, развітваючыся.


Георгі Кулакоўскі.

Казачук ужо быў у клубе, калі пачуў воклічы: «Браткі, загарэлася недзе! Напэўна, на станцыі. Глядзіце, якія клубы дыму!..»

Ён падышоў да акна, дзе стаялі Бронік Краўчанка, Жора Кулакоўскі і Косця Наляговіч. Сапраўды, пажар быў на станцыі. Яўген Іванавіч і Бронік пераглянуліся.

Думка пра тое, каб спаліць смалярню і лесасклад, прыйшла падпольшчыкам пасля таго, як яны налаўчыліся прымаць зводкі і распаўсюджваць лістоўкі.

— Чаго мы чакаем, таварышы?— рубам паставіла пытанне Марыя Чэкан, калі яны сабраліся ў Ані Лаўрусенка.— Фронту памагаць трэба справамі!

— Што ты прапануеш? — разам загаварылі ўсе.

— Спаліць карчы, бо немцы збіраюцца іх вывезці,— сказала Аня.— Ды хутчэй: ужо прыгналі вагоны пад пагрузку.



— Уяўляеце, які будзе пажар!..— падхапіўся Франусь.— Як смалярня запалае!

Калі пачалі разважаць, хто возьмецца за гэтую справу, першы папрасіўся Марк Колас, былы аднакласнік і сябар Франца Купрэйчыка.

— Не ўжо, Марк, пры ўсёй маёй павазе да цябе, я пярэчу,— Аня нават устала, захвалявалася.— Міша, тады для чаго было ствараць групу на станцыі?..

На тым і пагадзіліся. У дапамогу дзяўчатам, на чале з Аняй Лаўрусенка, былі вылучаны двое хлопцаў з ліку ваеннапалонных. Яўген Іванавіч, адобрыўшы задуму камсамольцаў, прапанаваў зрабіць пажар пад вечар, калі яшчэ ходзяць людзі і будзе лягчэй замесці сляды. Перад гэтым Ніна Сілкова (яна з Аняй працавала на станцыі, на зернескладзе) прайшлася з адным хлопцам і паказала, пад якой бочкай схаваны факел. І неўзабаве смалярня запалала. Наляцелі паліцаі, пачалі тушыць. Ды хіба смалу затушыш?


Ніна Сілкова.

...Вясной партызанам стала вядома, што Казачук не проста загадвае друкарняй і захапляецца мастацкай самадзейнасцю. Яны накіравалі да яго сваю сувязную дамовіцца аб сустрэчы. Яўген Іванавіч паслаў замест сябе Латышкевіча, яму, як падатковаму інспектару, было лягчэй адлучыцца на дзень з горада.

— Вось каб на базе гэтай партызанскай групы ў бліжэйшы час стварыць добры атрад, я поўнасцю згодзен...

Яўген Іванавіч узняўся, прайшоўся па вузкім, як калідор, пакоі і зноў спыніўся насупраць Латышкевіча. Мікалай Адамавіч складваў шахматныя фігуры ў скрыначку.

— Не варта нам зараз распыляць свае сілы, Мікалай, на дзве групы,— прадаўжаў сваю думку Яўген Іванавіч.— Я хачу, каб мяне правільна зразумелі...

— Вядома, зразумеюць. Толькі вельмі ўжо рвуцца хлопцы ў бой.

— Выдатна! На электрастанцыі працуюць былыя ваеннапалонныя.

— Наколькі мне вядома, у ліпені іх збіраюцца пагнаць у Германію,— перапыніў яго Латышкевіч.

— Але нашы хлопцы настойліва агітуюць іх, каб ішлі ў партызаны. Няхай для пачатку Карпаў падбярэ некалькі чалавек, а куды ісці — ён жа ведае...

— Так, ён там быў.

І Латышкевіч устаў. Ён і так ужо загуляўся. На развітанне Яўген Іванавіч сказаў:

— З Карасём, камандзірам нашай партызанскай групы, пастарайся звязацца сам, а мы тут падумаем, як сустрэць падмацаванне...

Яўген Іванавіч ляжаў на канапцы з патухлай папяросай і думаў. Антаніна Пятроўна толькі што з дзецьмі прыйшла дадому. Яна была чымсьці ўсхвалявана. Зірнула на мужа заплаканымі вачамі:

— Жэня, забілі сёння гэтага чалавека, што быў у бальніцы за конюха!..

— Карпава!..— ледзь не ўскрыкнуў ён.

— Так, яго,— і пачала пераказваць падслуханы ў Малашкевічыхі рас-



Марк Колас.

каз: — Ён ужо прайшоў каравулку на станцыі. А там рэзаліся ў карты паліцаі, і нехта з іх аклікнуў яго, ён пабег. А яны ўслед, праз увесь пасёлак гналіся. Кажуць, метраў пяць не дабег да жыта. Разрыўной куляй... у жывот.

Тоня зноў заплакала. Яўген Іванавіч круціў папяросу, але махорка ўвесь час прасыпалася.

— У яго дзве гранаты знайшлі,— працягвала Тоня, усхліпваючы.— І запіска нейкая была, але, кажуць, паспеў зжаваць...

— А не чула, быў з ім яшчэ хто? — спытаў Яўген Іванавіч.

— Кажуць, што нехта паспеў збегчы...

Больш Яўген Іванавіч нічога не пытаў. Сядзеў моўчкі. Газа ў каганцы з гільзы, напэўна, скончылася, і кнот чадзіў. Тоня наліла яму шклянку малака, падала ляпёшку, але ён не дакрануўся да ежы. Патушыў святло і стомлена лёг на канапцы.

Тоня доўга бачыла ў цемры ўспышкі самакруткі і адчувала стрыманае яго дыханне. Яна разумела, якую цяжкую вестку прынесла мужу. Гэта была першая ахвяра з ліку таварышаў па барацьбе. Яна ўжо шкадавала, што так адразу ўсё сказала. Але хіба можна было яму не сказаць гэтага?

## ДЫВЕРСІЯ БЕЗ ВЫБУХУ

Прайшло яшчэ два месяцы. За гэты час немцы паправілі знішчаную тэлефонную сувязь з Брагінам і Васілевічамі, здолелі пусціць электрастанцыю, якую вывелі са строю хойніцкія падпольшчыкі.

За гэты час адбыліся і іншыя падзеі. У Хойнікі прыбылі славакі, мабілізаваныя гітлераўцамі на вайну. Падпольшчыкі вырашылі распрапагандаваць славацкіх салдат.

За агітацыйную работу сярод славакаў узяліся падпольныя групы, якія ўзначальвалі Ганна Гнядзько, Аня Лаўрусенка, Марыя Чэкан.

Славакаў амаль кожны дзень запрашалі ў клуб. Там яны разам з моладдзю бавілі час. Хлопцы і дзяўчаты развучвалі з імі савецкія і беларускія народныя песні, а славакі спявалі свае. Вярнуўшыся ў казарму, яны знаходзілі ў кішэнях лістоўкі на зразумелай ім польскай мове. Здаралася, што гэтыя лістоўкі траплялі і ў пакоі, дзе адбываўся іх малебен, і на сцяжынкі каля школы, дзе яны ходзяць...

Аднойчы на танцах славак, з якім танцавала Марыя Чэкан, адазваў яе ў бок і пад сакрэтам паказаў ёй вельмі знаёмую, але ўжо зачытаную лістоўку. Марыя зрабіла выгляд, што нічога не ведае, і папрасіла, каб пераклаў, што там напісана.

Ці мог ён здагадацца, што гэтая самая Марыя Чэкан ды абедзве Юліі Купрэйчыкі, Аня Лаўрусенка, Ванда Кобус і многія другія, хто валодае польскай мовай, ночы праседжваюць, перапісваючы тэксты, якія ім давалі то Бронік Краўчанка, то Міша Даўгаполаў. А таго, што гэтыя лістоўкі рыхтуюцца ў друкарні Казачука, нават і дзяўчаты не ведалі.

Тады Марыя толькі пахваліла славака за смеласць, за тое, што славацкія салдаты, напэўна, правільна разумеюць сваю ролю ў гэтай вайне, калі шукаюць вось такі выхад з яе. Ён стараўся давесці, што такі выхад падказвае ім нехта з тутэйшых падпольшчыкаў, але Марыя пра гэта і слухаць не хацела. І толькі калі той сказаў, што яму хацелася б папярэдзіць, што сярод славакаў ёсць розныя людзі і некаторых з іх лепш асцерагацца, Марыя паабяцала перадаць усё, што ён скажа, вядома, калі ёй удасца каго-небудзь знайсці...



Ганна Гнядзько.

Але пакуль Марыя Чэкан «шукала», другія дзяўчаты пад вялікім сакрэтам перадалі славакам кінаплёнку схаванага кінафільма «Партбілет», і яго ўжо славакі самі дэманстравалі, як свой трафей.

Гэта было на пачатку. А цяпер некаторыя славацкія салдаты ўжо ведаюць, што прыхаваны аўтамат ці вінтоўку трэба аднесці на Пралетарскую, 41. А гранаты і патроны можна пакінуць нават на Пралетарскай, 8. Праўда, жонка Казачука заўсёды дрыжыць, складваючы іх у стары валёнак. Ёй чамусьці здаецца, што гранаты абавязкова ўзарвуцца, або толькі дакрануцца адна да другой. Дзякуючы за падарунак, яна спяшаецца на гарод прыхаваць яго, каб потым перадаць Латышкевічу.

І падпольшчыкі ўжо ведалі, каму з салдат можна адкрыта даваць лістоўкі, у каго лепш дазнацца аб чарговым выездзе «на партызан», каго трэба асцерагацца.

Ганна Міхайлаўна Гнядзько жыла на плошчы Працы, амаль што ў размяшчэнні воінскай часці. На кватэры ў яе стаяў салдат-славак. Да яго прыходзіла шмат сяброў. Ганна Міхайлаўна ведала, што кватарант час ад часу «ловіць» Маскву. Іншы раз робіць гэта ў яе прысутнасці. Аднойчы яна падвяла яго да ложка свайго сына, адгарнула пасцельны дыванок, і ён убачыў там карту нашай Радзімы, дзе была адзначана лінія фронту.

У другой палове жніўня Бразіслаў Краўчанка перадаў Казачуку, што двое славакаў маюць жаданне пайсці да партызан і просяць памагчы ім. Гэта былі шаферы Карэл і Міша, з тых, што наведваліся да Ганны Міхайлаўны.

— Цудоўна! — узрадаваўся Яўген Іванавіч і тут жа перапытаў: — Але гэта людзі надзейныя?

— З Іванічам пазнаёміўся сам,— адказаў Бронік.— Хлопец добры, сур'ёзны.

— Каму ж даручым?..

— Думаю, што Марыі Чэкан. Яна ж ведае дарогу.

— Можа Нікалаенку? Ён збіраўся туды яшчэ з Карпавым.

Пабыўшы з сувязным Міхаілам Нікалаенкам у партызан, Карэл і Міша вярнуліся на сваім «фордзіку» ў гарнізон, каб яшчэ прыхапіць зброю і боепрыпасы.

Была якраз нядзеля. Карэл Іваніч наказаў хлапчукам Лёдзіку — сыну Ганны Міхайлаўны — і яго сябру Жэньку, каб прыйшлі да каравулкі. Як толькі гарніст прайграў развод, Карэл з імі падышоў да склада, ля школьнай агароджы. Тут рос такі дзядоўнік, што і з другога паверха нічога не ўбачыш.

— Лезьце сюды,— сказаў ён, адкінуўшы дошку.— Там скрыні. Бярыце адну, і мігам — назад!..

Праціснуўся толькі Жэнька, намацаў скрынку. Але паспрабуй падняць яе...

— Адкрый крышку,— шэпча Карэл.— Набірай за пазуху. Потым паднімеш...

Нарэшце скрыня ля агароджы. У адну хвілю Карэл падхапіў яе, Лёдзік памог сябру апаражніць пазуху, схаваў гранаты ў дзядоўніку.

У другой палове дня да Карэла з Мішам далучыўся трэці таварыш, яго звалі Ежы. Яны спяшаліся. Хлапчукі ім памагалі. Лёдзік стаяў на варце перад штабам. Жэнька памагаў грузіць машыну.

Усё гатова. Салдаты развітальнымі позіркамі акінулі сваю каравулку. І раптам аб нечым заспрачаліся. Жэнька не ўсё, вядома, зразумеў, але бачыў, як збялеў Міша і ўсё паўтараў дрыжачым голасам: «Маму заб'юць, братоў... Сястру... Не магу я...»

Нарэшце Карэл адабраў у яго пісталет і выпіхнуў з варот. Ежы нават не развітаўся. Яны былі абураны. Чалавек, які лічыўся сябрам, збаяўся... Ці хопіць у яго мужнасці не выдаць іх?

— Адчыняй! — рашуча сказаў Карэл да Жэнькі і сеў за руль.

Машына выйшла з гаража на двор. Побач сеў Ежы Туш. Карэл націснуў на старцёр, і матор заглух. Машына ні з месца. Пакуль Ежы выскачыў з яе, Жэнька прынёс завадную ручку. Матор запрацаваў.

— Будзь гатоў, піянер! — крыкнуў на развітанне Карэл Іваніч і памахаў рукою.

Жэня Носка хацеў па старой звычцы крыкнуць «Заўсёды гатоў!», але машына ўжо была далёка.

У гэты дзень, 30 жніўня 1942 года, позна чулася музыка ў клубе. Жорж Кулакоўскі і Іван Канарскі гралі на змену. Хойніцкія падпольшчыкі радаваліся сваёй удалай дыверсіі без выбуху.

Гэта быў пачатак. Меней як праз год у партызаны з Хойнік пайшло пяцьдзесят сем славацкіх салдат. Ужо к канцу таго года батальён, што прыбыў на падмацаванне жандармерыі і паліцыі, быў да таго ненадзейны, што гітлераўцы вымушаны былі пасляць яго ў другое месца. А з новым здарылася тое ж самае.

Дзесяць дзён паліцаі і жандары шнырылі па Хойніках. Кінулі ў турму славака Мішу, які збаяўся паехаць з сябрамі. У другі раз схапілі і моцна збілі жонку Карася. І ўсё пакуль без поспеху.

Юлька Купрэйчык проста са сталовай, дзе яна працавала, прыбегла да Ганны Міхайлаўны, усхваляваная, і сказала:

— Ой, нешта задумаў Ярмольчык. Паліцаі пераапранаюцца ў форму дэсантнікаў і партызан.

— Адкуль ты ўзяла?

— «Пакеда» прагаварыўся.

Ганна Міхайлаўна адразу ж да Казачука, расказала яму ўсё гэта. І тут жа заспяшалася на станцыю, папярэдзіць партызанскіх сувязных Тоню Гічык і Соню Дзюбу: можа яны паспеюць звязацца з кім трэба.

— Паспрабуйце, Ганна Міхайлаўна,— сказаў Казачук і, падумаўшы, дадаў: — Правакатары, напэўна, ужо выехалі. І каб мы хаця ведалі, куды. Ладна. Паспрабую і сам. Сёння, дарэчы, павінна прыйсці Тамара Шапавалава. Так што, на ўсякі выпадак, будзе яшчэ адна магчымасць...

Тамара Васільеўна Шапавалава са станцыі Аўрамаўскай ужо везла Казачуку зварот Карэла Іваніча, Юзэфа Туша і ўсіх партызан да славацкіх салдат, калі ёй сустрэліся пераапранутыя пад партызан паліцаі. Яны перагрэслі фурманку, але нічога не знайшлі і паехалі далей.

Інтуіцыя падказвала Тамары вярнуцца. Але ў заплеценых косах — зварот! К вечару загадана яго даставіць у Хойнікі. Яшчэ кіламетраў дваццаць. І ўжо калі яна пад'язджала да ўмоўленага месца на хойніцкіх могілках, ёй насустрач паказаліся паліцэйскія і славацкія салдаты на фурманках.



Жанчына саскочыла са сваёй фурманкі, ірванулася да ўмоўленай капліцы, але перад ёй стаяла некалькі салдат. Адзін з іх бег да яе насустрач са словамі: «Вы Тамара? — Я — Андрэй». Яна стаяла, з недаверам пазіраючы на салдата, і прыгадвала словы Казачука: «Ля капліцы вас стрэне чалавек, назаве сябе Андрэем, яму і перадайце...»

Яна бачыла, што назад зараз вяртацца нельга, і вырашыла,— што б ні было,— яна паедзе ў Хойнікі і пераначуе ў знаёмых.

Гэта была трывожная ноч. Амаль да поўначы па вуліцы грукаталі падводы і машыны. Збіраліся адусюль паліцаі, салдаты. І ўсё туды, у бок Аўрамаўскай.

Правакатары паспелі яшчэ перад вечарам зрабіць сваю справу. Выдаўшы сябе за разведчыкаў гомельскага атрада, яны здолелі выведаць у восаўскіх пастухоў, дзе змяшчаюцца хойніцкія партызаны. І чакалі світання. На досвітку партызанскі лагер быў акружаны з усіх бакоў. Пачулася страляніна з кулямётаў і аўтаматаў. Партызан выручыла тое, што славацкія салдаты займалі пазіцыі ўздоўж чыгункі. Яны стралялі па верхавінах дрэў, пакуль усе партызаны не перабраліся праз чыгунку.

Неўзабаве Хойнікі абляцела новая, не менш трагічная вестка: арыштаваны Маша Сокалава і Ліда Ерш. Праз дзень забралі Марыю Чэкан. Потым з Аўрамаўскай прывезлі сясцёр Наташу і Тамару Шапавалавых.

Уся надзея цяпер была на мужнасць і стойкасць тых, каго ўжо, напэўна, вядуць на допыт. Ці вытрымаюць яны?

## УДАР — НА СЯБЕ!

— А-а, папалася, прыгажуня! — хмыліўся начальнік паліцыі Ярмольчык, калі каравульны ўпіхнуў Машу Сокалаву ў яго кабінет.

— Гэта нейкае непаразуменне, пан Ярмольчык,— запратэставала Маша.— Вы ж ведаеце, што я сумленна працавала ў бургамістарстве.

— Напэўна, так жа сумленна ты занесла і мяне ў чорны спіс, назваўшы толькі не панам, а здраднікам, — і ён узяў ліст чыстай паперы.— Прозвішча тваё, калі не памыляюся, Сокалава? Марыя... Аляксандраўна?.. Год нараджэння 1917-ы?.. Камсамолка?

Цяпер ужо Маша змерала яго знішчальным позіркам. Усяго некалькі год таму назад разам былі на камсамольскай канферэнцыі. Ён тады яшчэ апраўдваўся за дрэнную работу, слова даваў. І вось...

— Нічога, мы зразумеем адзін аднаго,— двухсэнсоўна працадзіў ён, перахапіўшы асуджэнне ў яе чыстых вачах, і паклаў ручку: — Жыццё даецца толькі раз, і кожны разумны чалавек больш за ўсё ім даражыць. Хто дапамог складаць той спіс? Каму ты яго перадала? Вось паглядзі, можа пазнаеш?

Так, гэта быў той спіс. Яшчэ ў ліпені Іван Пятровіч Руткоўскі даручыў ёй і Лідзе Ерш скласці для партызан спіс усіх паліцаяў і здраднікаў і ўказаць іх адрасы. Якраз абласны камісар запатрабаваў з фінаддзела спіс усіх, хто працуе, для выплаты зарплаты. Маша з Лідай згадзіліся тады дагадзіць начальству. Аддрукаваныя ў трох экземплярах спісы былі ўручаны галоўбуху Малчанаву. А чарнавік, дапоўнены і праадрасаваны, быў перададзены партызанам. Як жа амаль праз месяц гэты спіс апынуўся на стале ў ката?

— Ах, вось гэта... Той спіс...— Маша раптам усміхнулася.— Так, я сапраўды па заданню Сцяпана Іванавіча Малчанава складала гэты спіс. Яму яго і перадала...

— Не строй дурня, гадзіна! — Ярмольчык злосна патрос бізуном перад тварам дзяўчыны.— Гэты спіс ты перадала партызанам. І не забывай, што гаворка ідзе пра жыццё...

— Так, пакуль не забыла, скажу. Пан Ярмольчык, вы груба перабылталі цытату Мікалая Астроўскага пра жыццё. Яно сапраўды даецца толькі адзін раз, і пражыць яго трэба так, каб не было сорамна...

— Маўчы, скаціна! — Маша ледзь паспела адхіліць галаву, і бізун сакануў яе па плячы.

У гэты момант зазваніў тэлефон. Ярмольчык са злосцю рвануў трубку. Але голас з таго канца провада падзейнічаў на яго, як халодны душ.

— Добра, пан Байер, прышлю... У жандармерыю! — кінуў ён на Сокалаву.— А сюды, як яе, Ерш!..— І са злосцю да Машы: — Дыспут пра жыццё мы яшчэ прадоўжым...

Маша старалася ісці паволі, каб сабрацца з думкамі. Як хацелася, каб хоць здаля ўбачыць каго-небудзь са сваіх, зразумець, што адбылося. З апошніх слоў Ярмольчыка яна зразумела, што арыштавана таксама і Ліда. Спісы? Яны складалі іх разам. Але ці вядома ім яшчэ што-небудзь, апрача спісаў?

Нізкі тоўсты немец нават узняўся ёй насустрач. Гэта Байер. Ён часам заігрываў з арыштаванымі.

— Сядайце, прашу вас,— галантна прапанаваў ён і, скінуўшы шапку, выцер хустачкай лысіну.— Вы такая маладая і прыгожая, што мне нават непрыемна засмучаць вас такім будзённым пытаннем...

Гэтая лісіная хітрасць насцярожыла Машу.

— Я разумею,— спакойна загаварыў ён,— вы несвядома склалі гэты злашчасны спіс. Нехта, напэўна, прымусіў вас ці выкарыстаў вашу неасцярожнасць. Хто б гэта мог?..

Маша моўчкі пазірала ў акно, міма Байера. Ён нават адобрыў яе жаданне ўсё абдумаць.

Прайшла хвіліна, і Байер зноў паўтарыў:

— Хто гэта мог быць?

— Малчанаў прапанаваў мне зрабіць такі спіс. Я выконвала яго загад.

— Гэта сапраўды так,— суха згадзіўся начальнік жандармерыі.— Растлумачце тады, як ён трапіў да партызан?

— Не разумею, адкуль вы ўзялі, што ён туды трапіў? — рашыла схітрыць і Маша.

Байер, крыху падумаўшы, выцягнуў з сейфа планшэт і патрос ім перад сваім носам.

— Гэты планшэт мы захапілі ў партызан у часе аблавы. Ваш спіс быў там. Як ён туды трапіў?

— Сапраўды, як ён мог туды трапіць, калі я аддавала яго Малчанаву?

— Перастань прыкідвацца!..— Байер пачынаў злавацца.— Мне надакучыла... Каму перадала спіс?

У пакой адразу ж зайшоў памочнік.

— Нікому не перадавала. І не ведаю...

— Бруна, памажы ёй прыпомніць, калі яна сама не можа.

Бруна заламаў дзяўчыне рукі за спіну і піхнуў яе ў дзверы. Іх з таго боку адчыніў Ярмольчык.

— Ну? — усміхнуўся ён Байеру.— Я кажу: дазвольце мне гэту справу, і вы атрымаеце, што трэба.

...Катаванне цягнулася амаль два тыдні. За гэты час учарнелі нават тыя, хто быў на волі. Хлопцы і дзяўчаты, што не раз збіраліся то ў Машы, то ў Ліды, цяпер хадзілі, нібы па гарачым вуголлі. Іван Пятровіч пайшоў да партызан. Не пазнаць было і Яўгена Іванавіча. Сувязная Тамара Шапавалава, якая не адзін раз сустракалася з ім і ў Латышкевіча і проста на вуліцы, таксама была ў турме. І цяпер, можна сказаць, ад яе стойкасці залежыць яго жыццё...

Праўда, Яўген Іванавіч выведаў, што сясцёр Шапавалавых і Марыю Чэкан арыштавалі па даносу пуцявых абходчыкаў, якія бачылі, як жанчыны хадзілі ў лес. Але жанчыны гэта адмаўляюць.

Блізкія сябры робяць усё, каб вырваць іх з кіпцюроў Ярмольчыка. Але як паможаш Машы Сокалавай і Лідзе Ерш, калі Малчанаў пазнаў іх почырк?

...Ліду, збітую і знявечаную, што яна і стагнаць ужо не магла, укінулі ў камеру да Машы. Тая, сама ледзь трымаючыся на нагах, адцягнула сяброўку ў кут, які быў ёй ложкам, і пачала прыкладваць да пачарнелага твару халодную кварту. Потым захінула яе сваім пінжачком і прылегла побач. Але неўзабаве загрымела завала, і пачуўся п'яны крык: «Сокалава!» — Машу ад уласнага прозвішча кінула ў дрыжыкі.

У адну камеру іх пасадзілі пасля таго, як Ярмольчык зрабіў ім вочную стаўку. На другую вочную стаўку, з Малчанавым, іх паклікалі разам. З таго, што Малчанаў ім прад'яўляў, дзяўчаты зразумелі, што падпольную работу праводзілі не яны адны, і яе будзе каму прадоўжыць.

Услед за Малчанавым на вочную стаўку прывялі і Марыю Чэкан, збітую і знявечаную. Ярмольчык скеміў, што сустрэча гэта была для іх нечаканай, і рашыў выкарыстаць гэтую нечаканасць.

— Дык вось, Сокалава і Ерш прызналіся, што спіс перадалі табе,— нагла паглядзеў ён на Марыю.— Ты даставіла яго партызанам.

— Няпраўда! — абурана перабіла яго Маша Сокалава.— Калі хочаце ведаць, я сама яго даставіла туды, куды трэба...

Падручныя Ярмольчыка збілі дзяўчыну з ног і пачалі таптаць нагамі. А яна паўтарала ўсё адно і тое ж: «Я сама...»

Было ясна, што шантаж праваліўся. Дзяўчаты ўсё ўзялі на сябе. Іх цяпер ні пра што не пыталі, толькі катавалі кожны дзень.

Аднойчы на досвітку Машу цягнулі за валасы праз увесь калідор, праз двор і ўкінулі ў камеру. Калі яна апрытомнела, то з недаўменнем зірнула на Ліду: тая ўсхліпвала і хукала на акрываўленыя Машыны пальцы. На іх не засталося ні аднаго пазногця, патрушчаны былі нават суставы...

Пад вечар наступнага дня Машу Сокалаву пад узмоцненым канвоем вялі праз Хойнікі, праз Забалоцце, Маша ведала, што там месца расстрэлаў. І, сабраўшы ўсе сілы, яна старалася трымаць сябе незалежна і горда. Верасрнёўскі вецер шкуматаў на ёй пашарпанае адзенне, кудлаціў пасівелыя валасы. Дзяўчына пазірала ў далеч, старалася не заўважаць, як знаёмыя жанчыны ўціралі слёзы, як праз агароджу спяшаліся пералезці хлапчукі.

У сасняку каты пачалі адмяраць і капаць яму. І пакуль капалі, усё не пераставалі здзекавацца. Як сцямнела, яе зноў вярнулі ў турму. І толькі на другі дзень вечарам Машу з Лідай зноў прывезлі сюды, на гэты раз беззваротна.

Мне не давялося бачыць ні Машу Сокалаву, ні Ліду Ерш. Я слухаю расказы людзей, якія былі сведкамі ўсяго гэтага, успаміны іх сяброў і блізкіх, узіраюся ў іх партрэты і, здаецца, чую горкаўскую «Песню пра Сокала», якую Маша чытала сяброўцы ў апошнюю ноч. І яшчэ, здаецца, бачу, як злезлі яны з фурманкі, чую іх развітанне з Радзімай.

Бяру партрэт Машы і з хваляваннем чытаю на адвароце: «Есть много красивых нарядов на взгляд, но чистое сердце — мой лучший наряд». Гэтыя словы напісаны тым жа прыгожым, каліграфічным почыркам, што і спіс, перададзены партызанам. І ў гэтых скупых і шчырых словах уся Маша Сокалава.

— Марыйка, любая, што ж яны з табою зрабілі, звяругі! — усклікнула Аня Лаўрусенка, убачыўшы, як збілі ў турме Марыю Чэкан.

— Не плач, Аня,— супакойвала Марыя сяброўку.— Галоўнае, што жывая. Дзякуй вам. І Ладзіславу таксама,— з прыязнасцю яна паглядзела на славака, які сядзеў каля стала разам з Мішам Даўгаполавым і Віцем Ершам.

Гэта ён, Ладзіслаў, са сваімі сябрамі памог вызваліць Марыю Чэкан, і вось яна дома. Тамару Шапаваламу таксама выпусцілі, а яе сястру Наташу, як і Машу з Лідай, расстралялі.

Марыя расказвае пра вочную стаўку з сяброўкамі, і сэрца яе закіпае гневам. Ладзіслаў ківае галавой, ён адчувае, што яны не пакінуць яе ў спакоі.

— Ведаеце, Марыя, вам нельга тут заставацца. Хочаце, я адпраўлю вас да сваякоў у Славакію? — прамовіў ён і збянтэжыўся.— Ну, разумееце, як нявесту...

Марыя сумна ўсміхнулася.

— Вы выратавалі мне жыццё, і я павінна б прыняць гэтую прапанову...

— Толькі не як падзяку, калі ласка. Едзьце проста так. Мама ў мяне добрая. А пасля вайны самі вырашыце, як лепш.

— Вось тады мы і дамовімся, Ладзіслаў. А цяпер нікуды я не паеду. Я буду змагацца. Мы яшчэ больш будзем помсціць ім, за Машу і Ліду!..

Міша моўчкі паціснуў ёй руку.

Пасля няўдалай аблавы на партызан, пасля дзікай расправы над Чугаямі — партызанскімі сувязнымі — і расстрэлу Сокалавай і Ерш гітлераўцы трымалі напагатове правакатараў і хапалі кожнага, хто трапіць на падазрэнне.

Яўген Іванавіч таксама разумеў, што Марыю Чэкан яны не пакінуць у спакоі і будуць хадзіць за ёй па пятах. А моладзь да яе цягнецца. Час ад часу пачаў наведвацца да яе сусед Казачука — Лёнька Лешчанок. Яўген Іванавіч яшчэ раней папярэджваў, што гэта тайны агент Ярмольчыка і Байера. Ля камсамольцаў стаў ацірацца сын Малчанава.

Абстаноўка ўскладнілася. Са згоды і пад кіраўніцтвам Казачука падпольшчыкі пачалі распрацоўваць план уходу ў партызаны. Але фашысты апярэдзілі іх. У ноч на 19 кастрычніка яны арыштоўваюць Браніслава Краўчанку, Косцю Наляговіча, Анатоля Галяка і Юліяна Цішкевіча. А потым толькі і чулася: «Узялі Даўгаполава», «Павялі Шчукоўскага», «Арыштавалі Лаўрусенка», «Прывезлі кагосьці са Стралічова...»

Бронік Краўчанка ведаў пакуль толькі, што арыштаваны Наляговіч і Галяк, і рашыў, што нешта здарылася на маслазаводзе. Гэтай ноччу партызаны павінны былі прыехаць па масла. Як і дамовіліся, ён не замкнуў кладоўку. І толькі назаўтра, калі прывялі яго на допыт, зразумеў, што прычына крыецца глыбей.

У адным з класаў школы, дзе змяшчаўся следчы аддзел, ён убачыў, апрача Байера і Ярмольчыка, пяцярых незнаёмых эсэсаўцаў. Адзін з іх, старшы чынам, звярнуўся да Броніка, каверкаючы рускія словы:

— Значыт, вы і ест той самы Каўтшэнка, каторы участвоваль у падрыўная бандыцкая арганізацыя?

— Не разумею, пра якую арганізацыю вы гаворыце? — здзівіўся Бронік.

Жорстка звузіўшы вочы, эсэсавец кіўнуў перакладчыку:

— Нам вядома, што вы актыўна ўдзельнічалі ў падпольнай бандыцкай арганізацыі. Ясна? — І, не чакаючы адказу, працягваў: — Дык вось, калі ты ўсё ж сур'ёзны чалавек, то чэсна назаві сваіх саўдзельнікаў і падбухторшчыкаў.

Пакуль перакладчык паўтараў фразу, эсэсавец уважліва сачыў за выразам твару Броніка, нібы хацеў улавіць, якое ўражанне зрабілі яго словы. Але хлопец адмоўна пакруціў галавой і сказаў, што першы раз чуе і нават не можа паверыць, што ў Хойніках была нейкая арганізацыя.

Эсэсавец выйшаў з-за стала, абмацаў Браніслава злосным позіркам і хруснуў сухарлявымі пальцамі.

— Не прыкідвайся, Бронька! І не забывай, дзе знаходзішся! — піскдява выгукнуў Ярмольчык.— Нам усё вядома.

— А мне невядома.

Удар Броніку прыйшоўся ў сківіцу. Затым рукаятка браўнінга прыпячаталася на скроні. Наступным ударам яго звалілі. Потым выцягнулі ў другі клас і паставілі да сцяны. Ён страціў адчуванне часу. Перад вачамі паплылі чырвоныя кругі. І толькі сэрца кожны раз уздрыгвала, калі з суседняга класа даносіліся крыкі і чуліся глухія ўдары.

Праз той клас прайшлі ўжо і Косця Наляговіч з Анатолем Галяком. І цяпер стаяць тут жа, спіною адзін да другога. Ім паліцаі не дазваляюць нават павярнуцца...

Дзверы зноў расчыніліся, у клас штурхнулі моцна збітага Юліка Цішкевіча і прыставілі да той сценкі, што і Браніслава. Позіркі іх на імгненне скрыжаваліся. У вачах Браніслава Юлік прачытаў нямое пытанне і ўздыхнуў.

Недарэчнасць... Як часта праз яе пачынаюцца вялікія непрыемнасці. Да Зосі Варабей зайшоў хлопец з падвыпіўшым паліцаем. Паставілі на стол бутэльку, і паліцай пайшоў у сенцы, бо ведаў, што там павінны быць яблыкі. Абярнуў бочку з зернем, а там быў папяровы скрутак — адрасы людзей, да якіх павінны былі зайсці партызаны. Пакуль Зося спахапілася, паліцай ужо са сваёй знаходкай пабег у Хойнікі.

Пра арышт Зосі Варабей і яе сяброўкі Стасі Казлоўскай Цішкевіч дазнаўся выпадкова, будучы раніцай у гарадку. Вядома, ён мог бы схавацца. Але дома былі не толькі лістоўкі, а і прыёмнік, які Браніслаў Краўчанка сабраў спецыяльна для вясковай моладзі. «Можа яшчэ паспею схаваць?» Гэтая думка гнала яго ў Паташню. Ён усё паспеў. Засталося толькі самому схавацца. Але паліцаі перагарадзілі дарогу з дому. Пад вечар яго даставілі ў турму.

Але нічога гэтага Юлік не можа расказаць Браніславу. За іх спінамі — паліцаі. А людзей ля сцен усё большае...

# БЯССТРАШНЫЯ ІДУЦЬ У БЯССМЕРЦЕ!

Неба над Хойнікамі зацягнулася цяжкімі свінцовымі хмарамі. Пад гэтым асеннім небам ужо дзесяты дзень адбываецца паядынак не на жыццё, а на смерць.

Учапіўшыся за некалькі прозвішчаў у спісе, Байер і Ярмольчык мабілізавалі ўсіх сваіх агентаў і шпікаў. Эсэсаўцы з дапамогай паліцаяў пусцілі ў ход шантаж. Яны цяпер кожнаму называлі прозвішчы падпольшчыкаў, якія нібыта прызналіся ва ўсім.

— Мацуйся, Жэня, навіна непрыемная,— стрымліваючы хваляванне, прагаварыў Латышкевіч, зайшоўшы да Яўгена Іванавіча.— Кажуць, што гэта Юлік усё выдае...

— Як? Сёння ўжо Цішкевіч? А ўчора ж гаварылі пра Наляговіча...

— Малчанаў казаў...

— Малчанаў? Значыць, сына яго ўсё ж арыштавалі...

— Ты думаеш, Вяргейчык паспеў перадаць?

Вяргейчык служыў у паліцыі па заданню падпольшчыкаў. Гэтымі днямі



Генадзь Цішкевіч.



Марыя Вайцэхоўская.



Фёдар Шчукоўскі.

ён перадаў ад Цішкевіча некалькі слоў: «Сцеражыцеся і вы тых двух, ад якіх папярэджвалі нас. Яны на волі. Гэта сапраўды мярзотнікі...»

Казачук і Латышкевіч ведалі, аб кім ідзе гаворка, і праз таго ж Вяргейчыка адказалі: «Мужайцеся, сябры! Трымайцеся, дарагія таварышы! Мярзотнікам не будзе літасці на нашай зямлі. Даручаем вам самім аддаць належнае гэтым двум і выдаць гэтых нягоднікаў, нібыта сваіх саўдзельнікаў».

— Не хочацца верыць, Мікалай,— пасля доўгай паўзы загаварыў Яўген Іванавіч,— што нашы хлопцы не вытрымаюць...

— Так,— уздыхнуў Мікалай Адамавіч.— Але ж катаванне і...

— Чуў, учора Ярмольчык вадзіў знявечанага Броніка на паказ маццеры. Напэўна, думаў, гад, што перад маткай Бронік прызнаецца...

Не, нічога не памагло. У той жа вечар пасля спаткання з роднымі Бронік Краўчанка заявіў катам, што гэта ён кіраваў усёй падпольнай арганізацыяй.

Мужна трымаліся патрыёты перад ворагамі. Вечарам, вярнуўшыся ў камеру, Жорж Кулакоўскі расказаў сябрам, што ўвесь дзень яны з Анатолем Галяком капалі магілу. Настала страшная цішыня. На нейкае імгненне прытупілася адчуванне болю, холаду і голаду. І раптам за краты прарваліся дзявочыя галасы:

— Віхры варожыя веюць над намі!..

Гэта заспявалі Марыя Чэкан і Аня Лаўрусенка. Потым да іх далучыўся голас Марусі Галавесавай і іншых дзяўчат.

Міша Даўгаполаў ужо быў ля сценкі, пастукаў дзяўчатам і ў шчыліну пракрычаў:

— Як вы там, дзяўчаты? Ты не замерзла, Анка?

— Не турбуйся, родны! — пачулася ў адказ.— Як вы?..

Адказам быў хрыплаваты голас Броніка:

— Смело, друзья, не теряйте
Бодрости в неравном бою!..

Паліцаі грымелі прыкладамі ў дзверы, у сцены, лаяліся. У гэты час раптам узняў галаву Віця Ёрш — яго апошняга прыцягнулі нядаўна з допыту.

— Браніслаў Антонавіч, «Арлёнка» давайце!..

Заспявалі пра Арлёнка, потым пра расстрэл камунараў. І так амаль усю ноч...

Настала раніца. Загрымелі завесы на дзвярах, пачулася беганіна па калідоры. Віця Ёрш цвічком выводзіў на сцяне: «Прашчай белы свет. Няхай жыве Радзіма!»

Таварышы памаглі ўзняцца Броніку. Ён прысланіўся да сцяны і паклікаў Віцю.

— Напішы, хлопча, і ад мяне...

Віця паглядзеў на яго распухлыя рукі і спешна пачаў драпаць пад дыктоўку Браніслава Краўчанкі: «Уходзім на смерць. Але ведайце, людзі,— мы не скарыліся! 30 кастрычніка 1942 года».



Леанід Угрыновіч.



Аганез Саркісян.

Пад вечар, калі раўнадушнае сонца схавалася за хмары, да дзвярэй следчага аддзела адну за другой падагналі тры аўтамашыны і бранявік. Вязняў сагналі сюды яшчэ раней. Цяпер іх пачалі выпіхваць з дзвярэй на ганак, некаторых проста кідалі цераз борт у кузаў. Паліцаі селі ў другую машыну, эсэсаўцы і жандары — на бранявік, наперадзе...

Людзі, што сабраліся па той бок дарогі, не маглі стрымаць плачу і праклёнаў. А калі загулі матори, яны кінуліся было за машынамі, але адсталі.

Грузавікі звярнулі ў сасоннік, што за Забалоццем. І толькі сосны ды высокае неба доўга слухалі ў той вечар спеў «Інтэрнацыянала» і кароткія развітальныя словы герояў, якія адыходзілі ў бяссмерце.

А праз дзень карнікі страчылі данясенне свайму начальству. У ім паведамлялі, што ў Хойніках раскрыта і знішчана шматлікая падпольная арганізацыя, якая праводзіла вялікую падрыўную работу, накіраваную супраць гітлераўскага «новага парадку» наогул і мясцовых улад у прыватнасці. Яна, гаварылася ў данясенні, рыхтавала разгром нямецка-паліцэйскага гарнізона з тым, каб аднавіць тут савецкія парадкі.

За гэта і расстраляны камуністы: Браніслаў Адамавіч Краўчанка, Франц Аляксандравіч Гапоненка, Павел Васільевіч Бот, Васіль Рыгоравіч Барысенка, Міхаіл Сцяпанавіч Гаўрыльчык, Антон Іванавіч Дзядзіцкі, Антон Адамавіч Назарэнка і камсамольцы: Міхаіл Максімавіч Даўгаполаў (сакратар камсамольскай арганізацыі), Ганна Іванаўна Лаўрусенка, Канстанцін Сцяпанавіч Наляговіч, Георгі Андрэевіч Кулакоўскі, Марыя Венедзіктаўна Чэкан, Фёдар Яфімавіч Шчукоўскі, Марыя Іванаўна Галавесава, Анатоль Уладзіміравіч Галяк, Віктар Рыгоравіч Ёрш, Юліян Мечыслававіч Цішкевіч, Трафім Антонавіч Бордак, Уладзімір Аляксандравіч Табачны, Марыя Станіславаўна Вайцэхоўская, Лідзія Міхайлаўна Чаховіч, а таксама Тамаш Мікітавіч Феська, Міхаіл Міхайлавіч Майшук, Генадзь Мікалаевіч Цішкевіч, Станіслава Мікалаеўна Казлоўская, Соф'я Філіпаўна Варабей і другія.

Усяго шэсцьдзесят чалавек.

Іх няма. Але яны заўсёды з намі. Яны ў нашым сэрцы, справах і думках нашых. І няхай пройдуць яшчэ многія дзесяцігоддзі, але і праз іх мы пранясем памяць аб людзях, якія за нас, за наша шчасце і за Радзіму аддалі самае дарагое — жыццё.

Гэта было 30 кастрычніка 1942 года. А праз два тыдні, у ноч на 14 лістапада, партызаны Украінскага злучэння пад камандаваннем Героя Савецкага Саюза А. Н. Сабурава, пры падтрымцы і непасрэдным удзеле

беларускіх партызан і падпольшчыкаў ажыццявілі налёт на нямецкі гарнізон у Хойніках.

Бой цягнуўся каля чатырнаццаці гадзін. Пасля ўходу партызан яшчэ некалькі дзён на станцыі палалі базы і склады; падаспеўшыя з Брагіна карнікі яшчэ доўга сцягвалі да будынка жандармерыі забітых фашыстаў. Сярод іх быў і Бейер са сваімі жандарамі і паліцаямі.

Не, рана фашысты рапартавалі аб знішчэнні ў Хойніках падпольнай арганізацыі. Амаль восем месяцаў пасля гэтага яшчэ быў на сваім пасту Яўген Іванавіч Казачук, каля дзесяці месяцаў — Мікалай Адамавіч Латышкевіч, якія па-ранейшаму кіравалі ёю. Ужо к канцу года арганізацыя ачуняла ад цяжкага ўдару, нанесенага ў кастрычніку, і працягвала дзейнічаць да верасня 1943 года.

Важакамі моладзі ў Хойніках і суседніх вёсках пасля Даўгаполава засталіся Франц Купрэйчык і Марк Колас. А бліжэйшымі памочнікамі Казачука і Латышкевіча, замест Краўчанкі і Кулакоўскага, сталі Міхаіл Нікалаенка, Расціслаў Караткевіч, Аганез Саркісян, Леанід Угрыновіч, Ганна Міхайлаўна Гнядзько і другія.

Пачаўся другі, яшчэ больш актыўны і баявы этап у іх дзейнасці.

Потым ужо, будучы ў партызанах, баявымі адважнымі камандзірамі рот сталі Іван Пятровіч Руткоўскі, Аганез Сагамонавіч Саркісян, Мікалай Адамавіч Латышкевіч. Адважным палітруком адной з гэтых рот да канца свайго жыцця быў і Яўген Іванавіч Казачук. Падрыўнікамі і разведчыкамі сталі Марк Колас, Франц Купрэйчык, Расціслаў Караткевіч і многія другія былыя падпольшчыкі.

Пры выкананні баявога задання 4 жніўня 1943 года загінулі ў баі Яўген Іванавіч Казачук і Франц Ігнатавіч Купрэйчык. За вызваленне родных Хойнік аддаў жыццё Марк Колас. І пасля ўжо вызвалення раёна на фронце загінуў смерцю храбрых 5 мая 1944 года старшы лейтэнант Мікалай Адамавіч Латышкевіч.

Памяць аб іх будзе жыць вечна. І асабліва свята шануюць яе тыя нямногія, што засталіся ў жывых. Гэта ўдарнік камуністычнай працы з Мінска Міхаіл Рыгоравіч Нікалаенка і кіраўнік аднаго з мінскіх прадпрыемстваў Леанід Пятровіч Угрыновіч, падпалкоўнік запаса з Тбілісі Аганез Сагамонавіч Саркісян, пенсіянер Іван Пятровіч Руткоўскі з Брагіна, пенсіянерка Ганна Міхайлаўна Гнядзько з Навагрудка і многія жыхары Хойнік, якія памагалі сваім сябрам-падпольшчыкам.

Хочацца верыць, што чытач прадоўжыць гэты сказ, прыгадае новыя эпізоды гераізму і мужнасці сваіх землякоў і новыя, яшчэ невядомыя імёны.






*Для фотааматараў,*
*№ 10, кастрычнік, 1965.*

## На конкурс «ВОБРАЗ МАЛАДОГА СУЧАСНІКА»

**Міхась Давыдзік. Сельскі механізатар.**






# У БЯРЭЗІНСКІХ НЕТРАХ



Дарога праз лясныя нетры.

Уяўленне малявала мне ў дзяцінстве Краіну Райскай Птушкі: непралазныя лясы, дзіўныя жывёлы, сінія горы. Я зайздросціў усім, хто хоць краем вока бачыў экзотыку. У марах я вандраваў па джунглях і саванах, прабіраўся па горных цяснінах.

Але з цягам часу мой позірк перастаў блукаць па глобусе. Я ўбачыў іншую, рэальную прыгажосць, за якой не трэба ехаць на край свету, якая была побач са мной і вакол мяне.

Я зацікавіўся... Лагойскам. Што за горад? Чаму Лагойск? Пэўна, стаіць на лагах? Што і казаць — геніяльная здагадка!..

Лагойск і сапраўды стаіць на лагах. І ўбачыў я тыя лагі раніцай, калі ў гонкія бары кідаюцца з вышыні слупы залатога, як сонца, святла. Таямнічыя бары беглі па лагах далей на поўнач, і я не сцярпеў, рушыў у лясныя нетры. Вясёлая была дарога праз лясы! Яна скакала з узгорка на ўзгорак, круцілася стужкай па бярэзніках, хавалася ў блакітных туманах. Я праехаў сто кіламетраў без перапынку, і сто кіламетраў без перапынку насустрач бег лес.

За Бягомлем аўтобус прамчаўся над Бярэзінай. Там адкрыў я сваю жаданую краіну. Яна ніколі не была Краінай Райскай Птушкі. Яна была птушыным раем. А дакладная геаграфічная назва яе — Бярэзінскі запаведнік.



Птушак у Бярэзінскім запаведніку шмат. На возеры Палік у кастрычніку збіраюцца стаі вадаплаваючых, па дзесяць-пятнаццаць тысяч. Акрамя звычайных беларускіх кракваў і чыркоў, на пралёце можна ўбачыць гагар, гусей, ныркоў, паганак, сіньгу, марскую чэрнець. У верасні на возеры Плаўна на ўсе лады пераклікаюцца кулікі, рыбачаць чорныя буслы і шэрыя чаплі. Вераб'іных ніхто не лічыў, ды і палічыць іх цяжка. Арнітолаг Вадзім Клакоцкі ад крыгаходу да лістапада дні і ночы праводзіць «у полі», вывучае законы птушынага раю.

Неяк у канцы жніўня мы паставілі сеткі на Дамжарыцкім возеры, і Вадзім Клакоцкі ўзначаліў загон. Пасля таго як мы паўгадзіны прабіраліся на лодках па чароту, мэта была дасягнута. Маладыя качкі-хлапунцы трапілі ў сетку. Вадзім іх акальцаваў і выпусціў у родную стыхію возера.





На Паліку ў старой брызе размясцілася калонія шэрых чапляў. Асцярожныя птушкі, як толькі ўбачаць чалавека, спалохана пакідаюць гнёзды.

А дрозд-белабровік пры набліжэнні чалавека нерухома замірае на гняздзе. Пад ім на мяккай подсцілцы трапечуцца ружовыя цельцы толькі што вылупіўшыхся птушанят.



Калі на возера Манец спускаецца вечар, качкі чародамі пералятаюць з аднаго берагу на другі. Вячэрнія зоры — цудоўная пара для паляўнічага. Але ніводзін стрэл не пачуецца ў запаведніку.





У запаведніку жыве шмат ласёў, вепраў, аленяў, сустракаюцца і мядзведзі. Гэта — высакародны, або еўрапейскі, алень.



На дзікай лясной яблыньцы я ўбачыў куніцу. Яна мільгацела ў галінках, як маланка. Гэты жывы каўнерык — рэдка дзе сустрэнеш у беларускіх лясах.



Я бачыў лясы пад Мазыром, дубовыя гаі ў даліне Случы і Прыпяці. Я бачыў Налібоцкую пушчу і быў у Белавежы. Але першабытныя лясы над Бярэзінай ні з чым не параўнаеш. На Увязку ёсць мясціны, праз якія без праваднікà і тапара не прадзярэшся.

Гэта партызанская зямля.

Бярэзінскія лясы ў час вайны былі савецкай тэрыторыяй.

На слаўнай зямлі жывуць слаўныя людзі. Раз у год, у першую нядзелю ліпеня, былыя партызаны збіраюцца ў вёсцы Крайцы, каб адзначыць гадавіну з дня вызвалення Беларусі ад фашыстаў. Кожны год на свята прыходзіць партызан Антон Цярэнцьевіч Хацкевіч. Вёску Кветчу, дзе ён жыве, немцы спалілі дашчэнту. Яны разбурылі гаспадарку запаведніка, зруйнавалі шлюзы Сергучоўскага і Бярэзінскага каналаў.

Пасля вызвалення Хацкевіч быў дырэктарам запаведніка. З попелу вырaслі новыя вёскі. З ружовых сасновых бярвенняў, з чырвонай цэглы былыя партызаны адбудавалі ў Крайцах навуковы цэнтр. Антон Цярэнцьевіч працуе цяпер у запаведніцкім музеі. Ён робіць чучалы звяроў і птушак.

Тут паказана толькі невялічкая частачка таго, што можна ўбачыць у лясах над Бярэзінай. 740 квадратных кіламетраў займае плошча запаведніка. Я бываю там некалькі разоў у год. І кожны раз раблю для сябе адкрыцці.

Валянцін ЖДАНОВІЧ.






# ВАЧЫМА СЯБРОЎ

**З 10 па 20 верасня ў Беларусі праходзіла Дэкада балгарскай культуры. Сябры з Балгарыі паказалі вялікую інфармацыйную фотавыстаўку. З гэтай выстаўкі мы публікуем некалькі здымкаў пра жыццё балгарскай моладзі.**

Студэнцкі гарадок у Сафіі.



У гарах Стара-Планіна.





Юры Гагарын — госць балгарскіх піянераў.

Маладыя кааператаркі.



*У красавіцкім нумары нашага часопіса былі змешчаны фантастычныя здымкі аматара Міколы Шчаглова. Ніжэй мы друкуем апавяданне, якое напісана па матывах гэтых здымкаў.*

# АБДЫМКІ СЕЛЕНЫ

**Фантастычнае апавяданне**

Дол пад нагамі раптам задрыжаў, і чорная скала закрыла выхад з пячоры. Дробненькія абломкі-каменьчыкі бясшумна струменіліся зверху маленькімі ручайкамі. Сяргей Гаркуша выключыў ліхтарык.

Недзе ў глыбіні пячоры, здалося, бліснуў слабы агеньчык. Сяргей пільна ўгледзеўся, аднак нічога больш не заўважыў. Тады ён націснуў кнопку ліхтарыка. Яркі прамень святла слізгануў па абрывістых сценках, выхопліваючы кавалкі тоўстых напластаванняў, натрапіў на пустату, ірвануўся і недзе там наперадзе, пераможаны прасторай і цемрай, абяссілены, завяў.

Ход з пячоры быў досыць шырокі і прамы. Каб не каменні, то ісці было б зусім лёгка. Але стаяць на месцы ён не мог і ішоў, асцярожна ступаючы, каб не праваліцца ў якую-небудзь яму ці расколіну.

Чаму маўчыць рацыя? Няўжо абвал пахаваў таварышаў? Няўжо?.. Ён не хацеў думаць пра гэта. Не, з імі нічога страшнага не здарылася, бо так усё добра пачыналася.

...Лёгкі штуршок абвясціў, што «Кібальчыч» зрабіў пасадку. Андрыянаў выпусціў з рук штурвал і стомлена адкінуўся на спінку крэсла. Праз секунду-другую сказаў:

— Віншую, сябры! Мы — на Месяцы!

Андрыянаў адшпіліў рамяні.

— Дзе мы знаходзімся, штурман? — запытаў астрабіёлаг Самадзееў.

Гаркуша зірнуў на прыборы, карту і адказаў:

— Як і намячалі: раён заліва Вясёлак Мора Дажджоў.

— Выдатна,— сказаў Андрыянаў.— Праз гадзіну выйдзем.

На паўночным паўшар'і, дзе яны высадзіліся, яшчэ было цёмна. Нерухомыя, пукатыя зоркі здаваліся ненатуральнымі, намаляванымі. На захадзе на самы краявід насоўвалася Зямля.

Касманаўты стаялі нерухома, зачараваныя незвычайным відовішчам. А Зямля ўсё апускалася і апускалася і хутка знікла зусім.

Нейкі час вакол была толькі аксамітная чарната. Потым з-за высокага чорнага хрыбта вынырнула бліскучая палоска, і нясцерпна яркія сонечныя прамені паласнулі па вачах. Касманаўты паспешна прыкрыліся ахоўнымі акулярамі.

Пачаўся дзень. Першы іх дзень на Месяцы.

Яны падрыхтавалі ўсюдыход і накіраваліся на захад. Неўзабаве дасягнулі даліны. Дзіўная яна была, загадкавая. Цяжка нават было ўявіць, што сама прырода дамаглася такой зусім па-чалавечы закончанай дасканаласці. Даліна выглядала хутчэй дарогай — прамой, роўнай. І толькі пласт лававага попелу падказваў, што ўсё гэта існуе даўно на халодным і мёртвым Месяцы.

— Тут многа загадак,— праспешваў сяброў Андрыянаў.

Іх шлях ляжаў туды, дзе на вялікім плато, што нагадвала мора, за апошнімі горнымі складкамі чакала найвялікшая загадка Месяца — Піко, пік, больш падобны на абеліск, пабудаваны кімсьці разумным, чым на тварэнне прыроды. Касманаўты мелі заданне агледзець Піко і яго ваколіцы...

Так, пачыналася ўсё добра. Гаркуша цяпер нават усміхнуўся сам сабе. Вось ужо колькі гадзін ён ішоў і ішоў, а вузкаму ходу, што, здавалася, завёў у самыя нетры Месяца, не было канца. І трывожная думка зноў і зноў вярталася да яго. Ён не разгубіўся, не паддаўся роспачы. Ён проста не верыў, што не здолее выбрацца з гэтага каменнага палону. Ён не верыў, што каменныя абдымкі Селены, як некалі зямляне звалі прыгожы Месяц, могуць аказацца для чалавека такімі каварнымі. Непакоіла другое. Чаму ўсё-ткі так здарылася? Што не дагледзелі?

Да Піко касманаўты дабраліся без прыгод. Магутны пік, імклівы ў сваёй стромкасці, панаваў над усім наваколлем. І нейкай векавой застыласцю, спакоем веяла ад яго. Дык можа ад гэтага спакою яны на імгненне страцілі пільнасць?

Яны пачалі аглядаць плато. Яно сапраўды было падобна на бурнае мора: пыл не трымаўся на вастраверхіх каменнях, і яны, здавалася, жылі і кіпелі рознакаляровымі бліскаўкамі мінералаў пад праменнямі сонца. У той час не падумалі, чаму на каменнях не было пылу. Цяпер Гаркуша быў амаль упэўнены, што здагадваецца аб прычыне: нетры пад раёнам Піко даволі часта падавалі прызнакі жыцця. І абвал скалы, пэўна, быў вынікам аднаго з чарговых штуршкоў. А ён палез у пячору, не захапіўшы троса, які быў бы і павадыром і тэлефонным провадам.



Засяроджаны на сваім невясёлым роздуме, Сяргей не адразу заўважыў, што ход пашырэў. Хутка Сяргей адчуў незвычайную стому і ўспомніў, што нічога не еў ад той пары, як пакінуў карабель. Зірнуў на хранометр. Мінула ўжо дванаццаць гадзін. Ён сеў на каменны дол, прыхінуўся да шурпатай сцяны. Адчуў, як вяртаюцца сілы, пачаў зноў круціць тумблеры настройкі свайго прыёмніка. Спачатку ў ім толькі чулася звычайнае патрэскванне. Але вось на хвалі галоўнай радыёстанцыі «Кібальчыча» загучалі сігналы пеленга. Хай ён не можа звязацца з таварышамі, бо яго ультракароткахвалевы перадатчык не можа адолець такую адлегласць, ён усё роўна чуе іх голас. І гэта адно — ужо вялікая радасць. Але чаму раптам сталі прабівацца радыёсігналы скрозь тоўшчу гор? Няўжо недзе блізка ёсць выхад на паверхню?..

Гаркуша таропка падхапіўся і пайшоў далей.

А ход усё пашыраўся. І хутка Сяргей апынуўся нібы на пляцоўцы, якая мела амаль правільную круглую форму. Прамень ліхтара выхопліваў зацененыя плямы праломаў. Іх было многа, яны размяшчаліся ў нейкім дзіўна правільным парадку і былі падобныя адзін на аднаго, нібы ячэйкі ў сотах.

Сяргей прытушыў ліхтар, заплюшчыў вочы, каб хутчэй прывыкнуць да цемнаты. А калі раскрыў іх, то аж уздрыгнуў ад здзіўлення. Над дальнім краем пляцоўкі, як ліхтар на гарадской вуліцы, нерухома вісела пукатая жоўтая зорка. Там быў выхад. Зорка прыцягвала, як магніт, і Сяргей нават зрабіў крок у напрамку да яе. Зачараваны зоркай, ён не адразу заўважыў тое слабае мігценне, што струменілася аднекуль са сцен на цэнтр пляцоўкі. А там... Сяргей аж заміргаў вачамі, каб пазбавіцца ад наслання. Там, быццам у мініятуры, стаяў... Піко. Суровы, маўклівы, яшчэ больш загадкавы ў няпэўным святле ячэек.

Не верачы сабе, не адважваючыся падысці, каб не расчаравацца, Сяргей навёў аб'ектыў кінакамеры і, паводзячы ім па баках, павольна пайшоў да зоркі.

Зноў была ноч. Зноў на захадзе плыло начное свяціла — Зямля. Сяргей выбраўся на паверхню. Далёка на паўночным усходзе, дзе павінен быў знаходзіцца сапраўдны Піко, магутным сіняватым слупам уздымаўся прамень пражэктара. Таварышы падавалі яму знак.

Дабраўся Гаркуша да ўсюдыхода, калі пачынаўся новы дзень. Сустрэў яго Андрыянаў.

— Андрэй дзе? — спытаў у яго Сяргей.

— Адлежваецца. Помніш, ты ўвайшоў у пячору. Я сачыў за табой і не заўважыў, як ён раптам кінуўся ўверх, да скалы. Тым часам кратэр, які, здавалася, даўным-даўно амярцвеў, раптам выкінуў фантан гарачага попелу, перамешанага з каменнем. Адзін камень упаў яму на галаву. Андрэй страціў прытомнасць. Цяпер ён папраўляецца. А ты? Як ты?

— Нармальна. Пра мяне потым,— дадаў ён, заўважыўшы нецярплівы жэст камандзіра.— Ты мне скажы, Андрэй не гаварыў, што ён там убачыў, на скале?

Андрыянаў паціснуў плячыма:

— Казаў: Піко...

— Піко!? Зноў Піко!

Камандзір недаўменна зірнуў на Сяргея, потым абярнуўся назад, дзе над раўніной панаваў гэты пік-абеліск, які ўразіў так яго таварышаў. Піко быў ранейшы — велічны і ўнушальны.

— Дык чаму «зноў» Піко? — спытаў Андрыянаў.

Гаркуша, нібы адказваючы не камандзіру, а нейкім сваім думкам, прамовіў:

— А што, хіба немагчыма?

**Уладзімір ШЫЦІК.**

## ВОБРАЗ МАЛАДОГА СУЧАСНІКА

*З той прычыны, што ў фотаклуб паступіла шмат здымкаў на наш конкурс, рэдакцыйны савет вырашыў лічыць апошнім тэрмінам прысылкі работ — 25 кастрычніка г. г.*

*Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў снежаньскім нумары.*

# ЛАБАРАТОРНЫЯ ЭФЕКТЫ



Фота 1.

У гэтым нумары мы разгледзім некаторыя прыёмы лабараторнай апрацоўкі, якія часта і не зусім правільна адносяць да катэгорыі «займальнай» ці прыкладной фатаграфіі. Самым простым з гэтых прыёмаў з'яўляецца,

### ФАТАГРАМА.

У фатаграме ролю негатыва выконваюць самі рэчы, якія кладуцца на неэкспанаваную фотапаперу. Пасля засвятлення і праяўлення паперы ў месцах, дзе былі пакладзены рэчы, атрымліваюцца белыя іх «цені».

Разгледзім, напрыклад, фотаздымак «Рэпетыцыя ў народным тэатры» (фота 1).

Адлюстраванне промня святла і пражэктара атрымана на здымку спосабам фатаграмы. Для гэтага з чорнай паперы былі выразаны круг і трохкутнік. Пры друкаванні адбітка іх палажылі ў неабходным месцы на фотапаперу, а іх белыя «цені» з'явіліся той самай дэталлю, якая надала здымку закончанасць.

Пярэдні план здымка «Лясная казка» (фота 3) таксама фатаграма. Казачнае дрэва — звычайны маленькі карэньчык, знойдзены ў лесе. Яго фатаграма, атрыманая пад павелічальнікам, з'явілася папяровым негатывам для ўдрукоўвання ў здымак пярэдняга плана.

### ФОТАБАРЭЛЬЕФ

Каб атрымаць рэльефнае адлюстраванне, з асноўнага негатыва кантактным спосабам друкуюць дыяпазітыў. Калі скласці негатыў і дыяпазітыў разам, адлюстраванне знікае, бо ўсе светлыя часткі негатыва перакрываюцца ценямі пазітыва. Але дастаткова зрушыць іх, як узнікае эфект «рэльефа». Канчатковы вынік поўнасцю залежыць ад суадносін шчыльнасці негатыва і пазітыва.

Эфект фотабарэльефа ў асобных выпадках можа з'явіцца сродкам павышэння выразнасці здымка. Акрамя поўнай змены характару адлюстравання, ім можна падкрэсліць асобныя дэталі, напрыклад, пярэдні план. Само сабой зразумела, што эфект «рэльефа» атрымліваецца толькі там, дзе ёсць рэзкія абрысы адлюстравання.

Пры атрыманні фотабарэльефа на дапамогу фотааматару можа прыйсці папяровы негатыў. Разгледзім здымак «На водмелі» (фота 2).

З асноўнага негатыва праз павелічальнік друкаваўся адбітак 2 а. З яго быў атрыманы папяровы негатыў 2 б. Праз складзеныя разам адбіткі 2 а і 2 б засвятляўся ліст фотапаперы (лямпа 60 ват, дыяфрагма 2, вытрымка 15 секунд), які пасля праяўлення і кароткатэрміновага фіксавання з'явіўся папяровым негатывам (фота 2в) для друкавання канчатковага здымка.

У выніку гэтага працэсу першапачатковы здымак поўнасцю змяніў тонавыя суадносіны і характар адлюстравання.

Мы разгледзелі найбольш простыя творчыя прыёмы, якія не патрабуюць складанага абсталявання ці спецыяльных матэрыялаў і даступныя любому фотааматару.

Авалодаўшы гэтымі прыёмамі, фотааматар можа заняцца больш складанай у тэхнічных адносінах працай — атрымаць, напрыклад,

Фота 2.





Фота 3.

### ФОТАПЛАКАТ,

г. зн. спалучэнне фотаадлюстравання, тэкста, фатаграмы і г. д.

Плакатнае мастацтва мае некаторыя своеасаблівасці. Плакат павінен быць максімальна выразны. Адсюль і своеасаблівасці яго формы: графічнасць, лаканічнасць кампазіцыі, вострая дынамічнасць адлюстравання.

Існуе два спосабы атрымання фотаплаката: пачарговае ўдрукоўванне пад павелічальнікам і склейка здымкаў у канчатковую кампазіцыю пасля сушкі адбіткаў. У абодвух выпадках гатовы мантаж пераздымаецца на плёнку, а канчатковы адбітак друкуецца звычайным шляхам.



Фота 2а



Фота 2б. Фота 2в

Плакат — «Хірасіма не павінна паўтарыцца!» (фота 4) атрыман спосабам мантажу адбіткаў. Каб не траціць многа часу, адбіткі манціраваліся на экране павелічальніка мокрыя, адразу ж пасля фіксавання і прамыўкі. Змантіраваны такім чынам плакат пераздымаўся не фотаапаратам, а павелічальнікам. Для гэтага ў яго рамку была пакладзена рэпрадукцыйная плёнка, а засвятленне мантажу рабілася адной лямпай на працягу пятнаццаці секунд. Лямпу, вядома, трэба перасоўваць, каб дабіцца раўнамернага асвятлення. З атрыманага негатыва друкаваўся канчатковы адбітак.

**Генадзь БЯЛІЦКІ.**

Фота аўтара.

Фота 4.








І. Анішчанка. Скульптурны партрэт С. Ясеніна.

# ТАЛЕНТ ДОБРЫ, ЧАЛАВЕЧНЫ

*Да сямідзесяцігоддзя Сяргея Аляксандравіча Ясеніна*

Лицом к лицу —
Лица не увидать.
Большое видится на расстоянии...

Раздумваючы сёння над паэтычным лёсам Сяргея Ясеніна, нельга не заўважыць, што гэтая афарыстычная «формула» чалавечага перажывання, створаная ім, у дачыненні да яго самога ўяўляецца занадта недакладнай. Недакладнасць яе становіцца асабліва відавочнай, калі ўспамінаеш тыя высокія ацэнкі ясенінскай паэзіі, якія ёсць у выказваннях вялікіх сучаснікаў паэта.

«Сяргей Ясенін,— гаварыў А. М. Горкі,— не столькі чалавек, колькі орган, створаны прыродай выключна для паэзіі, для выяўлення невычэрпнага «смутку палёў», любві да ўсяго жывога ў свеце і міласэрдзя, якога — больш за ўсё іншае — заслужыў чалавек».

Не менш цікавымі і значнымі з'яўляюцца словы А. Серафімовіча: «...адзіны ў наш час паэт. Такой неверагоднай здольнасці ў выяўленні самых тонкіх перажыванняў, самых пяшчотных, самых інтымных,— ні ў кога з сучаснікаў».

І, нарэшце, Уладзімір Маякоўскі...

Аднак спачатку пра Ясеніна з пункту гледжання 30-х, 40-х — пачатку 50-х гадоў... На жаль, у тыя гады наша знаёмства з ясенінскай паэзіяй пачыналася і канчалася толькі непрыняццем трагічнай формулы паэта:

В этой жизни умереть не ново,
Но и жить, конечно, не новей...

і паэтычнай дэкламацыяй узвышана-мужнага заклiку Маякоўскага: «В этой жизни умереть не трудно, сделать жизнь значительно трудней».

Абставіны склаліся так, што дарагое нашай літаратуры імя Сяргея Ясеніна толькі між іншым, як штосьці выпадковае і нязначнае для савецкай паэзіі, упаміналася пры шырокай размове аб творчасці У. Маякоўскага. У выніку — глыбока чалавечная, выпакутаваная сэрцам лірыка паэта доўгі час была амаль невядомая шматнацыянальнаму савецкаму чытачу. І гэта тады, калі ў дваццатыя гады яна мела шырокую папулярнасць, калі нават сам Маякоўскі прызнаваў выключную сілу ясенінскага таленту: «...лірычны пісьменнік; лірычныя тэмы... Што па літаратурнай лініі можна супрацьпаставіць яму ў сялянскай і пралетарскай паэзіі! Можна вельмі мала. Прычына — наша страшнае літаратурнае бескультур'е».



Гэта — не толькі высокая ацэнка фармальных вартасцей ясенінскай паэзіі, але, перш за ўсё, прызнанне яе мастацкай першароднасці, змястоўнасці, глыбокай чалавечай абаяльнасці, што ідзе ад непаўторнай шчырасці пачуцця і бясстрашнай праўдзівасці думкі.

Не жалею, не грущу, не плачу,
Всё пройдёт, как с белых яблонь дым.
Увяданья золотом охваченный,
Я не буду больше молодым.

Адна страфа, а ў ёй — філасофія ўсяго жыцця: непазбежнасць вечнага росквіту і адцвітання, што кожнае імгненне адбываюцца ў прыродзе і ў чалавечым быцці. І яна выказана, як асабісты боль, як глыбока асабістае прызнанне, як споведзь перад самым лепшым другам. Вось гэтая якасць ясенінскай лірыкі з'яўляецца той ні з чым непараўнанай сілай, якая так моцна вабіць да сябе людскія сэрцы.

Паэзія Сяргея Ясеніна, якая захоўвае высокую эстэтычную і этычную каштоўнасць, вядома, не магла не ўплываць на творчасць шмат якіх прадстаўнікоў маладой савецкай літаратуры.

У той ці іншай ступені творчы вопыт Сяргея Ясеніна садзейнічаў становленню такіх паэтычных індывідуальнасцей, як А. Твардоўскі, Б. Карнілаў, П. Васільеў, А. Пракоф'еў і іншыя.

Што ж датычыць беларускіх паэтаў, то ў першую чаргу тут варта назваць Паўлюка Труса, у некаторых ранніх вершах якога можна сустрэць радкі, амаль «перанесеныя» з Ясеніна. Дарэчы, нават у такога самабытнага, глыбока нацыянальнага паэта, як Максім Танк, можна заўважыць сляды ўплыву ясенінскай паэтыкі. Ці заслугоўвае гэта сур'ёзнай увагі? Вядома. Але наіўна думаць, быццам адшукванне непасрэдных слядоў ясенінскай вобразнай сістэмы ў творах іншых паэтаў — гэта галоўнае пры вырашэнні праблемы ўплыву.

Бялінскі гаворыць нешта зусім супрацьлеглае: «...Уплыў вялікага паэта заўважаецца ў другіх паэтаў не ў тым, што яго паэзія адлюстроўваецца ў іхняй, а ў тым, што яна ўзбуджае ў іх уласныя іхнія сілы...» І вось калі паглядзець на праблему ўплываў з такога пункту погляду, то мімволі ўзнікае пытанне — а ці правільна мы вырашаем яе ў адносінах да Сяргея Ясеніна і Уладзіміра Маякоўскага, ці мог Маякоўскі прайсці міма найбагацейшых здабыткаў ясенінскага лірычнага таленту? Адказ можа быць толькі адзін: не мог.

Не мог хоць бы па той прычыне, што бачыў у лепшых лірычных творах Сяргея Ясеніна ўзоры высокага паэтычнага майстэрства: «Пытанне аб С. Ясеніне — гэта пытанне аб форме, пытанне аб падыходзе да стварэння верша такім чынам, каб ён трапіў у той участак мозгу, сэрца, у які іншым шляхам не трапіш, а толькі паэзіяй». Гэта — амаль непасрэднае прызнанне Маякоўскім значэння паэзіі Ясеніна ва ўласнай паэтычнай рабоце. І нельга думаць, быццам такое прызнанне здольна пахіснуць наша ўяўленне пра наватарскую сутнасць паэзіі вялікага пралетарскага паэта. Наадварот, яно толькі лішні раз пераконвае ў тым, што традыцыі і наватарства існуюць не ізалявана, а жывуць у пастаянным узаемадзеянні і ўзаемаўзбагачэнні.

Знамянальна, што душэўна шчодрая, поўная святла і шчымлівай чалавечай пяшчоты лірыка Сяргея Ясеніна і сёння — не пакрытая пылам архаіка, не мёртвая традыцыя, а жыццядзейная сучаснасць.

Крышталёва чыстае, сумленнае, пяшчотнасцю напоўненае ясенінскае слова, несумненна, у многім садзейнічала паглыбленню гуманістычнага пачатку ў савецкай паэзіі апошняга дзесяцігоддзя.

**Іван РАЛЬКО.**







# АДЫСЕЯ АЛЕСЯ КУЧЫНСКАГА

**АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. «Пушчанская адысея». Выдавецтва «БЕЛАРУСЬ», Мінск, 1964.**

Аповесць Аляксея Карпюка «Пушчанская адысея» вяртае нас да незабыўных дзён Вялікай Айчыннай вайны. Пра партызанскія баявыя будні напісана многа, і таму кожны новы твор на гэтую тэму пачынаеш чытаць, задаючы сабе пытанне — што новае адкрывае аўтар у такім, здавалася б, добра вядомым матэрыяле. Навізну «Пушчанскай адысеі» перш за ўсё трэба бачыць у пэўна акрэсленай «нравственной» пазіцыі аўтара, у своеасаблівай маральнай атмасферы, якою насычаны ўвесь твор.

Заўважаецца як бы нейкая адваротна-прапарцыянальная залежнасць: чым далей у мінулае адыходзяць падзеі вайны, тым больш глыбокае асэнсаванне іх мы бачым у літаратуры.

Адысея Алеся Кучынскага, галоўнага героя аповесці, гэта — цяжкі шлях пакут і выпрабаванняў, шлях барацьбы за свабоду народа і радзімы. Фашысцкі лагер смерці Штутгоф, уцёкі з палону, пошукі свайго месца ў барацьбе з ворагам, арганізацыя партызанскага атрада імя Кастуся Каліноўскага і яго баявыя дзеянні — вось этапы гэтага складанага шляху.

Як асноўная і скразная, праз усю аповесць праходзіць тэма барацьбы супраць фашысцкіх захопнікаў. Але ёсць у творы і другая тэма, у раскрыцці якой адчуваецца ўплыў той духоўнай атмасферы, што склалася ў краіне пасля XX з'езду КПСС. Гэта тэма даверу да чалавека. І ў гэтым плане канфлікт паміж Кучынскім і Чыгровым выглядае канфліктам двух поглядаў на жыццё, дзвюх пазіцый у адносінах да чалавека. Усёй логікай падзей і характараў пісьменнік рашуча асуджае антынародную па сваёй сутнасці мараль недаверу і падазронасці, якая не толькі прыніжала чалавека, але і часта каштавала яму жыцця.

І ў паказе падзей, і ў раскрыцці чалавечых характараў галоўным крытэрыем для пісьменніка з'яўляецца праўда жыцця. Прыйшоўшы з партызанскага атрада дамоў, Алесь Кучынскі ўзрывае на станцыі стрэлку. Сам па сабе гэты дыверсійны акт меў нейкае значэнне, хоць бы маральнае, але ж за гэта трое рабочых заплацілі жыццём. У ацэнцы гэтага ўчынку бацькам Алеся Кучынскага і Чыгровым зноў выяўляюцца два рэзка супрацьлеглыя погляды. Для Чыгрова галоўнае — справа, безадносна да чалавека. Тое, што, магчыма, загінулі нявінныя людзі, для яго не мае значэння. Інакш ацэньвае ўчынак Алесеў бацька. Ён сурова гаворыць, як бы адрасуючы гэтыя словы сыну: «Калі ты ўжо ўзяўся за нешта, дык рабі дзельнае. Не выдавай сябе, не дражніся, і людзей сваіх не падводзь». Алесь цалкам на баку бацькі. Нявінныя ахвяры потым увесь час будуць трывожыць яго сумленне. І аўтар, у дадзеным выпадку, зусім не апраўдвае свайго героя. Такая пазіцыя пісьменніка, можа, і не адпавядае традыцыйнаму ўяўленню чытача пра партызанскую вайну. Але сама логіка развіцця падзей, логіка фактаў, эмацыянальная іх афарбоўка пераконваюць у тым, што гэта — праўда.

Для Карпюка «Пушчанская адысея» — твор у многім аўтабіяграфічны. Магчыма, адгэтуль і яго моцная пераканаўчасць, яго стрыманая ўнутраная эмацыянальная сіла. Пісьменнік скупы на знешнія праявы пачуццяў, манера яго апавядання нешматслоўная, сціплая, унутрана напружаная.

Няма ў аповесці шырокага ахопу падзей, не надта многа ўвагі адводзіцца і апісанню баявых аперацый, подзвігаў. Уся ўвага скіравана на глыбіннае даследаванне самога працэсу станаўлення і разгортвання ўсенароднага супраціўлення ворагу. Магчыма, таму так многа месца адводзіцца паказу жыцця сялян ва ўмовах акупацыі, апісанню партызанскага побыту, партызанскіх будняў. Ды гэта і зразумела. Для большасці сялян, як, напрыклад, для Алесевага бацькі, праца на зямлі, клопаты пра гаспадарку, пра сям'ю непарыўна звязаны з барацьбой і складаюць нешта адзінае. Такім было тагачаснае жыццё.

Партызанская вайна, якою яна паказана ў аповесці,— гэта вайна народная. Аўтар імкнецца перадаць усю яе складанасць і супярэчлівасць, як вайны менавіта народнай, у нечым падкрэсліць стыхійны яе характар. Пра гэта добра расказваецца ў эпізодах «арганізацыі» сялянамі вёскі Страшава першай чыгуначнай дыверсіі. Гэта падкрэслена і ў эпізодзе першай сустрэчы Алеся з партызанамі. Да гэтага Алесь уяўляў іх сабе рослымі, энергічнымі, дужымі. У сапраўднасці ж партызаны крочаць цяжка, няўклюдна, шоргаюць халявамі, спатыкаюцца аб карэнні і пні. На адным вывернуты кажух, на другім — вайсковы шынель, на трэцім — дэсантная куртка, на чацвёртым — палітэчка; яны «гыркаюць адзін на аднаго, кашляюць, чыхаюць, шморгаюць насамі».

Алесю здаецца, што яны больш падобны на дрывасекаў ці чыгуначных рамонтнікаў. Потым Алесь пераканаецца, што гэта і ёсць людзі звычайнай працы, сяляне ў незвычайнай для іх ролі воінаў. Такі аўтарскі погляд на партызан праходзіць праз усю аповесць. Ён ляжыць у аснове ідэйнай канцэпцыі твора, якая ў тым, каб паказаць партызанскі рух, як усенароднае супраціўленне. Гэтая канцэпцыя сцвярджаецца вобразнай сістэмай, «нравственной» аўтарскай пазіцыяй, яна ў аптымістычнай, здаровай у сваёй аснове атмасферы народнага светаўспрымання і светаадчування, якая пранізвае ўвесь твор. Гераічнае і подлае, трагічнае і камічнае арганічна зліваюцца, ствараючы рэальную карціну жыцця народа ў змаганні за праўду, за светлую будучыню.

Ідэйнай канцэпцыяй прадыктаваны і выбар галоўнага героя твора. Алесь Кучынскі масавы герой у тым сэнсе, што ён — адзін з многіх, сын свайго класа і пэўнага асяроддзя. Калі што і вылучае яго сярод іншых, дык толькі індывідуальныя рысы характару: смеласць, нейкая неўтаймаванасць, абвостранае пачуццё справядлівасці, рашучасць, якая часам даходзіць да безразважлівасці. Аўтар пры тым увесь час асцерагаецца, каб не надаць свайму герою нейкай выключнасці ці ўсебаковай станоўчасці.

Раскрываецца характар Алеся не толькі ў дзеянні, праз учынкі. Уважліва прасочваецца ўнутраная работа яго думкі, барацьба пачуццяў. Алесь Кучынскі ўвесь час трымае строгі маральны кантроль над сабою.

Аўтар падкрэслівае і псіхалагічна пераканаўча паказвае любоў свайго героя да ўсяго сялянскага, мірнага, павагу да чалавека працы. Успомнім той эпізод, калі забіваюць солтыса Тарноўскага. Гэтаму эпізоду адведзена значнае месца ў аповесці. І не выпадкова. Тут паказана сутыкненне двух антаганістычных маралей, двух рэзка супрацьлеглых чалавечых сутнасцей.

Тарноўскага трэба забіць — у гэтым Кучынскі бачыць свой патрыятычны абавязак. Але, прыехаўшы ў Каўняны, «гледзячы на саламяныя стрэхі, мірныя бярозы і вербы», Алесь ужо не адчувае ранейшай рашучасці. Сялянскія хаты, самі сяляне, такое знаёмае і блізкае яго душы асяроддзе, абуджаюць у яго хутчэй любоў, чым нянавісць. Далей ён бачыць, што і сам солтыс такі ж селянін, як і іншыя, нават нечым крышачку падобны на яго, Алесевага, бацьку. І толькі тады, калі Тарноўскі пачынае выхваляцца сваімі забойствамі, здзекам з аднавяскоўцаў, да канца раскрывае сваё звярынае нутро, ранейшая злосць і нянавісць з новай сілай ахопліваюць Алеся і ён выконвае прысуд.

Пісьменнік імкнецца ўсебакова прасачыць і як мага паўней раскрыць характар свайго героя. Колькі паэтычнасці, шчырасці, сапраўднай душэўнай прыгажосці бачым мы ў яго каханні да Ніны! Многа прывабліва, па-чалавечаму натуральнага і прыгожага раскрываюць у характары Алеся яго адносіны да бацькоў, суседзяў, таварышаў.

Калі гаварыць пра недахопы аповесці, то трэба перш за ўсё адзначыць слабую індывідуалізацыю мовы герояў. Не мае мастацкай неабходнасці, тым больш пры такой кампазіцыйнай пабудове, як апавяданне ад першай асобы, і сустрэча ў эпілогу з Рыхардам, былым зняволеным канцлагера Штутгоф. У некаторых сцэнах аповесці заўважаецца налёт літаратуршчыны. Але ўсё гэта не змяншае цікавасці гэтага твора. Перагарнуўшы яго апошнюю старонку, прачытаўшы заключныя радкі, робіцца неяк трохі сумна, не хочацца развітвацца з героямі, якія ў нечым духоўна блізкія табе, з якімі ты знайшоў душэўны кантакт, якіх палюбіў за мужнасць і сціпласць, шчырасць і высокую чалавечнасць.

**Серафім АНДРАЮК.**

СТАРТЫ І ФІНІШЫ

# ФУТБОЛ

## НА СЦЭНЕ І ЗА КУЛІСАМІ

**Балельшчыкі заўсёды бачаць футбол з параднага боку — на стадыёне. Амаль нікому з іх не ўдавалася пранікнуць за футбольныя кулісы. Нашы фотакарэспандэнты Дабраслаў Церахаў і Валянцін Ждановіч пабывалі за футбольнай сцэнай у тыя незабыўныя дні, калі мінскае «Дынама» рыхтавалася да розыгрышу кубка СССР. Сваімі ўражаннямі яны падзеляцца з вамі.**

Чым займаюцца футбалісты ў перапынках паміж матчамі? Вядома, трэніруюцца. Трэніроўка — напружаная праца — забірае ўвесь вольны час футбалістаў. І толькі напярэдадні матча, у дзень гульні футбаліст нічога не робіць. Ён адпачывае.

Альберт Дзенісенка ў часе адпачынку змагаецца супраць Эдуарда Малафеева.





Матч на маленькім зялёным полі. Б'е Эдуард Зарэмба!

Хуан Усаторэ не расстаецца з кнігай.



І Леанард Адамаў тое ж:
— Вось ляжу і чытаю кніжкі. Нічога не зробіш — траўма...



Яны і тут на адной лініі — абаронцы Іван Савосцікаў і Ігар Ромін.

Юры Пагальнікаў прыгадаў эпізод з гісторыі каманды:
— Памятаеце матч з «Нафтавікам»?..





...Усмешкі Івана Мозера і Хуана Усаторэ азначаюць, што гэты матч яны таксама памятаюць.





За гадзіну да свістка суддзі і футбалісты перасяляюцца ў раздзявалку. Да пачатку гульні трэба вырашыць мноства спраў. Па-першае — хто нашы праціўнікі? Заслужаны трэнер БССР Аляксандр Аляксандравіч Сявідаў разам з Юрыем Пагальнікавым удакладняе склад каманды, з якой трэба будзе гуляць.



Веніямін Арзамасцаў усё робіць добра: і цвікі заганяе, і галы забівае...



Міхаіл Мустыгін:
— Вынік сустрэчы не выклікае ніякіх сумненняў. Ці мы іх, ці яны нас!




Гэты кадр — таксама з гісторыі футбола: беларускія балельшчыкі ў Лужніках узнімаюць настрой землякоў-фіналістаў.

І вось фінальны матч на кубак СССР. Мінскія дынамаўцы выходзяць на поле. Побач з імі — маскоўскія спартакаўцы.





Іван Мозер (справа) зараз даведаецца, якія вароты будзе абараняць яго каманда.

Былі выкарыстаны ўсе рэзервы. Замест Леанарда Адамава, які быў траўміраваны, на поле выходзіць Валеры Яромка.



Ні гераічныя намаганні ігракоў, ні спачуванне былога варатара мінчан, заслужанага майстра спорту Аляксея Хоміча, не памаглі — кубак узялі спартакаўцы.



Мінчанам дастаўся другі кубак — ад сваіх землякоў-электразаводцаў. Яны ўзнагародзілі дынамаўцаў за дастойную гульню супраць «Спартака».





Два дні працягваўся матч, два дні ішла жорсткая барацьба за кубак!

Апошні эпізод з футбольнай эпапеі. Па тэлефоне вітаюць Веніяміна Арзамасцава — аўтара гола ў вароты маскоўскага «Спартака».



# НА ДВАРЫ І Ў МАСКВЕ

Хлапчукі ад цямна да цямна ганялі мяч і не выбілі ніводнай шыбы. У іх быў уласны стадыён з сапраўднымі варотамі, у іх быў свой трэнер — шліфоўшчык завода аўтаматычных ліній Міхась Сарока. Стадыён памаглі пабудаваць бацькі, Міхась Сарока трэніраваў на грамадскіх асновах. Чатыры разы запар каманда «Чайка», якая належыць спартыўнаму клубу «Арлёнак» пры домакіраўніцтве № 20 у горадзе Мінску, заваёўвала кубак газеты «Зорька».

І вось на маскоўскім стадыёне «Дынама» мінская «Чайка» стала ўсесаюзным чэмпіёнам сярод дваровых каманд. Дзеці з Арлоўскай вуліцы прывезлі ў Мінск галоўныя трафеі гэтага незвычайнага турніру: прызы футбольнага клуба «Скураны мяч» пры газеце «Пионерская правда». «Чайка», перамогшы каманду Данецка, якая лічыцца самай тэхнічнай дзіцячай камандай у краіне, заваявала гэтыя прызы ў фінальнай сустрэчы з камандай Луганска. За гэтым матчам сачылі дзесяткі тысяч масквічоў і самыя праслаўленыя футбалісты Савецкага Саюза.

Наш фотакарэспандэнт Валянцін Ждановіч сустрэўся з «Чайкай». Ужо на другі дзень пасля прыезду з Масквы «Чайка» гуляе з віцебскай «Стралой», а на трэці дзень юныя футбалісты выйшлі на трэніроўку. Яны цвёрда вырашылі надоўга затрымаць у Мінску прызы «Пионерской правды».



Каманда «Чайка» за пяць год не прайграла ніводнага матча.

Трэнер Міхась Сарока.



Варатар Віця Баркоўскі. Ён забіў рашаючы гол у вароты луганскай каманды. За выдатную абарону варот яго расцалаваў Аляксей Хоміч.





Жэня Мачалаў — правы нападаючы «Чайкі» (на пярэднім плане).



Касмічны карабель — галоўны прыз «Пионерской правды». А на скураным мячы распісаліся самыя славутыя футбалісты краіны.

Грыша Грудзінскі — капітан каманды.



Яны таксама будуць футбалістамі.



# НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ЗВЫЧАІ

## ПЛАНЕТА СВЯТКУЕ ВЯСЕЛЛЕ

У Судане прадстаўнік канторы, што рэгіструе шлюб, у прызначаны час сам прыходзіць да жаніха. Як бачыце, шлюб у гэтай краіне арганізаван з усімі выгодамі, нават ісці нікуды не трэба. Вясельны кантракт абмяркоўваюць і падпісваюць старэйшыя мужчыны абедзвюх сем'яў. Тут заадно і дамаўляюцца, колькі грошай бацькі нявесты атрымаюць адразу, а таксама, колькі ім належыць сплаціць у выпадку разводу. Маладыя могуць не ўдзельнічаць у гэтых грашовых разліках, ім не абавязкова прысутнічаць і на ўласнай жаніцьбе. Затое потым яны сем дзён п'юць і гуляюць з сябрамі ў доме нявесты.

Закон дазваляе суданцам мець па чатыры жонкі. А ў некаторых суданскіх плямёнах, асабліва ў чулукаў,— і па дваццаць. Пры гэтым, калі памірае бацька, старэйшы сын павінен ажаніцца з усімі ўдовамі, акрамя сваёй маці.

Кволыя кветкі апельсінавага дрэва лічацца ў італьянцаў сімвалам чысціні. Таму, калі ранiцай вясельны картэж з песнямі прастуе з мэрыі ў кафэ, нявеста нясе ў руках букет кветак апельсінавага дрэва. За сталом яна частуе сяброў белымі вясельнымі цукеркамі, дорыць дзяўчатам свае кветкі. Існуе прыкмета: колькі галінак дасць сяброўцы маладая, столькі гадоў госця не пойдзе замуж.

Даўнішняя прымаўка кажа, што ў кожнай японкі ў высокай зачосцы схаваны небяспечныя рожкі. Таму нявеста абавязкова накрывае галаву хусткай, якая называецца «схавай рогі рэўнасці». Калі дзяўчына пакідае родны дом, яе бацькі наладжваюць пачэсную цырымонію: яны падмятаюць і мыюць падлогу, паляць каля варот агонь. А ў доме жаніха ў гэты ж самы час у тры кубачкі разліваецца гарэлка «сакэ». Маладыя і сваха павінны піць па чарзе з кожнага кубачка — гэта старажытны вясельны абрад «Тры глыткі». Замест пярсцёнкаў маладыя абменьваюцца водарасцямі і рыбаю. Тыя, хто не можа наладзіць пышнай бяседы дома, запрашаюць гасцей у храм, дзе падаецца лёгкая закуска і трохі віна. Нярэдка бедныя японцы наладжваюць вясельны стол у складчыну.

Пышнае свята жаніцьбы бірманскіх юнака і дзяўчыны пакідае незабыўнае ўражанне. Яно цалкам пабудавана на старадаўніх народных звычаях. Адначым, што чыста рэлігійныя абрады тут адсутнічаюць. Усё пачынаецца з запрашэння ў дом да жаніха вельмі паважанай фігуры — «пона», астролага, які вызначае «найшчаслівейшы час» (дзень і гадзіну) для вяселля.

Раніцаю ў дзень вяселля да будынка маладой прастуе гаманлівы натоўп на чале з жаніхом, святочна прыбраны гірляндамі кветак. На шляху маладога раптам вынікае неспадзяваная перашкода: на парозе дома яго каханай стаяць яе сяброўкі. Іх абдорваюць грашыма і рознымі падарункамі, даюць таксама залаты ланцужок для нявесты. Чым шчадрэйшы малады, тым весялейшае свята.

Дом нявесты запаўняюць госці. Самае пачэснае, цэнтральнае месца належыць маладым. Іх падводзяць з розных канцоў пакоя адно да аднаго: яны, узяўшыся за рукі і пакланіўшыся гасцям, займаюць сваё месца. Самы паважаны госць абвязвае іх доўгім белым палотнішчам — сімвалам уступлення ў шлюб. На скрыжаваныя рукі маладых льюць ваду; астролаг, «пона», гаворыць палкі маналог, у якім заклікае маладых прайсці праз усё жыццё, не раз'ядноўваючы рук. Шлюбная цырымонія заканчваецца «сумесную ядою»; малады і маладая павінны з'есці па жменьцы рысу, узятаму з адной міскі. Госці абсыпаюць маладых і самiх сябе сухім рознакаляровым рысам: «Хай дастатак не пакідае нас і ў гэтым доме!». Увечары свята пераўтвараецца ў гаманлівую людную бяседу з феерверкамі, скокамі, песнямі.





Маладыя нежанатыя хлопцы парушаюць спакой маладых, кідаючы на дах іх будынка каменне, вымагаючы «геба» — грошай на развагу. На дапамогу маладым спяшаюцца бацькі, зноў раздаюць грошы і падарункі. Свята доўжыцца некалькі дзён.

Паводле старадаўняга звычаю шлюбная цырымонія пачынаецца ў Індыі ў той час, калі будучая маладая пара грэецца яшчэ ў пясочку. Бывае, што дзеці зусім не ведаюць адно аднаго, часта нават жывуць у розных вёсках. Бацька дзяўчынкі запрашае да сябе ў дом гхатукаў — сватоў. За іх паслугі яму даводзіцца плаціць нямала грошай і дарыць дарагія рэчы. Гхатукі шукаюць жаніха. Уся цяжкасць у тым, каб хлопчык і дзяўчынка належалі да адной касты. Пад час заручын бацька нявесты наведвае будучых родзічаў і ўручае ім грошы — задатак за жаніха. На святкаванні заручын адбываецца першае знаёмства дзесяці-трынаццацігадовых дзяцей. Дзецям звязваюць рукі гірляндамі духмяных кветак і крапляць галовы вадою з Ганга. Цяпер ніхто не можа разарваць сімвалічных ланцугоў, якімі звязана доля дзяцей.

Калі дзеці падрастуць і бацька жаніха палічыць, што настаў час пагаварыць пра вяселле, ён надзявае сваё самае лепшае адзенне і ідзе да «аракула», вясковага «вучонага-мудраца». Той, паваражыўшы на зорках, прызначае дзень вяселля.

Маладыя пасяляюцца ў доме жаніха. У Індыі, як правіла, жывуць аб'яднанаю сям'ёй: моцныя сямейныя сувязі — аснова дабрабыту. Стварэнне аб'яднанай сям'і, дзе жывуць дзед, бацька, сыны, унукі, праўнукі, эканамічна аблягчае існаванне ўсіх пяці пакаленняў. На чале сям'і стаіць старэйшы па гадах мужчына. Вядома, галоўнаю гаспадыняю ў доме лічыцца старэйшая па гадах жанчына.

Да таго як нарадзілася ўсемагутная капіталістычная рэклама, вясельныя абрады брытанцаў вельмі адрозніваліся адзін ад аднаго. На Брытанскіх астравах, акрамя англічан, жывуць шатландцы, ірландцы, горцы Уэлса. Розныя іх мовы, розныя і звычаі, традыцыі. Ды сучасны век — век тэлебачання і кіно — сцёр гэтыя асаблівасці. Дзе купіць пярсцёнак, вянчальнае плацце, куды паехаць у вясельнае падарожжа, — пра ўсё раскажа рэклама, якая суправаджае англічаніна ўсюды — на вуліцы, у кінатэатры, дома ля тэлевізара ці радыёпрыёмніка. Калі няма патрэбнай сумы грошай, каб купіць пярсцёнак ці плацце, вазьміце іх напракат.

І ўсё ж вяселлі ў Англіі бываюць розныя. На вяселле прынцэсы Маргарэт было патрачана грошай больш, чым на вяселле самой каралевы Елізаветы II. Мільёны фунтаў стэрлінгаў затрачваюць фінансавыя варацілы Сіці на банкеты, дзе аб'яўляюць пра заручыны, і на раскошныя вяселлі. Але гэтыя вяселлі не паказваюць па тэлевізару. Біржавыя і інтымныя справы мільянераў не вельмі намагаюцца папулярызаваць.

Большасць англічан вянчаецца ў царкве, хаця для атэістаў законам дазволены грамадзянскія шлюбы з рэгістрацыяй у паліцэйскім упраўленні. Англійская царква ўстанавіла свой рытуал вянчання. Імёны маладых павінны быць аб'яўлены пад час нядзельных малітваў. Праз тры тыдні можна вянчацца між восьмаю гадзінаю раніцы і шостаю гадзінаю вечара на працягу трох месяцаў.



Шлюб у Англіі лічыцца несапраўдным, калі:

а) адзін з тых, хто ўступае ў шлюб, разведзены і пасля разводу не мінула шасці месяцаў;

б) адзін або абое тых, хто ўступае ў шлюб, — лунацікі (законы пра гэта прыняты ў 1811 годзе);

в) маладыя не дасягнулі 16 год;

г) парушана цырымонія царкоўнага шлюбу;

д) наяўнасць блізкага радства па крыві;

е) ён або яна змушаны вянчацца сілаю ці ашуканствам;

ж) калі жаніх пад час вянчання быў п'яны да страты памяці.

На вяселлі ў айсораў (адна з народнасцей, якая жыве ў Іране) аб'яўляецца «царом». Яго сябры — «каты» па чарзе падводзяць да яго юнакоў, што прысутнічаюць на вяселлі. І «цар» кожнаму з іх назначае кару, штраф.

У канцы вясельнай бяседы «цара» скідаюць. Яго сан прадаецца з аукцыёна. Грошы, выручаныя пры гэтым, а таксама атрыманыя як штраф, ідуць на пакрыццё страт на вяселлі.

Іранская дзяўчына можа выходзіць замуж, калі ёй мінае дзесяць-трынаццаць год. Жаніх таксама не на многа старэйшы — 15—16 год. Бацька юнака павінен даць дзяўчыне «махр» — грошы, каб забяспечыць яе будучыню. Потым унесці «шыр беха» — плату за малако нявесцінай маці. Калі меркантыльны бок справы закончаны, адбываюцца заручыны «шырыні харан» — паяданне ласункаў. Заручыны — «аку» — праводзяць два мулы, па адным з кожнага боку.





Афганскае вяселле гуляецца тры дні. На другі дзень нявесту трэба адвезці на кані або на вярблюдзе ў дом да маладога. Калі нявесту выводзяць з яе дома, жаніх павінен абуць яе ў сандалі, а яна пры гэтым супраціўляцца.

Ды вось жартаўлівая «сямейная сварка» закончана. Маладая сядзіць верхам на кані. Лічыцца добраю адзнакаю, калі каму пашанцуе прайсці пад павадамі каня нявесты. Асабліва намагаюцца дакрануцца тых павадоў ворагі жаніха, калі хочуць з ім памірыцца. Убачыўшы, што найлюцейшы вораг дакрануўся павадоў, малады падыходзіць да яго і па-сяброўску працягвае руку. Такі ўжо дзень гэта, дзень усёдаравання.

Юнак з аргенцінскага племені індзейцаў тэхуэльчэ пасылае да нявесты свайго брата альбо сябра, які прапаноўвае ёй каня ці срэбны ланцужок. Калі дзяўчына прымае падарункі, значыць яна згодна стаць жонкаю.

Каб шлюб быў шчаслівы, а жыццё бясхмарным, малады забівае аднаго са сваіх коней. Яго галаву, хрыбет, хвост, сэрца і пячонку нясуць на блізкі пагорак, дзе аддаюць у ахвяру злому духу Гуалічу. Пасля гэтага рытуалу можна пачынаць вяселле.

Хазарэйцы, адна з афганскіх народнасцей, пачынаюць таргавацца яшчэ да вяселля, больш як за год да яго. Калі бацькі будучай пары дамаўляюцца пра тое, што вяселле ў прынцыпе адбудзецца, яны абменьваюцца хусткамі і разбіваюць на кавалачкі вялікі дроб цукру, і абдзельваюць кавалачкамі ўсіх прысутных. Гэты абрад называецца «кантышкені».

Услед за гэтым выходзяць бацькі і, прачытаўшы разам першы раздзел карану, абмяркоўваюць размеры калыму. Гэта доўгі і зацяты гандаль.

Сама цырымонія вяселля адбываецца толькі праз год. Нявесту адзявае «шчаслівая жанчына» — багатая, у якой многа дзяцей. З прымаўленнямі маладую вядуць да жаніха. Мула тройчы звяртаецца да жаніха і «вакіла», — прадстаўніка маладой, — ці згодны яны ўступіць у шлюб. Калі маладыя выходзяць з дому, на іх кідаюць кішміш, пірагі, дробныя манеты.

**Я. ЦЭРКОВЕР.**

# РАНЫ, ЯКІХ НЕ ГОІЦЬ ЧАС



**Доктар Отакар Ферштэк за апошнія тры гады звёў фрэзай Шрэйса больш 1 700 татуіровак! Факты з яго працы, у якой абагулены назіранні над сотнямі маладых пацыентаў, пакладзены ў аснову нашага рэпартажу.**

Праз некалькі дзён пасля таго, як у пражскім Інстытуце касметыкі я прагледзеў вучэбныя матэрыялы аб татуіроўцы, мне давялося пазнаёміцца з працай прафесіянальнага татуіроўшчыка ў фільме «Горад пад назвай Капенгаген». Тонка бзучэў вібратар, роўненькім струменьчыкам сцякала ў рану фарба — адразу было відаць, што мы жывём у век тэхнікі...

А чэшскі дыктар за кадрам у гэты час з велізарнай наіўнасцю задаваў гледачам пытанне:

— Няўжо гэта яшчэ робіцца?

Ну, дык вось, паважаны дыктар і іншыя фамы няверачыя, ГЭТА РОБІЦЦА. І не толькі ў Ганконгу ці Порт-Саідзе, экзатычных партах з прыгодніцкіх апавесцей. І не толькі ў Капенгагене ці Гамбургу, адкуль нашы мясцовыя рачнікі час ад часу прывозяць «сірэн» і «Санта-Клар» на сваёй скуры.

Сотні нашых хлопцаў і дзяўчат сарамліва хаваюць ад свету раны, у якія ўцёрты сажа, чарніла ці туш. Раны даўно не кроваточаць і не баляць, але паляць пякельным агнём ганьбы і прыніжанасці. Раны, нанесеныя сабе ў хвіліну слабасці, пад уплывам благой кампаніі, пучком уваткнутых у корак іголак ці звычайным школьным пяром...

Першая татуіроўка, якую я ўбачыў у сваім жыцці, была ледзь прыкметная, яна не кідалася ў вочы: маленькія літары SS пад пахай у палоннага немца. Росціс у злачынствах. Было гэта ў пачатку мая 1945 года...

Потым вярнуліся пан Голечак і пан Кефер, і я ўбачыў іншую татуіроўку. Нумары на запясці — пяцізначныя, шасцізначныя, як у тэлефоннай кніжцы. Нумары замест імён. Нумар, якога ўжо ніхто не носіць, выкрэсліваецца ў спісах двайным росчыркам — Ordnung muss sein. І была ў пані лагерфюрар, якой вельмі падабаліся гэтыя нумары прэпараванымі. Трэба ж мець нейкі пунктік — nicht wahr?

Калі я чую слова «татуіроўка», мне ўспамінаюцца два кручкаватыя S і гэтыя нумары.





**Правадыр племя маоры з Новай Зеландыі — з характэрнай спіральнай татуіроўкай, і французскі афіцэр — прадстаўнік ваеннай арыстакратыі. У абодвух — ваяўнічая татуіроўка, толькі што ў другога яна схавана пад напрасаваным мундзірам...**

## «ТАТАУ» — ПА-ІТАЛЬЯНСКУ «СКРЭБСЦІ»

Прыгожая палінезійская легенда, у якой расказваецца пра кровазмяшальнае каханне багоў і багінь, падводзіць грунт пад татэмную татуіроўку. Юнак і дзяўчына з адным татэмным знакам не маюць права закахацца...

Старажытная палінезійская багіня святла і хмар Гіла была вельмі суровая. Яна пагражала вечнай цемрай, палохала громам, магла забіць маланкай. Аднак старажытныя народы, пры ўсёй павазе да багоў, стараліся абвесці іх вакол пальца. Палінезійцы надалі Гіле тытул багіні татуіроўкі, і той, хто насіў напісаныя на скуры праявы пашаны да велічы багіні, мог ужо не баяцца, што яго заб'е маланка — чараўнікі гарантавалі гэта!

Юнакоў татуіравалі ў дзень, калі яны рабіліся мужчынамі; жанчынам татуіроўка дадавала красы, а воінам — ваяўнічасці; мудрагелістыя малюнкі праслаўлялі гераічныя ўчынкі або высакароднасць.

На ўзбярэжжы Ціхага акіяна гэтак жа, як у амерыканскіх індзейцаў, у Афрыцы, у старажытных жыхароў Еўропы, татуіроўка заўсёды мела нейкі сэнс — рэлігійны, грамадскі, практычны. Яна была гонарам таго, хто яе меў, знакам сілы, веры, перакананняў.

## «ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА» НА ВЫСТАЎЦЫ

У сваёй справаздачы аб падарожжы на Гаіці і ў Новую Зеландыю ў 1769 — 1770 гадах англійскі мараплавальнік Джэмс Кук апісаў і татуіроўку тубыльцаў. З «татау» Джэмс Кук стварыў новае для англійскай мовы слова «tataowing». З таго часу маракі ўсё часцей вярталіся з экзатычных падарожжаў з марскімі страшыдламі і пірацкімі шхунамі на грудзях, на спіне, на руках.

З прыморскіх шынкоў татуіроўка пашырылася спачатку на сталічны паўсвет, а адтуль ужо без цяжкасці трапіла і ў вышэйшае грамадства. Нуда ў фраках і пышных туалетах знайшла сабе новую забаўку. Лондан і Парыж вар'яцеюць у пошуках майстроў гэтага старажытнага, але моднага зараз рамяства. Дамы, якіх ніхто і ніштó не вымушае распуснічаць за два франкі, татуіруюцца, як прастытуткі з найгоршых прытонаў («Ах, мая дарагая, які прыгожы матылёк у вас на грудзях...»).

Найбольш вядомага англійскага майстра называлі ў канцы XIX стагоддзя «Рафаэлем татуіроўкі». З такім жа самым правам яго можна было называць Леанарда да Вінчы — аднаму нашумеўшаму амерыканскаму артысту ён выкалаў на грудзях дакладную копію «Тайнай вячэры». За гэта давялося вылажыць салідную суму...

## «КРАСА» БАІЦЦА СВЯТЛА

Дэрматалогія — гэта медыцынская дысцыпліна, якая займаецца зменамі на скуры, іх знешнімі і ўнутранымі прычынамі, прафілактыкай і лячэннем. Карэктыўная дэрматалогія, якая гэтыя змены ўстараняе аперацыйным шляхам, у нас усё яшчэ вымушана займацца татуіроўкай.



**Ён яшчэ ўсміхаецца, гэты марак з Сан-Паула! Але яму зусім не смешна—брыдка...**

Псіхолаг можа вам пацвердзіць, што калі сучасная татуіроўка не з'яўляецца праявай маральнага разбэшчання або вынікам ненармальных жыццёвых умоў, то яна не выражае нічога, абсалютна нічога...

Хвіліннае ваганне настрою, выкліканае пляшкай віна, імкненне быць падобным на некага, нечым звярнуць на сябе ўвагу, стаць хоць бы на момант для каго-небудзь героем...

А потым — працвераджэнне. Сорам і адчайныя спробы схавацца ад цікаўных вачэй. Цынічныя словы, якімі прыкрываецца ганьба, ужо не могуць заглушыць пытанняў, якія ўсё глыбей свідруюць мозг і пераварочваюць навыварат душу: што скажуць людзі? Як на гэта паглядзяць дома? Ці не стаў я пасмешышчам?

Хвіліна фанабэрыстасці — а за ёй гады дзіўнай, сумнай нелегальнасці. Бясконцая ганьба і сорам, дылетанцкія спробы выпаліць, вытравіць абрыдлыя малюнкі, вывесці асобныя кропелькі фарбы малаком... Непрыемная адасобленасць ад людзей, ад якой толькі адзін сродак. Але тут ужо не дапамогуць ні танны цынізм, ні фальшывая сарамяжлівасць.

**Міраслаў ЕНШЫК.**

Пераклад з чэшскай мовы.

# ЦІ ВАРТА ІМ ЖЫЦЬ?



**Гэта—трое з пяцёркі блізнят: Марыя, Анэта, Цэцылія.**

Гэтая гісторыя не належыць да ліку тых сенсацыйных «story» з абавязковым «хэпі-эндам»,— шчаслівым канцом,— якія не сыходзяць з глянцавых лістоў рэспектабельных буржуазных часопісаў. Занадта многа ў ёй смутку, глыбокага чалавечага болю, каб скрозь яе непрывабную прастату не праглядвала балючая праўда аб жыцці, знявечаным, растаптаным, якое было ахвяравана ў імя грошай.

А пачатак яе абнадзейваў.

— Не, ім варта, ім трэба жыць!» — усклікнуў пісьменнік Поль дэ Круі, калі ў цёплую вясновую раніцу 1934 года яму паведамілі незвычайную навіну: у сям'і беднага канадскага лесаруба Дзіёна нарадзілася пяцёра блізнят-дзяўчынак.

— Выпадак стагоддзя!.. Вучоныя розных краін сцвярджаюць — такое бывае раз на 57 000 000! — грымела прэса.

Навіна прыйшла ў пару: буржуазны Захад перажываў чорныя гадзіны эканамічнай дэпрэсіі, і маленькія сястрычкі Дзіён павінны былі фактам свайго з'яўлення пацвердзіць веру ў будучыню буржуазнага ладу.

— Ці ёсць у іх будучыня? — з трывогай схіліўшыся над дзіцячай калыскай, думаў Поль дэ Круі.

«Я паглядзеў на першае з гэтых дзіцянят, дзяўчынку, ведаючы, што яе шанцы на жыццё былі ноль супраць біліёна, і яна, убачыўшы мяне, адказала быстрай, яснай усмешкай, якая застанецца са мною да таго дня, калі я назаўсёды перастану ўспамінаць... Потым я абвёў позіркам увесь рад ложачкаў, у якіх знаходзіліся яе вясёлыя, лапатлівыя маленькія сястрычкі. Іхнія шанцы на жыццё больш аднаго дня пасля нараджэння здаваліся супярэчнасцю ўсім вядомым да гэтага часу навуковым даным. Усе яны нарадзіліся за якія-небудзь паўгадзіны, на два месяцы раней тэрміну, нарадзіліся ад маці, якую яны самі ж атруцілі да паўсмерці; на іх амаль не было скуры, калі яны ляжалі, захутаныя ў лахманы і ледзь дыхалі».

З вялікім захапленнем расказвае пісьменнік пра няспынную барацьбу, якую давялося весці людзям, адстойваючы жыццё маленькіх. Гэта быў подзвіг, сапраўдны навуковы подзвіг «маленькага доктара Дэфо», які разгарнуў усе свае сілы, духоўныя і фізічныя, каб выратаваць блізнят. Івона Леру... Гэта яна, сядзелка Івона Леру, пяць дзён не распраналася і спала не больш як гадзіну!..

«І ўсё-такі, нягледзячы на пільныя клопаты Леру, нягледзячы на лекарскае ўменне Дэфо, яны, безумоўна, загінулі б. Але з'явіўся новы памочнік — электрычнасць. Толькі электрычнасць дала магчымасць вядомаму медыцынскаму выдаўцу Марысу Фішбейну абвясціць у Чыкага:

«Калі пяць дзяўчынак, нарадзіўшыся ў місіс Аліviі Дзіён, пражылі гадзіну ці каля гэтага, дык гэта сапраўды рэдкая і надзвычайная з'ява».

Гэтыя словы завіхрыліся ў эфіры, і такім чынам ужо к канцу другога дня і бацька, і маці, і доктар Дэфо, і, само сабой, пяць маленькіх казюрак у карзіне з-пад мяса,— усе яны, як кажуць, належалі чалавецтву».

Дзеці чалавецтва...

«Так, так... Уся справа ў саміх дзецях,— з гонарам казаў доктар Дэфо, калі яго хвалілі за самаадданасць.— Кожны чалавек любіць дзіця, а калі іх пяць, то і любоў упяцёра большая».

Прайшло трыццаць з лішнім год. Не збыліся мары Поля дэ Круі, які прарочыў маленькім Дзіёнам бязвоблачнае, шчаслівае жыццё. Хто ж вінават у гэтым?

Вось яно перад намі, упершыню за трыццаць год апублікаванае не выдуманае апавяданне пра пяцярых дзяўчынак якія былі прададзены вялікім фірмам, што зарабілі на іх мільёны. Іх апавяданне, кожнае слова ў ім, ганьбіць і абвінавачвае...

«Калі мы нарадзіліся, маці не магла нас карміць. Да таго, як са шпіталяў у Таронта, Манрэаля і Чыкага пачалі дастаўляць натуральнае харчаванне, медсястра гатавала нам ежу па рэцэпту доктара Дэфо. Яна складалася з малака, сіропу, кіпячонай вады і кроплі рому. Бацька трывожыўся:

«Хто будзе за ўсё гэта плаціць?»

Ён узяў капялюш і пайшоў да прыходскага свяшчэнніка. Той абяцаў, што ён арганізуе складчыну, але парафія бедная: нават абедню даводзіцца служыць у падвале, бо няма за што пабудаваць касцёл. Засмучаны бацька вяртаўся дадому і... не змог прабіцца праз натоўп, які акружыў хату. Дзядуля Дзіён як мог бараніў уваход перад рэпарцёрамі, падкімі да сэнсацыі.

Тым часам на гарызонце з'явіўся Айвен Спір з Чыкага. Ён узначальваў бюро падарожжа «Век прагрэсу». Ён нюхам чуў: тут яго чакае фартуна, ведаў — яна яму паспрыяе зарабіць. Пяцярня абяцала быць добрай прынадай на святочнай выстаўцы ў Чыкага! Чаго толькі не абяцаў Спір — залатыя горы, раскошны шпіталь для нас. Бацька вагаўся. Але доктар Дэфо параіў:

— Бярыце грошы, калі даюць. Пя-




**«Жадаеце мець эластычную скуру? У такім разе вы набралі правільны нумар». Гэтыя словы ўкладзены ў вусны блізнят, што намаляваны на рэкламе мыла.**

цярня можа гэтак жа памерці тут, як і ў Чыкага.

Не супраць кантракту са Спірам быў таксама і наш ксёндз.

На трэці дзень пасля нашага нараджэння бацька падпісаў кантракт, згадзіўшыся, каб нас паказалі на выстаўцы. Па дагавору бацька стаў лічыцца служачым выстаўкі з акладам сто долараў у месяц, а прадпрыемца атрымаў выключнае права фатаграфаваць пяцярых дзяўчынак для прэсы і фільма, а таксама афармляць усялякія рэкламныя кантракты.

Праз некаторы час насупраць нашага дома пачалі будаваць дзевяціпакаёвы будынак. Ён павінен быў мець электрычнасць, цэнтральнае ацяпленне і іншыя выгоды. Асобныя пакоі былі адведзены для медсясцёр, пакаёвак і нават паліцыянтаў. У верасні нас перанеслі ў гэты дом.

У мястэчка пачалі прыбываць турысты. Медсёстры штодзённа паказвалі нас з акна. Кожная з нас мела этыкетку, на якой было напісана імя. Часта паказвалі адно і тое ж дзіця, змяняючы толькі надпіс, але пра гэта гледачы не ведалі. Фатаграфаваць нас было строга забаронена. Гэту прывілею мелі толькі газета «Стар» з Таронта і амерыканскае аб'яднанне прэсы. Калі бацька аднойчы задумаў зрабіць нашы здымкі, яму гэта рашуча забаранілі. Першае інтэрв'ю, якое мела да нас дачыненне, з'явілася — па словах бацькі — напярэдадні Новага года. У ім паведамлялася, што залацісты сіроп маркі «Пчаліны вулей» уваходзіў у ежу, якою нас кармілі, як толькі мы нарадзіліся. У наступны год такія інтэрв'ю паяўляліся часта. Аднойчы, напрыклад, паведамілі, што сёння пяцярня Дзіёнаў мела на абед аўсянку Квакера, другім разам — быццам мы прыбавілі ў вазе дзякуючы гамагенізаванай страве Лібі. На нас рабілі бізнес. У адным толькі 1934 годзе правінцыю Антарыо, у якой знаходзілася наша мястэчка, наведалі тысячы турыстаў, якія пакінулі тут пяць мільёнаў долараў. Было падлічана, што гэтая сума павінна падвоіцца ў наступныя гады. Урад вымушаны быў прызнаць — пяцярня давала прынамсі $^1/_5$ усіх дзяржаўных долараў.

Пра ўсё гэта мы даведаліся праз многа год. Лічылі за лепшае трымаць нас у невядомасці і бясконца напамінаць, быццам мы знаходзімся на ўтрыманні вялікадушных людзей, якім павінны быць удзячны бязмежна.

Выхоўвалі нас у поўнай ізаляцыі ад знешняга асяроддзя. Каралі бязлітасна: «вінаватую» замыкалі ў асобным памяшканні, прывязвалі за рукі да ложка. Другія дзеці ў нашай сям'і пілі каву ад чатырнаццаці год, мы зведалі яе смак, калі нам было па дваццаць. Вельмі рэдка выязджалі мы ў горад. Бацька казаў, што ён баіцца, каб нас не ўкралі. У большасці выпадкаў, калі даводзілася ехаць з бацькам у кіно, нас суправаджаў на матацыкле паліцэйскі экскорт. У кіно паліцыянты садзіліся ззаду, каб няспынна назіраць за намі.

Атмасфера ў доме была не лепшай. Адна з нас, Эмілія, захварэла на эпілепсію.

«Вы адна сям'я, а мы другая»,— казаў нам старэйшы брат.

«Пакуль вас не было на свеце, бацька не меў такога клопату»,— абвінавачвалі другія.

Калі нам споўнілася па васемнаццаць год, з пачуццём палёгкі нас адаслалі ў каталіцкі каледж. Але і тут нам было не лягчэй, чым дома. Па распараджэнню бацькі ў нядзелю пасля абеду нас замыкалі ў пустым класе. Нашы сяброўкі выходзілі ў горад, а мы павінны былі пісаць лісты да бацькоў. Цяжкасць карэспандэнцыі заключалася ў тым, што падазронасць бацькі прымушала нас абдумваць і ўзважваць кожнае слова. Праз некалькі месяцаў наша сястра Марыя вырашыла ісці ў манастыр. Яна сказала:

— Гэта адзінае месца, дзе я магу быць шчаслівай.

І Эмілія раптам адкрыла ў сабе прызванне да адасобленага жыцця. Раніцай 6 жніўня 1954 года ўсе манашкі пайшлі на імшу, а калі вярнуліся, яна ўжо была мёртвая.

Толькі цяпер было абвешчана, што Эмілія ўжо даўно была хворая. Прадстаўнік фотаагенцтва ў апошні раз зняў пяцярню Дзіён з пятай, ужо нежывой, сястрой. Тысячы турыстаў праходзілі праз брамы дома, аглядаючы з цікавасцю Эмілію ў чорна-залацістай труне. І на гэты раз над усім пераважала цікаўнасць.

Было нас пяцёра... У жывых засталося чатыры. Фактычна — толькі тры. Бо толькі яны жывуць дзеля свету».

Не, не пра гэта марыў Поль дэ Круі, калі, схіліўшыся над маленькімі галасістымі блізнятамі, на трывожнае пытанне сумлення:

«Ці варта ім жыць?» — рашуча адказаў:

«Нашы дзеці павінны жыць!»

**Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ.**




**Вядзе раздзел**
**гросмайстар**
**Аляксей СУЭЦІН**

*Партрэты гросмайстраў*

# ПАУЛЬ КЕРАС



Шахматыстам і аматарам шахмат усяго свету добра вядома імя выдатнага савецкага гросмайстра Пауля Кераса. Яшчэ амаль хлапчуком, як метэор, з'явіўся ён на шахматным гарызонце Нарвы, горада, дзе нарадзіўся ў 1916 годзе. Яго здольнасці ў шахматах адразу звярнулі на сябе ўвагу і былі сапраўды здзіўляючыя. Вось што расказвае яго старэйшы сябар і першы настаўнік па шахматах В. Мікенас пра сваю сустрэчу з дванаццацігадовым Паулем:

«У 1928 годзе я наведаў горад Пярну і правёў там сеанс адначасовай гульні. У ходзе гульні я звярнуў увагу на цёмнавалосага, прыгожага хлопчыка, які старанна і для свайго ўзросту вельмі цікава вёў супраць мяне сваю партыю. Я вымушаны быў падоўгу стаяць каля яго дошкі. Аднак мая пазіцыя ўвесь час пагаршалася, і я, нарэшце, павінны быў (пад апладысменты «балельшчыкаў») павіншаваць хлопчыка з заслужанай перамогай. Пасля сеансу мой юны партнёр папрасіў мяне згуляць некалькі лёгкіх партый. Тут я даведаўся, што ён мае дванаццаць год і што знаёмы з шахматамі з чатырох год. Высветлілася, што П. Керас з'яўляецца ўдзельнікам сур'ёзных турніраў па перапісцы, якія адыгралі важную ролю ў развіцці яго камбінацыйных здольнасцей. Я пакінуў тады Пярну, цалкам пераконаны, што на шахматным небасхіле з'явілася зорка першай велічыні...»

Талент П. Кераса развіўся выключна хутка. У дваццаць год ён быў ужо ў ліку мацнейшых гросмайстраў свету, а ў дваццаць два гады па праву лічыўся (пасля перамогі ў турніры прэтэндэнтаў) адным з асноўных прэтэндэнтаў у барацьбе за сусветную шахматную карону. Усё гэта тлумачыцца не толькі багатымі прыроднымі здольнасцямі П. Кераса, але і велізарнай працаздольнасцю, мэтанакіраванасцю, жаданнем авалодаць вяршынямі майстэрства. Вельмі павучальны для маладых шахматыстаў, і спартсменаў наогул, гэтыя рысы характару П. Кераса. Заўважым, дарэчы, што, нягледзячы на свой узрост, Керас і цяпер выглядае маладым, займаецца спортам, мае першы разрад па тэнісу, доўгі час быў «другой ракеткай» Эстоніі, дзе, як вядома, школа тэніса стаіць на вельмі высокім узроўні.

Вось што гаворыць сам Керас пра шахматнае майстэрства:

«Ніхто і ніколі не нараджаўся шахматным майстрам. Шлях да гэтага ляжыць (як і ў любой другой галіне) праз гады вучобы, барацьбы, радасці і засмучэнняў».

Так, П. Керас прайшоў вялікі і цікавы шлях шахматнага ўдасканалення! Вось ужо амаль трыццаць гадоў ён — прэтэндэнт у барацьбе за першынство свету! Але пакуль што ні разу не ўдалося П. Керасу згуляць матч на званне чэмпіёна свету, хоць з 1953 года ён у чатырох турнірах прэтэндэнтаў быў блізкі да гэтага, займаючы другія месцы. Але такая сукупнасць поспехаў, на жаль, не дае права на матч з чэмпіёнам свету. Чэмпіён свету Ц. Петрасян неяк заўважыў, што значна цяжэй некалькі разоў узапар быць другім, чым адзін раз — першым...

Пауль Керас перш за ўсё — шахматыст вострага камбінацыйнага стылю. Партыі Кераса насычаны дынамізмам. І таму творчасць яго вельмі папулярная ў самых шырокіх шахматных колах.

Ніжэй мы даём адну з партый П. Кераса з падрыхтаванай да друку на рускай мове яго кнігі «Выбраныя партыі». У крытычных момантах сам аўтар дае каментарыі да становішча на дошцы.

П. Керас — М. Батвіннік (матч-турнір на першынство свету 1948 года).

Французская абарона: 1. e4 e6, 2. d4 d5, 3. Кc3 Сd4, 4. Сd2 de, 5. Фg4 Кf6, 6. Ф:g7 Лg8, 7. Фh6 Кc6, 8. 000! Лg6.

8. ...К:d4 было небяспечна з-за 9. К:e4 або 9. Кb5!

9. Фh4 С : c3, 10. С : c3 Фd5, 11. b3 Кce7, 12. f3!

Белыя, натуральна, імкнуцца пашырыць поле дзейнасці сваіх сланоў.

12. ... Сd7, 13. Сb2 (лепш адразу 13. fe) ...Сc6, 14. c4 Фf5!

Керас правільна адзначае, што гэта лепшы адказ чорных. У выпадку заманлівага 14. ... Фa5, 15. d5! ed, 16. С:f6 Кf5 у белых ёсць цікавы манеўр: 17. Фe1! Ф:e1, 18. Л:e1 Л:f6, 19. cd С:d5, 20. fe Лe6, 21. Кf3! Л:e4, 22. Сd3 Л:e1, 23. Л:e1+ Кe7, 24. С:h7, і белыя маюць перавагу ў заканчэнні.

15. d5!?

Цікавая пазіцыйная ахвяра пешкі, якая вядзе да ўскрыцця ліній для сланоў.

15. ...ed, 16. fe de, 17. Кh3! Кg4, 18. Фg3.

Гульня — надзвычай складанага і разам з тым канкрэтнага характару.

18. ...Фc5! (Аддаючы назад пешку, чорныя імкнуцца дамагчыся спрашчэнняў.), 19. Ф : c7Лc8, 20. Фf4 Фe3+ 21. Лd2 Ф:f4? (Істотны пралік! Значна лепш было б 21. ...Фe1+, фарсіруючы нічыю.), 22. К:f4 e3, 23. Лc2! Лg5, 24. Сe2 Кf2, 25. Лhe1 Лd8, 26. g3 Лf5? (лепш 26. ...Сe4), 27. Сf1 Л:f4.

Ахвяра адчаю! Пагражала: 28. Сa3, а калі 27. ...Сe4, дык 28. Л : f2.

28. gf Кd3+, 29. С : d3 Л : d3, 30. Лc3!, і праз некалькі хадоў чорныя здаліся.

Творчасць Пауля Кераса заснавана на абсалютна правільным імкненні крытычна аналізаваць нават самыя апрабіраваныя пабудовы. Вельмі цікавая методыка Кераса па падрыхтоўцы да спаборніцтваў. Ён лічыць, што перад складаным турнірам лепшай формай трэніроўкі (асабліва для маладога шахматыста) з'яўляецца ўдзел як мага ў большай колькасці турніраў, прычым пажадана — з партнёрамі, рознымі па сіле! П. Керас вучыць, што на адказных спаборніцтвах трэба пазбягаць няпэўных эксперыментаў. Больш мэтазгодна гуляць салідна і з большай вытрымкаю! Вядома, пры гэтым не трэба ні ў якім разе пазбягаць жывой камбінацыйнай гульні, але яе не трэба ствараць штучна.

Керас валодае рэдкай для яго ўзросту вытрымкай. Вось як закончылася яго рашаючая партыя ў матчы з Е. Гелерам, дзе Керасу абавязкова трэба было гуляць на выйгрыш.



Белыя: Крg1, Фh5, Лd1 і f1, Сb2 і d3, Кe5; пп. a2, d5, f2, g2, h2 (12).

Чорныя: Крg8, Фe7, Лc8 і f8, Сb7 і b4, Кa5; пп. a7, b6, f6, g7, h7 (12).

П. Керас, які гуляў белымі, заканчвае арыгінальную атаку са здзіўляючай энергіяй. Было зроблена: 1. ...g6, 2. К:g6! hg, 3. С:g6 Фg7 (не ратавала, як відаць, і 3. ... Сa6 з-за 4. d6! С:d6, 5. Лfe1 Лd8, 6. Лd4 з яўнаю паравагаю). 4. Лd3! Сd6 (Дрэнна і тут 4. ... Сa6, 5. Лg3 С:f1, 6. Сh7+!), 5. f4Фh8, 6. Фg4! Сc5+, 7. Крh1 Лc7, 8 Сh7+! Крf7, 9. Фe6+ Крg7, 10. Лg3+!, і чорныя здаліся.

Пауль Керас прайшоў вялікі шахматны шлях. Ён поўны энергіі і сіл для змагання за сусветную шахматную карону, якой ён ужо не аднойчы «ледзь-ледзь» не дасягнуў.




**Пад рэдакцыяй майстра спорту СССР Макса ШАВЕЛЯ**

# ПЕРШЫ ЧЭМПІЯНАТ

Семдзесят гадоў таму назад шашысты-стаклетачнікі арганізавалі першы чэмпіянат свету. Званне чэмпіёна ў гэтым турніры аспрэчвалі толькі шашысты Францыі, Галандыі і Бельгіі. І вось прайшло шмат гадоў. Цяпер у першынствах свету прымаюць удзел дзесяткі краін, тытул жа чэмпіёна — шашачная карона — на працягу многіх год знаходзіцца ў савецкіх спартсменаў. Чэмпіён свету па шашках цяпер — савецкі гросмайстар Вячаслаў Шчогалеў.

Як жа праходзіў першы чэмпіянат па шашках у Расіі? У той час рускія шашкі карысталіся вялікай папулярнасцю сярод людзей самых розных прафесій. У многіх гарадах шашысты рэгулярна збіраліся, каб памерацца сіламі. Гулялі хутка, не задумваючыся над кожным ходам, і партыя часта заканчвалася за некалькі мінут. У такіх сустрэчах перамагаў звычайна той, хто валодаў большай кемлівасцю, ведаў большую колькасць пастак. Таленавітыя шашысты ўмелі праводзіць шматхадовыя камбінацыі і імгненна разгадваць намеры праціўніка. Мацнейшыя шашысты розных гарадоў не мелі, аднак, ніякай магчымасці сустрэцца за дошкаю і ведалі адзін пра другога і пра майстэрства саперніка толькі з газет і часопісаў, дзе друкаваліся шашачныя куткі.

І вось вялікі аматар шашак, выкладчык кіеўскай гімназіі П. Бадзянскі наважыў у часе летняга адпачынку ў 1893 годзе згуляць з мацнейшымі шашыстамі краіны. Ён робіць двухмесячнае падарожжа, наведвае Маскву, Харкаў, Арол, Епіфань і іншыя гарады. У наступныя гады Бадзянскі сустракаецца з шашыстамі Пецярбурга, Варшавы, Рыгі, Астрахані, Саратава, Ніжняга Ноўгарада, Самары, Сызрані. Гэтыя паездкі і гульні з шашыстамі іншых гарадоў прывялі Бадзянскага да думкі пра арганізацыю Усерасійскага шашачнага турніру. Надзвычай настойлівы і дзейны, Бадзянскі з дапамогаю вядомага даследчыка шахмат і шашак Д. Саргіна здолеў ажыццявіць сваю задуму.

Першы чэмпіянат Расіі адбыўся ў Маскве. У ім прымалі ўдзел восем шашыстаў. Усе яны згулялі па дзве партыі. Пераможцаў было два — С. Варанцоў і Ф. Каўлен. Дадатковы матч з дзвюх партый закончыўся ўнічыю. І толькі праз год на другім чэмпіянаце вызначыўся мацнейшы ігрок краіны. Гэта быў Сяргей Андрэевіч Варанцоў, які на гэты раз быў мацнейшы ўжо сярод трынаццаці ўдзельнікаў чэмпіянату. Пра шашачны талент Варанцова лепш за ўсё гавораць яго спартыўныя поспехі. На працягу дваццаці трох гадоў Варанцоў быў чэмпіёнам Расіі!

Мы падаём тут камбінацыйнае заканчэнне адной з партый Варанцова. Выдатнейшая камбінацыя, праведзеная ў гэтай партыі, справядліва лічыцца бессмяротнай. Цікава адзначыць, што гэтая партыя была сыграна Варанцовым у сямідзесяцігадовым узросце на першынстве Масквы. Першынство закончылася перамогай ветэрана, які абыграў многіх вядомых маладых майстроў.

**Патапаў**




**Варанцоў**

Белыя пачынаюць і выйграюць.

1. a3—b4! c5 : a3
2. c3—b4 a3 : c5
3. f4—e5 f6 : d4

Белыя ахвяравалі тры шашкі, а камбінацыйнага ўдару яшчэ не відаць!

4. d2—c3! d4 : b2
5. e3— f4 g5 : e3
6. f2 : a1, здымаючы пяць шашак чорных.




**БУРАЎКІН Генадзь** нарадзіўся ў 1936 годзе на Полаччыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працуе ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва».

Выйшлі з друку зборнікі вершаў: «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Голоса расстояний».

**ГУСЦІНОВІЧ Васіль** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Кажан-Гарадок Лунінецкага раёна.

Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага педагагічнага інстытута імя В. Чкалава. Працуе настаўнікам на Віцебшчыне.

**ДАМАШЭВІЧ Уладзімір** нарадзіўся ў 1928 годзе ў в. Вадзяціна на Брэстчыне.

Вучыўся ў Клецкай дзесяцігодцы, пасля скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працаваў рэдактарам у рэспубліканскіх выдавецтвах, на радыё.

Выйшлі з друку кнігі апавяданняў «Заклінаю ад кулі», «Між двух агнёў».

**КРЭНЬ Ірына** нарадзілася ў 1929 годзе ў в. Кузявічы на Навагрудчыне. Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна была выкладчыцай мовы і літаратуры ў 34-й сярэдняй школе г. Мінска, цяпер — малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.

Апавяданне «Антон Чобат» — першае выступленне маладога аўтара ў прозе.

**ЗАХАРЭНКА Аляксандра** нарадзілася ў 1932 годзе на Віцебшчыне. Пасля вайны скончыла Обальскую сярэднюю школу, а потым — аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працавала ў рэдакцыі шклоўскай раённай газеты, а цяпер — у рэдакцыі «Гомельскай праўды».

**ДАРАГІ ЧЫТАЧ!**

**ПРОСІМ АДКАЗАЦЬ НА ТАКІЯ ПЫТАННІ:**

1. Якія мастацкія творы, артыкулы, рэпартажы з апублікаваных у часопісе Вам спадабаліся?
2. Якія раздзелы ў часопісе Вы лічыце найбольш цікавымі? Якія новыя раздзелы варта было б увесці?
3. Пра што Вы хацелі б прачытаць на старонках «Маладосці»?

**Гэтыя звесткі памогуць рэдакцыі пры падрыхтоўцы новых нумароў часопіса.**

**Чакаем Вашы пісьмы з заўвагамі і прапановамі.**

P. S. Калі часопіс чытае хто-небудзь з Вашых родных ці сяброў, хай і яны напішуць свае меркаванні.


Мастацкі рэдактар Я. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, 40. Тэлефоны: 93-854 – сакратарыят, 93-592 — аддзелы паэзіі і прозы, 93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення; 93-775 — фотаклуб «Маладосць».

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7452. Цана 40 кап.
АТ 04300. Здадзена ў набор 30/VIII 65 г. Падпісана да друку 1/X 65 г. Зак. 547.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.



Яўген Сямёнаў. Воін-вызваліцель.



Ігар Грыгаровіч. У лабараторыі.



Георгі Скамарохаў. З серыі эстампаў «Праца і людзі».









Анатоль Зайцаў. З ілюстрацый да кнігі «Беларускія прымаўкі».




